## У НУМАРЫ:



Караткевіч з кубачкам «у бобкі» на ўскрайку намёта. Заспаны, але рашуча настроены. Такім яго сфатаграфаваў Валянцін Ждановіч, «чалавек з тых, што ахвотна здымаюць, звісаючы з вежы або шасі верталёта», летнім ранкам (напэўна ж ранкам) роўна сорак пяць гадоў таму. Апошні «фоталетапісец вылазкі» на Палессе, вынікам якой стаў артыкул «Званы ў прадоннях азёр» за аўтарствам першага. Змяшчаем тут гэта фота не толькі таму, што нумар часткова прысвечаны Караткевічу, але і таму, што ў гонар юбілею знакамітай «вылазкі» і «нашумелага» артыкула «М» збіраецца ладзіць новую вылазку і пісаць «Званы ў прадонні азёр-2» у спецнумар «Планета Палессе». Не прапусціце яго восенню. А пакуль што ўспомніце разам з «М» Уладзіміра Караткевіча, «наша ўсё».

# І Караткевіч, і Памук спачатку бачаць Чалавека

- **1. Назавіце 5 прыметнікаў, якімі б вы ахарактарызавалі Караткевіча.**
- **2. Якое пытанне вы б хацелі яму задаць?**
- **3. З якой іншай творчай асобай вы б яго параўналі?**
- **4. За што вы хацелі б яму падзякаваць?**
- **5. Па якім яго творы найперш варта зняць фільм?**



## Аляксандр,
***студэнт:***

1. Сапраўдны, шчыры, адкрыты, палаючы, трагічны.
2. «Як бы вы пражылі сваё жыццё яшчэ раз, калі была б магчымасць?»
3. Чамусьці прыгадваецца Алесь Загорскі з яго ж твора.
4. За яго творы, вершы. Не ўяўляю беларускую літаратуру без яго.
5. «Каласы пад сярпом тваім». На мой погляд, добрае кіно магло б атрымацца.



## Віктар ЛУПАСІН,
***пісьменнік:***

1. Беларускі, легендарны, смачны, першы, сапраўдны.
2. Не магу прыдумаць, спытаю музу.
3. З Фрэдзі Мэркюры, бо абодва — вельмі яркія постаці, якія сышлі рана, і стаялі крыху асобна ад мэйнстрыму (адзін — рок-музыкі, другі — беларускай літаратуры).
4. За творчасць, постаць і легенду.
5. «Былі ў мяне мядзведзі».



## Міхаіл БАРАНОЎСКІ,
***лідар музычнага гурта «Нельга забыць»:***

1. Рамантычны, шчыры, самотны, цікаўны, патрыятычны.
2. «Які момант у вашым жыцці вы лічыце лёсавызначальным?»
3. Хутчэй з літперсанажам. Дон Кіхот.
4. За казку пра Беларусь.
5. Пры магчымасці зрабіў бы кіно па творы «Ладдзя роспачы».



## *Інга ВОЮШ,*
***кандыдат філалагічных навук:***

1. Імпэтны, шчыры, адчайны, справядлівы, добры.
2. «Якія кнігі з задуманых так і не былі напісаны?»
3. Я б параўнала яго з Айвазоўскім. Няўрымслівае і ціхае — штодзённае мора, якое ў душы і на палотнах. Гэтак і з Караткевічам: ён адданы сваёй тэме, каханню і роднаму краю.
4. За раман «Нельга забыць».
5. Ды па іх ужо зняты фільмы. З тых, што не зняты, — «Лебядзіны скіт», напрыклад.



## *Віктар ЖЫБУЛЬ,*
***пісьменнік:***

1. Таленавіты, глыбокі, працавіты, дасціпны, таварыскі.
2. Пытанне было б кшталту: «Ой, а як вы ўсё паспяваеце?» Насамрэч гэтае пытанне крыху недарэчнае, бо Караткевіч, наколькі памятаю, паставіў перад сабой задачу напісаць за сваё жыццё 100 тамоў (тут магу і памыляцца), толькі вось, на жаль, жыццё ў яго атрымалася значна карацейшым, чым ён разлічваў.
3. З Лойдам Эндру Уэберам (знешне падобны). ☺
4. За цікавыя творы і (пад)свядомае культуртрэгерства: ужо не ад некалькіх людзей даводзілася чуць, што да беларускай культуры яны далучыліся пасля прачытання твораў Караткевіча.
5. Шчыра кажучы, не памятаю, што з твораў Караткевіча экранізавана, а што не. З неэкранізаванага, здаецца, «Лісце каштанаў» — артрымаўся б неблагі фільм для дзяцей і падлеткаў. А з верша «Заяц варыць піва» можна было б відэакліп зрабіць. ☺



## *Арамаіс МІРАКЯН,*
***студэнт, практыкант «Маладосці»***
***(уласнае меркаванне чалавека, які аформіў гэты матэрыял):***

1. Беларускі, родны, кранальны, сапраўдны, чысты.
2. «Спадар Караткевіч, якой вы бачыце нашу бацькаўшчыну праз 50—100—500 гадоў? Якой павінна быць Беларусь?»
3. Сам па сабе ён адзіны, непаўторны, увогуле — Апостал беларускай зямлі і літаратуры. А калі ўсё ж такі паспрабаваць параўнаць — чамусьці мне ён здаецца падобным да сучаснага турэцкага пісьменніка, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры Архана Памука. І Караткевіч, і Памук спачатку бачаць Чалавека. Менавіта так, з вялікай літары, нягледзячы на ўсе яго «недарэчнасці» і «недакладнасці».
4. За Юрася Братчыка, чалавека, які дае надзею на лепшае.
5. Згодны з Інгай Дзмітрыеўнай, «Лебядзіны скіт» нядрэнна было б экранізаваць.

***Асабістае «дзякуй» спадару Бараноўскаму за дапамогу ў падрыхтоўцы апытанкі. І «Маладосці» — за вельмі цікавую працу. Не ведаю, ці добра атрымалася, аднак я стараўся…***

***Апрацаваў Арамаіс МІРАКЯН***

**Адказы апрошаных праз суполку гурта «Нельга забыць» «ВКонтакте»**

**Марыя:**
1. Зухаваты, летуценны, закаханыўкраіну, шчыры, сур'ёзны.
2. «Як у вас атрымлівалася не страціць веру ў Беларусь?»
3. Для мяне ён заўжды Вежа.
4. За найлепшыя бяссонныя ночы.
5. Калі здымаць будзе дзяржаўная кантора, то лепей каб і не браліся.

**Васіль:**
1. Непадлеглы, шчыры, сумленны, палымяны, праўдзівы.
2. «Дзе ён адкапаў тэрмін "пана" («Хрыстос прызямліўся ў Гародні») і "мроя" («Каласы пад сярпом тваім»)?»
3. Ён непараўнальны!
4. За тое, што ён быў, ёсць і будзе.
5. «Леаніды не вернуцца да зямлі». Гэты фільм працяў бы счарсцвелыя душы, і з іх павыліваўся б увесь бруд, што там назбіраўся.

# Марыс Друон таксама ціснуў «клюкву»

***• Вы лічыце Караткевіча пісьменнікам, які абапіраўся на сур'ёзныя навуковыя факты, ці назвалі б яго хутчэй «фантастам» ад гісторыі?***



*Дзяніс КРАСАКОЎ,*
***БДУІР, 22 гады:***

— Яшчэ ў школе я захапляўся гісторыяй, як сусветнай, так і беларускай. Творы Караткевіча патрапілі да мяне менавіта ў гэты перыяд. Лічу, што Караткевіч абапіраецца на гістарычныя факты, але на іх аснове раскрывае нам сваё бачанне падзей пэўнага перыяду гісторыі. Канешне, гістарычныя факты ў творчасці ўвогуле як дэкарацыі: мастацкая літаратура не прэтэндуе на роль гістарычнага даведніка, таму што на першы план заўсёды выходзяць думкі і пачуцці герояў. Але я лічу, што Караткевіч «фантаст» не больш чым любы другі пісьменнік, які адлюстроўвае гісторыю ў сваіх творах.



*Юліяна ЗУБОВІЧ,*
***БДТУ, 20 гадоў:***

— Я лічу, што ўжо непасрэдна ў самім пытанні пра творчасць Уладзіміра Караткевіча і заключаны адказ. Бо сюжэт і персанажы ў творах гэтага пісьменніка напоўнены нейкай містыкай, што надае творам выразнасці і тым самым пазбаўляе «сухасці» выкладу гістарычных падзей. Да таго ж, у творах Караткевіча вельмі ўдала і прыгожа пераплятаюцца рэальныя гістарычныя падзеі і выдумка аўтара. Гэта выдумка не супярэчыць гістарычнай рэчаіснасці, наадварот, падкрэслівае самыя галоўныя яе аспекты. Менавіта таму я прызнаю Уладзіміра Караткевіча сур'ёзным пісьменнікам-гісторыкам.



## *Анастасія ПАЎЛОЎСКАЯ,*
***БДУ, 20 гадоў:***

— На мой погляд, Уладзімір Караткевіч — адзін з нешматлікіх беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, які ўмеў прыгожа і ненадакучліва падаць гістарычныя звесткі. Узяць хаця б «Дзікае паляванне караля Стаха». Аповесць, па сутнасці, аб рамантычным каханні фалькларыста, але Караткевіч падае гэта на фоне народных звычаяў і побыту шляхты Беларусі XIX стагоддзя. Я прачытала досыць твораў пісьменніка і магу сказаць: Караткевіч дакладна паказваў беларускі народ, яго шматлікія пакуты і выпрабаванні, трагічныя падзеі. Ён менавіта пісьменнік-гісторык, але ніяк не фантаст.



## *Іван САВЕРЧАНКА,*
***прафесар-філолаг:***

— Гэты чалавек дастаткова глыбока засвоіў гістарычны матэрыял і па-мастацку выдатна яго выкарыстаў. Караткевіч дасканала разумеў гістарычныя тэндэнцыі і плыні. Яго творы — гэта вельмі дакладнае разуменне сутнасці гістарычных працэсаў, перадача іх у літаратуры. Ён вельмі таленавіты ў плане асэнсавання гісторыі, таму я ўпэўнены ў тым, што Караткевіч — адзін з ключавых пісьменнікаў у беларускай гісторыі, пакуль што неперавўзыдзены майстар гістарычнай прозы.



## *Віталь ЖУКАЎ,*
***мастацтвазнаўца і калекцыянер:***

— Я лічу яго добрым пісьменнікам. А што было ў яго творах выдумкай і што сапраўднымі гістарычнымі фактамі — не так і важна. Марыс Друон таксама пісаў гістарычныя раманы, і столькі ў іх было «клюквы», столькі непаразуменняў, што нашаму таленавітаму і з вельмі складаным лёсам Караткевічу мы многае можам дараваць.



## *Яўген КРЫЖАНОЎСКІ,*
***акцёр:***

— Уладзімір Караткевіч настолькі вялікі, што яму ўсё роўна, кім яго лічаць. Гэта беларускі гонар. Ведаеце, я адначасова вывучаў і мову, і гісторыю Беларусі (таму што прыехаў паступаць з рускага горада Казельска). І калі на ўступныя іспыты мне спатрэбілася веданне беларускай мовы, адзін разумны чалавек мне параіў: «Проста вазьмі добры беларускі літаратурны твор і перапішы яго». Я перапісаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», велізарны твор. Спачатку проста не разумеў, што пісаў. Але чытаў, вучыў і быў зачараваны Караткевічам. Калі адказваць канкрэтна, то ў большасці ў яго ўсё прыдумана. Але прыдумана так, што наша гісторыя стала багацейшай.

***Запісала Ганна ЛІСІЦА***




*«Мяне завуць Дарка, мне 19, я студэнтка 2 курса гістфака Полацкага дзяржуніверсітэта, цікаўлюся этнаграфіяй. У выключна беларускамоўнай атмасферы вырошчваю дома мужа-журналіста-рок-музыку, котку-аўтаспыншчыцу, пацучыху і кактус».*

На прапанову «М» пісаць у рубрыку «ГістфакТ» найбольш удзячна адгукнуліся гісторыкі-палачане — студэнты і выкладчыкі. Дарка — дамашняе імя Дар’і Палынскай. У гэтым нумары змешчаны яе «Дзённік этнаграфічнай практыкі». Мінулагодні, але дагэтуль актуальны. Малюнак з яго, пакінуты адным з удзельнікаў экспедыцыі Дзянісам Казловым, перад вамі.

Святлана СІТНІК

# Цэласнасць быцця

***Некаторыя матэрыялы ў пачатку гэтага нумара, а таксама далей, у блоку «Крытыка», змешчаны з нагоды 30-годдзя са дня смерці Уладзіміра Караткевіча. Артыкул, што пачынаецца на гэтай старонцы, можна было б назваць «Одай смерці», але гэта практыкум жыцця. Мы можам смела працягваць свой шлях на зямлі, памятаючы пра апошнюю кропку і... дзякуючы ёй.***

*— Ці ты ў курсе, што твая дачка вырашыла стаць рок-зоркай? Мы ўжо запісаліся на вакал і гітару, а ўчора я нават напісала песню, з якой Аляксандра зможа выступаць на розных мерапрыемствах, прысвечаных праблемам наркаманіі. Вельмі ўдалы, дарэчы, прадзюсарскі ход...*

*Муж кідае на мяне падазроны позірк, здаецца, яму наша ідэя не вельмі падабаецца.*

*— Пра што гэта песня?*

*— Ну, яна пра боль, пра адзіноту, пра цяжкую барацьбу за кожны дзень жыцця і ўвогуле пра наступствы прыняцця наркатычных сродкаў, пра...*

*— Мая дачка не будзе спяваць песню пра наркамана!*

*— Але ж ты нават яе не чуў...*

*— Я больш не хачу ні гаварыць, ні чуць пра гэта! — муж настолькі суровы і катэгарычны, што я вымушана ківаць у знак згоды: будзь па-твойму.*

## ЦЭЛЬНАСЦЬ

— Вядома, ён мае рацыю, — падтрымлівае мяне сяброўка. — Гэта ты можаш глядзець на гэтую тэму збоку, а для Валодзі яна — цяжкая праца. Яму прасцей зачыніцца, адвярнуцца ад праблемы, быццам яе не існуе. Так многія робяць.



— Ведаеш, у сувязі з гэтай бядовай песняй у мяне сёння было азарэнне, — працягваю я наш дыялог, — свет, маўляў, жадае быць убачаным цалкам. Мы падзялілі яго на дзве часткі, у адну беражліва сабралі ўсё тое, што прынята называць добрым, светлым, прыемным, карысным, правільным. А ў другую звалілі ўсё супрацьлеглае ды імкнёмся ў гэты цёмны бок не глядзець і не мець з ім ніякай справы.Увогуле, я думала, да чаго імкнецца свет.

— І навошта табе гэта? — пытае Наташа.

— А дзеля асабістай выгады. Наташ, калі я зразумею, да чаго імкнецца свет, і буду рухацца ў адным кірунку з ім, я змагу зрабіць значна больш правільных рэчаў і пазбегну шмат якіх памылак.

— Ну, і да чаго, па-твойму, ён імкнецца?

— Да цэласнасці. Да паўнаты. Хаця пакуль я не гатова сцвярджаць гэта. Але я гатова падтрымаць яго, свет, у гэтым імкнен-

ні — я паспрабую як след разгледзець тыя яго часткі, на якія звычайна заплюшчваюць вочы, — штосьці за імі схавана.

— Назірай! Потым распавядзеш!

**ВОПЫТ**

Наташу вельмі цікавіць «сусветная» тэма. Яна здаўна захапляецца духоўнымі практыкамі, наведвае самыя модныя псіхалагічныя семінары. Але гэта цяпер. А спачатку быў пошук. Не, не сябе, як гэта прынята ў духоўных шуканнях. Яна шукала методыкі, спосабы, сакрэты лячэння. Тую чароўную гаючую сілу, якая дапаможа ёй падняцца з інваліднай каляскі і пакінуць яе разам з усім пражытым за амаль дваццаць гадоў болем. Пакінуць далёка — у тым мінулым, дзе яна не змагла ўчапіцца за край акна, калі падала ўніз.

Але гэта не проста, і яна гэта ведае. Аднойчы Наташа патэлефанавала мне:

— Я часам думала і вось што надумала. Мая траўма — гэта мой вопыт. Мне здаецца, што я сама захацела прайсці праз усё гэта. Напэўна, калі збіралася ў гэты свет…

І вось цяпер думаю: няўжо для таго, каб падняцца так высока, трэба было зваліцца так нізка?

**ПРЫЗНАЧЭННЕ**

Мой вопыт не быў настолькі значным, але варты таго, каб пра яго распавесці. Гадоў шэсць таму мяне не было. Існавала нейкае маё падабенства, а я, дакладней — мая сутнасць, згубілася. Напэўна, калі губляеш сваю сутнаць і сыходзіш со свайго шляху, то пакідаеш сваё, асабістае месца ў гэтым свеце пустым. А потым прырода прыбірае за табой тое, што ад цябе засталося. Тады гэта была мая, няхай і разумная, адчувальная, «тушка». Я прадчувала і адчувала, што хутка нешта здарыцца — праз паўгода ці нават некалькі месяцаў. І я была гатова…

Не ведаю, чаму менавіта ў гэты дзень, навошта ў гэты час і каму гэта было патрэбна — мне ці Богу, але я, стомлена прысеўшы на ложак, пачула ціхі голас свайго ўнутранага «Я». Хоць, калі б у яго была магчымасць, ён галасіў бы з усіх сіл: «Прачніся! Гэта не ты! Ты — іншая!» Дзіўна і складана разумець, што ты прызначаны рабіць зусім не тыя рэчы, іначай жыць, быць іншым. Але я была ўважлівай слухачкай.

Хутка я змяніла працу — сышла ў новую сферу дзейнасці. Адпаведна, змянілася асяроддзе, у гардэробе з’явіліся зусім іншыя рэчы. Было цяжка кідаць старое і амаль з нуля пачынаць новае. Але я справілася. І хутка адбыўся цуд. Прыкладна праз два месяцы я выпадкова даведалася, што мне тэрмінова неабходна аперацыя. У анкалагічным дыспансеры. І гэта выпадковасць выратавала мне жыццё.

**КАШТОЎНАСЦІ**

Анкадыспансэр — гэта месца, дзе ўсе каштоўнасці вытрэсваюцца, нібыта палавікі, пазбаўляючы, ачышчаючы сябе ад лішняга — і паўстаюць чыстымі, свежымі, велічнымі і прыгожымі.

Жарты і смех у нашай палаце не сціхалі, на калідоры стаялі заўсёдныя рух і гул. Я добра памятаю адну жанчыну — мы былі суседкамі, і яна кожны раз перад выхадам з палаты, заправіўшы пад халат скрываўленыя бінты, фарбавала вусны. А яшчэ адна дзяўчына, якая ўжо выпісалася, зазірнула да нас па дарозе ў перавязачную — і ніхто не пазнаў яе, настолькі змянілася знешнасць: новая прычоска, макіяж, кароткая спаднічка… Тут мы ажывалі.

Тут я зразумела каштоўнасць часу. Жанчыне з нашай палаты пасля аперацыі стала горш — тэрмінова спатрэбілася паўторная. Але сэрца шасцідзесяцігадовай жанчыны ўжо на вытрывала б паўтору. Таму яе рэзалі не пад наркозам, а з дапамогай звычайнага мясцовага абязбольвання. Пасля яна сказала са шкадаваннем: «Мне было так балюча, што я ўчапілася ў руку ўрача. А яна ў яго такая вялікая, моцная, мужчынская. Гэтак і праляжала… Так шкада, што мне шэсцьдзесят. Вось было б мне менш, хаця б сорак... Крыўдна, што я магу кахаць, а мяне ўжо не пакахаюць».

Аднойчы мне спатрэбілася адшукаць дзяжурнага ўрача і я пайшла блукаць па паверхах. Прачытаўшы назву верхняга аддзялення, здрыганулася, але ступіла наперад. Калі на нашым паверсе кіпела жыццё, то на гэтым уладарыла іншая гаспадыня. Тут нават лавак не было — хутчэй за ўсё, яны і не патрэбныя. Ціха, глуха, пустэльна, цёмна, жудасна.

Я акуратна прайшла некалькі крокаў, азіраючыся па баках. А потым паклала руку на

паясніцу і адчула павязку, якой была прыкрыта пасляаперацыйная рана, — у чаканні вынікаў аналізу, якія вырашаць мой лёс. Прытрымліваючы павязку, каб не адвалілася, стараючыся не грымець, я паскакала па калідоры. Высокімі вясёлымі скокамі, як калісьці ў дзяцінстве...

**ШЛЯХ**

Рыбная костка, што захрасла ў горле, — з-за яе мне давялося хадзіць па паверхах у пошуку дапамогі дзяжурнага ўрача. Газета, набытая мужам для маёй забавы ў той дзень, калі вярнулася дадому, — у ёй апынуўся велізарны артыкул пра мой дыягназ, з якога я даведалася, што калі б не гэта своечасовая аперацыя, жыць мне заставалася б усяго некалькі месяцаў. Я добра ўсведамляла, што мяне пакінулі *тут* яшчэ на некаторы час. Але для чаго? Навошта?

Быць можа, дзеля той мэты, што ярка ўспыхнула ў маёй свядомасці ў змрочных ценях таго злашчаснага калідора? Ці дзеля таго шляху, якім я пайшла да яе? У любым выпадку, я не шкадую ні пра адзін свой крок. Дзякуй табе, жыццё, што дало мне яшчэ адзін шанец!

Новы шлях зрабіў круг, а я вярнулася да яго вытоку — у псіхалогію. І адтуль далей, глыбей, пашыраючы яе межы і выходзячы за яе рамкі. Я шмат, вельмі шмат вучылася, і, трэба сказаць, мне пашанцавала з настаўнікамі. Адным з іх была немка Маргарэт Барт — яна навучыла мяне не баяцца.

— Мне здаецца, я павінна знікнуць. Аднойчы ў мяне было ўжо такое прадчуванне, але тады дзякуючы выпадковасці я засталася тут.

— Гэта было цудоўнае выратаванне, так? Каму ты падзякавала тады?

— Жыццю.

— Але ты не падзякавала смерці. І цяпер самы час зрабіць гэта.

**ПАДЗЯКА**

Гэты ўрок мне вельмі спатрэбіўся. Неяк зазірнула ў маленькую цэркаўку — мела вольны час, і яго трэба было чымсьці заняць. Малады чалавек і служка царквы размаўлялі паміж сабой, і паколькі было бязлюдна і ціха, я зрабілася міжвольнай сведкай іх размовы. Царкоўная бабулька апавядала, якім святым варта дзякаваць за цудоўнае выратаванне падчас аварыі, у якую калісьці трапіў хлопец. Той стаяў згорблены, усхваляваны, і было відаць, што гэта ўсё ж не тая інфармацыя, якую ён шукаў. Быць можа, я тут для таго, каб дапамагчы яму?

Гэта няпроста — бачыць рашэнні праблем людзей, якія плынявю праходзяць воддаль цябе, але аб праблемах маўчаць. Не лезці са сваімі парадамі ў чужую душу — гэта правіла я добра засвоіла, але, здаецца, прыйдзецца яго парушыць.

«Вы лепей падзякуйце за тое выратаванне свайму жыццю! За тое, што ўтрымала вас і не адпусціла. А таксама сваёй смерці — за тое, што саступіла і дала магчымасць пажыць яшчэ».

Хлопец выпрастаўся і расправіў плечы. Прабурчаў «дзякуй» і выйшаў з царквы следам за мной. У яго было шмат пытанняў, а ў мяне — вольнага часу, і я дала яму яшчэ некалькі парад. «Сёння ў вас было шмат адкрыццяў, — сказала я на развітанне. — Будзе нядрэнна, калі ўвечары вы адпачнеце, лепей за ўсё — з добрымі сябрамі». Мы дамовіліся звязацца па тэлефоне праз некалькі тыдняў — мне было цікава, як зменіцца жыццё Андрэя пасля нашай выпадковай (ці кімсьці запланаванай) сустрэчы.

І яно змянілася. Ён кінуў паліць, пачаў хадзіць у «качалку», памірыўся з жонкай, наладзіў адносіны з сынам, стаў больш спакойным і разважлівым. Ад чаго такія метамарфозы?

«Той вечар я правёў у кампаніі сяброў, мы засядзеліся дапазна, — распавядаў Андрэй. — Я быў адзіны цвярозы вадзіцель, узяўся развезці ўсіх па хатах. Мы павольна ехалі па пустой вуліцы, хацелася гаварыць. І тут мая машына раптоўна спынілася. Яна зламалася! Я выйшаў з яе і засмяяўся. Я не мог паверыць — паломка магла адбыцца заўтра на хуткаснай трасе… Увогуле, я ўсё зразумеў — гэта знак. Мне трэба змяніцца самому і змяніць сваё жыццё».

**ЛЮБОЎ**

Гэтая гісторыя завяршылася добра, але ж ні аварыі, ні паломкі машыны Андрэя наогул магло не быць, калі б не яго зносіны з жыццём: у іх не было любові і павагі — Андрэй часцей думаў аб смерці. І мы размаўлялі:

— Гэта ўсё роўна, што быць з адной жанчынай і пастаянна гаварыць ёй пра другую — аднойчы яна не вытрывае і пакіне цябе, саступіўшы «разлучніцы» месца. Але тваё жыццё вельмі любіла цябе. Аварыя была намёкам, паломка — стала урокам. Сапраўдным урокам жыцця, і я спадзяюся, што ты яго засвоіў.

Смерць нікога не змушае спяшацца да яе і сама не бяжыць насустрач. Яна гаспадыня пэўнага месца, прасторы, свету. Цярпліва чакаючы, часам яна паглядае на гадзіннік, але больш займаецца сваімі справамі. Людзі самі павялічваюць сваю хуткасць і памяншаюць адлегласць да яе, выкарыстоўваючы розныя «сродкі» — экстрэмальныя гульні са смерцю, цяжкія хваробы, алкаголь, наркотыкі — хто на што здатны. Яны імкнуцца да яе хутчэй, але ці да яе асабіста?

Не, канешне, яны спяшаюцца да месца, дзе іх чакаюць (нібыта) любімыя, родныя і блізкія людзі. І рухае імі любоў — глыбокая, неўсвядомленая і не заўсёды зразумелая. Любоў, якая злучае родныя душы, не ведаючы перашкод, не заўважаючы тонкай нітачкі, што падзяляе сусвет на дзве вялікія часткі — жывую і мёртвую. Для такой любові ўсё адно.

Рух такой любові — лепшы сябра руху самазнішчэння, нібыта паралельныя прамыя, яны імкнуцца разам у адным кірунку. Прыняць атруту і зваліцца ў небыццё — гэта амаль тое самае, што сказаць блізкаму і адначасова далёкаму чалавеку: «Калі цябе няма ў гэтым жыцці, то знікну і я, пакуль што, праўда, на час — бо яшчэ не гатовы для вечнасці».

«Няма цябе — і няма мяне», — гэта шэпт душы таго, хто падае, на ляту губляючы сям'ю, сяброў, працу, свой статус і чалавечае аблічча. «Ты згубіў самы каштоўны падарунак — жыццё, і я таксама адмоўлюся ад яго падарункаў: ад шчасця кахання, ад радасці зносін, ад палёту поспеху… Я сумую па табе, і гэта мой выбар — сумаваць так. За мой выбар! Ах ты… за здароўе!» — гэта другая старана медаля, на якім выгранена «Хранічны алкаголік».

За самаразбурэннем з дапамогай алкаголю і наркатычных сродкаў стаіць любоў да памерлых? Часам бывае і так… Дарэчы, і да жывых таксама. Якім чынам?

Няма сакрэту, што ў кожнам з нас жыве тыранчык — у каго маленькі, а ў каго трошкі большы. Пачуццё злосці, агрэсія, імкненне да разбурэння закладзены ў чалавечыя істоты прыродай, і ісці супраць гэтай асаблівасці — сабе даражэй. Але не пра тое. Што рабіць, калі разбуральных пачуццяў вышэй за норму, устаноўленую асяроддзем? І што рабіць з гэтымі «дрэннымі» пачуццямі, якія збіраліся ў душы, нібы ў скарбонцы, на працягу ўсяго жыцця і імкнуцца вонкі? Даць ім волю і паказаць выйсце? Але ж якія вынікі чакаюць такую ідэю? Разбурыць іншых, не важна як: словамі, крыкамі, ударамі? Ператварыць у руіны тое, што будавалася доўгі час і вялікімі сіламі: сям'ю, кар'еру, зносіны?

А быць можа, загасіць няўгодныя пачуцці, «заліць» іх і, як кажуць, «утапіць у віне»? Знайсці для іх адзіную ахвяру — сябе?

Тыран, які не выбірае быць тыранам, робіцца ахвярай. Каб не знішчыць іншых, ён атручвае сябе. Хіба тут няма месца для любові?

**СТВАРЭННЕ**

У сувязі з гэтай тэмай мне прыгадаўся нядаўна ўбачаны відэаролік, які дэманстраваў правальнае выступленне братоў Самойлавых, стваральнікаў некалі папулярнага гурта «Агата Крысці». Канцэрт, на якім павінны былі выступіць браты, прысвячаўся тэме барацьбы з наркотыкамі. Аўтар роліка з захапленнем распавядаў, як адзін з братоў, Глеб, прыняў перад канцэртам немалую дозу таго, супраць чаго прыехаў агітаваць. Словы аўтара суправаджалі карцінкі, якія пацвярджалі стан спевака.

Нахабная ганарыстасць у голасе журналіста выклікала ў мяне абурэнне. Але хутка я апраўдала яго: напэўна, гэтаму «творцу» невядомы кошт сапраўднага тварэння.

Каб знайсці патрэбнае слова, падслухаць гукі, разгледзець вобраз, схапіць жалезнай хваткай новую ідэю, патрэбны ключы, бо муза трымае свае дзверы на замку: майстры гэта ведаюць. Добра, калі табе пашанцавала мець талент і прызначэнне быць творцам. Тады ключ у тваіх руках. А што рабіць, калі не хапае сілы ісці далей, а запаветныя дзверы цягнуць да сябе магнітам? Шукаць іншыя ключы? Некаторыя так і робяць.

Колькі чарак выпіта, колькі цыгарэт выкурана, колькі плітак шакаладу з'едзена — усё дзеля некалькіх кароценькіх імгненняў: вось

яно самае! І хутка ўсё зноўку: муза дражніць, шлях чакае, і становіцца не важна: чаго і колькі…

Служыць стварэнню, разбураючы сябе, — цяжкі шлях, але некаторыя творцы зрабілі свой выбар на яго карысць. Я паважаю іх выбар і намацваю ў кішэні свой ключ.

**ДАР**

Камусьці — не баяцца разбураць сябе, а камусьці — баяцца разбурыць навакольны свет. Хаваючы ад асяроддзя пачуццё, якое назвалі агрэсіяй, людзі засланяюцца маскамі дабрыні і нават святасці. І ў страху высвеціць хоць кавалачак свайго «цёмнага» боку, граюць чужыя ролі.

Такая мая добрая знаёмая. Яе прыгожыя карыя вочы пранізваюць наскрозь, і мне цяжка вытрымліваць іх моц. Доўгі час мы не бачыліся, і цяпер яна скардзіцца:

— У мяне дрэнны сон — часта сніцца адзін і той жа кашмар: велізарны чорны шар коціцца знутры мяне ўверх. Я адразу прачынаюся і чытаю малітвы.

Я ўзіраюся ў яе вочы — разгадаць гэты сон прасцей простага:

— А ці былі ў тваім родзе жанчыны, надзеленыя асаблівым дарам, напрыклад, знахаркі ці чараўніцы?

— Так, маці збірала зёлкі і паіла мяне гаючымі настоямі, калі я была маленькай, і я хутка папраўлялася. А бабуля славілася добрай лекаркай не толькі ў сваім сяле!

— Хрысціянскія традыцыі асуджаюць такія заняткі, ці не так?

— Так.

— А ты?

— Мне цяжка пагадзіцца з гэтым, я хаджу ў царкву, — мая суразмоўца пачынае злаваць.

— У жанчын твайго роду ёсць асаблівая сіла, якую яны перадалі і табе. Але ты свята трымаешся «святых» перакананняў і адхіляеш яе як сваю частку. Толькі, на жаль, тое, што адпрэчана намі, знаходзіць сабе месца ў несвядомым і паказваецца ў снах, апрануўшыся ў які-небудзь вобраз, напрыклад, страшэннага шару. Твая сіла, якую ты лічыш цёмнай, жадае быць ўбачанай і прызнанай. Але ты гасіш яе святлом, і яна вымушана даць зваротны ход.

Каб у наступную ноч патрывожыць цябе зноў…

**СІЛА**

Перажыванне агрэсіі напружвае яго ўладальніка — злое, гарачае, часам яно прыходзіць знарок і выклікае жах: няўжо гэта ўсё ўва мне? Не знайшоўшы выйсця, яно магутнай цёплай хваляй разліваецца па целе і застаецца ў ім. Так многія лічаць, так адчуваюць.

Але калі б людзі былі больш уважлівымі, то разгледзелі б: агрэсія і сіла носяць падобныя вопраткі.

— Я хачу зразумець, адкуль у мяне столькі лютасці: я зрываюся на блізкіх і падначаленых, а потым вінавачу і дакараю сябе, — гаворыць Таццяна, — мы сябруем. — Я не магу з гэтым справіцца!

Мы даследуем перажыванне Таццяны разам і знаходзім яго вытокі ў тым месцы яе роду, дзе яе дзядуля стварыў велізарнае паспяховае прадпрыемства, а потым пасля раскулачвання страціў усё і, не вытрываўшы, застрэліўся.

Калісьці гэта гісторыя ўразіла Таццяну і пасяліла ў душы страх: калі і я ствару вялікае прадпрыемства, са мной можа здарыцца тое ж, што і з дзядулем, — я магу страціць усё. Яна і жадала пашырэння свайго бізнесу, і, баючыся, не дазваляла сабе рухацца ў кірунку поспеху. Унучка мела дар прадпрымальнага дзядулі, велізарную сілу, але не выкарыстоўвала яе, не давала ёй выйсця.

І гэта сіла сама шукала хоць якое-небудзь выйсце. Адсюль і Таццяніны беды.

**ПРЫЗМА**

Праз некалькі дзён сваіх даследванняў зноў сустрэлася з Наташай.

— Напэўна, ты зрабіла высновы? — запытала яна.

— Так. Тое, што мы называем дрэнным, няправільным, непрымальным і наогул недапушчальным, — «злая прызма», праз якую мы можам часам бачыць нешта нават больш велічнае, чым тое, з чым у нас спалучана дабро. Трэба толькі не баяцца бачыць.

— Будзеш даследаваць далей?

— Так. Мне здаецца, што чым больш я гляджу на свет, тым больш ён мне адкрываецца. Я бачу яго цэльным і вялікім.

Наташа паглядзела на мяне і ўсміхнулася:

— Што ж, самы час убачыць такой і сябе…



# Антон Вагін і інстытут банкруцтва

*— У рынкавай эканоміцы інстытут банкруцтва з'яўляецца інструментам аздараўлення эканомікі: ён дазваляе безнадзейным прадпрыемствам ліквідавацца, а індывідуальным прадпрымальнікам — спыніць сваю дзейнасць і вызваліцца ад пазыковай кабалы.*

***Антон Вагін, магістрант Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, — пераможца 6-га рэспубліканскага конкурсу маладзёжных работ «Банкруцтва. Антыкрызіснае кіраванне». Ні больш ні менш. Таму вельмі добра ведае, пра што гаворыць. Увогуле, яго праца прысвячалася распрацоўцы перспектыў для ўвядзення ў Беларусі інстытута банкруцтва — увага! — фізічнай асобы. Бо трэба ведаць, што наш чалавек, беларускі грамадзянін, не мае пакуль такой магчымасці — узяць ды абанкруціцца. А трэба, каб ён яе меў.***

— Адсутнасць у нашай краіне інстытута банкруцтва грамадзян, якія не займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, не дазваляе простаму чалавеку паставіць кропку ў сітуацыі, у якой ён не здольны вырашыць свае фінансавыя цяжкасці. Сёння чалавек можа набраць крэдытаў, зыходзячы са свайго цяперашняга заробку, або выступіць паручыцелем, а заўтра па якой-небудзь прычыне пазбавіцца сваёй асноўнай крыніцы даходу — і зробіцца раптам няздольным выконваць свае абавязкі. І ніякага прававога, афіцыйнага вырашэння гэтай сітуацыі ў яго няма. Калі абавязак буйны, то ён можа застацца ў даўжніках на ўсё жыццё і пазбавіцца ўсяго, што не ўваходзіць у асаблівы пералік маёмасці, на якую забаронена спагнанне. Больш за тое, нават калі ў чалавека адабралі ўсё, што дазволена заканадаўствам, ён усё роўна застаецца даўжніком. Магчыма, праз некаторы час ён зможа знайсці новы заробак і ў яго могуць з'явіцца нейкія грошы, але могуць зноў з'явіцца і тыя, у каго ён пазычыў, і запатрабаваць не выкананага, незалежна ад таго, колькі мінула часу. Таму людзі і губляюць матывацыю да працоўнай дзейнасці, сыходзяць у «цень», перастаючы афіцыйна заяўляць пра свае даходы. Адпаведна, перастаюць плаціць падаткі.

**— І каб гэтага не было, вы ўзялі ўдзел у гэтым конкурсе.**

— Так. Калі прымаў удзел першы раз, то вельмі хваляваўся, але мне было цікава. Хацелася паказаць сябе і паспрабаваць нешта новае. Гэта было самае запамінальнае публічнае выступленне, хоць за час маёй навуковай дзейнасці іх было нямала. Я больш за дзесяць разоў удзельнічаў у канферэнцыях, яшчэ было не менш шасці конкурсаў і іншых мерапрыемстваў, дзе таксама даводзілася выступаць на публіцы. Мне хацелася паказаць максімум. Але я атрымаў другое месца.

**— Чаму не першае?**

— На самай справе! Я не павяду сябе сціпла і скажу, што многія здзівіліся. На той момант, па словах маіх калег, я быў самым энергічным удзельнікам конкурсу. Праца была цікавая і добра падрыхтавана, але мне здаецца, што не хапіла вопыту і глыбіні вывучэння тэмы. На пытанні я адказваў, але адказваў, разважаючы, а гэта значыць, што адказы не былі дакладнымі: фактычна, я думаў падчас справы, і падыходзіў да адказу разам з журы.

**— Чым вы кіраваліся, калі падавалі заяўку на ўдзел і выбіралі тэму працы?**

— Усё проста. На лекцыю ва ўніверсітэце прыйшоў наш выкладчык па грамадзянскім праве і абвясціў, што праводзіцца конкурс. Агучыў прызавы фонд — для студэнта гэта вельмі прыстойныя грошы. Большасць спасавала адразу. Я тады вучыўся ў прыватным інстытуце, дзе панавала шмат стэрэатыпаў, прадузятасцей. Многія, хто быў здольны паўдзельнічаць, знаходзілі апраўданні, чаму гэта не мае сэнсу. Некаторыя выказвалі меркаванне, што вынікі ўжо загадзя вызначаны.

**— Колькі часу пайшло на падрыхтоўку той працы, з якой вы занялі першае месца ў 2013 годзе?**

— Я пачаў працаваць у гэтай тэме яшчэ перад першым конкурсам, але тады прайшоўся па самых вярхах інстытута банкруцтва грамадзян. Чатыры гады я гэту тэму развіваў, не гледзячы на тое, што займаўся навуковай дзейнасцю ў розных сферах. За чатыры гады вывучыў пытанне знутры. Я ўжо разважаў не аб самой неабходнасці ўвядзення дадзенага інстытута, як гэта было спачатку, а канкрэтна пра тое, якія на сёння існуюць прававыя бар'еры для яго ўвядзення, і якой, на мой погляд, павінна быць адаптаваная мадэль банкруцтва грамадзян у Рэспубліцы Беларусь з улікам замежнага вопыту. Таму падчас выступлення я амаль не кранаў тэарэтычныя моманты, а толькі апісваў праблемы.

**— Па сутнасці, гэта была канкрэтная праграма дзеянняў?**

— Вядома. У конкурсе прымалі ўдзел і менеджары, і эканамісты, і юрысты. Да пэўнай даты з усіх работ выбралі восем лепшых. Важнымі крытэрыямі адбору з'яўляліся навізна і практычная значнасць. Абмежаванняў па аб'ёме не было: хтосьці дасылаў курсавыя, а хтосьці магістарскія або дыпломныя.

**— А якім быў прыз?**

— Я атрымаў магчымасць прайсці стажыроўку ў юрыдычнай групе «Советник». Яшчэ адна прапанова паступіла ад Міністэрства фінансаў, у прыватнасці, ад Дэпартамента па санацыі і банкруцтвам. Але я не скарыстаўся дадзенымі прапановамі. На той момант я ўжо працаваў у іншым месцы, у мяне былі іншыя планы, а мне не ўласціва спантанна іх мяняць. Я стараюся прытрымлівацца канкрэтных мэт. Гэтак жа, дарэчы, выйшла і з конкурсам. Я больш ганаруся не перамогай, а тым, што за чатыры гады дасягнуў таго, чаго хацеў. Пасля трэцяга конкурсу з'явіліся пэўныя сумненні, я амаль апусціў рукі, але ўсё роўна сабраўся і дацiснуў.

**— Што дала перамога?**

— Пачуццё задаволенасці. Завершанасць, радасць за вынік. На гэта пытанне можна адказваць па-рознаму. Але тут мае значэнне той факт, што дадзеная тэма паралельна ўжо адпрацоўвалася ў адпаведных органах з мэтай складання праекта закона «Аб банкруцтве фізічных асоб, якія не займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю».

**— Ці выкарыстоўваецца ваша праца на практыцы? Што змянілася за год?**

— Мне цяжка нешта ацаніць, але ўпэўнены, што праца была выкарыстана. Да мяне нават паступіла прапанова аб атрыманні акта аб укараненні ў заканатворчы працэс — за складанне абгрунтавання ўвядзення доследнага інстытута. Дадзеная праца пакладзена ў аснову магістарскай. Частка праблем, якія я агучваў на конкурсе, ужо вырашана.

**— Напрыклад?**

— Напрыклад, я ставіў як адну з праблем пытанне аб падведамаснасці. Справа ў тым, што інстытут банкруцтва грамадзян, якія не займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, не адпавядаў агульным крытэрыям падведамаснасці гаспадарчаму суду, незважаючы на тое, што сама катэгорыя спраў аб банкруцтве знаходзілася ў выключнай падведамаснасці гаспадарчага суда. Пасля таго, як адбылася судовая рэформа, праблема падведамаснасці адпала.

*Гутарыла Ганна ЛІСІЦА*

*Алесь КРУТКІН*

# ХАЙ ПРЫСНІЦЦА ДОБРАЙ ПАННЕ ЯБЛЫЧНЫ ПІРОГ



***Алесь Круткін нарадзіўся 7 снежня 1989 года ў вёсцы Адаменкі Быхаўскага раёна. «Там, дарэчы, было і паселішча чалавека жалезнага веку кіеўскай археалагічнай культуры». Жыве ў вёсцы Захарнічы Полацкага раёна. «Там, дзе ў XIX стагоддзі жыў мастак Іван Хруцкі». Вучыцца на гісторыка, цікавіцца этнаграфіяй Падзвіння, захапляецца кінематографам.***

* * *

Вецер на маім «майдане» —
Смецце за парог,
Хай прысніцца добрай панне
Яблычны пірог.
Будзе спаць і сніць вядзьмарка
Журавіны, мёд,
Закружляюць знічкі шпарка —
Думак карагод.
Прымурожыць зноў ціхенька
Вочкі-прамяні,
Замуркоча песню елка
Ёй пра карані.
Як сняжынкі свае вежы
Адбудуюць, і праз лёд
Сустракае не па трэшу
Чараўніцу снежань-кот.
Вецер дзьмуць не перастане —
Ачышчэнне-матылёк,
Хай прысніцца добрай панне
Яблычны пірог.

* * *

Не хварэйце, сінія пялёсткі,
Матылькі-агеньчыкі!
Ў іх святло крывіцкай вёскі,
Ад ракі пасвенчаны.
На вячэру светам шэрым
Там злятаюцца ваўкі,
На нябесную кватэру
Каб пазбавіць вас смугі.
На світанку у блакіце

З падарожжаў-магістралей
Прачынаюцца... Глядзіце
Праз агні і далей!

* * *

У яе ад восені —
Жоўтыя лясы,
Ад зімовай просіні —
Промні абразы.
І на гэтым вось памежжы —
Скасаванне візаў,
Мытнямі ў снежні
Вашыя эскізы.
Дык трымайце за далоні
На вакзале ў пастарунку,
У застуджаным вагоне
Станьце паратункам.

* * *

Вы — мой мёд,
Вы — мая валяр'янка,
Мы паедзем на санках
На казачны сход:
Анёла-вядзьмарка
І пчола-кот.

**ВІЛЬНЯ**

Між дэфензівай і саўгумай
Чэргі падманаў і прымусаў
Чужынскім ботам стала гумай
Сталіца княства беларусаў.

* * *

Не навязвацца
І не надакучваць,
І не трэба быць асам,
Сыходзячы гучна.
Нам бы толькі зваліцца
Пялёсткамі вішні
Калі кажуць, што быццам
У палёце залішні.



Андрэй З-і

# РАКА

*Навела-эпапея*



***Андрэй З-і (Андрэй Захарэўскі) нарадзіўся 26 сакавіка 1988 года ў Мінску. Дэбютаваў у «Маладосці» апавяданнем «Яйкі». Аўтабіяграфію пажадаў пакінуць «сухой»: «Прынамсі, няхай аўтар твора з'яўляецца ўяўленнем чытача».***

Цяпер, успамінаючы жыццё, думаецца пра набытак, няхай быццам бы ўсё і загублена. А губляць заўсёды ёсць што: ці дрэва, ці ваду, ці агмень, ці камень, ці паветра, ці чалавека. Стыхійныя ўспаміны жывуць у бясчассі, яны паўтараюцца і паўтараюцца, часам нешта ў іх з'яўляецца і новае, а нейкая бліскаўка: жывінка, жарынка, капачка, пясчынка, бурбалка, крывінка — сыходзіць. Успаміны амаль не магчыма звязаць у храналагічны парадак, усё становіцца нібы ідэальным, ідэальна абагуленым, цэлым. Бог — гэта ўспаміны. Не толькі, не столькі шлях, колькі тое, што мы бяспынна пакідаем па-за ім.

Немаўля сядзела ў пялёстках і спазнавала кветку, сябе ў ёй, сваёй радзіме, усмоктваючы вуснамі гукі. Немаўля круцілася на сваіх бачках, ці ўзнімалася на рукі, ці сядзела на іх, а гукі так і ліліся ды ліліся ў звязках, яны ўсе былі напоўнены бясконцымі сімваламі. Буда ўсміхаецца з такой адкрытасці немаўля.

Кагадзе дзве поўнасцю белыя постаці гуляліся з дрэўкам, ахіналі яго адным камлём, у колцы, заручаючыся самім жыццём, што блізняты. Яно, дрэўка, слязілася, расілася, з ім было цяжка ладзіць, але гэта і быў стрыжань, пачатак, якім трэба авалодаць, займець яго, а з ім і сябе. Гэты ўспамін як выслізнуў з цемры невядомасці, усё адбывалася вокамгненна. Але я, напэўна, чую той ласкавы загад: «Засынай!» — і сама па сабе лячу, разбіваюся; хоць хочацца ўспомніць усё, а ўспамінаецца цемра. Цемра, між іншым, амаль паўсюдна, і адчуваецца, як яна кожны раз забірае ўсё большую частку цябе, нібы ты ўсё менш і менш існуеш. Вось-вось дачакаюся...

І я малюся. Я прашу з'явіцца мне, але з'яўляцца, мусіць, яшчэ няма каму. У тым узросце я не разумею гэтага, я нічога не разумела і не разумею цяпер, таму і пакінула сад. Але мяне ніхто не чакае дома, таму даводзіцца вярнуцца, як падаецца, назад. Аднак я варочаюся наперад.

Нават уверх. Я заўважыла, як зачапіўшыся, ускараскаўшыся на дрэва і седзячы на даўжэзным тоўстым суку, становішся галінай, працягам яго, я блытаюся, блытаюся. О Божа і Дзева, гэтыя суткі, гэтае сусветнае скрыжаванне. Бутон раскрываецца — я бачу, бачу: я акрыляюся, узвышаюся, і адчуваю жыццё. Вось яно ўсё перада мною, нада мною, пада мною — маё. І хоць ручак у мяне пакуль

небагата — іх толькі дзве, і зусім слабыя, — аднак я ўсё вытрымаю. Я буду. Дуб я. Раслі першыя ў маёй годнасці шчаслівыя пасынкі, расло вялікае жаданне ўсяго жыцця. Большала і большала выцягнутых да сонца краснага далоняў — пяшчоты хопіць на ўсіх, усіх вас зробіць свабоднымі, ашчасліўць, абпаліць, ударыць па галаве. І далоні з прыгаршчамі кідаліся на маё сонца, купаліся ў ім, аднак хутка апамяталіся, бо знянацку, забыўшыся на перасцярогу, згаралі, гублялі сваё крэўнае і мізарнелі. З гэтай пары пасродкам лісткоў з прожылкамі мой рух набывае час і сум.

— Галінка стаіць у шкляной вазе.

— Сокі цэдзяцца з мяне праз нязручна зробленую ранку ў залатой сярэдзіне.

— Я гару, згараю. І — невядомая дагэтуль сіла ўздымае мяне — ляцець, ляцець.

— Цацкі, мае цацкі. А побач жалуды, з шапкамі і без, крамяныя і стромкія, упалыя і звялыя. Я іх імкнуся сабраць. Нібы яны ўсе аднолькавыя, як гавораць, адзін у адзін; аднак я збіраю кожны, падбіраю ў прыпол і хаваю іх пад сваім полагам.

— Я распусцілася... Свінні, яны ўсе пада мною, так я думала. Навалач! Яны стапталі мяне, разбілі, паламалі... Галінкі... Я раву, таму што я ўсё яшчэ веру.

— Малочная частка мяне над вадою і там, на мне пакідаюць свае сляды, каб перачакаць, выйсці сухімі з вады, а я захлынаюся ад цяжару.

— Вада паднімаецца, запаўняе сабою ўсё наваколле, усю далячынь. Бачыш, як я гнію, як мой асяродак робіцца каменем. Бачыш?

Урэшце, наверсе я нешта пачынаю атрымліваць. Гэта нябачна, нечутно, але ўвесь час там гэта прысутнічае. Відаць, я ведаю зашмат, і род, які раней з лагодай ухваляў мае назіранні, цяпер з усёю сваёю ветранасцю, на якую толькі здатны, хлабышча мяне іголкамі, лісцем, чапляе куксамі і тузае ўправа-лева, і на другое права, і на другое лева, і на трэцяе... Апусціўшыся амаль да самага долу, на апошні карэнны сук, я зламала яго, які зваліўся ніц і нарабіў гаці. У такі няблізкі мне свет паплыў.

Дрэвы і напраўду знікалі з лесу, неўзабаве і без дай прычыны. Знікалі пад уздзеяннем упартых механізмаў. Увесь той лес ствараў сёлы, а я ў гаспадарку не ішла — заставалася зазнаўкай-дзічкай. Я набралася вады, наўкола мяне чвякала, пералівалася, віравала. А я стаяла пад дожджыкам і вымывалася — надышоў Вадаліў. Я бачылася ў поўным росце. Вакол мяне ўсё блішча, зверху грымяць трубы. Быццам бы так урачыста, і мірыяды чырвонцаў, медзякоў, кроны і паўкроны ляцяць па вятрыску; разгулялася, разгулялася як толькі магчыма. Было бяспрэчнае адчуванне, што там, на памежжы жыцця і смерці, кара не вытрывала і трэснула. Гэта пацвярджалася з кожным з’яўленнем зоркі. Быў жар і пот. Усюды сплывала і плыло. Часам падавалася, што ўсю слізь, вільгаць і гніль прынесла я са сваёй трэшчыны, прарэхі, са сваёй болькі. Зверху і знізу хваляваліся зоркі, яны набрынялі вадою, скочваліся і выраслі ў вялікі яркі шар, і ўсё паўставала азызлым і налітым, напаўнялася да таго месца, пакуль не выбухала, не разляталася на шматкі, не паказвала сваё нутро, сваю ідэю.

Вада адышла і застаўся незразумелы шлях — бездарожжа. Мне толькі і стаяць карчом, праз які ўваходзіла новае, прыладкоўвала да жыцця сваё пячорыстае цела.

Ах, ракападобнасць. Усё ўцякае, усё з’яўляецца, усё існуе і не існуе ў адначассе — жыццё ўва ўсім. Нішто — таксама жыццё!

Рак у мяне. Не тое, каб я дужа спалохалася — гэта мяне ўзрушыла, а потым засмуціла, бо ў любым выпадку для мяне не стане, ужо не стала, відаць, слабасці, нават свабоды. Цяпер я нібы адказваю за жыццё, за свае дзеянні, якія могуць прынесці злыбяду, пакуты іншым істотам. Бо адказваю, няхай гэта і пафасна гучыць, за зямлю. Так, выбару ў мяне і сапраўды няма. Я амаль не спужалася. Думаю, любы чалавек, не сказала б, што дакладна павінен, але так, павінен быць гатовым. Аднак якая б я ні была гатовая, варыць мне ўсё роўна даводзіцца. Ну, кацёл, горан, гарт — нешта вы павінны ў гэтым разумець.

Цяжка сказаць, калі свядома распачаўся наш сакрэт. Кропка адліку, клыпажок, тое, што можна сфатаграфаваць і зрабіць подпіс «На памяць». Святадзея. Можа, пачатак асталяваўся тут, калі я, прачыстая, упала ў калодзежную ваду акурат там, дзе крыніцы б'юць. І, прамоклая, стала віднаю наскрозь. Мусіць, я пераацаніла сваю моц, свой дар жыцця. І я збягаю ад крыніцы, але ўсё, што я маю, падзяляецца цяпер на да святой крыніцы і пасля. Думаю, тады ён і захацеў да мяне, і я ўжо адчувала прыхаваную повязь. Было неспакойна, памятаю, начамі дрыжэла ад холаду і пацела адразу, і рухі не слухаліся мяне. Усё ж гэта было, і я чакала вызваліцеля, новага жыцця.

Я кажу ж, тут было больш суму, чым пакут: так ці інакш праз гэты выбар, дзе выбару няма, праходзяць усе, аднак быццам нешта набліжаецца да цябе, становіцца амаль відавочным, і яно пастаяннае: у любым выпадку мы заўсёды вяртаемся да сябе ў лежбішча, зямлянку, лог.

Калі я адчула яго прысутнасць, сама пасунулася да яго, бо дужа кранyў ён мяне за жывое, як я адрадзілася, як толькі што адчула сябе і сапраўды жывою. Ён амаль штодня бываў каля мяне, звычайна, тады выдавалася вольная хвіліна, ці звінеў у вушах, лю-лю-лю. Рак мілаваўся са мною, цалаваў, казытаў мяне сваімі казярожкамі, пакуль бугарок мой, узлобак не пульсаваў. Скажу, я была шчаслівая ў гэтым бунце, я гаспадарыла над ім, ён быў маім звярком, свойскім і ручным. Канешне, я не хацела быць з ім увесь час, мусіла некалі з ім развітацца — не заракайся. Бо цяжка сказаць, калі пачала яго чакаць, але тады і пачала пакутаваць ад яго. Віна! Адзін раз жывём!

Рак, трэба сказаць, заўсёды з'яўляўся сам, нібы вылазячы з нары, ён меў у гэтым поўную волю, і ў апошні час запанібрата лез у маё жыццё, усё роўна яно належала і яму. Рак патрабаваў ад мяне большага: адказнасці, высілкаў, часу. А сам пачаў піць усё дарэшты і расці, расці ўваччу. Рак шчупаў сваімі клешнямі, бессаромна агаляў мяне перад людзьмі, мацаў за вядомыя месцы, а то і рваў валасы, калі не слухалася; а я не слухалася, бо ён прыносіў мне боль. А быццам жа ўсё пачыналася любошчамі. Рак, ведаеце, як паўсюдны: што б я ні рабіла, адчувала яго пазнаку на ўсім, нібыта лёс — усеабдымны: сіла яго, моц агортвалі, хвалявалі мяне, я зноў уваходзіла ў ваду, у самае рэчышча, і грудзі сцінала ад прахалоды, сцюдзёнасці, грукала ў левы бок, ажно задыхалася, ажно галава кружылася. Мы скідалі з сябе ўсю сваю будзённасць, і намі апаноўвала свята, мы сустракалі раніцу, чакалі прыходу клёву. І вось тут, перад самым усходам, усшэсцем нешта Стральцом разрывала, тупым цяжкім металам, трушчачы грыб, яго галоўку і ножку, топчучы ўвесь радавод, усю грыбніцу, раўло ў вушах, чапляючыся за валасы і выдзіраючы цэлымі паклямі. Рэальнасць нагнятала і пераганяла мяне, каб дагнаць яе, не заставалася анічога. Раку — вось што мусіў зрабіць з мяне ён. Рак спраўляў уваходзіны, а ў рацэ раставаў мой боль, маё страчанае малалецтва. Паміж намі не стала сакрэтаў, ніякага чараўніцтва, мы былі ўжо адным цэлым, пакуль смерць...

Праходзячы вуліцай, я чула шэпт: «Рак, глядзі! Рак!» У мяне змянілася імя, цяпер назвалі па-іншаму, па-ягонаму, і нараклі гнілушкай.

У вольныя ад яго хвіліны, якіх ставала ўсё меней і меней, я амаль магла зразумець, што ад пакут усё-ткі ёсць адно збаўленне, і гэтага збаўлення акурат і хацелася. Жыццё наўкола запаўнялася беспрасветнай цемраддзю, каламутай. Рак выпаўз з майго сховішча, калі надышоў самы кароткі дзень у годзе, я ўбачыла яго, а калі схапілася за камень, думаючы, што так можна вызваліцца, не ўбачыла як ён знік! А з таго месца ў тое ж самае імгненне, калі яго не стала, узляцеў крумкач.

— Кар! — бадай нешта падобнае выкрыкнула стварэнне, нібы гэта ці заканчэнне, ці пачатак, а мова сконy.

І кар, і кар, і кар... — з усіх бакоў узмахвалі тысячы крылаў. Каб вы далі мне веры, я гатовая аддаць усё, што ў мяне ёсць. Усё.

Юрка БУЙНЮК

# ПОТЫМ НАШАЯ РАЗМОВА ПАПЛЫЛА

## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

На далоні цэнтра горада жыцця
Сустрэлася двое адзінокіх сэрцаў.
Прывіталі мяне два вясёлыя сонцы
Рассмяяных шэрых тваіх вачэй.
Усмешка твая вясёла рассыпалася каралямі
Беласнежных жамчужынаў зубоў.
Доўга мы маўчалі ў полымі захаплення
Агня свечак вячэрняга кафэ.
Потым нашая размова паплыла
Прыемнай ракою мелодыі вясёлага джазу
Твае цёплыя словы былі
Водарам ранняй кавы
Што прабудзіла ўва мне захапленне.
Калі затрымаўся ў люстрах твайго погляду
Я адчуваў дэжавю
Наступных нашых сустрэч

## СЛОВЫ, НАПІСАНЫЯ МУЗЫКАЙ

Я намалюю словы
Напісаныя мелодыяй сэрца
А ты будзеш маім жаданнем гэтых слоў
Праглянеш праз «сардэчнае» акно
Пабачыш іскарку веры
Падасі думку спевам сваім
Хай песня разгарыцца ўва мне
А ноты адкрыюць неба ў сэрцы
Кожнае слова метафарай апранута
У каханне заклята
Я збудую масты акордаў
Над ракою жывога натхнення
Хай плыве чыстай слоў вадою
І ў ёй абмыецца душа
Светла-радаснай вясны



***Юрка Буйнюк нарадзіўся 22 ліпеня 1981 года ў вёсцы Маліннікі на Беласточчыне. Лаўрэат Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Паэт, бард, карэспандэнт штотыднёвіка беларусаў Польшчы «Ніва».***

## ПАЦАЛУНКІ

Сплеценыя косы рук
Да берагоў вуснаў
Дакранаецца неба
Вадаспадамі пацалункаў
Абмываем імгненні
Забываем пра хвіліну
Што яднае нас
Каб нагадаць сабе
Што каханне існуе
Як гарачае сонца
Як вецер, што авявае
Каляровую сукенку
У квецені вясновых садоў
Адплываем мрояй сноў

## ЗДЗЯЙСНЕННЕ

калі сэрцы гавораць
калі шчасце плыве
калі ў абдымках на маім плячы тонеш
то надзея жыве
што каханнем пераможам кожны дзень
і не будзе дажджоў адзіноты
у сэрцы вясной будзе колер
ясна-сіняга бэзу цёплых слоў тваіх
прысняцца цёплыя абдымкі вясны
якая раздобрыцца
і прасыпле праменні яркіх сваіх дзён
знікнуць самотныя цені
будзем разам — і я, і ты

## КАРАЛЕВА ЗІМЫ

Яснай пярынай снежных сноў
Зіма прытуліць зямлю
У санях ноччу прымчыцца вецер-конь
Над’едзеш ты каралевай зімы
У іскрыстай сукенцы
З бляску інею зор серабрыстых
У ветры прачытаю час доўгай тугі
Сама ведаеш, які далёкі наш шлях
Не адна ноч

Не адзін дзень дзеліць нас.
Голас твой — спеў жаваранкаў любові
Тысяча кіламетраў узляціць рэхам вясны
Электронных метафар слоўны свет
З'яднае нас у празрыстым сне
У блакіце лёсу неба
Залатымі літарамі запісаныя нашыя імёны
Што вернуцца, як буслы на Благавешчанне
Чаканне — пакора для шчасця
А ўчарашнія адзінокія ночы
Рассвятляюцца промнямі нашай раніцы
Хай тройка гоніць далёка
Яе вятры-коні нясуць удалеч
Чаканне шчасця — цярпенне
Хай з кожным новым днём
Адыходзіць учарашні жаль
Ніхто нам не сказаў
Што простай дарогай ходзяць шчаслівыя
Каб пабачыць зорку мэты шчасця.

**ЧАРНІЛЬНАЕ НЕБА**

З непакоем узносіцца мой погляд
На чарнільнае неба
Разлітае дажджавымі хмарамі
Ізноў хлусілі фальшывыя прарокі
Што ўчора прадбачылі сонца шчасця.
З парэзанага лязамі спадарожнікаў
Праколатага іголкамі самалётаў
Паветранага шара
Неба дажджыць неўміручым болем
Нястрыманых вадаспадаў летніх ліўняў
Зімою неба сыпле мільярды тон снегу
Вясна бамбардзіруе градам.
Бог гневаецца за яйкі ненароджаных людзей
Якія хочуць быць разумнейшымі
За курыц-матуль.
Пагляньце на атрамантавае неба
Малітваю пакорных дзіцячых вачэй
Вычытайце жаль адзінокага атрамантавага неба

Аліна АГРЭНІЧ

# З ПЕРШЫМ МАЯ, НІ ТО АДА, НІ ТО МАЯ!

*Апавяданне*



***Аліна Агрэніч нарадзілася 22 кастрычніка 1994 года ў Адэскай вобласці. Студэнтка славянскага аддзялення філфака БДУ. На паведамленне аб публікацыі адказала: «У шэрагу нечаканасцей, што здарыліся ў маім жыцці за апошні час, гэтая займае першае месца». Апавяданне прайшло праз конкурс рэмэйкаў «Прыгажуня і Пачвара».***

***Усе падзеі, апісаныя ніжэй, з'яўляюцца выдуманымі. Усякія супадзенні з вашым уласным жыццём сведчаць пра тое, што лёс пацалаваў вас у абедзве шчакі…***

На свеце хапае студэнтаў старанных і гультаяватых, разумных і не вельмі, прыгожых і так сабе. Я хачу распавесці гісторыю аднаго вельмі шчаслівага студэнта.

Павел Корбут вучыўся на другім курсе журфака. Паступіць туды ён марыў, бадай, з гадоў дванаццаці, калі зразумеў, што кар'ера фокусніка-самавучкі наўрад ці будзе ўдалай. Ды і ў цырку працаваць пабаяўся: клятыя клоўны палохалі яго заўсёды. Высокі, з густымі каштанавымі валасамі і выразнымі зялёнымі вачыма, Паша быў самым папулярным хлопцам на курсе. Можа, нават і на ўсім факультэце. Будучыя журналісткі не давалі спакою. Што ўжо казаць пра дзяўчат, калі нават выкладчыцы заплюшчвалі вочы на ўсялякія выбрыкі студэнта Корбута праз яго неверагодна прыцягальную ўсмешку! Варта дадаць, што, акрамя прыгажосці, у юнака меўся сапраўдны талент і прага да працы. Але і карыстацца сваёй абаяльнасцю ён не цураўся.

Сёння Паша сядзеў з сябрамі каля вялізнага будынка чыгуначнага вакзала, акурат ля галоўнага ўвахода. Надвор'е радавала: сонца сагравала душу і цела, ветру амаль не адчувалася. Гэтыя выхадныя проста крычалі, што нікога ў самоце не пакінуць. Па-першае, цёпла на вуліцы, па-другое, выхадныя вялікія, бо на панядзелак прыпадае 1 Мая. Усе вырашалі, куды ж ехаць, каб адпачынак быў сапраўды ўдалы. Зміцер, сябар Пашы, вырашыў з'ездзіць дадому ў Оршу, што дазваляў сабе нячаста. Разам з Пашам праводзіць таварыша прыйшлі Лёнька і Мікіта. Хлопцы (чаго ўтойваць) выпілі трохі піва яшчэ ў інтэрнаце, калі забіралі валізы Дзімкі-вандроўніка, а цяпер неўпрыкмет гулялі ў карты.

— Не, так нецікава! Давайце зробім вось што: той, хто прайграе, запросіць на спатканне дзяўчыну, якая выйдзе з вакзала па заканчэнні гульні, га? — прапанаваў Лёнька.

Чаму ўсе пагадзіліся адразу, невядома дагэтуль. Бо Лёнькавы ідэі ніколі не падтрымліваліся з тых часоў,

калі ён прапанаваў хлопцам спячы пірог у інтэрнацкай кухні. Дагэтуль невядома, што тады ў іх атрымалася: прыгатаваную масу адмовіўся есці нават заўсёды галодны мясцовы дварняк Кліменцій.

Пашка прайграў. Калі ён падышоў да галоўнага ўвахода ў вакзал, усе таксама скалілі зубы, але калі адтуль выйшла «ахвяра», смех сціх. Хлопцы проста разгубіліся. Такога ніхто не мог прадбачыць: у дзвярах паўстала нешта чорнае, страшнае, кудлатае і кашлатае... Не ў правілах Пашкі адступаць...

— Мілая дзяўчына! — выгукнуў ён, і, як ні дзіўна, на такі зварот яна павярнулася да хлопца. Гэтае нешта было ніжэй за Пашку, але не сказаць наколькі, бо яе жахлівы чорны абутак быў на высокай падэшве. Доўгія чорныя валасы ляжалі капной, якой не кранаўся грабянец за даўнім часам, ейнае адзенне Пашка спачатку не ведаў, як класіфікаваць, але потым здагадаўся, што гэта доўгая чорная сукенка і доўгі чорны плашч. Крыжы-снатхі, бранзалеты ў шыпах і жудасны мэйк-ап (не кожная дзяўчына фарбуе вусны чорным, а твар збяляе, як нябожчык), падказалі, што перад ім прадстаўніца субкультуры готаў. Яна пазірала на хлопца ўважліва, з цікаўнасцю. Калі ж Пашка запрасіў яе на спатканне, то чорныя вочы дзяўчыны зірнулі на яго так, што хлопец практычна пачуў голас напалоханага анёла-ахоўніка: «Бяжы, родненькі, бяжы!»

— Згода. Вось мой нумар, каб ты скінуў паведамленнем дзе і калі, — прамовіла дзяўчына, накінула на галаву каптур, загадкава ўсміхнулася і павольна пайшла далей.

Пашка сціснуў у руцэ шматок паперкі і, апусціўшы галаву долу, падышоў да сяброў.

— Корбут, ты мужык! Паважаю! Не здаўся, не спалохаўся! Цягні заўтра з сабою абразок Божай маці, гляк святой вады, часнаку пахучага пучок, і ўсё будзе добра! — сказаў Мікіта і пырснуў смехам, а за ім ўслед зарагаталі і ўсе астатнія. І Пашка за кампанію.

Прачынаўся хлопец цяжка. Пашка стараўся ўспомніць мінулы дзень. «Так, Зміцера мы ўсё-ткі на цягнік пасадзілі. Пілі нешта потым з хлопцамі. Якую халеру мы пілі? Не, не памятаю. Дзяўчына! — раптам узгадаў ён. — Але ж я не ў тым стане быў, каб дасласць паведамленне ёй. Ці не?» Юнак хуценька пабег шукаць тэлефон. Агледзеўшы ўсе кішэні, Пашка нічога не знайшоў. Падумаў ужо, што згубіў, пакуль не звярнуў увагу на свае кеды. «Не ведаю, як ты тут апынуўся, але дзякуй богу! Так, якія апошнія адасланыя паведамленні?»

Пашка сеў на падлогу і гучна зачытаў: «Чорная панна Мінска! Буду чакаць цябе ля галоўнага ўвахода ў старую дзіцячую бальніцу, што побач са ст. метро Акадэмія навук, а 12 гадзіне дня. Вялізны белы будынак. Яго яшчэ бамжы нядаўна падпалілі. Прывакзальны хлопец».

…Калі Пашка стаяў на месцы сустрэчы, ён быў упэўнены, што дзяўчына не прыйдзе. Навошта ёй шалёны незнаёмца, які прызначыў сустрэчу ў такім месцы? Ды яшчэ і падпісаўся прыдуркаватым чынам. Але застацца дома сумленне не дазволіла. Калі на гадзінніку было 12:15, з'явілася яна. Толькі ж адтуль, адкуль ён не чакаў: дзяўчына выйшла з будынка бальніцы…

— Мы, вядома, маглі не сустрэцца сёння… Усякае ў жыцці бывае, але мы тут. Таму, прывітанне! — прамовіла яна, усміхнуўшыся. За дзень нічога не змянілася: белы, як у нябожчыка, твар, чорныя вочы і вусны, бранзалеты з ашыйнікам у шыпах і заклёпках, вялізныя боты і незразумелае страшнае адзенне.

— Так, мы сустрэліся, дзякуй Богу. Ці не дзякуй? Не разабраўся яшчэ. Як ты туды залезла? Вартаўнік жа павінен быць… — пацікавіўся Пашка.


*Малюнак В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.*

— Залезла без праблем! Вартаўнік лыка не вяжа. Сядзіць там з мясцовымі бамжамі, п'е штосьці. Што? Вядома не гарбату і не каву. Яны як мяне пабачылі, збялелі ўсе. Казалі, што кінуць піць, знойдуць працу, завядуць сям'ю. Яны ж такія маладыя! Яшчэ нічога людскага ў сваім жыцці не паспелі зрабіць. Я сказала, што прыйшла з мірам, што толькі пагляджу на ўсё збоку, і, калі яны не будуць дыхаць на мяне пачварным перагарам, я іх чапаць не збіраюся. Малайцы бамжы! Такую будыніну выбралі! Вось бы жыць тут, га? — у захапленні сказала яна.

Паша не ведаў, як адказаць, таму прамовіў тое, што гавораць звычайна пры сустрэчы з незнаёмым чалавекам:

— Мяне завуць Паша. А цябе?

— Ада я, Ада.

«Ну, вешчуны ж бацькі! У ваду быццам глядзелі! Як я сам не здагадаўся?» — падумаў Пашка.

— Гэта імя пасуе табе. Раскажы, дзе вучышся, чым захапляешся?

Яны павольна ішлі ўздоўж вуліцы. Юнаку падалося, што яго спадарожніца не адкідае цену, але потым упікнуў сябе: «Ага, яшчэ ў вампіраў павер, ідыёт! Няўжо трэба было часнаку аб'есціся, як раіў Мікіта для ўнутранага камфорту і самаабароны?» Ён прапусціў большую частку споведзі дзяўчыны, але да яго ўсё ж даляцела:

— Вучуся ў медыцынскім універсітэце.

— Ой, здарава! Будзеш ратаваць чужыя жыцці, — з захапленнем сказаў Пашка.

— Ды не. Паталагаанатамы за сваю практыку мала людзей ўратавалі.

Тут Корбут ледзьве не зарыўся носам у зямлю. Трэба ж пад ногі глядзець усёткі! Ён жа не бессмяротны ў адрозненне ад дачкі ночы (ці як іх там клічуць?).

— Ты чаго? — спытала Ада пасля практычна прафесійнага «па» ў выкананні перспектыўнага журналіста.

— Усё о'кей! Не чакаў проста. Няўжо табе ўтульна сярод нябожчыкаў?

— Жывых баяцца трэба, а не мёртвых, — адказала дзяўчына.

— Можа, ты і маеш рацыю. А я буду журналістам. Мяне захапляе гэта прафесія...

І Пашу, як кажуць, панесла… Ён падрабязна распавёў, наколькі важнае ў жыцці чалавека слова, дзякуючы якому кожны можа дасягнуць усяго! Ада была цудоўным слухачом, бо хлопца не перабівала, іншым разам усміхалася, і чорт яго ведае, але ў такія моманты хлопцу незвычайная знаёмая падавалася прывабнай. Ішлі доўга, размаўлялі, садзіліся на нейкія аўтобусы, трамваі. Корбут ачухаўся толькі тады, калі ўбачыў перад сабою будынак чыгуначнага вакзала.

— Што мы тут робім? — спытаў ён.

— Гуляем, канешне! Сядай сюды, — Ада паказала рукой на адно са шматлікіх крэслаў у зале чакання. — Я хутка прыйду.

Паша сядзеў каля дзесяці хвілін у адзіноце, пакуль яна не вярнулася:

— Эй, наша электрычка, наперад!

— Якая электрычка? Куды мы едзем?

Корбут мала што разумеў у гэты час, бо Ада пацягнула яго на цягнік, калі дзверы амаль зачыніліся.

— Куды мы едзем? Ну куды? Напрамак хоць назаві! — у каторы раз кленчыў хлопец.

— Едзем, куды электрычка вязе. Напрамак? Асіповіцкі, напэўна. Палягчэла? — нарэшце адказала дзяўчына.

На адным з прыпынкаў яны выйшлі. Гэта была нейкая вёска. Ада агледзела ўсё навокал і сказала:

— Давай пойдзем у гэты бок. Якая розніца, дзе заблукаць у незнаёмым месцы?

Чамусьці Пашу гэта не напалохала. Ён прывык да выбрыкаў дзіўнай дзяўчыны, яму гэта ў нечым падабалася. Нават не такім пачварным падаваўся і яе знешні выгляд. Незабыўнымі толькі былі доўгія незразумелыя позіркі, якія часта кідалі на іх у электрычцы. Ніколі Корбут не адчуваў такой моцнай аддаленасці ад навакольных людзей. Для яго існавала яна: разумная, цікавая, спецыфічная дзяўчына. Што яна зробіць у наступны момант, можна толькі здагадвацца. Вось і цяпер яны ішлі па незнаёмай вёсцы, а Пашка прыкідваў, што яны мусяць рабіць далей. Не, нават і падумаць не мог, што, прабраўшыся праз чыйсьці закінуты сад ды дайшоўшы да нейчай хаты, дзяўчына скажа:

— Клас! Вось бы пабачыць, што ў сярэдзіне дома! Як ты думаеш, дзе гаспадары маглі схаваць ключ?

— Мы ж туды не палезем, праўда? — з надзеяй спытаў хлопец. Але Ада пачала пільна прыглядацца да дзвярэй, вокан. У хуткім часе ў яе руцэ апынуўся ключ.

— Заходзь! Мы нічога красці не будзем! Гэта проста стары дом, — сказала Ада, адчыніўшы дзверы.

Паша быў упэўнены, што нізашто не зойдзе туды. Але, калі яго незвычайная знаёмая знікла за дзвярыма, пацягнуўся следам. Дом быў цёмны, стары. На століі, сценах, малых акенцах хапала павуты. Але адчувалася, што тут калісьці жылі добрыя гаспадары: самаробная драўляная мэбля, каларытныя дыванкі, праўда, вельмі пыльныя, запэўнівалі ў гэтым неспадзяваных гасцей. Увагу Пашы прыцягнула вялікая карціна ў рамцы. Корбут выцер насоўкай пыл з яе, і ўбачыў, што гэта фотакартка былых гаспадароў. Ён не мог адвесці вачэй ад неверагодна прыгожай жанчыны на здымку: чорныя вочы і валасы, прыемная шляхетнасць у твары, добразычлівая ўсмешка, нават агеньчык у вачах, не характэрны для фотаздымкаў таго часу. «Цікава было б паглядзець на гаспадароў. Напэўна, здымку гадоў сорак ужо», — мільганула думка.

— Што ты там убачыў? — спытала Ада.

Яна ўзяла ў рукі здымак і пачала разглядваць яго. Глядзела доўга, быццам не магла спатоліцца ім. Потым ціха пакрочыла да дзвярэй. Яны моўчкі выйшлі з хаты. Ада ўпэўнена крочыла некуды ўгору. Хоць Пашка быў гараджанінам, але прыблізна ўяўляў, што дзесьці на высокім месцы, на пэўнай адлегласці ад вёскі, сярод нейкіх палёў звычайна знаходзяцца…

— Могілкі! — вочы Ады заззялі захапленнем.

Пашка і не заўважыў, як дзяўчына нарвала кветак. Яна павольна хадзіла сярод магілак, быццам шукаючы кагосьці канкрэтнага.

— Не тое, што я не чакала, але неяк нядобра, што забярэш мяне тут, — пачуў Пашка старэчы голас. Узняўшы галаву, хлопец убачыў сівую бабульку ў доўгай спадніцы, са стракатай хусткай, з-пад якой выбівалася пасма валасоў. Бабулька з цікавасцю пазірала жвавымі вочкамі на Аду, потым дадала:

— Толькі, смертухна, дзе каса твая?

Калі напачатку дзяўчына стаяла ў поўным непаразуменні, то цяпер зарагатала. Супакоіўшыся, прамовіла:

— Не, вы што, я ж не смерць! Я з сябрам тут! Жывіце доўгія-доўгія гады яшчэ.

Вусны бабулі расцягнуліся ва ўсмешцы.

— Не смерць? Тады добра. Пажыву. Бульбу ж не пасадзіла, а паміраць сабралася! Я сюды сваіх праведаць, — яна кіўнула на магілы, — ды і сабе месца прыгледзець. Напэўна, акурат тут уладкуюся. Адсюль вёску добра відаць, ад дарогі блізка, яблынька тут гожая нада мной будзе.

Корбут здзівіўся, што Ада хутка знайшла паразуменне з незнаёмай бабуляй, адказвала шчыра, весела, з павагай. Было відаць, што яны абедзве атрымліваюць асалоду ад гутаркі. Дзяўчына спытала нешта ў бабулі, тая паказала рукой некуды наперад, і, развітаўшыся, вандроўнікі накіраваліся ў той бок. Ада спынілася каля адной з магіл. Зайшла за агароджу, пакінула кветкі.

— Тут пахаваны мой дзед. Сёння я даведалася, як ён выглядаў. Дзякуючы фотаздымку, які ты трымаў у руках. Тая хата належала бабулі з дзядулем. Калі дзед сканаў, бабуля адмовілася заходзіць у хату. Усім, што датычылася дома, займаўся яе брат. Я і сама тут упершыню. Нядаўна даведалася пра гэтае месца. Проста бацька падпісваў нейкія дакументы наконт дома. Дзякуй вялікі, што згадзіўся паехаць са мной. Адна б я не асмелілася.

— Кажуць, што калі не ведаеш, што рабіць, рабі тое, што падказвае сэрца. Пашка падышоў да Ады і ўзяў яе за руку:

— Ты добры чалавек. І ведаеш, падарыла мне сёння незабыўны дзень. Нават нягледзячы на тое, што выглядаеш спецыфічна, і думак у цябе нестандартных хапае.

Ада моцна сціснула далонь хлопца і прамовіла:

— Дзякуй. Але дзед, пэўна, у шоку…

* * *

Калі Пашка позна вечарам вярнуўся дадому, ён зусім не адчуваў стомленасці. Толькі незразумелае пачуццё шчасця запаўняла яго душу. Асабліва пасля таго, як Ада згадзілася сустрэцца з ім яшчэ і на наступны дзень.

«А што, па сутнасці, здарылася? Я сустрэў дзяўчыну, знешні выгляд якой некаторых і напалохаць можа, але з якой не хочацца развітвацца ні на хвіліну. Дзіўны парадокс», — думаў Пашка.

Корбут знаходзіўся ў прадчуванні сустрэчы. Ён ужо хвілін дзесяць сядзеў у

Купалаўскім скверы і чытаў кнігу. Праўда, літары блыталіся, адмаўляліся складвацца ў словы. Хлопец зразумеў, што чытаць у яго не атрымаецца, таму, цяжка ўздыхнуўшы, загарнуў кнігу. Ён убачыў паблізу дзяўчыну. Міжволі захапіўся ейнай прыгажосцю. Яе чорным валасам ды вачам вельмі пасавала вольная і лёгкая сіняя ў дробныя ружовыя кветкі сукенка. Дзяўчына добразычліва ўсміхалася. Як жа хлопец здзівіўся, калі пачуў ад яе знаёмае:

— Пашка!

Корбут проста здранцвеў. Ён нясмела спытаў:

— Ада?

— Можна і так сказаць! З Першамаем цябе! — яна зноў усміхнулася.

— Дзякуй, — хлопец па-ранейшаму лятаў недзе ў космасе без скафандра, таму задыхаўся, гарэў агнём і адчуваў сябе абсалютна неадэкватна.

— Перад табой я сапраўдная. Думаю, што трэба ўсё растлумачыць, — Ада села побач.

— Што гэта значыць? Ты ж ахвяра вампіраў, цяжкай музыкі і, як ні дзіўна, мараў пра прыгожую смерць! — з запалам прамармытаў ён і, паглядзеўшы яшчэ раз на прыгажуню Аду, зразумеў, што яго ў нечым падманулі, але ніякай злосці ад гэтага Пашка не адчуў. — Дык чаму ты ўчора выглядала ў лепшых традыцыях апантаных готаў?

— Таму, што я дрэнна гуляю ў карты.

У гэтым месцы вочы Пашкі яшчэ больш акругліліся, але Ада не звяртала ўвагі:

— Я вучуся на філалагічным факультэце БДУ. Ніколі не шкадавала, што пайшла на аддзяленне беларускай мовы, бо менавіта тут знайшла сапраўдных сяброў. Праўда, у карты яны мяне заўсёды абыгрывалі. Апошні раз мы гулялі на пэўныя ўмовы. Тая, што прайгравала, павінна была хадзіць у пачварным чорным адзенні і страшным выглядзе да той пары, пакуль які-небудзь хлопец не зацікавіцца бядачкай. Вось я ўжо з тыдзень і хадзіла так, пакуль ты мяне не выратаваў!

— Дык наведвала б вечарыны, што ладзяць готы, там бы знайшла каго.

— Ха, готы мне і так праходу не давалі! Не ведала, як хавацца ад іх букетаў чорных руж і падарункаў у жахлівых скрынках! Але ж умовай было менавіта тое, што зацікавіцца павінен хлопец звычайны.

— А чаму не падманула сяброўак, ды не сказала пра неіснуючага камікадзэ, каб зноў выглядаць чалавекам?

— А жаноцкая салідарнасць? — спытала яна, нахмурыўшы бровы. — Усё з самага пачатку трымалася толькі на слове і даверы. Ты ж сам мне казаў, якую вялікую ролю адыгрывае слова ў жыцці. Я трымалася да апошняга.

— Ада…

— І, гэта, я не Ада.

— ШТО?

— Ну, дзеўкі прыдумалі мне гэтае містычнае імя, выкарыстаўшы маё прозвішча Адамовіч. Мяне завуць Мая, — сціпла прамовіла яна.

— А я нават паверыў ва ўсё… З Першамаем, сапраўды. Я паверыў. Хм… Ва ўсё паверыў.

Пашка падняўся з лаўкі, пачаў хадзіць сюды-туды, палохаючы дзяўчыну сваёй задуменнасцю і разгубленасцю. Потым сеў на кукішкі перад Маяй і, гучна рассмяяўшыся, сказаў:

— З 1-м Мая мяне! Ніякага пекла, усё добра. Была паласа чорная, цяпер, па логіцы, будзе белая!

Віктар ЛУПАСІН

# КРЫХУ ЗЛЕВА ЗА ЛЕСАМ АРАНЖЫЛА СОНЦА



***Віктар Лупасін нарадзіўся 4 мая 1982 года ў Мінску. Сябра ўсіх эксперыментатараў, «бярозкавец» (рэдактар аддзела літаратурнай вучобы). Вясной прадстаўляў фантастычныя апавяданні, на восень плануе маленькі эпатаж у выглядзе недапісанай аповесці.***

* * *

Добрай раніцы, людзі! Я ваш новы пясняр,
Я ваш новы пілота ў палёце да зор,
Я ваш новы саліста альбо дырыжор —
Распяваймася, дру́гі, будзе шмат новых мар!

Над усходам аблокаў мандарынавы квет,
І нявіннасці снегу не сарваны бутон,
Ў сваім целе хавае ноту «ля» камертон,
І рыхтуе для сэрцаў партытуру паэт!

Панна з пятым памерам, падыходзьце бліжэй,
Падыходзьце, натхняйце мяне дырыжаваць,
Хараство і юнацтва ўсёй Зямлі апяваць
І грудны рэзанатар Вашых пругкіх грудзей!

Узляціць хваля спеваў пад нябесную столь
Над усёй Беларусяй за Дунай і далей!
Я люблю абаюдна беларускіх людзей!
Панна з пятым памерам, Вы мой ферзь, я кароль!

**ГАТЫЧНАЯ БАЛАДА**

Я стаю прыгажэнны ўвесь на фоне лядоўні,
Я на фоне лядоўні інстаграмлю свой твар,
Я ствараю адбітак у айфоне шыкоўным,
Я арыстакратычна пазіраю на поўню.
Праз сямнаццаць хвілінаў я пайду ў рокербар,

Дзе пад скрыгат постпанку я вазьму сваю пінту,
Пінту золата белага ў бутэльцы вазьму,
Дзе за столікам шэрым буду кожную квінту,
Буду кожную квінту атачаць у варынту *
Думак велічна-мудрых, тых, што я думацьму.

З Вамі, панна, знаёмы буду я вельмі хутка,
Буду дужа я хутка з Вамі, панна, «ты» на,

* Варынта — аўтарскі неалагізм.

Буду я цалавацца і кахацца ціхутка,
Покуль ты мяне спыніш: «У мяне ўжо маршрутка!»
У забытай кабінцы пры канцы гальюна.

Я пайду задаволены назад у кватэру,
Дастаграмлюся сціпла паўбутэлькай адной
І пасля паўбутэлькі і пельменевячэры
Занатую лагаэд на клятчастай паперы
Пра каханне з паненкай пунктуальнай такой.

* * *

Вылазь на вулку!
Зрабі памылку!
Дыхні паветра —
Спаймаеш сілку!
Ляці на Месяц,
Як пане Жылку!
Ляці на Сонца,
Зрабі памылку!
Пра ўсе ракеты
І аўтадромы
Пішы санеты
І паліндромы!
Кусай свінінку!
Кармі гадзілку!
Сябруй з усімі!
Рабі памылку!

* * *

Ленін, партыя, Масква —
Гэта родныя тры словы,
Кожны дзень ізноўку новы.
Мора, сонца і трава,
Ленін, партыя, Масква!

Ленін, партыя, Масква —
Безупынна паўтараю,
На гітары гучна граю.
Вершы, музыка, трава,
Ленін, партыя, Масква!

Ленін, партыя, Масква!
У мяне няма хваробаў:
Сродак ад усіх мікробаў —
Вершы, сонца і трава,
Ленін, партыя, Масква!

Ленін, партыя, Масква!
Я пяю, пяю пра гэта,
Бо натхненне для паэта —
Мора, музыка, трава,
Ленін, партыя, Масква!

Ленін, партыя, Масква —
Гэта родныя тры словы
Беларускай нашай мовы.
Сонца, мора і трава,
Ленін, партыя, Масква!

**САНЕТ № 179**

Ізноў ліюцца вершы на паперу,
Вялікай колькасцю падаючы.
Пішу я часам вершы для душы,
Часамі і для кніг альбо пленэру.

Я злосным крытыкам зусім не веру,
У возеры натхнення жывучы.
Лаўлю паэзій поўныя кашы
У зарасцях чароту і аеру.

У розны час пішу я то санет,
То каламбур для сеткі «Інтэрнэт»,
То паліндром, то нават можа ронда.

О, грай, мой смык! Спявай, мой друг спінэт!
Гатую смачных вершаў поўны рондаль —
О так, я графаман; о так, паэт!

**КАЦЯЧЫ ТРЫЯЛЕТ**

Вялікасць Вашая, я дзеля Вашай ласкі
Штоночы вакалюю серанады
І араматызую ложак наскі,
Вялікасць Вашая, я дзеля Вашай ласкі
У марным спадзяванні на прынады —
На поціск Вашага хваста і лапкі.
Вялікасць Вашая, я дзеля Вашай ласкі
Штоночы вакалюю серанады.

* * *

Мікроб бактэрыю кахаў,
Ды ажаніўся ён з бацылай.

Усё жыццё ён шкадаваў.
Мікроб бактэрыю кахаў.
Навошта Сцылу ён абраў
Паміж Харыбдаю і Сцылай?
Мікроб бактэрыю кахаў,
Ды ажаніўся ён з бацылай.

* * *

Мне 90, ёй 15.
Яе бацькі мяне не любяць.
Не дазваляюць нават мацаць.
Мне 90, ёй 15.
Нашто каханне наша губяць?
Чаму нам нельга сустракацца?
Мне 90, ёй 15,
Яе бацькі мяне не любяць.

**PARIS — ROUBAIX**

Я ляцеў брукаванкай з Парыжу ў Рубэ.
Пралятталі машыны, як кулі, няспынна.
Заставалася толькі гадзіна
Да шляхетнага месца Рубэ.

Пада мной старадаўні храмольны «Пежо»
Вырабляў штосекунду алжырскія танцы.
Я складаў бурапенныя станцы
Аб Парыжы, Рубэ і «Пежо».

Вы былі ля акна ў прыдарожным бістро.
Я замовіў дзве порцыі жабіных лапак.
Мерсянулі гарсону за жабак
І пакінулі разам бістро.

Вы прамовілі мне: «У мяне цыклакрос»,
Папрасілі дазволу на хвост начапіцца,
Акуратна прыўзнялі спадніцу
І залезлі на свой цыклакрос.

Шумны трафік слабеў. Мы ляцелі ў Рубэ.
Крыху злева за лесам аранжыла сонца,
І было мне цікава бясконца,
Што мы будзем рабіць у Рубэ.

*Віталія БАГУН*

# ГІГАНТЫК*
*Аповесць*

— Вы хутка? — спытаў афіцэр. — Бот адстыкоўваецца.

— Так, яна ідзе, — за яе вырашыў Кліментавіч. Зорана вымушана была ўвайсці ў невялікую вітальню. Дзверы зачыніліся. Яна сарамліва пасунулася ў агульны адсек. Увесь аб'ём займалі рады крэслаў, але вакол заставалася дастаткова месца для размяшчэння яшчэ пяцідзесяці чалавек. Зорана не ўсведамляла, што здрадзіла прафесійным правілам. Ёю рухаў інстынкт самазахавання. Дзяўчына апынулася ў крэсле і прышпілілася. Прыцягнення не было. Ад адчування бязважкасці ўласнага цела рабілася агідна. Клад агледзела спадарожнікаў.

Колькасць людзей на тэрасе павялічвалася. На ўзровень першакласных кают пачыналі падымацца пасажыры бізнес-класа. Жанчыны і дзеці з сур'ёзнымі ад жаху тварамі запаўнялі боты. Яны зачыняліся і адстыкоўваліся.

Рафаэль Кліментавіч шукаў Жасмін. Ён адчуваў, што яе няма на прагулачнай тэрасе і што яна яшчэ на борце. Багатае ўяўленне пачынала маляваць карціны тысячы няшчасцяў, але ўсе яны губляліся перад тварам сапраўднай небяспекі. Флой ведаў, што Жасмін на караблі, і яе трэба знайсці.

Дзіўная жанчына прашмыгнула міма Кліментавіча ў бот. Рафаэль рушыў услед.

— Вам пакуль сюды нельга, спадар Кліментавіч, — мякка спыніў яго афіцэр. Жанчына азірнулася, і Рафаэль пазнаў Іллю Трэфа. Ён самотна пасміхнуўся і працягнуў свой шлях да лесвіцы, што вяла з тэрасы.

Пасажыры другога класа распавядалі адзін аднаму, што на караблі з'явіўся вецер. Спачатку ён меў выгляд скавышу, але паступова пачынаў набываць пэўны кірунак і моц.

— Божа, Менахем, вы пакідаеце мяне адну? — з прыгожых вачэй найлепшага сапрана Сонечнай сістэмы каціліся слёзы.

— Мы ўбачымся, мы яшчэ ўбачымся, — Грын цалаваў яе рукі.

— Спадарыня, вы ўсіх затрымліваеце, — зрабіў заўвагу афіцэр.

— Але, я разумею, — яна разгублена зірнула на залётніка. — Менахем, абяцайце, абяцайце мне, што я ўбачу вас.

— Так, так, — фінансіст быў шчаслівы, калі яна выявіла сапраўдныя пачуцці да яго. Хаця б цяпер у хвіліну небяспекі.

— Мы заўсёды застанемся сябрамі, — яна мусіла пасунуцца ў бот. Фінансіст зразумеў, што сэрца сапрана мела месца толькі для аднаго кахання. Ягонае шаленства раптам набыло аналітычны кірунак. Менахем разважыў, што ботаў на ўсіх не хопіць, а значыць, выратуюцца не ўсе. І нечакана перад Грынам паўстала вераломнае пытанне: а што, калі незнарок сярод тых, каго не здолеюць ўратаваць, зусім выпадкова апынецца Рафаэль Кліментавіч.

Фінансіст агледзеўся і накіраваўся шукаць кінасэрцаеда.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 6 за 2014 г.

**XXVI**

— Пачынаюцца праблемы з цепларэгуляцыяй, капітан, — звярнуўся да Георга Славінскага адзін з нямногіх памочнікаў, што засталіся ў рубцы. — Мы пачынаем губляць цяпло і кісларод.

— Паскорце пасадку, — звязаўся капітан з тэрасай. Ён намагаўся выконваць свае абавязкі і не разважаць, што здарыцца, калі апошні бот пакіне Гігантык, які пачынаў ахалоджавацца.

— Мы робім усё, што можам, але размясціць сотню напалоханых чалавек дастаткова складана.

— Сто, — зароў капітан, — бот здольны вытрымаць паўтары сотні, а вы іх выпускаеце напаўпустымі. Загружайце цалкам.

— Ёсць, капітан, — спалохана адказаў афіцэр, — але людзі будуць вымушаны вісець.

— Выконвайце загад.

— Так, капітан, — сувязь абарвалася.

— Капітан, мы здолелі звязацца толькі з Бакасам, — пачуў ён голас Вятрака, — яны спяшаюцца да нас, але хуткасць дазволіць ім наблізіцца толькі праз дзень. Капітан?

— Так, — Славінскі глядзеў на аглядны экран. Сям-там успыхвалі яркія зорачкі — гэта ўжо бязлітасныя астэроіды сутыкаліся з выратавальнымі ботамі. — Працягвайце пасылаць сігнал SOS.

Рафаэль спусціўся ўніз. Ён адчуў, як знікла прыцягненне, але магнітныя падкоўкі скафандра дазвалялі рухацца.

— Спадар Кліментавіч, вы не бачылі майго сына, — кінулася насустрач яму Астра Пырнік. Плач знішчыў яе прыгажосць. Вочы шалёна блішчалі, вусны крывіліся ў жудасных грымасах. Здавалася, яна сама не ўсведамляла, што робіць і каго шукае.

— Прабачце, — Тэадор мякка абняў жонку, намагаючыся павесці да тэрасы. Астра выпрасталася і памкнулася ў бок гасцёўні. Яна жаласна крычала: «Данька, дзе ты?»

— Калі абвясцілі трывогу, ён знік, — растлумачыў Флою Пырнік, на твары якога маскай застыла туга. — А яна не знаходзіць сабе месца.

— А вы… хутка будуць забіраць мужчын… — Рафаэль зразумеў, што гэтага не трэба было казаць.

— Там шмат жанчын, дзяцей, — Тэадор пакруціў галавой. — Прабач, — ён памкнуўся за жонкай, якая схавалася ў гасцёўні. Рафаэль самотна падумаў, што, магчыма, Жасмін Бетэльгейзэ даўно знаходзіцца ў бяспечным месцы, але сэрцам ён адчуваў, што гэта не так. Флой пакрочыў уздоўж калідора. Ён зазіраў у кожную каюту, але ў памяшканнях першага класа было пуста. У іх фантастычнымі птушкамі ляталі раскіданыя рэчы.

— Добры дзень, — Флой здзівіўся, калі знайшоў Усяслава Зорыча, які сядзеў за сталом без скафандра і разглядаў макет Гігантыка.

— Спадар Кліментавіч, — Зорыч пасміхнуўся, хаця відавочна было, што яго ахапіла глыбокая журба. — Чаму вы не на тэрасе?

— Шукаю спадарыню Бетэльгейзэ, — Флой перапыніўся, — вы стварылі Гігантык, таму ведаеце яго, як свае пяць пальцаў. Магчыма, вы падкажаце, дзе яе знайсці.

— Вы ўпэўнены, што яна яшчэ тут?

У адказ Флой сцвярджальна кіўнуў галавой.

— Верагодна, яна ў каранціне, — Усяслаў разважаў некалькі імгненняў. — Гэта знаходзіцца на ўзроўні бізнес-класа, у самым хвасце.

— Дзякуй, — Флой ірвануўся з каюты.

— Сцеражыцеся і трымайцеся далей ад правага борта. Аблямоўка працягвае развальвацца, — дасягнула вушэй Рафаэля ў калідоры.

Пад'ёмнік напружана гуў. Святло то гасла, то зноў загаралася, і пасля ліхаманкавых успышак у памяшканні рабілася яшчэ змрачней. Рафаэль быў упэўнены, што знаходзіцца на правільным шляху, але ліфт пагражаў абястрочыцца ў любую хвіліну. І што тады? Ён нават сябе не здольны выратаваць? З вантробным буркатаннем пад'ёмнік расчыніў створкі. Рафаэль апынуўся ў цэнтральным калідоры ўзроўня бізнес-класа. Акцёр агледзеўся, намагаючыся ўцяміць, дзе знаходзіцца хвост карабля.

— Жасмін, — няўпэўнена паклікаў кінагерой. — Вы не ведаеце, як дасягнуць хваста карабля, — кінуўся Флой да сцюарда, які, спяшаючыся, праглядаў каюты — ці не апынуўся нехта непапярэджаным.

— Прама ўздоўж калідора, — сцюард паказаў кірунак і працягваў свой беглы агляд.

Рафаэль таксама кінуўся бегчы. Ён ныраў у пераходы паміж калідорамі і выныраў у іншых больш вузкіх і цесных. Блішчалі літары з металапластыку, якія паведамлялі лічбы ўзроўняў і кают. Калісьці Флой ведаў, што Гігантык — вялізны карабель, але цяпер гэта веліч прыціскала колькасцю пераборак і памяшканняў.

Нарэшце кінаакцёр апынуўся ў шырокім калідоры, які працягваўся перпендыкулярна цэнтральнаму. На ледзь адрозным ад сцяны кавалку металапластыка, які зачыняў праход у каранцінныя памяшканні, выразна вылучаліся словы «Рабочым асобам уваход забаронены».

Флой націснуў стандартны код на панэлі побач з дзвярыма. Нічога не змянілася. Ён націснуў «выпадковую» камбінацыю лічбаў. Калісьці ў дзяцінстве Кліментавіч сябраваў з чарнагорцам-хакерам, які мог узломваць складаныя кодавыя сістэмы. Чарнагорца затрымалі разведслужбы, і сябры больш ніколі не бачыліся, але некалькі ўніверсальных кодаў захавалася, як знак сяброўства. Рафаэль паспрабаваў яшчэ адну комбінацыю лічбаў. Затым дакладна пералічыў усе шыфры, якія памятаў. Дзверы не саступалі.

Флой зрабіў спробу звязацца з капітанам, які мусіў валодаць інфармацыяй пра ўсе коды, але безвынікова. Унутраная сувязь на гэтым узроўні ўжо не функцыянавала.

— Жасмін, — зароў Кліментавіч у адчаі. Яе імя выцялася аб пераборкі і сканала, прыглушанае імі. Сцены на такіх караблях былі гуканепранікальнымі. Раптам яго натхніла. Доктар Розан — вось хто павінен ведаць коды.

Флой ірвануў назад да носа карабля.

Ён прасоўваўся скрозь натоўп. Спалоханыя, узбударажаныя, пакрыўджаныя, яны хваляваліся, нецярпліва напіралі на тых, хто знаходзіўся наперадзе, імкнучыся знізу ўгору, да выратавальных ботаў. Раўлі дзеці, жанчыны крычалі на розных мовах. Крык пераходзіў у віск. Рухаючыся сярод іх, Флой знянацку адчуў удушлівы прыступ страху. Ён праглынуў камяк, які стаў папярок горла, успомніў Жасмін і, выціснуўшыся з людской плыні, кінуўся бегчы.

— Доктар Розан, — Рафаэль уваліўся ў медыцынскі адсек. У прыёмнай, куды ён трапіў, было пуста, загерметызавана, задраена.

— Доктар Розан, — збянтэжана прашаптаў Кліментавіч. Флой не мог паверыць, што страціў апошнюю надзею. Ён невідушчым позіркам агледзеў асірацелае памяшканне. На звыклым месцы матава блішчаў лазерны хірургічны скальпель, які выкарыстоўваўся ў нескладаных аперацыях.

Акцёр гвазданўў магнітнай падкоўкай па шкле. На яго паверхні выявілася расколіна. Ён джагнуў яшчэ раз. Аскепкі пасыпаліся на падлогу. Рафаэль схапіў скальпель, які больш нагадваў маленькую бензапілу. Ён націснуў рэгулятар магутнасці да максімуму. Загуў тоўсты кароткі прамень блакітнага колеру. Кліментавіч правёў ім па дзвярах у хірургічны адсек. На паверхні застаўся агідны парэз з абсмаленымі краямі. Рафаэль яшчэ некалькі разоў паўтарыў гэты манеўр. Дзверы прапаліліся наскрозь. Флой шчоўкнуў тумблерам. Прамень знік.

Не губляючы ні хвіліны, ён пакінуў медыцынскі адсек.

## XXVII

Жасмін здавалася, што яна цэлую вечнасць знаходзіцца ў каранціне, хаця гадзіннік запэўніваў, што нават дваццаць чатыры гадзіны не прайшло з таго моманту, як яна трапіла ў ізаляцыю. Прафесар сама не магла зразумець, чаму дазволіла капітану Славінскаму і доктару Розану зняволіць сябе ў гэтым вялізным няўтульным пакоі, які выклікаў змрочныя думкі. Яна ляжала на мулкім ложку і глядзела ў шэрую, як сцены і падлога, столь, калі яе вушэй дасягнула гудзенне, падобнае на тое, што спадарожнічае працуючаму лазеру. Ад адной сцяны пачаў курыцца дымок, і ад падлогі папаўзла цёмная паласа.

Высечаны кавалак сцяны павольна зваліўся на падлогу. Жасмін сціснулася ў кутку.

— Спадар Кліментавіч? — яна пазнала фігуру, якая з'явілася ў праёме, і трохі супакоілася. — Вы здымаеце на Гігантыку свой новы фільм? Чаму капітан і доктар мяне адразу не папярэдзілі? З вашага боку было не далікатна не спытаць маёй згоды наконт удзелу ў здымках.

Рафаэля пачутае збіла з панталыку. Словы: «Я прыйшоў, каб ратаваць цябе» гучалі ў дадзеным выпадку трохі напышліва. І Флой нават не падумаў, што скажа, калі адшукае дзяўчыну.

— А дзе аператары? — спадарыню Бетэльгейзэ турбавала ягонае маўчанне.

— Жасмін, ведаеце, аператараў няма.

— Нешта здарылася? — па стомленым выглядзе кіназоркі яна зразумела, што адбываецца нешта больш сур'ёзнае, чым здымкі.

Яе пытанне дапамагло акцёру сканцэнтравацца.

— Так. Становішча вельмі небяспечнае. Гігантык сутыкнуўся з астэроідам. Праводзіцца эвакуацыя.

— Чаму?

— Мяркую, што ўсе забыліся на цябе, — Флой працягнуў ёй руку, адкінуў непатрэбны больш скальпель. Жасмін пацягнулася за ім да выхада.

— Пачакай, — Рафаэль з цяжкасцю зняў скафандар і прапанаваў ёй. — Апранай.

— А ты? — інжынер паслухалася і з яго дапамогаю пачала нацягваць груvastкую вопратку для выжывання.

— Як-небудзь здолею, — акцёр змясціў у гэты касцюм прыціхлага Арэса і дапамог дзяўчыне зашпіліцца.

— Рафаэль, — яна ўсвядоміла, што, магчыма, больш ніколі не давядзецца падзякаваць яму. Маркотна сціснулася сэрца. Жасмін абхапіла кіназорку і парывіста пацалавала. Адштурхнулася і накіравалася ў калідор. Дзяўчына раптам зразумела, што яе пачуццё аказалася глыбокім, сур'ёзным. І што б цяпер не здарылася з гэтым чужым чалавекам, яно паўплывае на ўсё яе жыццё, назаўсёды.

Флой усхваляваўся. Ён хацеў верыць і баяўся памыліцца — яна таксама кахае яго.

Акцёр кінуўся наўздагон Жасмін. Нягледзячы на тое, што ён быў апрануты ў цёплыя штаны і куртку, Кліментавіч адчуў, што зрабілася значна халадней.

— Трэба спяшацца, — нагадаў ён. Жасмін матнула галавой, і яны пабеглі. Вецер дзьмуў насустрач. Рафаэль успомніў перасцярогу Усяслава Зорыча і пасунуўся ў адзін з праходаў, пацягнуўшы прафесара за руку.

Флою здавалася, што яны згубілі дарогу, бо траплялі ў новыя калідоры, больш вузкія, адшуквалі іншыя, больш шырокія. Асвятленне згасала, рабілася змрачней. Вецер, які мацнеў, намагаўся аднесці іх да правага борта, калі не атрымлівалася, кідаў на пераборкі.

— Рафаэль, я больш не магу, — застагнала Жасмін, прыціснутая чарговым парывам ветру да сцяны. Кінаакцёр, распластаны побач, сціснуў яе руку.

— Мы вытрываем, — ледзь чутна прашапатаў ён пасінелымі ад холаду вуснамі. Адказам яму быў поціск рукі. З каўнера скафандара высунулася яшчэ адна галава. Шурпаты язык Арэса пакідаў сліну і цяпло на ягонай шчацэ.

Рафаэль закашляўся. Не хапала паветра, каб дыхаць. Ён ускочыў, схапіў за руку інжынера.

Жасмін таксама цяжка дыхала, паветра рабілася ўсё больш разрэджаным. Флой памкнуўся ў праход, які выпрастаўся перпендыкулярна цэнтральнаму. Калі яны дасягнулі калідора паралельнага цэнтральнаму, шчыт павольна апусціўся і не дазволіў ім праскочыць назад. Яны задыхаліся, але беглі далей. Калі набліжаліся да чарговых дзвярэй, яны, як па камандзе, зачыняліся. Кліментавічу здавалася, што дзверы робяць гэта знарок, каб раз'юшыць яго.

— Мама, — раптоўны крык нечакана разадраў прастору, якая хутка губляла кісларод. Рафаэль і Жасмін, не дамаўляючыся, кінуліся на гэты бездапаможны голас. Невялікая лесвіца вяла да камбуза. Флой настойліва цягнуў інжынера за руку, хаця сілы пакідалі яго, як паветра, прыдатнае для дыхання, знікала з карабля.

— Мама,— крык роспачы пачынаў аддаляцца.

— Данька, — зароў Рафаэль, нібыта жадаў некага спыніць. Ён сам здзівіўся свайму голасу.

— Флой, — знянацку яны сустрэліся. Абхапілі адно аднаго, як старыя сябры.

— Што ты тут робіш? — строга спытаў Рафаэль.

— Потым, — Жасмін пацягнула іх абодвух за рукі ўздоўж калідора, які імкнуўся да цэнтральнага прахода. Дзверы пачалі зачыняцца.

— Хутчэй, — крыкнула інжынер. Яна і Данька прашмыгнулі пад кавалкам металапластыка, які павольна апускаўся. Апошнім прапоўз Рафаэль.

Акцёр агледзеўся. Не было ніякай карысці шукаць шлях да вялікай лесвіцы. Цяпер у першую чаргу трэба было знайсці спосаб адвесці Жасмін і Даньку на тэрасу. Ён расціраў адубелыя рукі і сутаргава дыхаў багатым кіслародам паветрам.

— Хадзем, — Флой зрабіў некалькі крокаў і няўпэўнена абапёрся аб сцяну. Перад вачыма каламуціліся чырвоныя колцы, ногі не хацелі рухацца. «Трэба паклапаціцца пра Жасмін», — пульсавала думка ў скроні.

— Трэба паклапаціцца пра Жасмін, — прамармытаў Рафаэль.

**XXVIII**

Першым, што праверыў Менахем Грын, была каюта кінаакцёра. Але, на вялікі жаль, Кліментавіча там не аказалася. Фінансіст дзівіўся, дзе ж мог падзецца гэты спешчаны ды разбэшчаны суб'ект, калі яго няма ні на падыходах да ботаў, ні ў каюце, дзе акцёр быў здольны перачакаць напружаны час. Менахем пазлараднічаў. Ён метадычна абшнарыў адзін за другім пакоі дзяўчат Кліментавіча, якія далучаліся да апартаментаў кіназоркі. Тое, што кінасэрцаеда не было там, дзе Грын разлічваў яго адшукаць, раз'юшыла Менахема. Фінансіст зірнуў на гадзіннік, мяркуючы, колькі часу здольны змарнаваць да таго, як вернецца да ботаў.

Грын планамерна абшукаў усе гасцёўні, сталовыя, буфетныя, бары, зазірнуў на ўсялякі выпадак у аранжарэю, але нікога не знайшоў. Аранжарэя спіральна цягнулася праз ўвесь карабель. Пакуль фінансіст крочыў уздоўж аранжарэі, ён незнарок апынуўся на ўзроўні бізнес-класа, але не заўважыў гэтага. Яго здзівіла, што выйсце было не зусім падобным да ўвахода, але, Грын захаваў упэўненасць, што працягвае знаходзіцца на ўзроўні першага класа.

Менахема насцярожыла, што калідоры не так добра асветлены, як пры ўваходзе, але ў змроку меншая ўтульнасць унутранага ўбрання не кідалася ў вочы. Разважаючы, дзе знайсці Кліментавіча і колькі часу ў яго засталося, Грын адначасова ўсведамляў, што паветраная плынь мацнее. Па меры руху наперад, Менахем пачынаў задыхацца і калаціцца.

Раптам яму падалося, што наперадзе чуецца гук магнітных падковак. Грын спыніўся, уяўляючы, што гэта ўсяго толькі рэха ўласных крокаў. Але цокат працягваў набліжацца. Менахем схаваўся ў цёмны праход. Тыя, што набліжаліся, беглі.

У чалавеку, які трымаў за рукі жанчыну і дзіця, фінансіст адразу пазнаў ненавіснага ворага. Ён выняў з-пад скафандра нож, разважаючы, што адправіць услед за Кліментавічам у лепшы свет жанчыну ды малога, у гэтай мітусні не ўяўляла цяжкасцей. Нават, калі яны збягуць, існавала верагоднасць, што яны не выратуюцца. Грын выскачыў са свайго сховішча і грудзямі збіў Флоя.

Ад нечаканага ўдару Рафаэль спатыкнуўся і паваліўся, але паспеў выпусціць рукі Жасмін і Даніка. Яны па інэрцыі зрабілі яшчэ некалькі крокаў. Флой вокамгненна перакуліўся на спіну, як яго вучылі хлопцы з групы каскадзёраў, ускочыў на ногі і апынуўся нос да носа з раз'юшаным Менахемам Грынам, які трымаў у руцэ нож.

— Спадар Грын? — акцёр закашляўся ад здзіўлення.

— Гадзяня, — шалёна адказаў «спадар Грын» і кінуўся да Кліментавіча, мецячы нажом у пахвіну. «Гадзяня» адскочыла, зразумеўшы, што ўпершыню ў жыцці яму давядзецца самому бараніць жыццё, што раней заўсёды рабілі целаахоўніцы. Ён шукаў позіркам Жасмін, каб знайсці падтрымку ў ейных вачах. Але дзяўчыны не аказалася ў калідоры. Фінансіст скарыстаўся збянтэжанасцю Рафаэля, каб атакаваць. Флой зноў ухіліўся. Ён усвядоміў, што не мае магчымасці збегчы, таму спешна прыгадваў дзіцячыя гульні і кулачныя бойкі, пасля якіх маці і бабуля забаранялі яму сябраваць з навакольнай дзятвой. Цяпер Флой сам перайшоў у наступ. Акцёр зрабіў падманны выпад, рэзка захапіў правую руку Грына і выбіў з яе нож. Нож адляцеў да сцяны, грукнуўся аб яе, адскочыў у змрочны калідор, дзверы ў які знянацку з трэскам зачыніліся. Кліментавіч аслабіў захоп. Фінансіст вызваліў руку і ўдарыў праціўніка ў падбародак так, што захрабусцелі косці. Флой захістаўся. Сілы здраджвалі яму, але ён здолеў адхіліцца ад другога хука і ўрэзаўся Грыну галавой у жывот. У Менахема ад болі на вачах з'явіліся слёзы. Рафаэль адскочыў, намагаючыся аддыхацца. За сённяшні дзень акцёру занадта часта даводзілася іграць гераічныя ролі. Грын, не разгінаючыся, з гарлавым хрыпам кінуўся да ворага і ўдарам у жывот

прыціснуў да сцяны. У Флоя замітусілася перад вачыма. Нага міжвольна сціснулася ў калені, і прамы ўдар дасягнуў сківіцы фінансіста, што адразу выпрастала яго. Абодва кулакі адзін за другім урэзаліся ў жывот кіназоркі. Апошнім намаганнем волі Рафаэль прымусіў сябе расплюшчыць вочы і прама перад сабой убачыў налітыя крывёю вочы фінансіста, якія палыхалі нянавісцю. Флой павольна сагнуў руку ў локці, сабраў рэшткі сілы і выштурхнуў іх адзіным моцным ударам. Пачулася храбусценне паламаных рэбраў, Грын адляцеў да другой пераборкі. Кліментавіч пачаў асядаць уздоўж сцяны. Яшчэ чапляючыся свядомасцю за рэчаіснасць, ён адчуў, як нечыя рукі падхапілі яго.

— Падымайся, падымайся, Рафаэль, — зашаптаў прыемны да болю голас. — Трэба ісці.

Яго адхілілі ад сцяны, і Флой пакрочыў.

Праз некалькі хвілін пасля ўдару патыліцай аб нешта цвёрдае, Менахем Грын расплюшчыў вочы, у якіх плавалі бясформенныя згусткі. Ён паспрабаваў узняцца, што здолеў з цяжкасцю. Колькі секунд фінансіст стаяў, намагаючыся аддыхацца. Паветра было едкім і непрыемным на смак, яго не хапала. Запішчаў таймер, што падалося Менахему нясцерпным трэскам. Гэты сігнал абвяшчаў, што надышоў час вяртацца на тэрасу. З вялікай цяжкасцю Грын выбраў напрамак наўздагад.

Фінансіст скалынуўся, калі за спінай з трэскам зачыніліся дзверы. Інстынктыўна прыціснуў адну з кнопак на панэлі скафандра. Галаву абкружыў празрысты пластыкавы купал. Менахем не адчуваў прасторы вакол сябе, але ўсвядоміў, як нешта моцнае і ўладнае штурханула яго наперад. У фінансіста не хапала моцы, каб супраціўляцца, хаця падсвядомасць паведамляла пра невядомую небяспеку.

Менахема Грына, як пёрка, падхапіла моцная плынь паветра, якое вылятала ў разраджаную прастору. Ён не паспеў закрычаць ад жаху. Фінансіста выкінула за межы касмічнага карабля.

## XXIX

— Пакінь мяне, — прастагнаў Рафаэль. Флой не жадаў нікуды ісці. Ён стаміўся. Цела ныла. Кліментавічу хацелася проста легчы, прыціснуцца галавой да халоднай падлогі і больш не рухацца. Стомлены арганізм прагнуў толькі аднаго — адпачынку.

— Хадзем, Рафаэль, — упрошвала Жасмін. Яна ледзь не плакала ад адчаю. Увесь свет раптам увасобіўся ў змрочны калідор. Інжынер усведамлялала, што з кожным крокам спадарожнік губляе сілы. І гэта выклікала ў дзяўчыны невымоўны жах. Здавалася, што цяпер жыццё ім дадзена адно на дваіх, і, намагаючыся дапамагчы яму, яна ратавала сябе.

Данька, таксама без скафандра, цягнуў акцёра за другую руку і не адчуваў нічога акрамя страху, ад якога дранцвелі рукі і ногі. Але юны Пырнік мужна працягваў рухацца наперад.

Яны пасоўваліся перабежкамі. Флой хістаўся. Ён нічога не чуў і бачыў толькі шэрыя сцены вакол сябе. Яны здзейснілі яшчэ адзін кароткі прабег, і неўзабаве апынуліся ў аранжарэі. Адразу дыхаць зрабілася лягчэй, але паўстала пытанне, як дасягнуць узроўню першага класа. Ніводзін з іх ніколі не наведваўся ў аранжарэю раней.

Жасмін падтрымлівала адной рукой Рафаэля, а другой расшпіліла скафандар і выпусціла Арэса. Стомлены сабака азіраўся і нюхаў паветра.

— Арэс, дамоў, — ласкава папрасіла дзяўчына. Яна ведала, што жывёлы валодалі інстынктам, які дапамагае заўсёды вяртацца дамоў.

— Арэс, дзе дом? — прашаптаў Рафаэль. Сабака гаўкнуў і кінуўся на рукі гаспадара. Без падтрымкі Флой апусціўся на калені. Йоркі пачаў лізаць яму твар. — Хадзем дамоў, — Кліментавіч прылашчыў улюбёнца, упёрся кулакамі ў падлогу і цяжка ўзняўся. Хісткай хадой паглыбіўся ў аранжарэю. З самазадаволеным выглядам Арэс пашыбаваў перад гаспадаром. Данька і Жасмін памкнуліся за імі. Нягледзячы на шматлікую колькасць незнаёмых рэчаў, йоркшыртэр’ер упэўнена тупаў у бок палуб першага класа. Сабака безупынна лавіраваў паміж секцыямі аранжарэі, і людзі намагаліся не апярэджваць яго, каб не адхіліць ад выбранага напрамку.

Вялізная аранжарэя была адным з найбольш цікавых месцаў на Гігантыку. Яна забяспечвала лайнер не толькі кіслародам, але і гароднінай ды садавінай. Паводле планаў стваральніка карабля, гэта месца таксама павінна было задавальняць вытанчаны густ прадстаўнікоў першага класа.

Нечакана Арэс спыніўся. Калі б іх сюды не давёў сабака, яны бы ніколі не адшукалі выхад, які быў задрапіраваны паўзучымі раслінамі.

— Жасмін, — ад буйнога куста з вялікімі белымі кветкамі (у імя якога яе назвалі) да іх накіраваўся Усяслаў Зорыч.

— Вы тут, без скафандара, спадар Зорыч…

— Прабачце, Жасмін, што карабель апынуўся недастаткова надзейным, — ён пабацькоўску абняў дзяўчыну. Флой невідушчымі вачыма зірнуў навокал. Свядомасць пакідала акцёра.

— Флой, — спалохана ўскрыкнуў Данька, намагаючыся ўтрымаць цела, якое павольна асунулася на падлогу. Яны разам моцна грукнуліся. Заскуголіў Арэс.

— Вам нельга тут знаходзіцца, — Усяслаў дапамог падняць цела кіназоркі, — ботаў засталося надта мала. Лепш абысці з іншага боку. Спяшайцеся. Ён лёгкі, як дзіця, вы самі адолееце шлях.

— Дзякуй, — Жасмін дазволіла Зорычу прылашчыць ейную шчаку. З вачэй дзяўчыны пырснулі слёзы.

— Трымайся, малы, — ён цмокнуў Даньку ў лоб і, як даросламу, пацiснуў маленькую ручку.

— Бывайце, — Усяслаў пакінуў лесвіцу.

— Рафаэль, — крыкнула Жасмін, намагаючыся прывесці акцёра ў прытомнасць.

— Флой, — жаласна падтакнуў малы Пырнік. Мозг кіназоркі не ўспрымаў аніякіх гукаў. Яго ахапіў беспрасветны змрок. Знешнія раздражняльнікі не ўздзейнічалі на знакамітасць.

— Хадзем, — пацягнула Бетэльгейзэ сына Тэадора і Астры за руку. Яны падхапілі Кліментавіча з двух бакоў і кінуліся бегчы.

Набліжаўся гоман. У ім чуліся боль і раз’юшанасць, абурэнне і прага жыцця, страх смерці. Жасмін падсвядома прасяклася настроем натоўпу, і гэта штурхала яе наперад, хаця ёй і нераставала сіл.

— Поўны камплект, — адрапартаваў афіцэр, што назіраў за пасадкай, таму, які кіраваў ботам. У адчынены ўваход, як мыш, прашмыгнуў Ян Прымак, калі ўпэўніўся, што за ім ніхто не сочыць.

— Пачакайце, — закрычала Жасмін. Афіцэр павярнуўся да яе, не паспеўшы загадаць зачыніць люк. Жасмін моцна штурхнула ў бот непрытомнае цела кіназоркі перад носам афіцэра і следам уваліласа сама. Апошнім на борце аказаўся Данька, які кульнуўся пад дзверы, што пакрысе зніжаліся. Хлопчык наступіў на Арэса, і той заенчыў, калі капсула пакінула нетры Гігантыка. Адляцеў апошні бот з правага борта.

**ХХХ**

На левым борце Гігантыка на маленькай тэрасе бурліла чалавечае мора.

— Маўчаць. Назад, — афіцэры разумелі, што ім не выпадала вярнуцца з гэтага падарожжа жывымі, таму больш не цырымоніліся з пасажырамі другога і трэцяга класаў, якія напіралі ў адчайнай надзеі выратавацца.

— Толькі жанчыны і дзеці, — каля кожнага люка стаяла па два афіцэры. Адзін ахалоджваў дубінкай нахабных мужчын. Другі выхопліваў з натоўпу жанчын, асабліва з дзецьмі, і штурхаў іх у бот.

Вецер, які бесперашкодна разгульваў уздоўж усяго правага борта, пачынаў прасочвацца і сюды. Вялікая колькасць людзей не дазваляла яму разысціся, але ён віхурыўся пад нагамі, скавытаў над галовамі, працягваў выдзімаць прыдатную для дыхання сумесь газаў у беспаветраную прастору.

— Усім апрануць скафандары, — прагучаў загад над людской масай, якая стоўпілася на тэрасе.

Уздоўж калідора першага класа беглі два заклапочаныя сцюарды.

— Спадар Пырнік, вам падаць скафандар?

— Навошта? — здзівіўся Тэадор. — Я гатовы прыняць смерць як мужчына.

Астра Пырнік ляжала ў каюце на раскошным ложку ў шыкоўным пеньюары і хіхікала, калі гартала старонкі гламурнага часопіса. У яе галаве ўсё пераблыталася з таго часу, як знік Данька. Ёй здавалася, што яна найразумнейшая і абхітрыць кожнага, нават смерць.

Усяслаў Зорыч самотна разглядаў бутон адной з чароўных кветак, што паходзіла з лясоў Амазоніі і выкарыстоўвалася на ўсіх караблях і ў калоніях, як найбольшы творца кіслароду. Але ў гэтае імгненне Зорыча не цікавіла карыснасць расліны. Позірк цешылі пялёсткі — дасканалая кампазіцыя, якую стварыла прырода: гармонія фарбаў ды адпаведнасць адценняў і рысаў кволага ўвасаблення прыгажосці.

Ля апошняга бота распачалася бойка. Раз'юшаныя мужчыны кідаліся на людзей у форме, калі іх адштурхоўвалі, насоўваліся на суседзяў. Пачалася паніка.

— Хто ступіць яшчэ крок наперад, пакаштуе гэта, — Браніслаў Корбут правёў перад тварамі пасажыраў армейскім шокерам. — Жанчыны і дзеці яшчэ ёсць?

Заднія шэрагі напіралі, штурхалі пярэдніх. Неспадзеўкі натоўп выплюнуў маладога чалавека з вачыма ўпаляванага звярка, але ён адразу адляцеў назад. Памочнік капітана нават не паспеў заўважыць, як спрацавала зброя.

— Жанчыны, дзеці, — зароў афіцэр. Ён вачыма вышукваў у натоўпе постаці, якія па знешніх прыкметах адпавядалі гэтаму вызначэнню.

…Пасля натоўп у адчаі рынуўся, і плынь панесла ў бот усіх, хто быў наперадзе…

— Перагрузка, — выгукнуў камандзір бота. У чатыры рукі афіцэры хапалі тых, хто першым патрапіў і кідалі назад, на борт асуджанага Гігантыка.

— Норма, — нервова паведаміў кіраўнік бота. Браніслаў Корбут, намагаючыся ўтрымаць недалужнага васямнаццацігадовага хлапчука-фермера, які яму выломваў руку, зачыніў дзверы.

Адышоў апошні бот.

Натоўп адкаціў назад. Знянацку чалавечае мора навалілася на двух непавінных людзей, якія выконвалі загад, прыціснула іх да сцяны і параскідала ў розныя бакі.

Усё, што заставалася рабіць, — як мага даўжэй пратрымацца на караблі, пакуль хапала паветра, а пасля з дапамогаю скафандра дачакацца, калі цябе возьме на борт іншы, больш надзейны транспарт.

Фанабэрыстыя прадстаўнікі бізнес-класа ўперамешку з перасяленцамі рушылі з тэрасы ў надзеі адшукаць месца, дзе менш дзьмуў вецер, каб пакуль не карыстацца

абмежаванымі магчымасцямі скафандра. Гравітацыя знікла. Нязвыклыя да бязважкасці пасажыры паходзілі на рыб, якія нездольны плаваць. Сутаргавыя рухі не дапамагалі дасягнуць жаданых рэчаў і, здавалася, што нехта вялікі і моцны цягне марыянетак адразу за ўсе нітачкі.

Капітан Георг Славінскі сядзеў ў рубцы ў крэсле аператара і стомлена назіраў за маніторамі. Імгненнае адчуванне асалоды ад таго, што эвакуацыю здзейснілі паводле правілаў, заглушала ўсведамленне віны за гібель астатніх тысяч людзей. Ён пражыў доўгае і цікавае жыццё, але нават яно не прыгадвалася капітану. У апошнія імгненні вачамі завалодала пустэча космасу. Душа памерла задоўга да таго, як апошні подых ветру пацягнуў за сабой рэшткі паветра, і космас зрабіў рубку яшчэ адной сваёй заваёвай. Сканеры, праца якіх не залежала ад наяўнасці паветра ў прасторы, працягвалі прыслухоўвацца да шоргату космасу — дадзеныя з’яўляліся і знікалі з экранаў — сістэма працавала.

— Наша вонкавая абалонка не ёсць канчатковае існаванне, — доктар Розан сядзеў на прыступках тэрасы. Перад ім размясціліся асуджаныя на бязлітасную смерць. Яны слухалі кожнае яго слова, імкнуліся спасцігнуць вялікую таямніцу жыцця, яе бясконцасць.

— У сярэдзіне цела, побач з сэрцам, існуе бессмяротная часцінка — душа. І пасля зыходу, — доктар прамаўляў словы павольна, з цяжкасцю. Яму не хапала паветра, каб гаварыць мацней, а шмат каму з аўдыторыі яго неставала, каб слухаць. — Калі плоць, пад уплывам невылечнай хваробы альбо пагрозы іншых немінучых абставін, перапыніць свае функцыі і зробіцца тленам, душа адлучаецца ад яе, каб здейсніць працяглае падарожжа для ачышчэння ад брыдоты і здабудзе ўцеху і асалоду ў далёкіх і яскравых, як зоркі, сусветах, — голас доктара слабеў. — І пазабудзе яна ў вясялосці пра вонкавасць свету зямнога, бо там не будзе больш смерці…

## XXXI

Чародкі людзей у скафандрах мітусіліся ўздоўж праходаў і калідораў, трапляілі на заблакіраваныя дзверы. Яны шукалі выйсце, хаця дрэнна ўяўлялі, як яно выглядала. Для іх у гэты час, калі ўсе надзеі на выратаванне знішчаны, галоўным паўстала не мэта, а працэс яе дасягнення. Гігантык ператварыўся ў вялікую пастку, у пераходах якой заблыталіся тысячы людзей, асуджаных на гібель. Кожны з пасажыраў меў запас у індывідуяльныя васямнаццаць гадзін (час цыркуляцыі паветра ў скафандры), каб знайсці выхад да аблямоўкі Гігантыка і дачакацца карабля ці выратавальнага бота…

— Трэба вярнуцца, — парушыла цяжкае маўчанне ў адным з ботаў Рабіна Тук, — у нас хапае месца для яшчэ паўсотні людзей. Яны там задыхнуцца без паветра.

— Калі ты не змоўкнеш, — злосна гаркнуў у адказ афіцэр, — сама застанешся без паветра.

— Усе ўваходы і выхады заблакіраны, спадарыня Тук, — адна з жанчын, жонка сына ўладальніка шахтаў на Гебі, дакранулася да яе рукі. — Адчыніць іх магчыма толькі з галоўнага камп’ютара. Мы не здолеем гэта зрабіць. Яны ў пастцы, — ледзь чутна дагаварыла яна.

— Як ты можаш казаць гэта, Аксіння, — Рабіна мела рашучы настрой. — Там твой муж.

— Калі вы не спыніце гамонку… — камандзір бота раз’юшыўся. Ён з цяжкасцю ўтрымліваў бот у недасягальным для астэроідаў становішчы. І сабатажнік на борце яму быў найменей патрэбны.

У маўчанні міналі гадзіны. На Гігантыку пасажыры больш не шукалі выйсце, адключалі магніт на падковах, адштурхоўваліся ад палубы і лунալі ў бязважкасці, пакуль імпульсы мозга, абдзеленага крывёю, не згасалі назаўсёды. Смерць падкрадвалася непрыкметна і нібы туманам накрывала тых, хто скарыўся...

Жасмін ляжала ў нязручнай паставе, у якой апынулася, калі бот пакінуў Гігантык. Побач з ёй у пасажырскім адсеку, за шэрагамі крэслаў знаходзілася цела Рафаэля Кліментавіча, які дагэтуль не ачуняў. На яе калені схіліў бязважкую галаву стомлены Даніл Пырнік. Ён ціхенька пасапваў, і часам сапенне ператваралася ва ўсхліпванне. Жасмін лашчыла пальцамі ягоныя валасы, і хлопчык суцішваўся. На каленях Даніла прыладзілася зморанае сабачаня з маркотнымі вачамі, якога дзіця мімаволі прыціскала да сябе. Арэс часам напаўдрамаў, але часцей натапырваў вушы, здавалася, да нечага прыслухоўваўся.

Жасмін адчувала, што моцна стамілася, што яна павінна вокамгенна заснуць і спаць некалькі дзён, але сон не прыходзіў. Яна была больш чым удзячная акцёру. Ён прыйшоў па яе і выратаваў. Жасмін раптам зразумела, што не можа прымусіць сябе не кахаць чужынца, з якім яе падзяляла неабсяжная «культурная» бездань.

У ботах рабілася душна і спякотна. Калі спякоту можна было вытрываць, то духата здавалася вераломным і небяспечным зверам, які невядомым шляхам прашмыгнуў на карабель і пагражаў тым, хто выратаваўся, смерцю ад задухі. Усё, што заставалася, — маліцца пра выратаванне ўсім зямным багам і Вялікаму Космасу.

## XXXII

Са ста выратавальных ботаў з міжпланетнага суперлайнера Гігантык пасля безупынных атак астэроідаў захавалася толькі семдзесят дзевяць, калі пасажырскае судна Бакас дасягнула месца катастрофы.

— НМ228, мы вас бачым, — аддавалі загад з борта Бакаса, — набліжайцеся.

Жасмін, якая яшчэ бачыла, што адбываецца вакол, але не адчувала свайго цела, нават не заўважыла, як бот, павольна абмінуўшы астэроіды, дасягнуў іншага карабля і патануў у ягоным чэраве.

Яна пачула як адчыніліся дзверы, зрабіла спробу ўзняцца. З каленяў саслізнула галава малога Пырніка. Хлопчык ачуняў і першае, што прамовіў, было: «Мама». З ягоных каленяў споўз сабака і злосна гыркаў.

— Я тут, — па інерцыі адгукнулася Жасмін і ўзяла на рукі Арэса.

— Вам патрэбна дапамога? — спыталі яе з акцэнтам, у якім яна адразу пазнала родную гаворку.

— Не, дзякуй, — Бетэльгейзэ з цяжкасцю, але ўзнялася сама. — Яму трэба дапамагчы, — яна паказала на Рафаэля. Кліментавіча падхапілі і клапатліва панеслі. Жасмін памкнулася ўслед за землякамі. На сярэдзіне шляху інжынера спыніў памочнік капітана і адвёў у каюту, дзе пакінуў разам з Данькай і йоркшыртэр’ерам. Тут яны, нарэшце, адчулі сябе бяспечна і сон неўзабаве іх ахінуў сваім крылом.

Усе, каго выратавалі з сямідзесяці дзевяці ботаў, размясцілі ў медыцынскім адсеку (пасажыры першага класа) і каранцінным аддзяленні (усе астатнія) Бакаса.

Рафаэль апрытомнеў у медыцынскім аддзяленні. Шматлікія гематомы ўпрыгожвалі скуру кіназоркі. Доктар Танг Лу запэўніваў, што траўма не пагражае жыццю Кліментавіча. Ён параіў да канца падарожжа прытрымлівацца пасцельнага рэжыму. Але доктар не здолеў скрозь маніторы ўбачыць самую вялікую і небяспечную рану, якая чырвонай кветкай палыхала ў сэрцы Флоя. У рэдкія імгненні, калі Рафаэль заставаўся адзін, ён намагаўся прыгадаць усе падрабязнасці ўцёкаў з Гігантыка.

І, калі дасягаў аранжарэі ды Усяслава Зорыча, успаміны адразу знікалі. Ніводзін промень святла не з'яўляўся з-за густога змроку бяспамяцтва. Флой распытваў, як ён апынуўся на Бакасе, але Танг Лу забараняў яму гаварыць і адпраўляў Рафаэля ў глыбокі сон без мрояў.

Дзяўчаты днявалі і начавалі каля кіназоркі. Але Рафаэль, здавалася, не заўважаў іх, бо не бачыў той, якую кахаў. Кліментавіча найчасцей можна было ўбачыць утаропіўшым позірк у адну кропку. Такім апатычным Рафаэля не помнілі нават пасля смерці жонкі.

— Я не ведаю, што рабіць, — Мейбл Тоўн прахаджвалася ўздоўж маленькай аранжарэі ў кампаніі дасведчанай Рабіны Тук. — Ён нічога не хоча. Здаецца, ён не жадае жыць.

— Як гэта праяўляецца? — спадарыня Тук уважліва слухала справаздачу пра стан здароўя сябра. — Што ён робіць?

— Нічога не робіць, — уздыхнула Мейбл. — Нават не хоча есці.

— Гэта вынік траўмы? — словы Рабіны былі больш падобны да сцвярджэння, чым пытання.

— Доктар заспакойвае, што Флой амаль здаровы, хаця яшчэ некаторы час давядзецца заставацца ў ложку, — позірк спадарыні Тоўн маліў кінапрадзюсара абвергнуць яе словы. — Танг Лу кажа, што Кліментавіч зробіцца поўнасцю здаровым, калі мы дасягнем Ганімедштадта. Траўма несур'ёзная — галоўнае яе пераляжаць.

— Вось няхай і пералежвае, — спадарыня Тук двухсэнсоўна пасміхнулася.

— Не дапамагае, — Мэйбл зразумела намёк і зачырванелася. — Нельга сказаць, што Рафаэль ухіляецца нашага сяброўства… Ён проста не заўважае нас.

Рабіна нечакана таямніча паглядзела на прэс-сакратара.

— Мяркую, я ведаю, каго Флой здольны заўважыць, але гэта шмат каму не спадабаецца, — Рабіне падалося, што яна апынулася ў двухсэнсоўным становішчы. Ці магла яна быць упэўненай, што Жасмін і Рафаэль кахаюць адно аднаго? Ці, магчыма, яна каталізавала гэту рэакцыю?

— Каго? — Мейбл сумнявалася ва ўсемагутнасці дасведчанага прадзюсара.

— Таго, каго ён кахае, — хітравата ўсміхнулася спадарыня Тук.

— Гэта мяне не пераконвае, — суразмоўца недаверліва пакруціла галавой. Па яе меркаванні гэта было недарэчным. — Я дастаткова доўга з ім працую, і не сказала б, што яму былі ўласцівыя нейкія прыкметы закаханасці…

— Вы яшчэ маладая... — перапыніла прэс-сакратара прадзюсар. — Вы не ведаеце людзей добра. Вы цікавіцеся імі прафесійна, і гэтым абмяжоўваецца ваша сфера ўзаемадачыненняў. Вы вось спіцё з Флоем? — знянацку запытала Рабіна, пра што гаварыць было некарэктна.

— Так, але… — збянтэжылася Мейбл. Гульня выходзіла за межы правіл.

— Але ён не закаханы ў вас, — працягвала апанентка.

— Гэта іншае, — спрабавала абараніцца спадарыня Тоўн, хаця разумела праўду ў словах Рабіны.

— Вы хочаце сказаць, што вы закаханыя ў яго, але цяпер мы абмяркоўваем не вас, а Рафаэля Кліментавіча.

— Так, — толькі і прамовіла спадарыня Тук. Прэс-сакратар усведамляла, што грашыла, але пакуль песцілася ў абдымках Флоя, яна не жадала думаць пра амаральны бок іх адносін.

— Не крыўдуй на маю празмерную адкрытасць, — прадзюсар не жадала абразіць дзяўчо Флоя.

— Вы таксама яго любіце, — напала на яе спадарыня Тоўн, каб абараніць рэшткі сваёй годнасці.

— Але, мая дзяўчынка, запомні, я не закаханая ў яго, — Рабіна ўздыхнула. — Кожная маці марыць пра такога сына.

Яны абмяняліся поглядамі. Сякера вайны была закапана па ўзаемнай згодзе.

— Вядома, гэта ў першую чаргу справа целаахоўніка — ратаваць жыццё таго, на каго ён працуе, — задумліва прабурчала спадарыня Тук. — Але, здаецца, я ведаю лекі на гэты выпадак, — прамовіла яна голасна і зірнула ў вочы Мейбл.

**XXXIII**

Жасмін Бетэльгейзэ сядзела на ложку і ціхенька спявала старажытную марсіянскую песню, гукі якой больш паходзілі на бульканне і пабразгванне. Каля ног ляжаў хлопчык і гуляў з сабачанём. З таго імгнення, калі на борце бота Данька назваў яе мамай, інжынер без роздумаў прыняла на сябе абавязак клапаціцца пра малога Пырніка. Дзіцёнак ажываў, але сваіх сапраўдных бацькоў не згадваў, нібыта неспадзеўкі нейкія ўчасткі галаўнога мозга адключыліся. Праўда, Жасмін ён таксама больш не называў мамай, а толькі па імені.

— Небарака, — спадарыня Бетэльгейзэ падхапіла Арэса. Той зручна ўладкаваўся на яе каленях і забурчаў на хлапчука, які паспрабаваў прылашчыць яго.

— Данька, ён стаміўся, — Жасмін лагодна пасміхнулася.

— Я пайду па доктара Танг Лу, — малы накіраваўся да выхада. Мінула некалькі дзён, як яны трапілі на Бакас, але ніводнаму з іх не ставала мужнасці пакінуць каюту.

— Пачакай, я пайду з табой, — Арэс саскочыў з ейных каленяў і памкнуўся за малым.

Нечакана дзверы самі адчыніліся. У праёме з'явілася спадарыня Тук.

— Добры дзень, — прадзюсар абняла Данілу за плечы і вярнула ў каюту. — Раскашуеце?

— Добры дзень, — спадарыня Бетэльгейзэ сарамяжліва пасміхнулася. — Капітан Альтаір — мой добры сябар. У яго знайшоўся для мяне невялікі куточак. Калі вам нешта трэба, я магу да яго звярнуцца.

— Так, — гэта быў зручны выпадак для Рабіны. — Я неўзабаве хачу перамовіцца з капітанам Альтаірам.

Яна прыглядалася да дзяўчыны і бачыла нязменную ветлівасць у адносінах да жанчыны, якая, як павінна была ведаць Жасмін, знаходзіцца ў дастаткова блізкіх стасунках з прадметам яе кахання. Спадарыня Тук пачынала сумнявацца ў слушнасці сваіх прадчуванняў.

— Я прашу вас пайсці да яго цяпер, — прадзюсар зразумела, што гэта не халоднасць, а сціпласць.

— Добра, — інжынер агледзела маленькую каютку, пасля ўсміхнулася. — Уся мая вопратка застался на Гігантыку. Давядзецца ісці ў гэтым, — на Жасмін быў цяжкі, падобны да ўніформы камбінезон, які яна была вымушана апрануць, калі яе змясцілі ў каранцін.

— Мая таксама, — Рабіна разгублена схавала вочы. — Тады пайшлі. Дарэчы, — яна зірнула на хлопчыка, — я не буду супраць кампаніі маладога чалавека.

Дзве жанчыны і хлапчук доўга крочылі ўздоўж цёмных і вузкіх пераходаў карабля і імкнуліся хаваць твар, калі сустракаліся з панурымі ўцекачамі з Гігантыка. Яны не віталіся і намагаліся не глядзець адно аднаму ў вочы. Віна кожнага прытулілася ў краёчках вачэй. І тое, што смерць абмінула іх, здавалася яшчэ горшым выпрабаваннем. Гледзячы на змарнелых ахвяр катастрофы, спадарыня Бетэльгейзэ таксама ўсведамляла сябе вінаватай. Дасведчаная Рабіна Тук, якая неспадзеўкі выратавалася

з кіпцюроў самага магутнага праціўніка ў сваім жыцці, адчувала ледзь прыкметныя дакоры сумлення з-за поўнай адсутнасці пачуцця віны.

Нарэшце, яны дасягнулі медыцынскага адсека. У адным з пакойчыкаў стоўпіліся доктар Танг Лу, капітан Альтаір, дзяўчаты, якія падарожнічалі з Рафаэлем Кліментавічам. Усе яны пасміхаліся і глядзелі на яе. Жасмін меркавала, гэтыя людзі жадаюць пахваліць яе за тое, што інжынер зноў выратавала жыццё кінаакцёру.

Але спадарыня Бетэльгейзэ памылялася. Натоўп разышоўся ўбакі і інжынер убачыла…

Жасмін мусіла абаперціся аб ложак.

— Флой, — разануў слых голас Данькі. Жасмін глядзела на кіназорку і не магла выхапіць сапраўды істотнае з калейдаскопа пачуццяў, што змяняліся ў самотным сэрцы.

— Я мяркую, мы можам… — нібы здалёк дасягнуў яе слыху голас капітана Альтаіра.

…Рафаэль, змарнелы, састарэлы гадоў на дваццаць, але з нязменнай прыроднай прываблівасцю, устаў побач з Жасмін перад прадстаўніком выканаўчай улады на караблі. Ён сам ледзь разумеў, што робіць. Прысутнасць дзяўчыны, пра якую Флой напружана развважаў апошнія дні, вяртала яго да жыцця. Ён не жадаў пакрыўдзіць Жасмін. Ён марыў усё жыццё трымаць яе за руку. Акцёр няпэўна дакрануўся да пальцаў каханай. Нечакана Кліментавіч адчуў, як пачварная слабасць ахапіла цела. Ён да страты розуму спалохаўся, што зноў не здолее ўтрымаць каханую побач…

Капітан доўга гаварыў прамову, часам зазіраючы ў кнігу. І Жасмін, і Рафаэлю даводзілася адказваць на пытанні.

Дзеянне, якое разгортвалася перад вачыма Рабіны Тук, запэўнівала яе, што старая ліса ў чарговы раз не памылілася. Да свайго здзіўлення, яна не лятала на крылах трыумфу. Да прадзюсара прыйшло ўсведамленне, што яна зрабіла адпаведную справу. Схаваўшыся тварам у плячо Мейбл Тоўн, з цяжкасцю стрымлівала слёзы Крылля.

— Ціха, ціха, — пагладжвала яе валасы прэс-сакратар. — Гэта неабходна, каб ён ачуняў, каб ён жыў.

— Я ведаю, — намагалася перамагчы ўсхліпы спадарыня Жабіна.

Капітан скончыў абрад. Жасмін прыкмеціла, што ён добразычліва ўсміхаецца.

— Я мяркую, нам трэба ісці, — прапанавала Рабіна Тук.

— Лепш было б пакінуць яго ў цішыні, інакш я не адказваю за яго здароўе, — прабурчаў доктар Танг Лу і пашыбаваў за ёю.

Дзверы зачыніліся за ўсёй кампаніяй, і маладыя апынуліся сам-насам. Яны працягвалі трымацца за рукі, але не ведалі, што сказаць, не верылі таму, што адбылося з імі.

— Я не хачу… — няўпэўнена прамовіў Флой. Кволае, маленькае, але храбрае дзяўчынё неўзабаве апынулася ў ягоных абдымках. Яна даверліва прыціснулася да яго.

— Ты падаравала мне жыццё, — упершыню за доўгі час Флой плакаў, як дзіця. Па яго шчаках паўзлі шчаслівыя слёзы, і яна асушала іх вуснамі.

— У маім былым жыцці, — Рафаэль імкнуўся нагадаць нешта істотнае, што было раней, і не здолеў. — Ніколі не здаралася нічога лепшага.

— У маім былым жыцці, — Жасмін не верылася, што адбыўся цуд, што ў неабсяжным космасе чалавечай адзіноты нечакана перакрыжаваліся арбіты дзвюх яскравых камет, каб рухацца ў адным напрамку. — Паводле паданняў, я была бяздомным мастаком.

— Мая маці казала, што я быў акцёрам у мінулым жыцці, — злёгку збянтэжана адказаў Рафаэль, і не без удзячнасці прыгадаў усюдыіснага прадзюсара, якая выканала ролю лёсу. — Цяпер Рабіна Тук мае гісторыю для экранізацыі.

*Дзмітрый ПЯТРОВІЧ*

# А МЕСЯЦ СПІЦЬ. БУДЗІЦЬ ЯГО НЯЁМКА…



***Дзмітрый Пятровіч нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў Заслаўі. Педагог, працаваў настаўнікам. Цяпер вядучы стыльрэдактар газеты «Звязда». Піша вершы, прозу, музыку, займаецца краязнаўствам. Аўтар кнігі паэзіі «Белая квецень кахання» і кнігі прозы «Белая Жанчына».***

* * *

Здрадніцкі голас маснічыны
Ўрэзаўся у цішынь —
Сну не было.
                    Падлічаны
Кроплі дажджу.
                    Бяжыць
Час у бяссонне.
                    Золаку
Доўга не прычакаць.
Месяц збірае золата —
З ім мне цяпер блукаць…
…Голас маснічыны здрадніцкі —
Можна расплюшчыць вочы.
Кроплі на шыбіне.
                    Раніца
Высушыць слёзы хоча…

* * *

У вальсе шчаслівых імгненняў натхненне жыве.
На нашым шляху тыя хвілі — нібы маякі.
Калісьці ён скончыцца ў небнай тузе-сіняве,
Але застануцца ўспамінаў зямныя радкі.

І дзеці дзяцей будуць верыць у вечнасць жыцця,
І гэтую ніць аніколі ніхто не парве.
І кожны з нас зрэдку ў жыцці нібы тое дзіця —
У вальсе шчаслівых імгненняў натхненне жыве…

* * *

Гудуць вятры.
                    І ў снежным лістападзе
Сумуе восень
                    ў шэрані зімы.

Туман паўсюль:
і ў нашым даляглядзе,
І ў познім разуменні…
Гэта мы
Разбілі кубак
ісціны і веры.
У сэрцы і цяпер
нясцерпны боль…
Чарговы пекла круг
ад Аліг’еры
Мне дорыць
мая лепшая юдоль…

* * *

І знікла ноч. А з ёю — ліхтары.
Адзіны сведка — раўнадушны Месяц.
Каханая, з табою да зары
Люляць мы нашы мары будзем, песціць…

У восені маёй вясна жыве —
Ты, прыгажуня, ночы незнаёмка.
І мроя нашых сноў у рань плыве…
А Месяц спіць. Будзіць яго няёмка…

…І зноўку вечар. Ззяюць ліхтары —
Ды не для нас: не згаслі шчэ жаданні
На мове сноў адвечных гаварыць —
У іх жыве шчаслівае каханне…

* * *

Трохвугольнікі-пісьмы —
Нібы жоўтае лісце,
Памяць сэрцаў збалелых
Аб любімых, адзіных.
«Як ваюеш? Цябе мы
Так чакаем! Вярніся…»
Боль радочкаў нясмелых,
Боль вялікай Радзімы…



Таццяна ПЯШКО

# АПАВЯДАННІ



*Таццяна Пяшко нарадзілася 1 лістапада 1973 года ў вёсцы Каменка Шчучынскага раёна. Настаўніца матэматыкі. Апавяданні друкаваліся ў калектыўных зборніках «Пакуль б'ецца сэрца», «Калі цвіла чаромха», «Кахаць і верыць», аповесць «Выпраўленне памылак» — у часопісе «Полымя».*

## ГЭТАЕ СПАРТЫЎНАЕ ЖЫЦЦЁ

Кірыл Адамавіч Віткоўскі, выпускнік сталічнай ВНУ ў гэты раённы гарадок прыехаў па размеркаванні. Канешне, пра такі райцэнтр ён не раз чуў, ведаў пра яго, але бываць тут яму ніколі не даводзілася, здагадваўся, што гэта звычайная правінцыя, аддалены куток на захадзе краіны. Ён прыехаў сюды ў прыгожы сонечны дзень і на яго здзіўленне ўсё, на што трапляла вока, яму падабалася: і сучасны будынак аўтастанцыі, і вялікі парк за ёй, і чыстыя вуліцы — з роўным асфальтавым пакрыццём, без ям і трэшчын, і будынкі, тратуары, выкладзеныя пліткай, возера ў цэнтры, на якім плавала процьма дзікіх качак і сям'я белых грацыёзных лебедзяў з шэрым выводкам, фантан у скверы і гадзіннік на плошчы. Увогуле горад спадабаўся, фасады будынкаў мелі сучасны выгляд, некаторыя гэтую сучаснасць толькі набывалі, у тым ліку і той будынак, дзе, па волі лёсу, неўзабаве ён, малады спецыяліст, інжынер пачне сваю працоўную дзейнасць.

Кірыл Адамавіч быў прыемна ўражаны не толькі гарадскімі кварталамі, дзелавітасцю і ветлівасцю гараджан, а таксама месцам яго будучай працы. Памяшканні раённага вузла сувязі абстаўлены сучаснай мэбляй, у вытворчых пакоях новая тэхніка. Нямала здзівіла яго і асоба дырэктара, бо сустрэў Віткоўскага высокі, спартыўнага выгляду, падцягнуты, модна апрануты малады хлопец.

— Добры дзень, добры дзень, — з прыязнай усмешкай на прывітанне Кірыла адказаў дырэктар, калі той увайшоў і назваў сябе. Але менавіта ўсмешка гаспадара кабінета выдала сетачку маршчынак ля вачэй і сведчылі яны, што ў чалавека ёсць багаж жыццёвага вопыту. — Вельмі рады папаўненню. Нам трэба крочыць разам з навуковымі дасягненнямі, займацца інавацыямі. Ведаеце, я часта думаю, што тэхнічны прагрэс ідзе ашаламляльнымі крокамі. Калі я закончыў школу, ніхто з майго класа не меў мабільніка, цяпер кожны пяцікласнік яго з рук не выпускае, кожная хатняя гаспадыня без тэлефона не выходзіць з кватэры. І, як ні дзіўна, гэтыя мабільні-

кі — нашы асноўныя канкурэнты. Наш галоўны прыбытак не тэлефонная сувязь, а інтэрнэт. Але і гэты хлеб могуць адабраць мабільныя аператары, калі прапануюць кліентам больш прымальныя цэны на гэтую спакусу як маладога, так і старэйшага пакалення.

Калі Кірыл дастаў з кішэні пінжака накіраванне, дыплом, разгарнуў паперы, дырэктар закончыў думку пра дасягненні і праблемы навуковага прагрэсу ў сувязі, працягнуў руку.

— Дазвольце?

Кірыл падаў дакументы. Гаспадар кабінета кінуў вока на дыплом, зазірнуў начальнік і ў дадатак да дыплома — выпіску з заліковай ведамасці. — Па адзнаках бачу, што пяць гадоў вучобы ў сталіцы дарэмна не прайшлі. У тэорыі вы падкаваны фундаментальна, хаця, паверце, на практыцы прыходзіцца дзейнічаць далёка не ў адпаведнасці з навуковым пунктам гледжання, у нейкай ступені нават інакш, а бывае — і насуперак. Але не турбуйцеся, калі што якое, дапаможам, падскажам, падтрымаем, — абнадзеіў маладога спецыяліста Павел Паўлавіч. — А як у вас са спортам? — нечакана перавёў размову ў іншае рэчышча.

— Не зразумеў, — сумеўся Віткоўскі.

— Ці сябруеце са спортам? Ну… лыжы, валейбол, баскетбол…

— А, вось вы пра што. У інстытуце нядрэнна плаваў, нават на спаборніцтвы ездзіў. У Рыгу.

— Ну і цудоўна. Нам такія людзі вельмі патрэбны. Тым больш, што маеце вопыт удзелу ў міжнародных спаборніцтвах. Скажу болей — вы трапілі ў дзясятку. Праз два тыдні ў нас спаборніцтвы па плаванні. Думаю, вас не трэба агітаваць каб прынялі ўдзел у важным спартыўным мерапрыемстве? А то неабходна звяртацца да некаторых таварышаў з просьбай, намякаць ім пра дыпломы, граматы, дык у адказ нуль увагі. Давялося нагадаць пра прагрэсіўку, прэмію, толькі тады таварышы ажывіліся.

— Канешне, канешне, я згодзен. Я спорт люблю. Хаця, ведаеце, гэтае спартыўнае жыццё такое непрадказальнае, шматаблічнае, яно тоіць у сабе…

Дырэктар падняўся з крэсла, выйшаў з-за стала, каб аддзячыць аднадумца ў праблемах спорту, абедзвюма рукамі пацiснуў далонь маладога спецыяліста.

— Ну, а цяпер пойдзем, я вас пазнаёмлю з нашым калектывам, — жэстам Павел Паўлавіч паказаў на выхад.

Знаёмства пачалося з самага апошняга па калідоры кабінета, на дзвярах якога вісела шыльдачка з надпісам «аддзел маркетынгу».

— Знаёмцеся, гэта наша Людачка. Яна і паедзе з вамі на спаборніцтва, будзе членам вашай каманды. Плаваннем, праўда, яна займалася даўно, толькі пачала набіраць форму, але я дазволіў нават у рабочы час наведваць трэніроўкі ў гарадскім басейне. Спадзяюся, што з цягам часу наш калектыў будзе мець сваю залатую рыбку. Так сказаць, раённага маштабу.

— Як Герасіменя, — падказаў Віткоўскі.

— Накшталт гэтага, — пацвердзіў начальнік. — Арыенціры ніколі не пашкодзяць.

Людачка прамаўчала.

Гэта была надзвычай сімпатычная і вабная дзяўчына з правільнымі рысамі твару, модна апранутая. Яна і сапраўды была падобная да знакамітай спартсменкі.

Маладому чалавеку, які цэлых пяць гадоў сушыў галаву над складанымі тэхнічнымі праблемамі, формуламі, вылічэннямі ў інстытуце, дзе дэфіцыт дзяўчат быў

надзвычай высокім, Людачка спадабалася адразу. Нават акуляры ў тонкай бліскучай аправе не толькі не псавалі яе твар, а надавалі інтэлігентны, загадкавы выраз, разам з тым, праглядваў нейкі арэол непадступнасці і таямнічасці. Кірылу падалося, што заваяваць прыхільнасць дзяўчыны будзе не самай простай задачкай. Але ён лічыў сябе спецыялістам у вырашэнні самых неверагодных праблем, і не толькі матэматычных ды тэхнічных. У справах абыходжання са слабым полам ён адчуваў сябе тонкім знаўцам жаночай душы, амаль што псіхолагам, не дарэмна менавіта да яго звярталіся таварышы, калі траплялі ў складаныя жыццёвыя сітуацыі.

У кабінеце, апошнім па ліку, дзе было рабочае месца маладога спецыяліста Віткоўскага, знаходзілася тры сталы. Два з іх займалі сувязісты са стажам. Калі за начальнікам зачыніліся дзверы, мужчына ў гадах з прыгожымі акуратнымі чорнымі вусамі адразу пацікавіўся ў Кірыла, як толькі інжынер прысеў за свой стол.

— Калі меркаваць па настроі шэфа, то ён прапанаваў вам стаць энтузіястам спартыўнага руху — як сярод сувязістаў, так і ў цэлым па раёне?

— Адкуль вы ведаеце?

— Не так даўно на нарадзе, — мужчына зрабіў паўзу, падняў вочы ўверх, да столі, — у наш адрас пасыпаліся крытычныя стрэлы за нізкія спартыўныя паказчыкі… Цяпер спорт у нас на першым месцы. Мы прынялі адпаведную праграму, узялі абавязацельствы. Прыклад паказвае наш шэф. На трэці дзень пасля нарады і вострай крытыкі, ён прыняў удзел у кросе на дзесяць кіламетраў. Адолеў немалую дыстанцыю не апошнім, але спартсмену спатрэбілася дапамога ўрача.

— Ведаеце, наш раён мае багатыя спартыўныя традыцыі, — уводзіў у курс спраў больш малады калега мужчыны з вусамі. — Мы маем ўраджэнца нашай мясцовасці бронзавага прызёра Алімпійскіх гульняў. Па кіданні молата. У гарадскім пасёлку была моцная каманда веласіпедыстаў, адзін спартсмен з гэтай каманды ўваходзіў у зборную Саюза. З вёскі, здаецца, Каменкі ці Пясчанкі выйшаў удзельнік трох Параалімпійскіх гульняў — у Барселоне, Сіднэі, Афінах. Ён уладальнік дзесяці медалёў міжнародных і Параалімпійскіх гульняў, Заслужаны майстар спорту. Між іншым, на нашым стадыёне ў свой час даволі часта выступала маладзёжная зборная па футболе. Аднойчы я запісаў склад той зборнай, цікава было б праз некалькі гадоў паглядзець хто выбіўся ў дарослую зборную? Дык вось, адзін футбаліст стаў вядомым — Ян Цігараў, абаронца. Цяпер гуляе ў Расіі.

— Зразумела, традыцыі трэба падтрымліваць, працягваць, тут кіраўніцтва раёна, безумоўна, мае рацыю. Спартыўныя поспехі ў навучэнцаў нядрэнныя, а вось дарослыя… Нейкія зрухі ёсць у аматараў зімовай рыбалкі. А вы ў якім відзе выступалі? Можа. папоўніце нашу валейбольную каманду? — спытаў сувязіст з вусамі.

— Плаванне. Кроль, брас. Праз два тыдні спаборніцтва… Я атрымаў запрашэнне.

— То добра. Хаця ад валейбалістаў шэф адчэпіцца. Сапраўды, самае папулярнае ў нас — зімовая рыбалка. Не трэба агітацыі, мужчыны хоць праз дзень гатовы ўдзельнічаць. Толькі я аніяк не зразумею, які крытэрый у выбары прызёраў, ці то колькасць вылаўленых карпаў, іх вага, ці аб'ёмы выпітага напою… За рыбалку нават трафей атрымалі — кубак. Шэф прапаноўваў стэнд у калідоры зрабіць, пад назвай «Нашы спартыўныя дасягненні»…

— Што гэта мы — пра спорт ды пра спорт… Як быццам няма іншых тэм?

— Давайце пагаворым пра іншае. Пра жыццё, — прапанаваў маладзейшы сувязіст.

— Жыццё — зямная мітусня, — упэўнена прамовіў вусаты. — Знайшоў тэму…

— Жыццё — гэта барацьба, — не пагадзіўся малады. — Не памятаю чые гэта словы, але я цалкам падтрымліваю такое выказванне.

— Але барацьба — гэта ўжо не жыццё, — уключыўся ў спрэчку Віткоўскі.

— Хопіць філасофіі. Прыступім да справы. У Берштах тэлефон не працуе. Нешта на лініі здарылася… Пойдзем у цэх, разбяромся.

Кірыл хутка асвоіўся ў калектыве сувязістаў, калі выпадалі вольныя хвіліны, тады ногі самі неслі маладога інжынера па калідоры ў аддзел маркетынгу. Калегі заўважылі частыя візіты да Людачкі, раілі не зацягваць, але і без парад Віткоўскі паводзіў сябе даволі рашуча, ён зразумеў, што дзяўчына толькі на першы погляд здавалася непрыступнай.

Два разы ён пакідаў у яе пакоі на рабочым стале ружы. Пры сустрэчы ў вузкім калідоры ветліва ўсміхаўся, за тры крокі саступаючы дарогу, аднойчы пацікавіўся, як праходзяць трэніроўкі, у размове некалькі разоў называў яе залатой рыбкай. Нарэшце запрасіў дзяўчыну ў кафэ, правёў дадому. Страты на заляцанне панёс нязначныя. Такіх дробязных выдаткаў на дзяўчат ён ніколі не рабіў.

Адносіны між тым развіваліся па нарастаючай, даволі імкліва, і яму з цягам часу ўсё здавалася посным і нецікавым.

Напярэдадні спаборніцтваў па плаванні шэф асабіста правёў інструктаж, падкрэсліў, каб спартсмены паводзілі сябе годна на ўсіх этапах: і на прадстаўленні перад спаборніцтвам, і ў басейне не ігнаравалі правілы тэхнікі бяспекі, выказаў надзею, што вернуцца дамоў з трафеямі.

Кірыл паехаў на спаборніцтвы ў сваім лепшым касцюме, які набыў на выпускны вечар.

Спачатку спаборнічалі мужчыны. Хутка выявілася, што касцюм аказаўся дарэчы — Кірыл аказаўся самым хуткім плыўцом, як у брасе, так і ў кролі. Яго фатаграфавалі, бралі інтэрв'ю.

Пераапрануўшыся, Кірыл чакаў заплыву жанчын. Позіркі як спартсменаў, так і гледачоў затрымліваліся на ладнай спартыўнай фігуры новай зоркі раённага маштабу па плаванні, пінжак выдатна пасаваў да рослай фігуры юнака, надаваў яму яшчэ большую ўпэўненасць і годнасць.

Люда, на вялікі жаль, у сваім заплыве адставала, плыла апошняй, не дапамагалі воклічы балельшчыкаў. Да фінішу, над якім знаходзілася пляцоўка для скачкоў у ваду, заставалася зусім няшмат. Вось яна нарэшце кранулася сцяны, адчула, што з яе плеч звалілася гара, яна часта-часта дыхала, фізічныя сілы, здавалася, яе зусім пакінулі. Каб не страціць прытомнасці, не ўпасці, схапілася за борцік, што падзяляў водныя дарожкі. Адчула Людачка, што яе цела апанавала слабасць, мышцы наліліся стомленасцю. Яна павярнула галаву туды, дзе стаяў Кірыл, сустрэлася з ім позіркам. Ёй не хацелася, каб у такім стане яе бачыў Кірыл. Рука міжволі спаўзла з борціка, незнарок няўклюдна яна акунулася ў ваду, бязвольнае цела пайшло да дна.

Кірыл зрэагаваў імгненна — скокнуў у ваду, не падумаўшы пра вынікі свайго ўчынку. Аднак падхапіўшы Людачку, падняўшы дзяўчыну на паверхню, калі змучаная фізічнымі нагрузкамі спартсменка змагла вінаватымі вачыма зірнуць на свайго збавіцеля, Кірыл не змог стрымаць свайго абурэння.

— Ты мяне прабач, але ты ніякая не рыбка, а так сабе — селядзец ці мойва. Новы касцюм змарнаваў. А ў касцюме… — Віткоўскі дастаў смартфон. — Самая апошняя мадэль… Куды яго цяпер? Такія страты… Такія страты… Ніколі падобнага ў мяне не было…

— А ў мяне ніколі не было такога дробязнага і сквапнага кавалера, — да Людачкі вярнуліся сілы, яна рашуча паднялася па прыступках з басейна, не азіраючыся пакіравала ў раздзявалку.

Кірыл болей не радаваўся свайму поспеху — нават таму, што прывязе са спаборніцтваў два дыпломы, зразумеў, што тут ён пакінуў нешта больш значнае.

## ПРЫСТУПКА

Аўдыторыя № 207 Алене Асцюкевіч чамусьці падабалася больш за іншыя памяшканні інстытута. Магчыма таму, што ў раскладзе заняткаў гэты нумар значыўся часцей, чым іншыя аўдыторыі навучальнай установы; першыя заняткі праходзілі менавіта тут. 207-я на трэцім паверсе, у самым далёкім кутку, дзе канчаўся гулкі вузкі калідор, сцены якога абвешаны стэндамі, аб'явамі, насценнымі газетамі. У гэтай аўдыторыі праводзілі заняткі, там здавалі экзамены і залікі, там праходзілі факультэцкія сходы.

Сёння апошні экзамен першага курса таксама, згодна раскладу, павінен адбыцца менавіта ў 207 аўдыторыі. Большасць студэнтаў сядзела за партамі, цярпліва чакала прыходу выкладчыка. Хтосьці пабег у сталовую, нехта прахаджваўся па сцяжынцы ў інстытуцкім двары.

Алене падабалася знаходзіцца ў фае перад аўдыторыяй. Тут, у пакрытай лакам драўлянай, зробленай майстрам сваёй справы кадцы, рос высокі, да самай столі, фікус. Ля акна паставілі некалькі крэслаў, зімой, калі падсунуць крэсла да батарэй, можна пагрэцца. Цяпер жа было лета. Фікус некалі стаяў у кабінеце загадчыка кафедры, але як толькі гэтую расліну пачалі атаясамліваць з прыкметамі мяшчанства, кадку з фікусам выставілі ў фае. Рэабілітацыі расліны не прадбачылася, мусіць, фікусу давядзецца застацца тут назаўсёды. Адно непакоіла дзяўчыну, калі яна праходзіла фае і глядзела на фікус, што да столі заставаўся невялічкі прамежак прасторы. Алена сядзела ля падаконніка, глядзела праз акно на вуліцу, у руках трымала падручнік, але раскрываць яго не хацелася, хопіць таго, што двойчы грунтоўна праштудзіравала кнігу.

— Няма яшчэ? — ля яе спыніўся Каршакевіч, не па гадах поўны хлопец з чырвоным тварам.

— Няма.

— Дурань… Я так спяшаўся…

Першы курс чакаў выкладчыка, каб здаць апошні экзамен у другім семестры. Каршакевіч з незадаволеным выглядам павярнуўся і пайшоў, мусіць, зноў яго не адпускалі неадкладныя клопаты, чалавек выключна дзелавы, улічваў кожную хвіліну.

Алене ўспомніўся выпадак на першых занятках. Тая гісторыя таксама здарылася ў 207 аўдыторыі. Тады яна была напоўнена на трэць, не болей. Стромкімі ярусамі аўдыторыя паднімалася ледзь не да самай столі. У далёкім кутку гудзела неонавая лямпа, было даволі душна. Выкладчыца гаварыла, нікольні не звяртаючы ўвагі на слухачоў, якія пазіралі ў вокны. Насупраць была асфальтавая сцяжынка, па якой з горада ішлі людзі ў студэнцкую сталовую — хуткай хадой у сталоўку, і павольнай са сталовай назад, у горад. Выкладчыца, высокая хударлявая жанчына, невялікімі крокамі адмервала адлегласць ад уваходных дзвярэй да супрацьлеглай сцяны, гаварыла, не звяртаючы ўвагі на аўдыторыю, заклапочаная, здавалася, толькі тым, каб правільна вымавіць кожнае слова, што зрывалася з яе фіялетавых вуснаў. Гэта была трэцяя яе лекцыя, але першакурснікі нават за кароткі час зразумелі,

што навука, якой прысвяціла сваё жыццё выкладчыца, не адносіцца да дакладных, таму колькасць слухачоў паменшылася ледзь не ўдвая. Адны першакурснікі, што прыходзілі на лекцыю, шчыра стараліся зразумець выкладчыцу, яшчэ адна частка рабілі выгляд старанных студэнтаў, некалькі слухачоў, зразумеўшы марнасць патрачанага часу, падрыхтавалася да таго, каб збегчы — склалі кнігі і рэчы ў сумкі, некаторыя чыталі і абменьваліся газетамі. І толькі нядаўнія выдатнікі заўзята канспектавалі кожную думку.

Антон Каршакевіч спазніўся на лекцыю, таму не паднімаўся па рыпучых прыступках наверх, да задніх радоў, а прысеў на першым радзе і ўважліва сачыў за выкладчыцай, пры гэтым штохвілінна паварочваў галаву, суправаджаючы яе вачыма. Хвілін дзесяць уважліва слухаў, потым павярнуў галаву да аўдыторыі — студэнты займаліся сваімі справамі, і гэтая карціна дадала першакурсніку ўпэўненасці.

— Дык што ж вывучае ваша сацыялогія? — у паўзе задаў пытанне Каршакевіч.

Жанчына спынілася, утаропіўшы вочы на студэнта. Занятыя чытаннем маладыя людзі адарваліся ад газет, зацікаўленыя пачаткам канфлікту.



*Малюнак В. І. ПУЗАНКЕВІЧА.*

— Як ваша прозвішча, малады чалавек? — няйнакш падобнае пытанне выкладчыца пачула не ў першы раз.

— Каршакевіч… Антон, — падняўся студэнт.

— Спадар Каршакевіч, ці Антон…

— Пятровіч.

— Пётр Барысавіч, гэта…

— Бацька.

Жанчына кіўнула галавой у знак разумення.

— Што такое лекцыя? Слухаю і запамінаю. Вы парушылі яе. Я не ведаю, свядома вы гэта зрабілі ці не. Але не ў гэтым справа. Вучэбным планам прадугледжаны і размовы выкладчыка са студэнтамі. На практычных занятках. А што вывучае сацыялогія, я спытаю ў вас, спадар Каршакевіч, на экзамене.

Каршакевіча на лекцыях па сацыялогіі больш не бачылі, і толькі перад самым экзаменам ён з'явіўся. Жанчыну, спецыяліста па сацыялогіі, па нейкіх прычынах замяніў мужчына пенсійнага ўзросту. У час лекцый новы выкладчык карыстаўся дзвюма парамі акуляраў — калі чытаў, аднымі, і другімі, калі аглядаў аўдыторыю.

Ад Каршакевіча як ад першакурсніка нават і следу не засталося, трымаў сябе Антон Пятровіч як аспірант, якому да абароны дысертацыі засталося зрабіць некалькі крокаў. Як і калісьці, сеў Каршакевіч на першым радзе. Яшчэ і лекцыя не пачалася, не паспеў выкладчык адкрыць партфель, як нізенькі лысаваты Каршакевіч падняўся з месца.

— Аляксей Аляксандравіч, — часта міргаючы блізарукімі вачыма глядзеў студэнт на выкладчыка, — дазвольце правесці апытанне. Цалкам сацыялагічнае?

— Апытанне? На якую тэму? — выкладчык адшукаў у даволі ёмістым партфелі патрэбную для заняткаў кнігу і, задаволіўшыся гэтым, з цікаўнасцю глядзеў на студэнта.

— Тэма просценькая. «Ці задавальняе вас праца інстытуцкай сталовай?»

— Вельмі цікавая, нават я б сказаў актуальная тэма, — ухваліў ініцыятыву Каршакевіча выкладчык. — Толькі мяне завуць Аляксандр Аляксеевіч.

— Вельмі прыемна. Мяне — Антонам Пятровічам. Прабачце…

— У мяне прапанова, — падняўся студэнт. — Няхай спадар Каршакевіч сходзіць у сталоўку, і не будзе патрэбы задаваць апытанне. Сам апытальнік, калі меркаваць па яго саліднай фігуры, харчуецца рабчыкамі і ананасамі.

— Вы маеце на ўвазе Пятра Барысавіча, майго бацьку? — з абурэннем павярнуўся да залы Каршакевіч. — Гэты ўдар ніжэй пояса.

— Я таксама параіла б пакаштаваць студэнцкую катлету, — падтрымала юнака студэнтка, што сядзела поруч. — Цікава будзе навуцы даведацца, колькі там мяса?

— Спадары, спадары, навука патрабуе ахвяр, — хацеў падтрымаць Каршакевіча выкладчык.

— Навукай тут і не пахне. Маем справу са звычайным меркантылізмам! Каршакевіч зарабляе залік па сацыялогіі.

Аўдыторыя гула, нехта тупацеў нагамі, хтосьці спрабаваў свіснуць, нібыта знаходзіўся на стадыёне ў час футбольнага матча.

Выкладчык голасна назваў тэму лекцыі і аўдыторыя прыціхла.

Да экзамену па палітэканоміі Каршакевіч не рыхтаваўся, як і большасць студэнтаў курса, але ў аўдыторыю зайшоў у першай пяцёрцы. Яму выпала адказваць на пытанне аб рынкавых адносінах. Ён успомніў і расказаў пра ўсё, аб чым дома гаварыла яго маці, прадпрымальніца, што спецыялізавалася на вырабе салодкай ваты. Выкладчык чамусьці быў няўважлівым, часта задумваўся.

— А вы самі адкуль? — нечакана спытаў прафесар у Антона.

— Мясцовы.

— Бабуля ў вас ёсць?

— Ёсць.

— Дзе жыве бабуля?

— На Гродзеншчыне.

— Бываеш у бабулі?

— Бываю.

— Ну і раскажы нам, як на сяле ўкараняюцца рынкавыя адносіны?

Пасля невялікай паўзы Антон энергічна пачаў свой аповед пра новыя адносіны ў вёсцы.

— З укараненнем рынкавых адносін вёска ўступіла ў новы, больш якасны этап свайго развіцця. Мая бабуля трымае тры каровы, два дзясяткі курэй, пяць індычак, ёсць трусы…

Выкладчыка чамусьці не зацікавіла колькасць хатняй жывёлы ў бабулі Каршакевіча, зноў прафесар засяродзіўся на сваіх асабістых думках.

Антон скончыў гаварыць пра бабулю, пра стан і перспектывы развіцця прыватнай гаспадаркі, і чакаў адзнакі за свой адказ.

— Дык вы… Адкуль вы самі будзеце?

— Мясцовы. Так сказаць, тутэйшы.

— Гарадскі, значыць. А бабуля ў вёсцы ёсць?

— Ёсць, ёсць бабуля. Нават дзве. Вам пра якую расказаць?

— Цудоўна. Дык вы раскажыце нам, як у вёсцы ўкараняюцца рынкавыя адносіны?

Студэнты, што рыхтаваліся да адказаў на пытанні ў білетах, даўно не маглі стрымаць смеху, на гэты раз аж падалі на парты.

Каршакевіч яшчэ раз расказаў пра колькасць дамашняй жывёлы ў прыватным падвор'і бабулі. Выкладчык паставіў у заліковую кніжку адзнаку, размашыста распісаўся...

Нарэшце ў канцы калідора з'явілася фігура Пятра Вельямінавіча.

— Ідзе! — высунуўшы ў адчыненае акно, гукнулі аднакурснікам, што прахаджваліся па сцяжынцы, і тыя заспяшаліся ў памяшканне.

— Набраўся ўжо… Што ж будзе? Ну, філосаф…

Філосаф тым часам увайшоў, уважліва агледзеў студэнтаў, прыступіў да справы.

— Хто прэтэндуе на «дзяржаўную», заліковыя кніжкі на стол і можаце выйсці.

Пасля непрацяглай паўзы да стала пацягнуліся тыя, хто заўсёды задавальняўся мінімумам. За імі да стала пайшлі студэнты, што нядоўга хісталіся ў выбары, які прыняць варыянт. Калі дзверы зачыніліся, прафесар памяняў акуляры, каб лепш разгледзець самых упартых. Пасля непрацяглага маўчання прафесар палагоднеў і, усміхаючыся, абвясціў:

— А вам за мужнасць — «выдатна».

Аўдыторыя, задаволеная такім рашэннем загаманіла. Тая частка студэнтаў, што задаволілася «дзяржаўнай» адзнакай, заінтрыгаваная шумам, пацікавілася вынікам апошняй партыі студэнтаў.

— Ну як? — пасыпаліся пытанні.

— Выдатна.

— Не можа быць. За што?

— За мужнасць і гераізм.

«За праяўленыя мужнасць і гераізм, якія выявіліся ў двухгадзінным чаканні і за правільны выбар у экстрэмальных умовах», — дыктарскім, добра пастаўленым голасам Каршакевіч, акружаны сябрамі, дэкламаваў голасам прафесара.

— Брава, брава, — Пётр Вельямінавіч выйшаў з аўдыторыі, ацаніў дыктарскія здольнасці Каршакевіча.

Каршакевіч сумеўся, але ненадоўга. Праводзячы выкладчыка позіркам, ён нечакана звярнуўся да сябра, што ніяк не хацеў верыць у такі вынік.

— А вы адкуль будзеце? — цяпер ужо голасам другога выкладчыка дапытваўся Каршакевіч. — Мясцовы? Бабуля ёсць? А дзе жыве? У вёсцы?

Але натоўп разыходзіўся. Паўтор быў нецікавым.

Алена разгарнула заліковую кніжку. Тры, чатыры, пяць, залік, залік. Пад імі подпісы — то маленькія кручкі, то размашыстыя, то акуратныя, увогуле, самыя розныя, як і людзі.

Скончыўся першы курс. Здадзены залікі і экзамены. А ці пабольшала ведаў? Як яна рвалася сюды… Трапіла толькі з трэцяй спробы, і то — на завочнае аддзяленне, калі за справу ўзяліся бацька з маці.

Валерый ГАПЕЕЎ

# НЕАДПРАЎЛЕНАЯ АПОВЕСЦЬ



**Валерый Гапееў нарадзіўся 6 лютага 1963 года ў вёсцы Восава на Рагачоўшчыне. Галоўная кніга для яго — буквар. Галоўнае слова, якое разбурае і стварае, яднае і нішчыць, пераўтварае і нізрынвае, — «кахаю». Галоўным пачуццём на ўсе вякі лічыць і будзе лічыць веру.**

***Паважаны рэдактар!***

***Ведаю, што Вы чакаеце рукапіс ад Віктара Этроў, які ён Вам абяцаў, — аб актрысе Одры Хэпбёрн. Вы не атрымалі і ўжо не атрымаеце ад яго аповесць. Я адпраўляю вам гэтыя запісы, якія патлумачаць прычыну таго, чаму Віктар не выканаў абяцанне. Не ведаю, ці магчыма апублікаваць тое, што я Вам пішу, але я вельмі спадзяюся на такі фінал. Бо калі мае радкі пабачаць свет, то жыхары пасёлка, якіх я пачаў шчыра паважаць (як і Віктара), даведаюцца аб сапраўдных абставінах трагедыі, што ўскалыхнула іх жыццё.***

***З павагай — карэспандэнт NewsAll.***

*«Ён нічога не расказаў*

*Віктар Этроў, абвінавачаны ў забойстве свайго суседа, 46-гадовага Дэвіда Хінта, у судзе адказаў толькі аднойчы аднаскладовым “так” — калі суддзя спытаў, ці прызнае ён сябе вінаватым. Прычына гэтага дзікага забойства так і засталася нявысветленай. Нагадаем чытачам: 3 лістапада каля 17 гадзін Віктар зайшоў у кавярню Лінды са сваім карабінам — ён гуляў па лесе. У гэты час там шмат дзікоў, таму ніхто не здзівіўся зброі, бо стрэлам можна адпудзіць звяроў і гарантаваць сабе бяспеку. Віктар замовіў, як звычайна, куфель цёмнага піва, сядзеў задуменны ў самоце. Праз нейкі час у кавярню прыйшоў яго сусед Дэвід. Ён пахваліўся сваім здабыткам (Вы чыталі пра гэта раней). І тут Віктар раптоўна ўзняўся з месца і стрэліў.*

*Куля трапіла Дэвіду ў галаву, ён памёр імгненна.*

*Віктар сеў на месца, і заставаўся сядзець безуважным да акаляючага свету, пакуль не прыехалі паліцэйскія.*

*Ні на адно пытанне следства і суда ён не адказаў. Не прамовіў ні слова і не змяніўся тварам, калі пачуў прысуд — электрычны стул…»*

Я адкінуўся на спінку стула і ўтаропіўся ў манітор ноўтбука. Гэта тое, што я змагу заўтра пакласці перад рэдактарам. Да гэтага я выціснуў са здарэння ўсё, што мог: што Віктар і Дэвід восем гадоў жылі мірна побач; што абодва былі закаранелыя халасцякі; што Віктар пра-

цаваў праграмістам і быў паважаным спецыялістам і спагадным суседам, добрапрыстойным грамадзянінам, нядрэнным гаспадаром.

Я павінен быў грызці зямлю, але пакласці перад рэдактарам хоць бы адну версію. Версій не было. Бо не было жанчын, палітыкі, спрэчак за зямлю. Віктар і Дэвід не былі геямі.

Гэты беларус (Віктар Хітроў) панясе прычыну свайго злачынства з сабой. За што ён забіў?

Калі я не адкажу на гэтае пытанне любой, хай самай фантастычнай прыдумкай, абы каб пад ёй быў хоць адзін сапраўдны факт, мяне вышпурнуць з газеты. Таму што хтосьці з маіх калег-журналістаў нешта ды знойдзе…

Нельга ж лічыць удалым вывад пра тое, што ў Віктара адбылося кароткае вар'яцтва? Якім чытачам цікава чытаць пра дзеянні душэўнахворых?

Сядзець было бескарысна. Завёў свой старэнькі «форд» і зноў паехаў у пасёлак.

Прыехаў і зразумеў, што еду сюды толькі каб заспакоіць сумленне. Куды ісці? Да каго? Пад'ехаў да таго самага кафэ-бара ля раўчука. За раўчуком адразу пачынаўся лес.

У бары было ціха і пуста. Толькі адзін з жыхароў (за гэтыя дні я ўжо амаль усіх тут ведаў у твар) і барменка Лінда.

Мясцовым быў, здаецца, Эрні Х'юг. Гадоў пяцідзесяці, шырокі ў плячах, высокі — мясцовы асілак, у выцертай шэрай скуранцы.

Я ўзяў сваё піва, уключыў дыктафон у нагрудным кішэні пінжака, падышоў да століка.

— Не перашкоджу?

Эрні паглядзеў на мяне насмешліва і з агідай.

— Едзь прэч. Тут — бяда, а ты спрабуеш урваць кавалак патлусцей. Едзь, пакуль у цябе цэлыя скіўцы і рэбры.

— Гэта пагроза? — я прысеў насупраць Эрні. — Што я дрэннага зрабіў? Я ўсяго толькі хачу ведаць праўду.

— Ты хочаш зарабіць грошай на нашай бядзе. Праўды не ведае ніхто.

— Кожны зарабляе так, як умее, — пацiснуў я плячыма. — Некаму ж трэба пісаць крымінальную хроніку ў газету. Шукаць адказы на пытанні…

Эрні зрабіў вялікі глыток, паставіў куфель на стол, зірнуў на рэшткі піва, зноў падняў куфель і перад тым, як прыпасці вуснамі да яго края, ціха, але выразна, як кропку ставіў, сказаў:

— Як жа я вас ненавіджу, пісарчукоў паганых. Вы множыце бяду, вы разбураеце тое, што дорага людзям… Нікому не ведаць праўды.

Я зірнуў у яго звужаныя ад гідлівасці да мяне вочы і нечакана зразумеў: ён ВЕДАЕ. Ён ведае праўду! І ледзь стрымаўся, каб сказаць далей амаль абыякава:

— Ну, сёе-тое я ведаю.

— І што? — ні адна жылка не тарганулася на яго твары.

— Ведаю, што не Віктар панясе таямніцу на электрычнае крэсла. Таямніцу панясе ў магілу другі. І гэты другі — Эрні Х'юг.

Ён змаўчаў. Але гідлівасць у вачах змянілася на нянавісць. Ён дапіў сваё піва, але заставаўся сядзець, быццам нечага яшчэ чакаў.

Я выпіў рэшткі адным глытком, пакінуў на стале банкноту і выйшаў.

Як жа ўдала я прыехаў! Гэтага Эрні заўтра, калі выйдзе свежы нумар, разарвуць на кавалкі. Ён ведае, ён нешта ведае… Не стаў бы ён дадаваць гэтага дзіўнага… Як ён сказаў… Я дастаў дыктафон, знайшоў ягоныя словы: «Нікому не ведаць праўды». Ах, як мне пашэнціла…

Было пахмурна, але не холадна. Мне хацелася пачаць пісаць адразу, тут, пакуль літаральна стралялі ў галаве аглушальныя фразы, сярод якіх галоўнай была: «Ён сказаў! Ён сказаў, што ніхто не пазнае таямніцу. А ТАК сказаць, з такім тонам можа толькі той, хто сам яе ВЕДАЕ!» Запіс прадам на радыё, на тэлебачанне… Чорт, чорт! Адна фраза гэтулькі мне прынясе…

Працаваць у кабіне з ноўтбукам было няёмка. У бар ісці не хацелася. Зірнуў на блізкі лес. У ім было шмат дубоў-гультаёў — тых, якія ўсю зіму трымаюць на сваіх галінах высахлае лісце. Лес выглядаў ветла. Калі лес так блізка ад пасёлка, не можа быць, каб там не было якога месца адпачынку, нейкай альтанкі! Узяць тэрмас з кавай, ноўт, цыгарэты…

Ледзь прыкметная сцяжынка віхляла, знікала, перасякалася з іншымі сцяжынкамі. Я хацеў пабачыць перад сабой тую альтанку, якая ўжо мроілася мне: невялікая, са столікам пасярэдзіне, але праз хвілін дваццаць я ішоў ужо без дакладнай мэты, зачараваны дзікай прыгажосцю дубовага лесу. Хвілін дваццаць прайшло, і раптам я апынуўся на паляне. Гэта было месца адпачынку пасялковых: альтанкі, малыя і вялікія сталы ды зэдлікі з груба абчасаных плах і адзін велізарны стол у форме выцягнутага колца. Так, я не памыліўся — не магло не быць месца адпачынку… Дзіўна толькі, што так глыбока ў лесе, і я не пабачыў хоць нейкай дарогі для аўтамабіляў.

Знайшоў утульны нізенькі столік — нібыта яго і рабілі для працы з ноўтбукам, а не для адпачынку.

Пальцы ледзь паспявалі за думкамі, якія імкнуліся на волю з маёй галавы: «Ён ВЕДАЕ, бо ён УПЭЎНЕНЫ, што пра гэта не даведаецца ніхто!» Вось гэта загаловачак…

Паўгадзіны працы — і з апошняй кропкай я салодка пацягнуўся, аж захрумсцела нешта ўва мне.

Закурыў, наліў кавы з тэрмаса.

І толькі цяпер пачуў цішыню — цішыню восеньскага лесу. Як тут добра… Умеюць гэтыя мясцовыя выбіраць месцы: вялікая, авальнай формы паляна была ў асяроддзі магутных дубоў. Амаль усе аднолькавай таўшчыні, стульваючы ніжнія галіны, што стварала поўную ілюзію сцяны з калонамі, як у амфітэатры. Ды яшчэ авальная форма паляны — сапраўдны Калізей. Усё збіраўся там пабываць — не атрымлівалася. Вось выдам гэты матэрыял — махну ў Рым, будзе завошта. Зраблю сабе вакацыі. Рымскія вакацыі. Якія былі ў прынцэсы Ганны, дакладней — у Одры Хэпбёрн…

Раптам захацелася, каб менавіта тут з’явілася яна — гэтая дзіўная жанчына. Або хоць бы загучаў яе голас…

Я хутка ўключыў ноўтбук — у мяне ў ім некалькі фільмаў, і сярод іх — мае любімыя «Рымскія вакацыі». З той Одры, якая ўварвалася ў свет, заваявала мільёны душ і сэрцаў, пакарае дагэтуль, і сярод мільёнаў заваяваных — мае душа і сэрца. Гэта мая маленькая таямніца, разумею, што для сваіх прагматычных сяброў я буду дзіваком, калі не больш, са сваім захапленнем. Але гэта адзінае, што ёсць у маім жыцці, апроч газеты… Толькі б хапіла зараду батарэі…

Абапёрся спінай аб малады дуб, уключыў фільм.

Як жа натуральна загучаў у гэтым восеньскім дубовым лесе голас Одры! Я глядзеў фільм — і знаходзіў у выяве Одры нейкія асаблівыя, не ўбачаныя мной раней пяшчоту і жаноцкасць, чароўную грацыю, боскасць голасу…

Адчуў, а не пачуў, што ззаду хосьці стаіць. Хосьці глядзіць, як і я, на Одры. Так бывае ў кінатэатры, калі патыліцай адчуваеш рэакцыю суседа.

Нетаропка, хаваючы хваляванне, азірнуўся. Наўрад ці трэба чакаць дабра ад таго, хто падыходзіць так нячутна з-за спіны.

Прытрымліваючы рукой карабін, што стаяў ля ног, на манітор ноўтбука глядзеў гэты здаравяка Эрні. Герой майго артыкула, які прынясе мне самы вялікі ў маім жыцці ганарар. Давай, мілы, я цяпер добры, мяне не палохае твой карабін, бо мяне ўжо многія тут бачылі, і Лінда раскажа аб нашай сустрэчы ў бары…

Чорт! Ды ў яго вочы вільготныя!

— Падабаецца? — паўшэптам спытаў я.

— Яна чароўная, — гэтак жа ціха адказаў Эрні.

Мы маўчалі яшчэ хвілін пяць — пакуль па маніторы не пабеглі цітры.

— Хто табе сказаў… пра паляну Одры? — неяк разгублена спытаў Эрні. — Ніхто з нашых не мог выбалбатаць гэтую таямніцу…

Яшчэ адна таямніца! Вось дык дзянёк… Але нешта тужлівае, такое, калі прыходзіцца бачыць гібель дарагой істоты і нічым не можаш дапамагчы, паблісквала ў вачах Эрні. Гэта стрымала мяне ад сарказму, і я адказаў шчыра:

— Ніхто мне нічога не казаў. Я проста пайшоў у лес. Блукаў. Натрапіў. Вельмі ж утульна было пісаць… Потым падумаў, што паляна нагадвае рымскі Калізей. А я хачу ў Рым. У адпачынак. Успомніў пра гэты фільм з Одры Хэпбёрн. У мяне з сабой некалькі яе фільмаў. Іншы раз гляджу. І тут так цудоўна было чуць яе голас… на гэтай паляне.

Эрні нічога не адказаў, абышоў мяне і сеў насупраць.

— Гэта паляна Одры. У свае юнацкія гады яна правяла тут адну восень. Вельмі любіла адпачываць менавіта на гэтай паляне. Усе жыхары пасёлка любяць яе. Ад старэйшых да малодшых гэта перадаецца. Кожны год восенню мы збіраемся тут, у цэнтр стала ўсталёўваем некалькі манітораў, садзімся самі вакол — і глядзім вось гэты фільм. Усе бачаць Одры, і ўсе бачаць адзін аднаго. Гэта… традыцыя нашага пасёлка — вечары Одры… Мы вельмі не хочам, каб сюды прыязджалі на пікнікі гарадскія. Каб нехта чужы ведаў пра нашу паляну Одры.

— Забойства мае адносіны да Одры? — хутка спытаў я.

Эрні сумна зірнуў на мяне.

— Мне заўсёды здавалася, што людзі, якім падабаецца гэта жанчына, не могуць быць благімі. І так здавалася да гэтай восені. Спачатку Дэвід, цяпер вось ты…

— Значыць, забойства звязана з Одры!? — амаль закрычаў я.

— Ты віскатлівы шчанюк, — адказаў Эрні. — Дай-ка мне свой дыктафон. Давай, давай, я дурны, а вось Лінда мяне папярэдзіла. Не цягні, мой карабін страляе не горш, чым у Віктара. Гэта на ўсякі выпадак, калі збегчы надумаеш. Або я табе паламаю ўсе косткі, па адной…

Я дастаў з нагруднай кішэні дыктафон, працягнуў. Эрні паклаў яго на столік і адным спрытным рухам, ускінуўшы прыклад, разбіў.

— Тады бі і ноўтбук, — спакойна прапанаваў я. — Там напісаны артыкул.

— Твае словы без маіх на дыктафоне нічога не вартыя, — гэтак жа спакойна адказаў Эрні.

Ува мне ўсё булькатала, мяне раздзірала на часткі. Я адчуў, што дакрануўся да нейкай таямніцы, якая мае самыя непасрэдныя адносіны да забойства. І тут жа зразумеў, што зазірну ў забаронены пакой, калі толькі адмоўлюся ад грошай. Але ці варта тая таямніца гэтых грошай, нават калі яна звязана з забойствам і Одры Хэпбёрн?

— Слухай мяне, — загаварыў Эрні. — Мы складзем дамову. Я дам табе… адзін дакумент. Па ім ты зможаш выдаць цікавую і праўдападобную версію злачынства… Так, няхай будзе злачынства. Дакумент сапраўдны. Версія будзе праўдзівая. Ты станеш героем. Але адразу ж забудзешся на гэтую паляну.

Я задумаўся. Пайсці адсюль, ад таямніцы? Адмовіцца ад ведання? Я — журналіст ці той самы пісарчук, якому патрэбны толькі грошы, а не ісціна?

— Не, — ціха, але як мог цвёрда адказаў я. — Ты раскажаш мне сапраўдную гісторыю забойства. І я буду маўчаць пра гэту паляну. А дакумент твой скарыстаю, каб была версія іншая. У адваротным выпадку… Я не стану прама ўказваць на тое, што ты ведаеш пра сапраўдную прычыну забойства, але намёк зраблю. Потым я напішу пра гэту паляну. І чытачы самі звяжуць усё, як захочуць. Я выйграю ў любым выпадку, бо ніхто цікавей за мяне не зробіць матэрыял.

Эрні пільна паглядзеў на мяне і нечакана пагадзіўся:

— Добра. Я раскажу. Мусіць таму, што мне цяжка жыць аднаму з гэтай праўдай. І я хачу пабачыць, ці паверыш ты, як паверыў я… Але папярэджу: калі ты не стрымаеш слова, то я цябе знайду.

— Слова мужчыны.

Эрні хмыкнуў, сеў зручней, рыхтуючыся да доўгага аповеду. Я разліў рэшткі кавы, працягнуў яму, ён з падзякай кіўнуў, зрабіў глыток. З нейкай тугой, быццам развітваючыся з ёй, агледзеў паляну.

— Віктар, гэты дзіўны беларус, з'явіўся тут восем гадоў таму. Мы не былі рады яму. Нечакана яго двойчы заўважылі на гэтай паляне. Як ён яе знайшоў? Пра што я і спытаўся ў яго аднойчы, перастрэўшы на глухой сцежцы. Аказваецца, ён яе шукаў. Больш за тое, ён купіў дом у нашым пасёлку, толькі каб быць побач з гэтым лесам… Ён любіў, абагаўляў Одры Хэпбёрн…

— Глупства, — перабіў я. — У яго доме не знайшлі нічога, што казала б пра тое. Памяць ноўтбука праверылі да біта… Усё, што тычылася не яго працы, — некалькі дыскаў Бітлоў і нейкі рэдкі індыйскі трактат аб перасяленні душ.

— Гэта пасля таго, як я пабываў у яго адразу пасля… смерці Дэвіда. Так, не дзівіся: я пачысціў усё. А ў яго было гэтулькі ўсяго аб Одры, што ва ўсяго нашага пасёлка разам не было. Ён вывучыў жыццё Одры амаль да кожнага дня. Ён расказваў нам усім на гэтай паляне ў дні Одры пра яе так, быццам жыў разам з ёй. Мы палюбілі яго за яго любоў да нашай Одры. Ён быў шчыры і добры.

— Ён і цяпер ёсць, — умяшаўся я.

— Не, яго ўжо няма. Адтуль не выходзяць… Дык вось, Віктар мне і расказаў усё. Мы пасябравалі. Ён вельмі любіў прыходзіць сюды, на гэтую паляну. Ціхі быў, як сказалі б — сентыментальны і жаласлівы. Аднойчы ля тых дубоў ён сойку знайшоў. Тут шмат соек, яны збіраюць жалуды. А тая, відаць, коршаку патрапіла ў кіпцюры ды вырвалася — уся спінка пашкуматаная была, здыхала птушка. Ён яе прынёс у бар, там аптэчка ёсць, апрацавалі раны, дамоў панёс. Выжыла. Бегаў у лес, збіраў вусеняў розных, яйкі мурашыныя, жалуды. Дык вось, кожны свой вечар Віктар пачынаў тым, што ў пошукавіку набіраў «Одры Хэпбёрн» і глядзеў, ці не з'явіліся новыя сайты, артыкулы, навіны. Беларус трымаў сувязь з радзімай. У яго былі добрыя адносіны з адным рэдактарам літаратурнага часопіса. Яму і прапанавалі напісаць пра Одры Хэпбёрн.

Віктар працаваў дома, праграмістам. Сувязь у нас добрая. Часта Віктар у лес прыходзіў, вось сюды, тут працаваў на ноўтбуку. Але, калі за аповесць узяўся, яму часу перастала хапаць, яшчэ ж і за сойкай глядзеў. Смешна, але клапаціўся пра яе, як іншая маці за дзіцем. Што тут сказаць — пачуцці бацькоўскія ў кожным дрэмлюць… Пісаў ён аповесць не на нашай мове. Не думаў я, што Одры так за мяжой нехта любіць. Разумеюць, яны, выходзіць, прыгажосць…

Неяк Віктар спыніўся на старонцы — не ішло. У бар схадзіў, пасядзеў трохі. Прыходзіць, садзіцца за камп'ютар, бачыць — на экране пасля яго апошніх напісаных слоў радок:

ФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФ

Заліпла клавіша. Ды і не дзіўна — колькі на клавіятуру кавы і цыгарэтнага попелу патрапляла. Клавішу зняў, пачысціў, як умеў. Папрацаваў. А назаўтра пакінуў камп'ютар, вярнуўся — зноў запалая клавіша:

ГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГГ

Віктар вырашыў, што клавіятуру трэба мяняць. Прыйшоў да мяне, бо ў горад збіраўся.

Прывёз я яму клавіятуру, заходжу. Віктар сядзіць перад маніторам, а на ім радкі літар:

ВВВВВВВВВВВВВВВВВВККККККККККККККККУУУУ.

Справа яснае, клавіятура зусім дохлая. Добра, што я з новай. Змянілі.

Але ўжо заўтра, пакуль Віктар сабе каву варыў, і новая клавіятура выдала яму радок:

НННННННННННННННННННННННННННННН

Сур'ёзная, выходзіць, справа. Зусім не ў клавіятуры. І праз дзень, ужо бліжэй да ночы, калі так удала скончыў свой чарговы раздзел пра Одры, Віктар прымаў душ, не выключаючы камп'ютар, каб перачытаць перад сном напісанае. Вярнуўся і ўбачыў, што зноў адразу за апошняй кропкай яго тэксту пабег радок:

ФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФФ

Прыбраў лішняе, вырашыў, што трэба расказаць на фірме спецыялістам — туды ён і збіраўся. Бо не жарт жа. Добра, тут тэкст пра Одры, а калі ў праграмным кодзе нешта падобнае здарыцца? Шукай потым памылку больш часу, чым працаваў над кодам. Віктар мне пра тое расказаў, я параіў яму адразу захапіць сістэмны блок, што ён і зрабіў. А мне даверыў карміць яго сойку. Тая ўжо адужала, скакала вольна па пакоі — лётаць яшчэ не магла. Віктар сышоў, а яна глядзіць на мяне гузікам свайго вока, хітра галоўку набок нахіліўшы… Так і хочацца сказаць — асэнсаваным поглядам. Віктар казаў, што яна ў яго корм з рук брала, не баючыся, а ад мяне кідалася. Дзікая птушка, да мяне не абвыкла яшчэ. Таму я ёй корму свежага ў абед прынёс, а да вечара Віктар вярнуўся. Новы сістэмны блок прывёз, а на працы сказалі, што некалі разбірацца з такім глупствам. Ён, пакуль ехаў, на цэлых пяць старонак тэкст у галаве абдумаў, што толькі ўключыў камп'ютар і паспяваў запісваць.

Узбуджаны ў бар прыйшоў, казаў, што выдатна атрымліваецца.

З бара Віктар вярнуўся ўсё ў тым жа настроі: было велізарнае жаданне пісаць. І убачыў на маніторы:

ФФФФФФФФ

ГГГГ

ВВВВВВВВВ

КК

УУУ

Н

У гэты момант Віктар упершыню задумаўся. Нешта ішло не так.

Два дні ён не садзіўся за аповесць пра Одры. Яго стрымлівала невядомая, неасэнсаваная пагроза, мусіць, боязь убачыць гэтыя дзіўныя літары.

І яны з'явіліся, як Віктар і чакаў, на трэці дзень. Ён паспеў напісаць некалькі новых радкоў, калі яму патэлефанавалі. Выйшаў з пакоя, хвілін дваццаць размаўляў на верандзе, вярнуўся і ўбачыў:

ФГГВКККУУНФФФГВВВКУННННННННННН

Віктар не спалохаўся. Ён наогул быў не з палахлівых, спакойна працягнуў працу і праседзеў да позняй ночы. Пісалася лёгка. Кожны раз пасля перапынку на каву і

цыгарэты на верандзе дома, ён з асцярогай падыходзіў да працоўнага стала, але тэкст заставаўся ў парадку. Да апошняга разу, зноў пасля душа.

ФГВКУНФГВКУНФГВКУНФГВКУНФГВКУНФГВКУНФГВКУНУН

Віктар выключыў камп'ютар. Цяпер ён спалохаўся. Нейкае благое прадчуванне душыла яго.

Пяць дзён ён не вяртаўся да аповесці. З усіх сіл імкнуўся не думаць пра яе і заняць галаву рабочым заданнем. Пісаў коды да лёгкага ачмурэння, потым вечарам ішоў у бар і піў піва. Шмат піў, як ніколі раней. Хадзіў у лес за ежай для сваёй сойкі, часам і яе з сабой браў, каб не адвыкла птушка ад лесу. Дарэчы, дома яна ў яго ўжо магла ўзляцець хоць на шафу, але ўсё ж пакуль не лётала. А зойдзеш да яго, то крычыць гэтак пакрыўджана, маўляў, хто клікаў. Віктар смяяўся, казаў — мой вартавы. Іншы раз на плячо яе пасадзіць і сам праграмы свае піша. А яна сядзіць ціхенька. І назірае…

Дык вось, на шосты дзень Віктар адкрыў усё ж сваю аповесць. Ды ні радка не напісаў. Прачытаў апошнія абзацы, каб уліцца ў дзеянне, але не змог пісаць далей. Амаль фізічны страх душыў яго.

Віктар ужо пачынаў здагадвацца. Хай сабе гэтая думка была далёка, яшчэ і не аформілася, як думка, яшчэ гэткім камяком жаху цяжка варухнулася ў яго свядомасці, але быў ужо страх — звычайны страх перад немінучым.

Віктар праседзеў нерухома за камп'ютарам хвілін сорак, потым паўгадзіны курыў на ганку дома. Вярнуўся. Хутчэй, у яго вырваўся тады не ўздых палягчэння, а ўздых расчаравання — нічога на старонцы не было напісана. Ніякіх літар. Чыста.

Затое прыйшоў ліст. Без тэмы. Пусты.

Адпраўлены з яго скрыні на яго скрыню. Значыць, адпраўлены ім самім самому сабе. Віктар паглядзеў на час адпраўкі: ліст было адпраўлены ў той час, пакуль ён курыў.

Ён выключыў камп'ютар і ўпершыню напіўся ў Лінды так, што мне давялося валачы яго дадому з Дэвідам. Так, з тым самым Дэвідам…

Пасля таго пустога ліста, Віктар стаў нечакана спакойным. Тры дні ён працаваў, быццам нічога не здарылася, у бары Лінды за куфлем піва рабіў свае накіды ў ноўтбуку — ён так часта працаваў, гэтаму ніхто не дзівіўся. Здзівіўся аднойчы толькі Дэвід, калі ўбачыў, што тэкст у ноўтбуку Віктар набіраў на чужой мове.

Тады ад раніцы пачаўся нудны дробны дождж. Была субота, і Віктар вырашыў увесь дзень правесці за камп'ютарам. Гадзіны чатыры ён працаваў без стомы, потым на паўгадзіны дазволіў сабе перапынак.

Вярнуўся і ўжо зусім не здзівіўся, а толькі журботна ўсміхнуўся, калі ўбачыў, што яму зноў прыйшоў ліст ад яго самога.

Але гэтым разам у лісце было адно слова: РУДДЎ!

Віктар панікліва глядзеў на гэтыя дзіўныя літары. Спачатку клавіятура… Цяпер лісты. Ён кінуў погляд на клавішы, і тут яго як абліло варам. РУДДЎ! — гэта ж… гэта ж HELLO пры англійскай раскладцы.

У Віктара была добрая памяць на літары, лічбы і значкі. Ён успомніў адразу той апошні доўгі радок з паўтараемых літар — ФГВКУН.

Хутка набраў гэтыя літары пры англійскай раскладцы. AUDREY.

Одры…Одры. Одры!

…Праграмісты не вераць у цуды — яны вераць у лічбы і знакі.

І Віктар быў упэўнены, што цудаў не было. Гэтыя літары спачатку, па адной у радок, потым спроба напісаць «Одры», потым лісты самому сабе з'яўляліся заўсёды тады, калі ён адкрываў сваю аповесць пра Одры.

Разгадка простая. Той самы ком глыбокага жаху вылез з падсвядомасці і сфармі-

раваўся ў простую і зразумелую думку: Віктар вар'яцее. Нічога дзіўнага: у асяроддзі праграмістаў гэта не такая ўжо і рэдкая з'ява…

Гэта ён сам тупа ціснуў на клавішы, гэта ён сам спрабаваў пісаць імя «Одры» такім, якім яно было на англійскай мове пры беларускай раскладцы. Гэта ён сам сабе пісаў лісты.

Ён гэтага не памятае і не можа памятаць. Правалы ў памяці пакуль кароткачасовыя, але відаць жа, што справа пагаршаецца. Аднойчы ён не вернецца ў рэчаіснасць. Значыць… Значыць, вырашыў Віктар, яму трэба сыходзіць адгэтуль у сваім розуме. Але спачатку дапісаць аповесць.

Тры дні вялікую частку часу ён прысвячаў аповесці. Дзіўна, але цяпер, калі ён высветліў для сябе сапраўдную прычыну з'яўлення радкоў і лістоў, тыя больш не ўзнікалі і не прыходзілі.

І толькі калі ён паставіў апошнюю кропку, збегаў у бар за куфлем піва, каб адзначыць гэтую справу, вярнуўся і тады пабачыў пасля той кропкі: «Ш ДШЛУ» — «I LIKE». «Мне падабаецца».

«Мне таксама, падабаецца, дружа», — падміргнуў Віктар самому сабе, дакладней той сваёй частцы, якая была па той бок свядомасці. Ён ужо вызначыў тэрмін: тыдзень. За гэты тыдзень ён паспее паправіць аповесць і адправіць яе. А потым… потым ён сустрэнецца з самім сабой у іншым месцы…

Ён прыйшоў да мяне і сказаў, што ён хоча купіць вінтоўку. Нічога звышнатуральнага ў яго жаданні не было: амаль ва ўсіх нас тут ёсць зброя: з дубовага лесу часта ў вёску прыходзяць дзікі, за імі і ваўкі наведваюцца. Ды і ад двухногіх ваўкоў іншым разам не замінае мець добры карабін. Я заехаў за Віктарам бліжэй да поўдня, ён падсыпаў корму сваёй сойцы, пакапаўся яшчэ ў камп'ютары:

— Ёй сумна будзе, уключу падборку фільмаў, хай чуюцца галасы ў хаце.

Я не здзівіўся, калі пачуў першыя акорды з «Рымскіх вакацый», бо ведаў, што ў Віктара ў фільматэцы і не было іншых фільмаў, акрамя як з Одры Хэпбёрн.

— Ты ведаеш, птушка, — расказваў Віктар у машыне. — А глядзі ж ты, калі стаўлю гэты фільм, заўважыў: сядзіць увесь час, не зварухнецца і глядзіць! От сапраўды — сочыць за экранам!

— А чаго тут дзівіцца, — пацiснуў я плячыма. — Мы гэты фільм колькі разоў на паляне глядзелі? Запомніла… Яны ж там збіраюцца, сойкі. Мяркую, фільм нейкім чынам нагадвае ёй аб тым часе, калі яна лётала.

— Яна ўжо можа лётаць, — сказаў Віктар. — Узлятае да мяне на плячо, трэцца дзюбай, як котка. Часам мне здаецца, што яна вось-вось загаворыць — такі асэнсаваны ў яе позірк. Праз тыдзень… я яе адпушчу ў лес. Я ёй колца на лапку начапіў, з сіняга пластыку. Раптам сустрэнемся…

У горадзе я дапамог Віктару выбраць карабін. Добры, сямізарадны. Узялі яшчэ пачак патронаў і вярнуліся дадому.

…Віктар прывітаўся са сваёй сойкай, якая пырхнула яму на плячо, паставіў зброю ў шафу, падышоў да камп'ютара.

Яму прыйшоў ліст. Зноў ад самога сябе.

Віктар зірнуў на лічбы адпраўкі — у гэты час мы з ім у краме прыцэньваліся да карабіна.

У лісце быў цэлы радок і гэтым разам на чыстай англійскай мове. Віктар машынальна адзначыў у памяці, што не пераключаў раскладку клавіятуры на рускую.

«I like you. Thank you very much for everything. You are very kind to me. Audrey».

«Ты мне падабаешся. Дзякуй табе вялікае за ўсё. Ты вельмі добры да мяне. Одры».

Віктар пахаладзеў. Ён зразумеў страшную памылку: гэта не ён сам вар'яцеў пакрысе, гэта нехта хоча, каб ён з'ехаў з глузду.

Навошта? У яго ж нічога няма. Пара тысяч доллараў і гэты дом, за які яшчэ не выплачана да канца.

На працы? Але Віктар проста добра робіць сваю справу. У яго няма тых перспектыў, з-за якіх яго мог бы ўхіліць канкурэнт. Жанчыны? Смешна, яны яго даўно не цікавяць — з тых самых часоў, як ад яго ўцякла гэтая… ён ужо і забыў яе імя. Можа, помсціць яна? Дурное. Няма за што помсціць. Ды яна і не ведае, дзе ён цяпер. Мінула гэтулькі гадоў, ён тройчы змяніў месца жыхарства.

Адказу не знаходзілася.

Ён яшчэ раз праверыў: адпраўка была зроблена менавіта з яго камп'ютара.

Хтосьці змог пранікаць у яго дом бесперашкодна і не пакінуць слядоў.

Вам знаёма гэтае пачуццё, калі вы зразумелі, што ў вашу хату змог пранікнуць нехта чужы? Кактэйль з гідлівасці і страху.

Нядзіўна, што Віктар асцярожна прыхаваў пад крысом курткі сваю сойку і накіраваўся ў бар. Там ён праседзеў да закрыцця. Потым прыйшоў да мяне і застаўся на ноч.

Раніца для нас пачалася з поўнай праверкі яго дома: ад гарышча да склепа. Віктар сказаў мне, што дакладна ведае: нехта пранікае ў яго пакой. Але мы нічога не знайшлі, аніякіх слядоў...

Але не быў бы Віктар праграмістам, каб да чагосьці слушнага не дадумацца. Ён узяў мой аўтамабіль, з'ездзіў у горад і вярнуўся з невялікай сістэмай відэаназірання з адной маленечкай камерай. Хутка яе ўсталяваў так, каб у цэнтры кадра апынуўся любы, хто сядзе за стол камп'ютара. Камеру прыхаваў у цацку нейкага звярка, аб'ектыў замест вочка. Усё адмыслова наладзіў, прыйшоў да мяне за сваёй сойкай, якая ўвесь гэты час пакрыўджана праседзела ў мяне ў пакоі на тэлевізары. Мы з Віктарам яшчэ выпілі па шкляначцы ў Лінды, і ён рашуча пайшоў дадому.

Улёгся спаць, не выключаючы камп'ютар і святло ў кабінеце.

Раніцай датчык паказаў, што запісаў няма, камера была наладжана такім чынам, што запісвала толькі рух. Лістоў у скрыні не мелася. Яны былі, але звычайныя, рабочыя паведамленні і заўсёдны спам.

Віктар як ніколі за апошнія дні спакойна працаваў, правіў аповесць у перапынках, калі стамляўся ад формул праграмы. Правакаваў невядомага: выходзіў надоўга з кабінета, наогул з хаты… але нічога не здарылася з таго, што было раней.

Мінула яшчэ колькі часу. Рукапіс быў амаль гатовы. І тут раніцай аднаго дня Віктара выклікалі ў фірму: звычайная справа, усё ж ён — штатны работнік. Ён папрасіў у мяне аўто, з'ехаў на цэлы дзень.

Яшчэ пад'язджаючы да хаты, ён адчуваў, не, ён ведаў: яго чакае нешта. Сэрца калацілася так, што яго штуршкі перадаваліся рукам, якія трымалі руль.

Прадчуванне апынулася дакладным.

Па-першае, індыкатар паказваў цэлых 11 хвілін запісу.

Па-другое, сярод іншых лістоў у скрыні ляжаў і яго ліст самому сабе.

Віктар не ведаў, што паглядзець першае.

І пайшоў рыхтаваць сабе каву і карміць сваю сойку.

«Do not leave me alone. I am sad. I need you…» — «Не пакідай мяне адну. Мне сумна. Ты патрэбен мне…» — цэлых тры сказы на англійскай былі ў лісце.

Віктар амаль раўнадушна паціснуў плячыма і ўключыў прагляд запісу камеры відэаназірання…

— Я ўсё зразумеў, Эрні, — перабіў я мужчыну. — Далей я ўсё зразумеў, можаш не расказваць.

Мы памаўчалі, думаючы кожны пра сваё.

— Ты заўважыў, як тут ціха? — спытаў Эрні. — У звычайныя гады тут заўсёды крычаць сойкі: тэрмін збору зімовых запасаў. А цяпер — ціха… Пасля таго выпадку…

— Хто яго ведае, — пацiснуў я плячыма. — Сойку ж і не заўважыш адразу… Можа, надвор'е такое…

— Добрае надвор'е, — не пагадзіўся Эрні. — А сойка… так, адразу птушка і непрыкметная. Затое, калі ўзляціць, раптам пырсне на цябе яркім блакітам распраўленых крылаў. І так няўлоўна прамільгне, і не зразумееш: што ж такога яркага, прыгожага ёсць у гэтай птушцы, чым яна прыцягвае? Віктар казаў, што ў беларусаў яе назва ад слова «ззяць». Бач, ведаюць сэнс і ў назвах… Дык што ты напішаш? — нечакана задаў ён пытанне.

— А што ў цябе за дакумент ёсць? Той, які для версіі спатрэбіцца?

— Латарэя, выйгрышная, на 50 000 долараў. Гэта латарэя Віктара. Ён пытаўся мяне, ці можна яе наўпрост перадаць якому дзіцячаму дому ў Беларусі… Вось… А я скажу табе, што мне гэтую латарэю перадаў на захоўванне Дэвід. А латарэю нібыта купіў па просьбе Дэвіда і за яго грошы Віктар. Быў у горадзе і выканаў просьбу суседа. Вось і версія… Дэвід быў балбатлівы трохі. Ён мог пахваліцца пра выйгрыш у бары. А як яго дзяліць, калі набываў Віктар?

— Выдатная версія, — без радасці адказаў я.

— Тады трымай латарэю, — Эрні дастаў і працягнуў мне яркі прастакутнік. — Ты абяцаеш прамаўчаць пра гэту паляну?

— Так. Віктар адправіў сваю аповесць?

— Не, не паспеў. Мы сядзелі з ім апоўдні на гэтай паляне. Ён адпусціў сойку і распавядаў мне, што я распавёў табе цяпер. Адправіць аповесць ён збіраўся праз два дні. Але я ўсё сцёр тым жа вечарам... І аповесць таксама…

— Што ж, усё ясна… — кіўнуў я, закурыў. — Пра паляну я нікому не скажу. Але сам вярнуся сюды не раз. Адзін. Ты мне вер.

— А ты верыш? — спытаў ціха Эрні.

— Я веру, — таксама ціха адказаў я і нечакана для сябе дадаў: — А сойкі сюды вернуцца.

— Ты думаеш? — з надзеяй дзіцяці ў голасе спытаў Эрні.

— Вядома, — упэўнена адказаў я, зацягнуўся глыбока, выпусціў дым. — Як жа можа быць інакш? І яшчэ… Ты ўсё сцёр на камп'ютары Віктара, я ведаю, але ты не мог сцерці той самы відэазапіс, што зрабіла камера. Я веру табе… Але я хачу паглядзець… Убачыць…

— Я ведаў, што ты спытаеш, — Эрні спакойна палез у кішэню і дастаў мінідыск. — Гэта копія…

Я вяртаўся адзін — Эрні застаўся сядзець на паляне. Ішоў, не выбіраючы сцяжынак, упэўнены, што выйду да бара.

Наперадзе раптам пачуў кароткі звонкі крык. Спыніўся. Я быў упэўнены, што гэта пракрычала сойка. Чакаў, але гук больш не паўтарыўся. Узіраўся па баках, і мне ці то здалося, ці то на самай справе я ўбачыў у шэрасці лесу кароткую сінюю маланку…

* * *

…Дык вось, нагадаем нашым чытачам той фатальны вечар. У бары ў Лінды сабралася амаль усё мужчынскае насельніцтва пасёлка. Віктар знаходзіўся там, нечым вельмі засмучаны. Зайшоў Дэвід, радасна-ўзбуджаны.

— Лінда, усім выпіўку за мой кошт, — весела абвясціў ён. — У мяне было ўдалае паляванне!

Потым ён пачаў расказваць, што купіў пляменніку паветраную стрэльбу з аптычным прыцэлам і вырашыў яе тут жа праверыць.

— Не чакаў такой трапнасці! Адным стрэлам — і дакладна ў галаву! — захлёбваўся Дэвід ад захаплення, трымаючы ў адной руцэ стрэльбу, а ў другой — мёртвае цельца сойкі. Замест галоўкі боўтаўся камяк скрываўленых пёрак. — Лінда, будзе добрая вячэра твайму кату!

Ён стаў хутка выдзіраць з крылцаў птушкі яркія блакітныя пёркі, потым са здзіўленнем узняў перад сваім тварам мёртвую птушку за лапку:

— Глядзіце, ды яна пазначаная! — выгукнуў ён, звяртаючы ўвагу прысутных на блакітнае колца на лапцы птушкі. — Мабыць, гэта нейкі знак!

— Гэта арнітолагі пачапілі, — выказаў здагадку нехта з прысутных мужчын. — Удачлівы ты! Яшчэ і прэмія будзе!

— Так, так! — радасна рагатнуў Дэвід. — Я вельмі ўдачлівы, няхай мне пазайздросцяць!

Ніхто не паспеў нічога зрабіць — Віктар раптоўна падняўся з-за стала, узляцела руля карабіна, і адразу ж аглушальна грымнуў стрэл.

Дэвід упаў. А Віктар сеў за стол. Вочы яго былі невідушчыя. Карабін выхапілі з яго рук, але Віктар, здаецца, і не заўважыў гэтага. Яго ніхто не чапаў да прыезду паліцэйскіх…

…Ну вось, цяпер пяройдзем да гэтага маленькага прастакутніка коштам 50 000 долараў. Да латарэі, якую купіў па просьбе Дэвіда за яго грошы Віктар у горадзе. Нашы чытачы любяць грошы… няхай паспрачаюцца, каму павінен дастацца выйгрыш: таму, хто купіў, ці таму, каму купілі…

Я скончыў артыкул. Рэдактар будзе задаволены, бо заўтрашні нумар можна даваць з патроеным тыражом. Я атрымаю вельмі добра, а яшчэ за правы перадруку... А яшчэ тэлевізійнікі наляцяць, каб усім паказаць гэты выйгрышны латарэйны квіток…

Паляна Одры застанецца цнатліва чыстай…

А цяпер я яшчэ і яшчэ раз буду праглядваць тыя самыя адзінаццаць хвілін запісу камеры відэаназірання, што ўсталёўваў у сваім доме Віктар.

Глядзець, як на працоўны стол з клавіятурай успырхне сойка. Як яна хітравата скосіць галоўку набок — у бок зрэнкі аб'ектыва, ледзь міргне яе, а потым упэўнена, не спяшаючыся, яна стане наносіць кароткія ўдары па клавішах сваёй дзюбай — зусім як чалавек, які першы раз сеў за клавіятуру і выбівае літары адным пальцам. Потым сістэма апавясціць кароткім галасавым паведамленнем аб адпраўцы ліста, зноў сойка падніме сваю галоўку і яе вочка раптам вільготна блісне цалкам асэнсавана. Так, што па мне кожны раз прабягае дрыготка ў гэты момант… Яна быццам развітваецца. З лёгкім дакорам за нявер'е.

Я шукаю ў інтэрнэце таго рэдактара, якому Віктар не змог адправіць сваю аповесць…

Я павінен усё расказаць яму. І яшчэ сказаць пра тое, што мне сёння тэлефанаваў Эрні. Ён з радасным хваляваннем расказваў, што на ганку зачыненага дома Віктара Этроў сёння ўвесь дзень нерухома праседзела сойка…

Сіла НАЎМАН

Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта

# УРОК



***Сіла Наўман нарадзілася ў 1960 годзе ў Стакгольме, дзе жыве і сёння. Кар'еру пачынала як журналістка, працавала ў буйной шведскай газеце «Экспрэсэн», а таксама на тэлебачанні. Некаторы час была рэпарцёрам крымінальных навін. Першы раман — «Вадзяное сэрца», апублікаваны ў 1995-м, — прынёс пісьменніцы літаратурную прэмію за лепшы дэбют. Пасля ў Сілы выйшла яшчэ дзесяць раманаў, з іх тры — для падлеткаў, а таксама апавяданне «Урок», намінаванае летась на конкурс кароткіх твораў. У 2007-м Сіла Наўман брала ўдзел у беларуска-шведскіх літаратурных днях у Полацку.***

Толькі пах. Толькі ён. Не сказаць, каб ад нейкай пэўнай стравы альбо асаблівай прыправы ці нечага падгарэлага. Увогуле ад прыгатавання ежы. Пах поўз па сходах — няважна, было гэта напачатку дня ці ў канцы, і незалежна ад таго, стаялі кантэйнеры з нержавейкі ў школьнай сталоўцы, запоўненыя разнастайнымі стравамі, альбо іх ужо даўно памылі, спаласнулі і саставілі ў ззяючыя строі на сталах.

Тры разы на месяц кожнаму настаўніку выпадала дзяжурства па сталоўцы. Гэта азначала, што ён быў абавязаны як мінімум трыццаць хвілін сядзець і есці за адным з тых сталоў, што гулі ў зале. Плаціць за абед дзяжурнаму настаўніку было не трэба.

У сталоўцы на адным прасценку знаходзіўся гадзіннік з секунднай стрэлкай, што ўвесь час тахкала па крузе. Падчас бацькоўскіх сходаў усе чулі, як кожная асобная секунда сыходзіць з металічным гукам. Але падчас пякельнага абедзеннага вэрхалу пачуць гэта было немагчыма.

Калі Ульф дзяжурыў, то стараўся трымаць позірк падалей ад маўклівай, але няўмольнай хады часу. Апрача гэтага, ён рабіў намаганні, каб не ўглядацца ў ежу, што ляжала на талерцы. Але ж і на вучняў нельга было тарашчыцца. Лепш было

ўтаропіцца ў дрэвы за акном і недзе ў сваёй свядомасці паспрабаваць натрапіць на іншае месца, якое заставалася недасяжным для пахаў, гвалту, крыку, лаянкі і дысгарманічных жэстаў.

У школьным двары раслі тры дрэвы. На адным з іх сарокі збудавалі гняздо, якое, як падавалася Ульфу, год ад года павялічвалася ў памерах. Але гэта былі не больш чым ягоныя чаканні. Дарэмная мара пра тое, што ў з'яў і рэчаў мусіць быць нейкая хада, рух наперад. Спадзеў на тое, што не ўсё ў жыцці сунецца, як той рак, назад. Бо менавіта гэткая форма руху ўвесь час панавала ўнутры школьных сцен.

Назіраючы за птушкамі ў дрэвах, ён паглядваў на стол і адначасова мусіў цікавацца за тым, што адбываецца ў сталоўцы. Місія ягонага знаходжання тут палягала ў тым, каб сачыць за вучнямі і весці за сталом арганізаваную гутарку. З усіх працоўных абавязкаў менавіта гэтая гутарка падавалася самым цяжкім, бо мэты такога дзеяння ўяўляліся яму неспасцігальнымі. У працоўных планах усіх настаўнікаў заўсёды на першым месцы стаяла камунікацыя з задзірлівымі і праблемнымі вучнямі. Выхавальная праца, напоўненая — як меркавалася — сэнсам, крукам вісела над настаўнікамі, а яе няпэўныя вынікі з кожным новым навучальным годам уяўляліся ўсё больш аддаленымі і недасягальнымі.

Напярэдадні дзяжурства Ульф звычайна ўсаджваўся перад тэлевізарам і пры дапамозе пульта шукаў што-небудзь, пра што можа было б пагаварыць заўтра. Ён шукаў праграму, якую, па ягоным меркаванні, маглі б глядзець падлеткі. Гэта былі вечары з убогімі, прымітыўнымі альбо проста тупымі перадачамі, якія выклікалі ў яго засмучэнне.

Гэткімі вечарамі ішоў ён спаць знясілены і ў кепскім гуморы, часцей за ўсё без хоць якой нікчэмнай ідэі наконт таго, як даць рады крыклівай падлеткавай непаслухмянасці.

Але цяжэйшай была тая цемрадзь, што цяпер акаляла яго і ўсё тое, што некалі прымалася ім як пэўны выклік, але і перавага настаўніцкай прафесіі. Некалі ён адчуваў сапраўдны запал, бы той спартсмен ці заўзяты гулец, калі ў яго атрымлівалася прарвацца ды ўсталяваць кантакт з самымі нахабнымі і незычлівымі вучнямі. Але ўсё часцей падаваліся такія спробы неразумнымі, а для яго асабіста яшчэ і прыніжальнымі.

Гэтая цемрадзь вакол яго пачала згушчацца яшчэ больш, калі ў клас прыйшла Інгрыд. Менавіта гэтыя абставіны разглядаліся пасля як зыходны пункт, з якога ўсё і пачалося. Гэта здарылася не толькі праз яе, нават болей праз яго самога. Праз тую знясіленасць, якую немагчыма было вытлумачыць ці нават даць ёй пэўную назву.

А тут яшчэ гэтая Інгрыд, якая прыйшла і раз'ятрыла ўсё. Трыццатае месца ў класе пуставала, таму Інгрыд атрымала яго, а разам з тым і цэнтральнае месца ў думках Ульфа.

Калі адбываюцца нейкія кардынальныя змены, потым ужо, як правіла, немагчыма даць рады ды разблытаць клубок падзей. А кожная асобная дэталь падаецца мізэрнай і нязначнай. Але часам адбываецца так, што доўгія ланцужкі падзей без дай прычыны пачынаюць чапляцца адна за адну, каб потым злучыцца. Часам так распачынаецца нешта добрае, але здараецца і такое, калі ўсё ідзе не так, як хацелася б.

* * *

Інгрыд прыйшла праз два дні пасля таго, як чвэрць ужо пачалася, і выглядала так, як і іншыя дзяўчаты ў класе. Гэткія ж асветленыя валасы, вузкія джынсы і расцягнутыя альбо, наадварот, экстрэмальна цесныя кофты. Яна была гэтак жа моцна напарфумавана сродкамі для цела і валасоў, як і астатнія дзяўчаты, і калі ён паказваў у падручніках дзе яны цяпер, то ледзь стрымліваўся, каб не адхінуцца назад ад гэтага паху.

Ён адразу звярнуў увагу на тое, што ў яе была прыдуркаватая звычка пачынаць кожную фразу альбо з глыбокага ўздыху, альбо з адмоўя. Праз гэта яе адказ гучаў нерашуча і няўпэўнена, быццам яна заўсёды думала, што памыляецца.

Але гэта было не так. Калі даслухаць, то было зразумела, што часцей за ўсё яна правільна адказвала на пастаўленае пытанне, хоць змест адказу было лёгка ўпусціць праз тое, што інтанацыя, выраз твару, рухі — усё разам — падманвала. Адзіным, што адрознівала Інгрыд ад іншых у класе, было тое, што яна ніколі не спазнялася. Кожны раз, калі Ульф падыходзіў да аўдыторыі, каб адчыніць яе і падрыхтавацца да прыходу вучняў, яна самотна стаяла ля дзвярэй і чакала. Бязгучна павітаўшыся і не прамаўляючы ані слова, яна ўваходзіла і сядала. Сумку не адкрывала і рэчы з яе не вымала. Рабіць гэта яна пачынала толькі тады, калі занятак ужо ішоў, акурат калі Ульф пачынаў тлумачыць сённяшняе заданне альбо задаваў першае пытанне. Яна павольна падымала сваю вялікую сумку і пачынала корпацца ў ёй, выцягваючы асадку, аловак, гумку, сшытак, падручнік. Па завядзёнцы, не знайшоўшы нечага, яна пачынала прасіць у таго, хто сядзеў побач. Ейнае шаптанне чулася гучней, чым кагосьці іншага, і гэтым яна замінала нават больш, чым калі ў клас сунуліся тыя, што спазняліся. Яны проста адчынялі дзверы, праслізвалі да бліжэйшага вольнага месца і сядалі.

Першая сутычка паміж імі адбылася падчас сустрэчы, якую кожны настаўнік рэгулярна праводзіў з вучнем і яго бацькамі. На той момант прамінула ўжо больш за палову чвэрці і ён палічыў, што больш нявaрта зважаць на тое, што яна ў класе новенькая. Па ўсіх крытэрах выглядала на тое, што яна акліматызавалася і ўвайшла ў групу.

Яна прыйшла з бацькам. Гэта быў чалавек, які выглядаў шэрым і стомленым, крыху старэйшым за іншых татаў у класе, у цёмна-сініх нагавіцах і бардовым пуловеры. Калі ён увайшоў следам за дачкой, яго чаравікі пакінулі брудную лужыну на падлозе.

Калі Ульф гаварыў Інгрыд, што ейнае вошканне замінае, яна глядзела на яго так, быццам не магла ўцяміць пра што гаворка. Спачатку яна ўтаропілася ў паверхню стала і сядзела моўчкі, але потым у яе вырвалася ціхае, але выразнае: «Што? Я? ...Але ж я заўсёды прыходжу ў час».

На другі дзень пасля размовы, у пятніцу, Ульф прыклаў намаганні, каб нейкім чынам пераадолець гэтую сітуацыю і перастаць зацыклівацца на яе паводзінах.

Ён рабіў гэта дзеля яе.

Але і дзеля сябе таксама.

Ён прачнуўся на золку. У мутна-шэрым святле яму явіўся яе бледны запытальны твар. Ці не быў ён занадта суровы з ёй? Альбо несправядлівы? Ейны тата пазіраў на яе, калі яна спрабавала абараніцца, але не прамовіў ані слова, нават не спрабаваў неяк дапамагчы ці зрабіць з сітуацыі жарт.

Ульф варочаўся ў ложку і думаў пра тое, што ён павінен знайсці спосаб перастаць раздражняцца з-за яе.

Менавіта таму сённяшні занятак распачаў з таго, што, па меры таго як вучні падцягваліся, ён прапаноўваў ім выбраць адзін з чатырох кутоў аўдыторыі. Яны мусілі стаяць там, пакуль не сабраліся ўсе. Пасля ён зладзіў з імі ролевую гульню, якую звычайна прыхоўваў да канца чвэрці. У гульні трэба было стаць у кут у адпаведнасці з тым, як ты ставішся да цэлага шэрагу загадзя сфармуляваных пытанняў пра адказнасць і мараль. Заўсёды год за годам, клас за класам, канчалася гэтая гульня аднолькава. Найбольш разважныя і духоўна сфарміраваныя збіраліся ў адным куце, астатнія размяркоўваліся такім парадкам, які рэдка яго ўражваў.

Падчас наступнага занятка, у аўторак, ён зрабіў яшчэ адзін захад. Гэтым разам вучням трэба было стаць у кола і выконваць практыкаванні, якія, лічылася, дапамагалі пераадолець цяжкасці, што ўзнікаюць падчас калектыўнай працы.

Але ў гэтым класе гэткіх ніколі не было. Наадварот, гэта была даволі спакойная і добрая група, што, верагодна, было звязана з тым, што тут не было нейкіх адмысловых лідарскіх гештальтаў — як пазітыўных, так і негатыўных. Ён разам

з усім педскладам адзінадушна прызнавалі тое, што нават пазітыўны лідар мог стаць цяжарам для вучняў. У папярэднім навучальным годзе адзін з хлопчыкаў быў настолькі харызматычным, што напрыканцы ўсе пісалі, малявалі і апраналіся як ён, нават карысталіся не сваімі, а ягонымі выказваннямі. Пад канец вучобы галасы хлапчукоў ужо не адрозніваліся адзін ад аднаго, па нейкім часе яны ўвогуле перасталі хоць штосьці абмяркоўваць, бо ўсе былі кранальна аднадушныя ў пытаннях ад сусветнай палітыкі да арганізацыі сумеснай вандроўкі.

Праз дзень, у сераду, клас мусіў пісаць кантрольную, таму пазбегнуць звычайнай формы заняткаў яму не выпадала. Ён прымушаў сябе не глядзець на Інгрыд, але ўсё роўна не мог не заўважыць, як яна, не зважаючы на тое, што заданні ўжо раздадзены, павярнулася назад і пачала прасіць спачатку асадку, а потым яшчэ і лінейку. Ейны шэпт можна было разглядаць як парушэнне правіл, і гэтага было дастаткова, каб выставіць яе з аўдыторыі.

Але ён змоўчаў.

* * *

У настаўніцкім пакоі стаялі парэшткі мэбліроўкі дырэктара, які даўно сышоў на пенсію, — цёмна-чырвоныя аксамітныя фатэлі і канапы, расстаўленыя вакол прыгожага авальнага стала з інкрустацыяй. На падлозе ляжаў азіяцкі дыван, найбольш выцертыя часткі якога хаваліся пад адной з канап. Са столі даволі нізка звісала вялікая круглая лямпа з бляклa-жоўтым шаўковым каптуром, які прыемна рассейваў святло. Некалі гэтая мэбля стаяла ў вялікім светлым пакоі з вокнамі ў столі на самым апошнім паверсе школы, дзе цяпер размяшчаліся студыі для малявання. Прыёмная дырэктара ўжо многа гадоў як пераехала ў новазбудаваную шкляную прыбудову.

Гэты стары выцерты гарнітур, лямпа і дыван, былі адзінымі прыгожымі рэчамі ва ўсёй школе, апрача, можа, яшчэ Амелінаўскай карціны ў зале для ўрачыстасцей. Настаўніцкі пакой быў для Ульфа месцам адпачынку, тым адзіным месцам, дзе ён мог быць шчырым з сабою.

Калі ён толькі пачаў працаваць у школе, то стараўся пазбягаць урачыстай цішыні настаўніцкага пакоя. Замест таго, каб піць каву тут, ён ішоў са сваёй філіжанкай у школьную кавярню і піў, стоячы сярод навучэнцаў.

Але цяпер, як толькі выпадала, ён імкнуўся трымацца іншых настаўнікаў. Яму хацелася схавацца ад дрыжачага люмінесцэнтнага святла аўдыторый, ён пачуваўся спакойным, затуліўшыся ад пахаў — і не толькі кававых, — якімі патыхала звонку. Вядома, кававы пах быў моцны, у другой палове дня ён рабіўся кіслым, але ўсё роўна не мог пераважыць назольныя пахі сталоўкі ды вучняў.

Іншы раз, калі ўвечары прыходзіў дадому, ён адчуваў, што ад яго смярдзіць школай. І што калі ён рэзка ўзнімае рукі, з-пад пахаў вырываецца воблака школьнай затхі, перамешанай з яго асабістым пахам. Уваччу стаяла карцінка, як нейкім адмысловым чынам ягоныя поры раскрываюцца і ўбіраюць у сябе ўсё гэта. Альбо як будынак школы разявае сваю бяздонную пашчу і паглынае яго.

Калі гэта адбывалася, ён адразу ішоў у душ, а сваё забруджанае адзенне кідаў у кош для прання. І калі агульная пральня была незанятая, у той жа вечар ён ладзіў мыццё. А потым увогуле стаў трымаць кош з бялізнай на балконе.

* * *

Яшчэ праз пару тыдняў ён не мог пазбавіцца адчування, што ягоныя заўвагі мелі адваротны эфект. Інгрыд патрабавалася ўсё больш часу, каб упарадкавацца. Здавалася, яе валіза расце, а шэпт робіцца ўсё больш прарэзлівым. Ён заўважыў, што хоць і намагаўся ігнараваць яе, але ўсё часцей пачынаў замаўкаць перад ёю.

Праз сваю маўклівасць ён спрабаваў прымусіць яе ўцяміць, што яна замінае. Давесці, што яна разладжвае яго лекцыю. Прымусіць яе змяніцца. Але чым даўжэй ён стаяў моўчкі і глядзеў на яе, тым, здавалася, больш часу яна адымала. А ён з кожнай збеглай хвілінай рабіўся ўсё больш раз'юшаным.

Таксама ён прыкмеціў, што калі на ягонае пытанне ў падручніку нельга было вычытаць даслоўнага адказу, калі адказ вымагаў пэўных разважанняў і здольнасці прасачыць следствы і сувязі, яна рабілася бязмоўнай.

Дзіўна, але яна ніколі не вагалася ані секунды, калі не магла адказаць на такія пытанні. Яна ніколі не залівалася чырванню, не спрабавала выкруціцца, адказваючы бязглуздзіцу, — тактыка, якой многа хто карыстаўся.

Замест гэтага яна прамаўляла:

Не ведаю.

Альбо:

Не магу.

І ўсё.

Наўпрост на ўвесь клас, утаропіўшы позірк у яго. Такім чынам ён пaступова ўцяміў: усё, што тут можна было рабіць, гэта правяраць, выканала яна хатняе заданне ці не. Астатнія вучні маглі забыцца на нешта альбо папросту забіць на ўрокі, але, карыстаючыся дапамогаю, так ці інакш даць сабе рады і адказаць на адно-другое пытанне. Можна было прыгадаць нешта з ранейшых лекцый ды выкруціцца, будуючы свае разважанні на іншых ведах. Большасць вучняў маскіравала сваю забыўлівасць ці дурноту, прынамсі, так ім здавалася. Здаралася і такое, што атрымліваўся сапраўды добры адказ. Былі і абсалютна нягодныя адказы, але ў такім выпадку з іх проста рагаталі.

Але гэта было не пра Інгрыд, якая ніколі нават не спрабавала адказаць, калі не была ўпэўнена ў тым, што здолее манатонна прабубніць завучаны адказ.

— Я не ведаю, — усё, што яна казала.

Ульф рабіў усё, каб не зважаць на Інгрыд. Ён намагаўся перасільваць жаданне спыніцца і маўчаць, пакуль яна не перастане вошкацца і шаптацца. Апрача таго, ён стараўся ўнікаць пытанняў, на якія яна не змагла б адказаць.

Яму хацелася быць справядлівым настаўнікам.

Але яна правакавала яго.

Па нейкім часе ён сам быў вымушаны прызнаць гэта.

А яшчэ ён вымушаны быў прызнаць, што, нават не хочучы задаваць ёй нейкіх адмысловых пытанняў, менавіта гэта і рабіў.

Яна расцвельвала яго, рабіла раздражнёным і злым.

Вельмі злым.

Настолькі злым, што яе словы «я не ведаю» раз за разам узрушвалі яго. Ён наперад смакаваў яе паразу, калі, задаўшы пытанне, называў яе імя. Гэты момант лашчыў яго нейкім асаблівым чынам. Мо на гэты раз адкажа на пытанне? Ці ён зноўку ўбачыць яе пусты позірк, калі яна прамовіць:

— Я не ведаю.

Настаўніку не належала так захапляцца няўдачай вучня. Ён разумеў гэта.

Яму было сорамна.

Але спыніцца ён ужо не мог.

Перад сабою ён апраўдваўся, што ягоныя паводзіны не больш агідныя за тое, як паводзіла сябе, як дражніла яго. Правакацыі працягваліся на кожным занятку.

Інгрыд зрабілася ягоным неадвязным свербам. Яшчэ ніколі ён не ставіўся да вучня так дрэнна, яшчэ ніхто не поўніў яго такой нянавісцю і прагай помсты, як рабіла гэта яна. Яна дражніла яго неяк абсалютна выкшталцона, і гэта раз'юшвала яго.

Яму не проста карцела выставіць яе з класа.

Ён жадаў, каб ёй было кепска.

Ці такое мажліва? Чаму так сталася? Нейкая няўпэўненая ў сабе саплячка.

Як ён мог?

Усё больш старанна падбіраў ён пытанні, якія б канчатова выявілі яе тупасць і прымусілі яе хаця б засаромецца. Ён думаў, што калі ён прымусіць яе апусціць вочы долу, як мінімум збянтэжыцца, то, можа, яна паспрабуе прамямліць і хоць нешта адкапаць у сваёй галаве.

І тады ён адчапіўся б ад яе.

Хоць якая заўгодна перамена сталася б для яго перамогай. Абы не гэтая ўпартасць, ганарыстасць, каб толькі не прызнаць сваю дурасць, слабіну і няўдачу. Наадварот, яшчэ ўмудрацца красавацца ўсім гэтым. Павярнуць усё такім чынам, каб выглядала на тое, што дурань тут ён, бо задае пытанні, а яе таварышы праз сваю тупасць яшчэ спрабуюць на іх адказваць.

Ён не помніў сябе ад злосці.

У ім расло жаданне выкрыць і прыгваздзіць.

А ўсё толькі праз тое, што яна адмаўлялася ўпарадкавацца да пачатку заняткаў, што яна не зважала на ягоныя позіркі.

Гэткая дробязь.

Разам з гэтымі моцнымі і абсалютна нечаканымі пачуццямі нарэшце прыйшло і ап'яненне ад ўлады, упэўненасць у тым, што як настаўнік ён можа прымусіць яе рабіць тое, чаго ён патрабуе. Ён упіваўся адчуваннем таго, што можа падаўляць, і шалеў ад упэўненасці ў будучай перамозе. Так, сапраўды, ён выйдзе пераможцам.

Калі здолее ўтрымаца ў халодным розуме, ён знішчыць яе.

* * *

У аўторак другога лютага ў класе зноў была кантрольная. Была бляклая золкая раніца. Школа смярдзела варанай рыбай і воглым адзеннем. На сходах паўсюль былі лужыны расталага снегу і друзу.

Інгрыд, як звычайна, прыйшла першай і ўселася ў цэнтры класа, на мернай адлегласці ад яго. Ён толькі раздрукаваў заданні кантрольнай і зашчапіў аркушы. Цяпер стос ляжаў на катэдры. Яна не глядзела ў яго бок, увогуле нікуды не глядзела, але ж і не даставала асадкі ці гумкі, каб падрыхтавацца.

— Валізу трэба пакінуць вось тут.

Яно вырвалася само. Пасля нават не мог уцяміць чаму. Ягоны голас у пустым пакоі амаль спужаў, быццам ён пачаў гаварыць несвядома, быццам тое злое ў ім глынула паветра і загаварыла.

І пайшло-паехала.

Ён працягваў:

— Табе лепш дастаць усё, што трэба, пакуль я не раздаў заданні.

Інгрыд не зварухнулася, але прамовіла «добра» і наўпрост зыркнула на яго.

І ўсё.

Ён нечага чакаў і гэта здавалася вечнасцю. Сэрца грукала ў грудзях, гнеў заграз у пальцах. Тады ён сказаў:

— Інгрыд, давай зробім так. Ты ідзеш сюды і пакідаеш тут валізу, бярэш асадку і гумку, такім чынам, мы можам пачаць адразу, як празвініць званок.

І зноўку пачуў ён ейнае «добра».

І ўсё.

І яна працягвала глядзець у акно.

Клас пачаў запаўняцца, і вучні падыходзілі да яго з роспытамі. Хуткі абмен фразамі адцягнуў яго ўвагу ад застарэлай злобы, і на нейкі момант ён зноўку адчуў сябе звычайным Ульфам — добрым настаўнікам. Але калі ён глянуў у бок Інгрыд, то адчуў, як з яго лезе тое, іншае.

Яна сядзела, утаропіўшыся ў акно. Каля ног ляжала вялікая валіза. На парце па-ранейшаму нічога не было. Рукі спакойна ляжалі на каленях.

— Ну дык што, Інгрыд, — прамовіў ён. — Ты можаш узяць і зрабіць, як я прашу? Дастань асадку ды гумку і падыдзі са сваёй валізай сюды.

— Добра, — сказала яна.
І засталася сядзець.
Усе навокал змоўклі.
Ён наблізіўся да яе і папрасіў дастаць, што ёй патрэбна.
Яна не зварухнулася.
Тады ён аднёс валізу на катэдру, узяў асабісты аловак, завастрыў яго, дастаў гумку, падышоў і паклаў перад Інгрыд. Зрабіўшы гэта, ён пачаў раздаваць варыянты заданняў.
Інгрыд сядзела моўчкі.
Калі ён клаў ёй на парту аркушы, яна не зварухнулася. Ён спрабаваў не глядзець у яе бок, але бакавым зрокам бачыў, што яна не пераварочвала аркушы, нічога не пісала, што яна глядзела ў акно.
Недзе праз паўгадзіны некаторыя вучні пачалі ўжо здаваць работы і сыходзіць. Яна ўсё сядзела. Калі час занятку выйшаў, у класе амаль нікога не засталося. Яна ўстала самая апошняя, пакінуўшы кантрольную на парце, выйшла з аўдыторыі, не забраўшы сваёй валізы і не акінуўшы яго позіркам.
Калі па хуткім часе ён сыходзіў з аўдыторыі, то валізу пакінуў ляжаць на катэдры. Ён усё старанна зачыніў і пайшоў у настаўніцкі пакой, узяўшы партфель з кантрольнымі. Толькі на сходах адчуў, які ён быў узбуджаны, як моцна сціснуты яго сківіцы, а ў роце — быццам лайно. Рукі былі ледзяныя, а сэрца, бы тая помпа, гуло ў грудзях.
Што яму рабіць з ёю? Што рабіць з сабою?
Як спыніць усё гэта?
Далей так працягвацца не можа.
Ён не чуў, пра што размаўлялі іншыя ў настаўніцкім пакоі, нават не адчуваў, з міндалавай масай ці карыцай была булачка, якую ён запхнуў у рот. Калі, глянуўшы на гадзіннік, ён убачыў, што да наступнага занятку засталося ўсяго некалькі хвілін, пайшоў у прыбіральню і спаласнуў рукі цёплай вадою. У люстэрку ён убачыў свае вочы, што выпіналіся з нейкім дзіўным бляскам.
Пасля гэтага ў яго быў занятак у іншым класе. Ён толькі сабраўся распачаць лабараторную работу, як яго перарваў грукат у дзверы. Клас сціх.
У дзвярах быў дырэктар. Побач стаяла Інгрыд і глядзела наўпрост на Ульфа. Позірк яе быў ані злым, ані трыумфатарскім, а гэткім жа пустым.
Дырэктар адразу перайшоў да справы. Ульф заўсёды ў ім гэта цаніў. Ніколі не дазваляў сабе гэтага нясмелага лапатання, што было так распаўсюджана сярод іншых прадстаўнікоў школьнага кіраўніцтва. Замест гэтага ён рашуча пачынаў з найбольш важных пытанняў і адным махам разрульваў усё тое, з чым кожны настаўнік мусіў бы корпацца паасобку.
— Інгрыд кажа, што вы забралі яе валізу.
— Не... Але ж... гэта як паглядзець. Яна засталася ў класе, там, дзе ў нас была кантрольная. Яна ляжыць там... бо Інгрыд не забрала яе, калі сыходзіла... можна пайсці і забраць.
— Тады, можа, вы сходзіце разам з Інгрыд і забераце яе?
— Мы распачынаем лабараторную работу... А паколькі Інгрыд падчас кантрольнай не рабіла тое, пра што я прасіў яе, можа, яна пачакае перапынку... тады я змагу пайсці і адчыніць...
Ульф чуў, як яго сэрца білася ў грудзях, адчуваў, як позіркі вучняў сквараць ягоную патыліцу, як паветра згушчаецца вакол яго. Сэрца грукала так моцна, увачч у каламуцілася.
— Ідзіце цяпер. Інгрыд патрэбны інсулін. Ёй неабходна забраць валізу. Без адкладу.
Ульф пачуў, як вучні ў класе прытаілі дух, пачалі варушыцца. За спінаю прайшоўся шолах, які хутка пераўтварыўся ў гам.

* * *

На сходах халадней, чым у аўдыторыі, і усё яшчэ пахне пасля сённяшняга абеду. Ён ідзе наперадзе Інгрыд. Яны абодва маўчаць.

На першай лесвічнай пляцоўцы ён паварочваецца. Яна глядзіць долу.

Ён на некалькі прыступак вышэй за яе, глядзіць прама на яе галаў, на прадзел у валасах, дзе відаць, як рудыя валасы растуць з-пад асветленых. Яму адразу прыгадваецца канава. Дома ў Авесце была канава, у якую сцякала вада з ачышчальных усталёвак, а потым выцякала на сцяжынку, па якой ён на ровары кожнага дня вяртаўся са школы дадому. Трава там заўсёды была шэрай, бо абрастала граззю з гэтага патоку.

Параўняўшыся з ім на пляцоўцы, яна падымае галаў, і цяпер яны амаль аднолькавага росту. Ён адчыняе важкія дзверы, што аддзяляюць наступны пралёт, і рукою паказвае, каб яна ішла наперад. Яна праходзіць паўз яго, і ён адчувае пах салодкай парфумы. Ён ледзь сунімае ў руках сверб ляснуць дзвярыма наўпрост ёй у твар. Ён уяўляе, як з носу пырсне чырвонай крывёй, як з яго будзе капаць на шэрыя каменныя прыступкі. Круглыя чырвоныя кроплі.

Цяпер ён ідзе па-за ёй, амаль прыступка ў прыступку, глядзіць на ейныя джынсы, падзёртыя і абтрапаныя ўнізе. Калі ён кідае позірк на яе азадак, то бачыць там бляклую пляму. Карычневую нязроўную пляму.

У галаве ўзнікае адпаведнае слова.

Ён хоча і адначасова не хоча думаць пра гэта. Уваччу ў яго няма аніякай пэўнай выявы; больш выглядае на тое, што слова само лезе з гэтай светла-блакітнай джынсавай тканіны, загразае ў баваўняных валокнах і прыцягвае яго ўвагу.

Ён кажа:

— У цябе там нейкая пляма.

Прамаўляючы гэта, ён не адчувае аніякай віны.

Цяпер мяжа парушана.

Яна паварочваецца.

— Дзе?

Ён разумее, што разгон ужо ўзяты і павярнуць назад нельга. Але ведае і тое, што можа спыніцца там, дзе ён цяпер. Што ён можа скончыць і не рабіць яшчэ горш.

Але крок ужо зроблены, і падзенне пачалося.

— Вось тут, — кажа ён і паказвае пальцам на яе азадак.

— Ды дзе? — пытаецца яна.

— Пасярэдзіне, — адказвае ён.

Яна праводзіць рукою па азадку. Яна стаіць і выціраецца наўпрост перад яго тварам. Потым разглядвае сваю руку, каб убачыць, ці ёсць там што. Адначасова яна пасоўваецца ўбок, каб ён мог абмінуць яе і прайсці наперад. Але ён спыняецца. Ягоны твар на адным узроўні з яе азадкам, ён, замірае на месцы, пяліцца на тую пляму.

— Ужо, напэўна, засохла, — прамаўляе ён і спадзяецца, што яна падумае пра лайно.

Яна зноўку праводзіць рукой па азадку, зноў трэ.

— Вось яно, тут, — кажа ён і паднімаецца на адну прыступку бліжэй да яе, выстаўляе ўказальны палец і паказвае, адчуваючы, як на ілбе выступае пот. Сэрца цяжка тахкае, кроў унутры яго віруе, бы вадаспад. Выставіўшы наперад, трымае ён свой указальны палец акурат каля яе азадка.

Тады яна паднімаецца па апошніх прыступках на лесвічную пляцоўку, паварочваецца спінай да сцяны, зноўку прапускае яго наперад адчыніць дзверы і кажа:

— Ідзіце перада мною.

Ён паднімаецца і адчыняе дзверы. Там крыху цямней, бо вокны на апошнім паверсе меншага памеру. Ён больш не адчувае паху рыбы са сталоўкі, наадварот,

там ледзяны скразняк. Напэўна, прыбіральшчыцы ўжо прыйшлі і недзе паадчынялі вокны.

За спінай ён чуе яе дыханне, яна блізка, занадта блізка. Ён пачынае пераскокваць цераз прыступку, паскорвае хаду, яна робіць тое ж самае, ён паскорваецца яшчэ, яна таксама. Калі застаецца ўсяго некалькі прыступак, у яго раптам падварочваецца нага, і калена прашывае страшэнны боль. Ён вымушаны спыніцца, прыхінаецца да поручы, згінае нагу.

Раптам яна аказваецца побач з ім, схіляецца наперад, яе доўгія валасы падаюць на ягоную нагу. Яна выцягвае рукі, хапае ягонае калена і моцна падцягвае яго да сябе, быццам хоча дапамагчы яму ўправіць калена. У паўзмроку сходаў ён бачыць, як адкрываецца яе рот, міргае язык. І раптам яна выпускае круглы белы плявок акурат яму на калена, а потым яшчэ далоняй уцірае яго ў тканіну. Ён прыціскаецца да поручня, каб не ўпасці.

— Сліна дапамагае ад усяго, — глуха прамаўляе яна, усё яшчэ схіліўшы галаў над ягонай нагой, але тут жа адпускае. Нага цяжка б'ецца аб прыступку, Інгрыд выпростваецца і хутка пераадольвае апошнія прыступкі ўгору.

І вось яна стаіць на верхняй лесвічнай пляцоўцы і пазірае ўніз на яго. У яго на назе цёмная мокрая пляма, і ў паўзмроку ён няўпэўнены — ці няма яшчэ плямы і на самым перадзе. Ён не мае магчымасці нахіліцца каб разгледзець, бо яна стаіць тут, вылупіўшыся на яго.

Калена тыхкае, а парыў халоднага паветра студзіць мокрае месца на нагавіцах. Яму падаецца, што холад гэты ён адчувае нават у споднім.

Яна пяліцца на яго, ён паднімаецца па апошніх прыступках, засяроджваючыся на тым, каб не каўзануцца, каб не зыркаць на свой ніз, каб не прыкрываць рукой, каб паводзіць так, быццам нічога не заўважыў.

Яму трэба падняцца на адну прыступку, потым яшчэ на адну і яшчэ на адну.

Ейны позірк не раззлаваны, не помслівы, нават не пераможны. Такі ж пусты, як гэтыя гулкія выхаладжаныя сходы.

Калі перад класам ён дастае ключы, рукі ягоныя трасуцца. Спачатку ён суне ў замок не той ключ. Інгрыд маўчыць, нават не ўздыхае. Проста стаіць побач з ім, за ім. Блізка стаіць. Занадта блізка. Ён зноўку адчувае яе салодкі пах, стрымліваецца, каб не прыкрыць рукою вуха, быццам яна раптоўна можа нахіліцца крыху наперад і цапнуць яго.

Калі ён дае рады з дзвярыма, яна ідзе наўпрост і забірае валізу. Не зірнуўшы ў ягоны бок, выходзіць. Ён так і стаіць ля дзвярэй і чуе, як гук яе крокаў знікае ўнізе на сходах.

Яго вушы палаюць.

Ён уваходзіць у клас, падыходзіць да акна і глядзіць на дрэвы. Акно на адным узроўні з шатамі. Узіраецца ў халоднае чорнае галлё. Насупраць знаходзіцца вялікае сарачынае гняздо. Гэтай парою ў ім пуста, а ў цемрадзі яно ўвогуле ледзь бачнае.

Яму хочацца расчыніць акно, каб упусціць свежае паветра, але адмысловая клямка дазваляе толькі вузкую шчыліну. Ад батарэі, што пад акном, пахне цёплым пылам. Рукі дрыжаць і пот марудна цячэ пад кашуляю ў самы ніз, у нагавіцы. Сэрца глуха тахкае ў грудзях, усё ўнутры здаецца набраклым, амаль раз'ятраным. Са шчыліны ў распалены твар вее халодным паветрам.

І вось ён бачыць Інгрыд, якая выходзіць на вуліцу з сумкаю на плячы. Яна самотна ідзе праз школьны двор і знікае паміж спартзалай і агароджай. Яе сіняе паліто ў вечаровым змроку спачатку выглядае фіялетавым, потым — шэрым, а потым усе фарбы паглынаюцца цемраддзю, усё робіцца чорным.

***Пераклад са шведскай Любові ВАРАШУХА***

Юлія КАРАЛЕЎСКАЯ

# «КУВАЛДАМЭТРЫЧНАЯ ФУНДАМЭНТАЛЬ»

***Любы самы цяжкі і няўдалы дзень можа стаць лёгкім і нават цудоўным, калі да яго дакранецца мастацтва. Толькі чамусьці мы часта шукаем гэта суцяшэнне дзесьці далёка: больш цікавімся замежнымі мастакамі, аўтарамі і нярэдка забываемся пра тое, якая багатая наша краіна на таленавітых, годных людзей.***

З творчасцю аднаго з іх я нядаўна пазнаёмілася. Віктар Жыбуль — чалавек, які атрымаў прызнанне ўжо за межамі нашай краіны, бо вершы яго былі перакладзены на англійскую, балгарскую, латышскую, літоўскую, нямецкую, польскую, рускую, украінскую і чэшскую мовы.

Кнігі, пра якія я хачу расказаць, былі выдадзены ў 2003 і 2012 гадах, гэта значыць, з вялікім прамежкам часу, які дазваляе прааналізаваць дынаміку аўтарскага «Я», разнастайнасць тэм і сродкі іх выражэння.

Зборнік «Дыяфрагма» адкрываецца смелым, рытмічным вершам «Кувалдамэтрычная фундамэнталь». Першыя радкі адсылаюць нас у эпоху мадэрнізму, узнікае жаданне выразна і гучна дэкламаваць вершы. Яго рыфмы такія моцныя і выразныя, нібы гукі роты, якая маршыруе:

Паглядзіце за далягляда лінію:  
там стаю ў даліне я, алюмініевы  
касьцяк —  
крыху наўскасяк,  
але электрагірляндамі аплецены.

Ужо пасля гэтых радкоў разумеем, што нас чакае нешта асаблівае, не падобнае да класічнай паэзіі. Гартаючы старонкі кнігі, я ўсведамляла, што ўсе метафары ў вершах — сапраўдная экзотыка: наўрад ці знойдзецца ў свеце хоць адзін двайнік «Усепранізьлівай ілюмінацыі над галавакружнай бэтонамяшалкай» або «Матэматычнай мясакруткі»!

Міжволі адзначаеш і экстравагантнасць мовы паэзіі Жыбуля: вершы «кішаць» неалагізмамі («дуплавокае шрубаствольле», «павуцінадроцьце»). Аднак у кожным радку аўтар дэманструе бездакорнае валоданне мовай. Так лёгка і ўмела кіраваць словамі, ствараючы асанансы і алітэрацыі, можа толькі той, хто сапраўды ведае сваю мову:

Сакавітае сакавіцкае сонца  
сакатала ды скокала  
скокала ды сакатала  
крамяністыя косы купала  
ў вадзе талай-талай  
небасхіл на сабе катала.

Менавіта ў гэтым вершы з дапамогай гукапісу Жыбуль стварае эфект хуткамоўкі.

Раннія вершы аб'яднаны імкненнем да эксперыментаў, незвычайным сродкам перадачы формы і зместу («Літры літар», «Плюмбікон», «Трансфіліпупцыя»). Віктар Жыбуль піша і фігурныя вершы, і паліндромы. Яго паэзія вызначаецца складанасцю і нават свайго роду элітарнасцю. Напрыклад:

семікутныя танклявыя лісты  
пракалыханыя наскрозь  
прапітаныя заквасаванай салетрай  
разьедзеныя мыш'яком  
падрапаныя пазногцямі вятроў  
асыпаюцца  
на жоўты цэлюлёідны дах

Аўтар адкрывае нам, чытачам, дзверы ў свет сваіх, ні на што не падобных метафар. І кожны з нас пранікае ў яго, малюе сабе тыя самыя «ланцужныя мопсы — трамваі» або «неба Блакітны кісель».

Апошняе, што трэба адзначыць: назва зборніка неадназначная і, на мой погляд, невыпадковая. У гэта выданне ўвайшлі самыя светлыя і ўзнёслыя вершы, напісаныя аўтарам

у юнацтве. Вершы выступаюць своеасаблівай дыяфрагмай — адтулінай, праз якую прасочваецца святло душы паэта. І кожны з нас сам для сябе вызначае дыяметр дыяфрагмы.

Зборнік «Стапеліі» рыхтаваўся да публікацыі яшчэ з 1998 года, але з-за розных абставін толькі трэцяя спроба апублікаваць яго аказалася ўдалай. Разам з гэтым мяняліся і назвы зборніка: першым варыянтам было «Finita la tragedia», другім — «Магіла гарбатага». Аўтар прадмовы Юрась Барысевіч называе асноўную праблему сучасных чытачоў: «Сёння, каб зацікавіць паэтычным словам шырокую аўдыторыю, недастаткова напалохаць чытача ўжо звыклымі відовішчамі нацыянальнай ці экалагічнай катастрофы, трэба альбо распрацоўваць уласныя сцэнары апакаліпсісу <...>, альбо клікаць Беларусь да сякеры». Нельга не пагадзіцца з гэтым сцвярджэннем: бо мы, сучасныя чытачы, знаёмыя з вялікай колькасцю мастацкіх метадаў, іх сінтэзаў, і да новага ставімся скептычна. Чым можна нас здзівіць? Аднак у зборніку Віктара Жыбуля «Стапеліі» свежасць ідэй і іх увасабленне прысутнічае.

Зборнік складаецца з 4 раздзелаў, кожны з які носіць унікальную назву: «Унутры манекена няма шкілета», «Распілаваныя дошкі пачынаюць зрастацца», «Пасівелі сінія сандалі» і «Як выхлапная труба знутры».

Першы раздзел, без сумненняў, названы па вершы «Манекен і шкілет», з падзагалоўкам «Фетышыстам і некрафілам»:

Манекен стаіць на вітрыне.  
Ён апрануты нават улетку.  
Манекен сам сябе не ўскрые.  
Унутры манекена няма шкілета.

У гэтым вершы манекен суадносіцца з абывацелем, чалавекам сярэднестатыстычным:

Манекен не можа распрануцца да костак  
і даць каму-небудзь пагрызці іх.  
Быць манекенам так проста,  
проста так.  
Манекен спакойны, манекен не псіх.

Шкілет жа ва ўяўленні Віктара Жыбуля суадносіцца з паэтам. Вось паэт можа быць такім шчырым, *што нібы распранаецца да костак*, яго можна ўспрымаць як увасабленне аголенасці. Паэт адкрыты ўсім вачам, як шкілет на вітрыне, на сеансе стрыптызу:

А вось шкілет — ён заўсёды максімальна  
аголены,  
на апошнім імгненні застыглы стрыптыз.  
Ён элегантны, хоць і непрацаздольны.  
Шкілет  
лепей разглядаць зверху ўніз.

Некаторыя вершы гэтага зборніка мы ўжо сустракалі ў папярэднім зборніку «Дыяфрагма». Напрыклад, верш «Я хачу павярушыць тваім хвастом…»

Зборнік «Стапеліі» значна адрозніваецца ад «Дыяфрагмы». Вершы сталі сур'ёзнейшыя і складанейшыя, жудаснае і загадкавае набывае ў яго паэзіі метафарычна ўскладнены сэнс. Нават любоўная лірыка Жыбуля набывае містычны характар. Так, прызнанне ў каханні героя верша «Каханне з апошняга позірку» заканчваецца зусім не аптымістычна:

Абарочваецца вакном у тартар  
кожная чорная дзірка ў часе й прасторы.  
Усё наша жыццё — анатамічны тэатр,  
а людзі — акторы.

У гэткі спосаб Жыбуль дапоўніў шэкспіраўскія радкі, і нават тут прыўнёс свой уласны сэнс, змрачнаватую іронію сучаснага чалавека.

У адным з вершаў другога раздзела аўтар дзеліцца з намі жаданнем:

Я хацеў бы,  
каб у цэнтральным гарадскім парку  
культуры й адпачынку  
дрэвы раслі ў тры разы гусцей.  
А лепей — у чатыры.  
Каб гэта быў не парк,  
а дрымучы лес.

Вось такім густым, з непраходным лесам з'яўляецца бязмежная фантазія Віктара Жыбуля. Яго вершы працятыя філасафічнасцю, у кожным з іх — здольнасць ствараць фантасмагарычнае са штодзённага, знаёмага ўсім. І назва гэтага зборніка мне здаецца невыпадковай; яна — своеасаблівы выклік, бо ўвасабляе рэзкі кантраст: стапеліямі называюцца паўднёваафрыканскія кветкі, яны незвычайна прыгожыя, але выдаюць спецыфічны пах. Вось і рэзкая, смелая паэзія Віктара Жыбуля на першы погляд можа здацца мудрагелістай, недаступнай, але варта ўдумацца ў гэтыя радкі — і вас закруціць віхор калейдаскапічна-зменлівых літар, слоў, вобразаў і ідэй.

Ева ЛЯВОНАВА

# ПРЫСУТНАСЦЬ ГЁТЭ Ў ТВОРАХ КАРАТКЕВІЧА

Адзін з самых вялікіх нямецкіх асветнікаў, традыцыя беларускай рэцэпцыі якога даўняя і трывалая, — Ёган Вольфганг Гётэ (1749—1832). Дастаткова грунтоўна ўкараніўся ён і ў беларускую літаратуру, у нацыянальную мастацкую і культурную свядомасць ХХ стагоддзя, ужо ў пачатку якога, паводле слушнага меркавання аўтараў «Гісторыі беларускага тэатра», у Беларусі «шмат паўней і шырэй, чым у папярэднія гады, прадстаўляліся творы класікаў сусветнай літаратуры і драматургіі» [5, с. 462]. Бясспрэчна, сярод апошніх значнае месца займалі і творы Гётэ.

Шматлікія праявы глыбокай цікавасці да Гётэ змяшчае ў сабе спадчына Уладзіміра Караткевіча (1930—1984). Не было даследчыка яго творчасці, які б не звярнуў увагі на філасофска-эстэтычную прысутнасць у ёй іншанацыянальнай традыцыі. Адам Мальдзіс назваў пісьменніка «дасведчаным, вялікім кніжнікам» [11, с. 222], а Анатоль Верабей меў падставы сцвярджаць: «Характэрнай асаблівасцю паэзіі У. Караткевіча з’яўляецца яе сувязь з кніжнай, літаратурнай традыцыяй. Як у ранніх, так і ў пазнейшых вершах сустракаюцца рэмінісцэнцыі, матывы, вобразы і нават ідэі прадстаўнікоў літаратуры і культуры самых розных часоў і народаў» [2, с. 43]. У сувязі з творчасцю Караткевіча даследчыкі называлі імёны Гераніма Босха, Пітэра Брэйгеля Старэйшага, Мікалоюса Чурлёніса, Антуана Вато і іншых мастакоў, пісьменнікаў Дантэ Аліг’еры, Франсуа Рабле, Вальтэра Скота, Рэдзьярда Кіплінга, Фёдара Дастаеўскага, Шарля дэ Кастэра, Генрыка Сянкевіча, Алоіза Ірасека, Артура Конан Дойла, Федэрыка Гарсія Лоркі, Рамэна Ралана, Станіслава Лема, Рэя Брэдберы і іншых, эстэтычныя здабыткі якіх, так ці інакш, адгукнуліся ў творах Караткевіча, паўплывалі на станаўленне яго як асобы, на яго мастацкую сістэму. Аднак імя Гётэ ў гэтым сэнсе амаль не згадваецца. Толькі ў кнізе Аркадзя Русецкага «Уладзімір Караткевіч: Праз гісторыю ў сучаснасць» гэтае імя гучыць — поруч са шматлікімі іншымі — у сувязі з раманам «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» [14, с. 61]. Між тым праблема рэцэпцыі філасофска-эстэтычных адкрыццяў вялікага немца ў творах беларускага пісьменніка заслугоўвае пільнай увагі.

Вядома, Караткевіч быў надзвычай усцешаны беларускім увасабленнем гётэўскага «Фаўста», здзейсненым В. Сёмухам, і ўхваліў пераклад у эсэ «І наш Фаўст» (1978): «Пераклад “Фаўста” — рэч, бадай, немагчыма складаная. Ісці па сцежках Гётэ — як на злом галавы. Дыхаць жыватворным, але высокім паветрам яго горных вяршынь можа не ўсякі… Я рызыкну сказаць, што пераклад такой рэчы — адзнака сталасці літаратуры, адзнака таго, што плынь яе нястрымная… Цяжкая праца выканана дасканала…» [7; 8, кн. 2, с. 407].

Пра тое, як многа значылі для Караткевіча творы Гётэ, менавіта «беларускі» Гётэ, «беларускі» «Фаўст», сведчыць сам пісьменнік: ён чытаў (яшчэ ў пачатку 1960-х) і першы варыянт перакладу трагедыі, і наступныя, і апошні — рэч «скончаную і адшліфаваную», у якой «перакладчык дасягнуў дзіўнага: з намі гаворыць вялікі Германец, але адначасова гэта гаворыць Беларус, што выказвае думкі Гётэ, як выказваў бы іх ён, але па-беларуску» [7; 8, кн. 2, с. 409]. Варта заўважыць, што, паводле ўласнага прызнання, Уладзімір Караткевіч юнаком марыў «калі-небудзь узяцца за яго (пераклад «Фаўста». — **Е. Л.**) самому» [7; 8, кн. 2, с. 407], і толькі з перакладам В. Сёмухі гэтыя планы адпалі.

Ёсць важкія падставы гаварыць пра ўплыў Гётэ і на ўласную мастацкую творчасць

Караткевіча, прычым, на розныя яе складнікі — ад філасофіі да паэтыкі. Паралелі з Гётэ даюць аб сабе знаць у такіх творах, як «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Ладдзя роспачы», у многіх вершах. Пры гэтым філасофска-эстэтычная блізкасць проста ўражвае. Безумоўна, вышэйназваныя і іншыя творы Караткевіча ў сэнсе прысутнасці ў іх гётэўскіх матываў заслугоўваюць асобнага разгляду; тут мы толькі заўважым, што раздзел «Чорная імша» з рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» цалкам можа быць пастаўлены побач са сцэнамі «Ноч Вальпургіі» з «Фаўста» Гётэ і «На замчышчы» са «Сну на кургане» Янкі Купалы як яшчэ адна надзвычай моцна напісаная карціна балявання нячыстай сілы, яшчэ адно ўвасабленне, гаворачы словамі з рамана, «ветру саміх стагоддзяў», «забыцця розуму і самога сябе», «вечнага полымя, шалёнага вечнага палёту самога жыцця». Нездарма раздзелу «Чорная імша» ў якасці аднаго з двух эпіграфаў папярэднічаюць словы з гётэўскага «Фаўста»:

Там, сярод высокіх гор,
Чвалам прэ вядзьмарскі хор [7; 6, с. 263].

Звернемся, аднак, да паэзіі Караткевіча, у прыватнасці, да яго верша «Старажытны беларус», напісанага ў 1984-м і апублікаванага ў 1986-м у кнізе «Быў. Ёсць. Буду». Але спачатку прыгадаем адзін са знакамітых вершаў (першую яго страфу) Гётэ:

Kennst du das Land, wo die Zitronen blühn,
Im dunkeln Laub die Goldorangen glühn,
Ein sanfter Wind vom blauen Himmel weht,
Die Myrte still und hoch der Lorbeer steht,
Kennst du es wohl?
Dahin! Dahin
Möcht ich mir dir,
o mein Geliebter, ziehn… [17, с. 67].

Па-беларуску верш перастраваўся неаднойчы; прывядзём тут пераклад Сцяпана Ліхадзіеўскага:

Ці знаеш край, дзе стаў лімон цвісці,
Палаюць апельсіны у лісці…
Дзе мяккі ветрык з-пад нябёс імчыць,
Высокі лаўр і ціхі мірт стаіць,
Ці знаеш ты?
Туды, туды
Хадзем з табой, мой любы, назаўжды! [9, с. 140].

**«Перакладчык дасягнуў дзіўнага: з намі гаворыць вялікі Германец, але адначасова гэта гаворыць Беларус, што выказвае думкі Гётэ, як выказваў бы іх ён, але па-беларуску»**

Як вядома, Гётэ напісаў верш у 1783—1784 гадах і змясціў яго ў рамане «Гады навучання Вільгельма Мейстэра» (1795). Публікаваўся верш і як самастойны твор у зборы вершаў Гётэ ў раздзеле «Балады» пад назвай «Mignon» («Міньён»; назву вершу дало імя персанажа з «Вільгельма Мейстэра», дзяўчыны-дзіцяці, абавязанай Вільгельму сваім выратаваннем, ахопленай каханнем да яго і самотай па радзіме). На наш погляд, топас менавіта гэтага верша пазнаецца ў вершы Караткевіча «Старажытны беларус». Спашлёмся на тыя радкі з яго, дзе актуалізуюцца менавіта матывы Гётэ:

…Маўчанне. Кнігу ў скуры рудай
Закрыў, бо перад ім — сцяна.
І сэнс жыцця, і хто мы, людзі,
Па кнігах не спазнаць да дна.
І усплываюць за парогам
Краін далёкіх міражы.
Як сэрца цягнецца ў дарогу,
Як прагнуць ногі зем чужых.
Туды! Туды! З няпэўнай картай.
Туды, каб рассудзіць спаўна,
Чым дрэнны чалавек і варты,
І з родным краем параўнаць…
…Прайсці праз горы, моры, логі
Нязнанай сотняй пуцявін
І зведаць золата, і Бога,
Й сем кліматаў чужых краін.
Калі ж абрыдне — Божа мілы! —
Пад лаўрамі чужынскі рай,
Прыдумаць бронзавыя крылы,
Каб адляцець у праўды край
І сесці й піць красу зямліцы,
Якой ты гонар, моц і шчыт,
Красу вунь той, сваёй званіцы,
Дзе ў бронзу гучна б'юць хрушчы [7; 1, с. 264].

Эстэтычная пераемнасць засведчылася тут нават у фармальна-відавочных, вербальна рэалізаваных адсылках да Гётэ: «Туды, туды…» у нямецкага паэта (у арыгінале «Dahin! Dahin…») і «Туды! Туды!» у бела-

**Меў рацыю нямецкі вучоны Ганс Аўэрсвальд, калі ў дыялогу з Алегам Лойкам канстатаваў: «Думаю, што ў беларусаў ёсць павышаная цікавасць да Германіі ўвогуле і да яе паэзіі ў прыватнасці»**

ускага; у агульных вобразах — сімвалах зямлі запаветнай: «край, дзе… / Высокі лаўр… стаіць…» («…hoch der Lorbeer steht…») у Гётэ і «Пад лаўрамі чужынскі рай…» у Караткевіча. Дастаткова і алюзійных, прыхаваных паралелей з Гётэ ў паэтыцы Караткевіча. У той жа час трансфармуюцца тэма і пафас твора; і праз назву верша, і праз змест у цэлым прыўносіцца беларуская ментальнасць, рэпрэзентуецца лёс беларускага народа і, рызыкнём меркаваць, яго канкрэтных аддаленых у часе прадстаўнікоў, гістарычных асоб, шукальнікаў «Ісціны на сей зямлі», Францыска Скарыны, напрыклад:

Спічасты строй гатычных вежаў.
Ў дубах старэнькая царква…
«Як чалавеку жыць належыць,
Скажы мне, мудрасці сава?»
На хаты ў прывідах вішнёвых
Глядзіць, і іх не бачыць ён…
«Хоць ты адкрый мне тое Слова,
Святы Настаўніка закон!
Адкрый не верай ці бязвер'ем,
Не так, як Мойзасу калісь,
Як зведаць Словам, Весам, Мерай,
Што Ісціна на сей зямлі?
Ў чым чалавечнасці адзнакі,
За кім ісці, каго маліць,
Ці багахульстваваць, ці плакаць,
Ці кнігі на стагнах паліць?»… [7; 1, с. 263].

Дарэчы, сусветная літаратура змяшчае ў сабе цэлы шэраг паэтычных рэцэпцый гётэўскага верша, сімволіка якога, у сваю чаргу, узыходзіць да біблейскіх матываў; вучоныя высветлілі, што пад яго ўплывам напісаў лірычную ўверцюру да сваёй паэмы «Абідоская нявеста» (1813) Д. Г. Н. Байран. Змест жа і пафас верша Уладзіміра Караткевіча вымушаюць згадаць гісторыю яшчэ адной беларускай — а менавіта купалаўскай — адаптацыі верша Гётэ. Даследчыкі не без падстаў лічаць, што верш Крашэўскага «Do***» («Znasz li ten kraj…»), перакладзены з польскай мовы Янкам Купалам, паводле аўтографа, у 1919-м і апублікаваны ў 1920-м, узыходзіць, у сваю чаргу, якраз да ўжо цытаванага ў перакладзе Ліхадзіеўскага верша Гётэ «Ці знаеш край…». Звернемся да купалаўскага перакладу:

Ці ты знаеш старонку,
Край магілаў, курганаў,
Дзе па небе ўдагонку
Ходзяць хмары, туманы;

Дзе крывёю, слязамі
Рэчка рэчаньку гоніць;
Поле ўкрыта касцямі,
Лес магільна гамоніць?

Край бяды, край напасцяў
Вабіць люд свой бадзячы;
Ён мілей нам ад шчасця,
Мы з ім, ён з намі плача [8, с. 412].

Відавочна, у вершы Крашэўскага і адпаведна ў купалаўскім перакладзе аказаліся зменелымі, згодна з задумай польскага творцы, не толькі форма гётэўскага верша, але яго змест і пафас: не сонечна-цёплы край палаючых апельсінаў і лімонаў, міртаў і лаўраў, а пахмурна-тумановая старонка магіл і курганаў «мілей ад шчасця» лірычнаму герою верша Крашэўскага, як і краса сваёй «зямліцы», «сваёй званіцы», «старэнькай царквы» і «хат у прывідах вішнёвых» мілей за «чужынскі рай» герою верша Караткевіча.

Складваецца ўражанне, што твор Караткевіча паяднаў, па-мастацку сінтэзаваў паэтыку ўласна гётэўскага верша і філасофію, настрой, пафас інтэрпрэтацый гэтага верша Крашэўскім і Купалам.

Яшчэ адзін прыклад верша Караткевіча, арыенцірам у стварэнні якога мог у пэўнай ступені паслужыць «Фаўст» Гётэ, і найперш вобраз Мефістофеля, — гэта верш «Дэман». Што «Дэман» у нейкай меры генераваны трагедыяй «Фаўст» нямецкага класіка, можна сцвярджаць з вялікай доляй верагоднасці. Верш апублікаваны ў 1984-м, але напісаны, паводле аўтографа, у сакавіку 1962-га, прыкладна тады, калі Караткевіч пазнаёміўся з першым варыянтам перакладу «Фаўста» на

беларускую мову Сёмухі. Зразумела, магчыма і іншае: верш беларускага паэта — не свядомае, так бы сказаць, «цытаванне» аднаго з бліскучых, складаных вобразаў трагедыі Гётэ, а плён таго, што Д. С. Ліхачоў назваў «канцэптасферай», а Ю. Лотман — «семіятычнай памяццю культуры». Няма сумнення, што, так ці іначай, вобраз Мефістофеля ўдзельнічаў у задуме Караткевіча. Дэман і гётэўскі Мефістофель надзвычай блізкія па сваёй мастацкай структуры: абодва — багаборцы, абодва — істоты дваістыя. Вядома, што менавіта Мефістофель прыцягваў увагу Караткевіча — найбольш з усіх персанажаў трагедыі Гётэ, бачыўся Караткевічу найвялікшай удачай перакладчыка Сёмухі. І, нарэшце, менавіта як істоту дваістую, нахабную, з'едліва-зласлівую, але адначасова і дзёрзка-вясёлую, нават дабрачынную — найперш сваімі правакацыямі на пошук, на рух — акрэсліць Караткевіч гётэўскага Мефістофеля ў эсэ «І наш Фаўст»: «Сапраўдны іронік, хітруга, сафіст, цынік — і істота, якая чыніць дабро. Уладар дзіўнай, але цалкам натуральнай дыялектыкі: жыць — каб адмаўляць. Частка цемры, якая спарадзіла святло… ён — гэта скепсіс, гэта адмаўленне старога, пробны камень чалавечай думкі і стымулятар чалавечага поступу, а значыць, неабходная частка нас саміх» [7; 8, кн. 2, с. 410—411]. Згадаем словы, якія мы чуем з вуснаў самога Мефістофеля ў адказ на пытанне Фаўста «Дык хто ж ты?»:

…Частка сілы той ліхой,
Дабро ўтвараецца з якой…
Я — дух, што адмаўляе вечна!
І маю рацыю, бо ўсё жывое ў свеце
Ператвараецца ж у смецце,
То лепш няхай яго б і не было.
А што для вас — грахі ліхія,
Знішчэнне, страта, проста зло —
Ёсць родная мая стыхія…
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Як частка часткі, што калісь Усім была,
Я частка цемрадзі — прычыннасці святла…
[4, с. 53—54].

Канцэптуальна важна, што Дэман у Караткевіча таксама з'яўляецца двайніком чалавека, «неабходнай часткай нас саміх»:

Позняю ноччу з бяссілымі зорамі стылымі,
Калі ў глыбокіх дварах паміраюць вятры, —
Сеў на акно чалавек з кажановымі крыламі,
Месяц і зоры гусцеючым ценем закрыў.
Складваў і знову выпростваў ён крылы маўклівыя,
З іх вандраванняў міжзорных сцышчаючы пыл.
Крылы як веер былі, як паніклыя косы алівы,
І як пагаслых ад стомы камет пацьмянелых снапы.
— Хто ты? — спытаў у яго.
— А нашто табе ведаць аб гэтым?
— Што ты?
— Я кветка і зорка. Пагоня і бег.
— Зараз адкуль?
— Я… забыўся на тыя планеты,
Дзе абпякаў мае крылы агонь,
дзе завейваў іх снег.
— Што ты пабачыў?
— Тупых катаклізмаў раскаты,
Зло і пяшчоту, пажар і спакойны заліў. —
Ўсё гэта можна пабачыць на гэтай праклятай,
На благаслаўлёнай, на сонечна-змрочнай зямлі…
[7; 1, с. 293—294].

У адказ на роспачную просьбу суразмоўца аб «збавенні», выратаванні ад невыноснай «ледзяной самоты ўсяведання» нават узамен на «сэрца, што гіне ў агні», на «строфы, што разумеюць усё і нічога не могуць змяніць», Дэман вяртае яго да рэальнасці, да яго сапраўдных, ісцінных памкненняў і — спрабуе ўмацаваць падупалы дух Творцы: «Лепшаю песняй тваёй стала пакута твая. / Мужна ў цемру глядзі і трызні аб вечнай радзіме, / Трызні аб шары зямным і пакутвай далей і далей, / Пакуль не згасла зямля…» [7; 1, 294].

Паўторымся: рэцэпцыя Уладзімірам Караткевічам гётэўскай спадчыны вельмі важкая і чакае далейшага вывучэння. Відавочна і тое, што Караткевіч — далёка не адзіны беларускі мастак слова, які зведаў уплыў гётэўскага генія на свае эстэтычныя пошукі. Асабліва адчувальная філасофска-эстэтычная прысутнасць Гётэ ў беларускай літаратуры, культуры ў апошнія тры дзесяцігоддзі. Меў рацыю нямецкі вучоны Ганс Аўэрсвальд, калі ў дыялогу з Алегам Лойкам канстатаваў: «Думаю, што ў беларусаў ёсць павышаная цікавасць да Германіі ўвогуле і да яе паэзіі ў прыватнасці», як меў рацыю і Алег Лойка, калі гэту з'яву ў Беларусі растлумачыў наступным чынам: «…без Ё. В. Гётэ і Ф. Шылера нельга ж адчуваць сябе ў паэзіі самазацвярджаным. Таксама ж думаць, што беларуская паэзія можа мець

будучыню без вяртання да Гётэ, Шылера, а цераз іх у Адраджэнне, у антычнасць — гэта самагубства» [13, с. 100]. Словы гэтыя сугучныя сказанаму Караткевічам: «Не можа паўнакроўна жыць літаратура без Шэкспіра, Дантэ, Гётэ, якія гучаць на яе мове» [7; 8, с. 407].

Дарэчы, Алег Лойка, тлумачачы прычыны ўласнага звароту да паэзіі Гётэ, канстатаваў не толькі сваю перакладчыцкую цікаўнасць, але і больш шырокую, імпульсаваную творчымі пошукамі: «З перадумоў памятаю цягу да балад Гётэ, да яго рамантызму, а, па-другое, цераз Гётэ я шукаў дарогі ў свет блізкаўсходняй паэзіі. Мяне вельмі цікавіў той мост, які еўрапеец Гётэ перакінуў на Усход сваім «Заходне-ўсходнім дыванам. З беларусаў у гэтай цікавасці я, відаць, быў першы, і мне як чалавеку ўвогуле імпанавала і імпануе агульналюдскасць паэзіі Гётэ…» [13, с. 102—103].

Эстэтыка Гётэ дала аб сабе знаць не толькі ў перакладах яго твораў, але і ў арыгінальных вершах шэрагу сучасных беларускіх паэтаў.

Варта дадаць: Гётэ актуальны для нас і таму, што мы, як і ён, жывём на зломе эпох, на скрыжаванні тысячагоддзяў, у часе крызісным, калі асабліва моцна адчуваецца патрэба ў апірышчы, ва ўпарадкаванні свядомасці, уяўленняў пра мінулае і будучае. Сёння, у час суцэльнай глабалізацыі, усё выразней і актуальнасць разваг Гётэ пра «сусветную літаратуру». Згадаем словы Вячаслава Іванава: «Сапраўды можа падацца, што, падводзячы з Шылерам рахункі свайму вялікаму стагоддзю, Гётэ, сам таго не ведаючы, узіраўся скрозь імглу новага стагоддзя ў далёкія праблемы нашых дзён.

Насамрэч, аглядаючы ўсю велізарную дзейнасць гэтага па-звышчалавечаму ўмяшчальнага жыцця, мы бачым, што, сілкуючы і пераўтвараючы сучаснасць, ён разам з тым ставіў пытанні, сам сэнс якіх сучаснасць яшчэ не цалкам разумела, і часткова ўжо даваў адказы на яшчэ не пастаўленыя часам пытанні», бо «з самага пачатку не час валодаў ім, а ён часам» [6, с. 240]. Сярод творцаў, якія выдатна разумелі гэта, быў і Уладзімір Караткевіч.

**БІБЛІЯГРАФІЯ**


1. Багдановіч, М. Поўны зб. тв.: у 3 т. — Мінск, 1993. — Т. 2.
2. Верабей, А. Абуджаная памяць: Нарыс жыцця і творчасці Уладзіміра Караткевіча. — Мінск, 1997.
3. Выхота, В. «Новая зямля» Якуба Коласа: тыпалагічнае супастаўленне з паэзіяй Гётэ // Кантакты і дыялогі. — 1999. — № 7—8.
4. Гётэ, Ё. В. Фаўст / пер. В. Сёмухі. — Мінск, 1991.
5. Гісторыя беларускага тэатра. — Мінск, 1983. — Т. 1.
6. Иванов, В. Родное и вселенское. — М., 1994.
7. Караткевіч, У. Зб. тв.: у 8 т. — Мінск, 1987, 1990, 1991. — Т. 1, 6, 8 (кн. 2).
8. Купала, Я. Зб. тв.: у 7 т. — Мінск, 1974. — Т. 4.
9. Ліхадзіеўскі, С. Берасцянка жывых трывог. — Мінск, 1962.
10. Лойка, А. Гісторыя беларускай літаратуры: Дакастрычніцкі перыяд: у 2 ч. — Мінск, 1980. — Ч. 2.
11. Мальдзіс, А. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: Партрэт пісьменніка і чалавека. — Мінск, 1990.
12. Навуменка, І. Янка Купала: Духоўны воблік героя. — Мінск, 1967.
13. На шляху да абагульненняў: Дыялог Г. Аўэрсвальда і А. Лойкі // Ф. Шылер. Улада песняспеву / пер. А. Лойкі. — Мінск, 1997.
14. Русецкі, А. Уладзімір Караткевіч: праз гісторыю ў сучаснасць: Нататкі літаратурнай творчасці. — Мінск, 2000.
15. Соколовский, В. К истории немецко-белорусских литературных связей // Weissrussland und der Westen: Beitrage zu einem internationalen Symposium in Munster. Dresden, 1998.
16. Тарашкевіч, Б. Выбранае: Крытыка, публіцыстыка, пераклады. — Мінск, 1991.
17. Herz, mein Herz, was soll das geben? Goethes schönste Gedichte. Berlin und Weimar, 1992.

# «А ЦЁЦІ ЖЭНІ І МАЛЬДЗІСЁНКУ НІЧОГА НЕ ВЕДАЮ, ШТО КУПІЦЬ»

***З просьбай прадаставіць для публікацыі ў гэтым нумары «чаго-небудзь цікавага з хатняга архіва» рэдакцыя «М» звярнулася да пляменніцы Уладзіміра Караткевіча Алены Сінькевіч. З вялікай падзякай да яе друкуем тут адзін цікавы ліст з тлумачэннямі самой Алены Іванаўны.***

У хатнім архіве захавалася некалькі лістоў Уладзіміра Сямёнавіча да жонкі Валянціны Браніславаўны. Яны будуць апублікаваны ў Зборы твораў Уладзіміра Караткевіча, некалькі тамоў якога ўжо выйшлі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

У 1979 і 1980 гадах пісьменнік адпачываў у санаторыі «Беларусь» у Друскеніках (Літва). Вядома ж, ён не толькі лячыўся («гразь на рукі і на ногі, вада брыдкая, як сто грахоў, жамчужныя ванны, гімнастыка»), але і працаваў, гуляў па наваколлі: хадзіў ў Ротніцу (Ратнічай) на могілкі, дзе пахаваны Ян Чачот, быў у музеі Чурлёніса, любіў гуляць у парку і частаваць вавёрак ці любавацца краявідамі, ездзіў на экскурсію ў Коўна (Каўнас).

У розных сваіх паездках і вандроўках Уладзімір Сямёнавіч набываў паштоўкі з выявамі тых мясцін, архітэктурных помнікаў, прыгожых краявідаў. І на гэтых паштоўках любіў пісаць пісьмы. Сустракаюцца лісты на двух, трох, нават дзесяці паштоўках.

Ліст, які прапануецца ўвазе чытача, напісаны на пяці паштоўках з выявамі Вільні, Трокаў, Друскенікаў. Асобна падаецца апісанне магілы і помніка Яну Чачоту. У канверт укладзены таксама два каляндарыкі з выявамі касцёла Святой Ганны ў Вільні і замка ў Троках.



*«Любіў гуляць у парку і частаваць вавёрак».*

*15 ліпеня 79 г.*
*Друскенікі*

*Валюшэнцыя!*

*Толькі што пазваніў табе, а прыйшоў дамоў і выявіў, што канверт надпісаны, што паштоўкі ў ім ляжаць і нават два каляндарыкі на 1980 г. з Ганнай і замкам у Троках. Значыць, трэба сядаць і пакутна старацца нешта выціснуць з сябе новага, аб чым яшчэ па тэлефоне не сказаў.*

*Я ўжо скончыў пазаўчора свае ванны, учора прыняў апошнюю гразь. Застаецца толькі вада, якую і стану не спяшаючыся піць. Яна ўжо зусім не здаецца мне брыдкай, прывык. І ведаеш, трэба неяк сюды прыехаць яшчэ, прамыць і тваю печань. Глядзіш, будзе ўсё ж нейкая карысць. А гарадок вельмі прыемны. Каб толькі не было столькі дурных, як дарога, «гаспадароў жыцця вакол». <...> Але трапляюцца і цікавыя людзі. З адным мы ўчора прагаварылі да ночы, нягледзячы на нудную і безнадзейную маю цвярозасць.*

*А лепей, калі няма ні тых, ні іншых. Пешшу вяртацца з Ратнічай, сядзець над Нёмнам, піць каву ў драўлянай кавяраньцы на беразе між хвояў (шкада, што не маю*

*права нават на малы каньяк), думаць вечарам аб розных рознасцях. Мабыць, добра тут жоўтай восенню, хаця я цяпер, можа, і не наважыўся б на асенняе плаванне, як тады ранняй ялцінскай вясной. Думаю, трэба будзе ў Празе купіць некалькі берэтаў маім рыбакам[1]. Прыдасца ў Піцундзе, калі толькі буду здаровы. Пакуль што — цьфу-цьфу-цьфу! — крыху кідаецца на гэта.*

*Добра, што вычытала карэктуру. А за «нічога» наб'ю па тоўстай пане, калі вярнуся. Сапсула сабе густ на пусцяковых дэтэктывах, дык калі трапіцца нешта новае, то глядзіш на яго, як «калёва» на Вострую Браму.*

*Другі раз быў у Ратнічай. Пасадзіў і паставіў кветкі Чачоту. Слухай, а чаму б вам не ўключыць (няхай у дадатках) у «Звод»[2] такія рэчы, нават калі яны ў другіх рэспубліках (домік Багдановіча ў Ялце, магілы яго і Чачота і г. д.). Слова гонару, трэба было б прапанаваць. Падумай. А зрабіць абмеры не штука. Калі гэта так — скажы мне па тэлефоне, калі пазваню ў чацвер. Па-мойму, гэтыя боты варта шыць.*

*Пачкі вышлю ў аўторак. Там будзе і пара падарункаў розным людзям. І табе. А цёці Жэні[3] і Мальдзісёнку[4] нічога не ведаю, што купіць. Мо цукеркі і цётцы частку маленькую грыбоў? Гэта было б прасцей за ўсё.*

*Сёння іду ў кіно.*

*Хлеба нейкага ў Вільні куплю. Цягнік стаіць паўтары гадзіны, пакуль перачапляюць вагон, і дзеля гэтай зручнасці да Сергіевіча[5], відаць, не зайду, а з'езджу ўжо з Мінска. Можа, нават разам з'ездзім. Ты па магазінах, а я да яго. Цябе, відаць, браць да яго не трэба. Відовішча не з вясёлых. Хаця ты яго не памятаеш вельмі жывым і рухавым.*

*Ну вось, зараз іду піць ваду, пасля вячэраць, пасля швэндацца і спаць. Чамусьці вельмі стамляюся. Ці то паветра і хаджу многа, ці яшчэ што. Словам, буду на гэтым канчаць. Цалую.*

*Уладзімір*



Той, хто з мячом - сам згіне з наругі,
Той, хто з агнём - сам ганебна згарыць:
Цугляў чужынскіх, чужынскай пугі
Коннік не знае на Браме Зары.

На апошняй паштоўцы з выявай Вострай Брамы ў Вільні напісаны верш:

Той, хто з мячом, — сам згіне з наругі,
Той, хто з агнём, — сам ганебна згарыць:
Цугляў чужынскіх, чужынскай пугі
Коннік не знае на Браме Зары.

*У Ратнічах пара сот магіл «невядомых» і адна вядомая, але магілкі ў такой чысціні і парадку, што пазайздросцілі б і Нова-Дзевічыя. Касцёл не стары, можа XIX ст., але статуі ёсць цікавыя (нязручна было разглядаць, бо гаварыў з пробашчам).*

*Помнік — каменны куб на некалькіх плітах, а наверсе урна з крыжам. Надпісы: на ўсходняй грані куба*

*Jan Czeczott*

*На паўдзённай:*



---

[1] У час адпачынку на Чорным моры Уладзімір Сямёнавіч звычайна хадзіў у мора з рыбакамі.

[2] «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», у склад рэдкалегіі якога ўваходзіла В. Б. Караткевіч.

[3] Яўгенія Васільеўна Усюкевіч — цётка Уладзіміра Караткевіча.

[4] Сын Адама Восіпавіча Мальдзіса.

[5] Пётра Сергіевіч (1900—1984) — беларускі мастак, жыў у Вільні.

1

У Ратнічах пару сот магіл „невядомых"; адна вядомая, але могілкі ў такой чысціні і парадку, што пазайздросцілі-б і Нова-Дзевічося.




Касцёл не стары, можа XIX ст., але статуі ёсць цікавыя (нязручна было разглядаць, бо гаварыў з пробашчам).

Помнік – каменны куб на некалькіх плітах, а наверсе урна з крыжам.

Надпіс: на ўсходняй грані куба

Jan Czeczott

На паўдзённай:



На заходняй:

Umarł 1846 roku
Sierpnia 11 dnia.

А на паўночнай вершы. Не памятаю, ці памылкі каменераз зрабіў, ці я, робячы копію:

Młodość poświęcił pracy dla nauk i cnoty
Wiek męzki przetrwał mężnie w probach i cierpieniu,
Miłość Boga i bliźnich – treść jego istoty,
Cały ciąg życia jego – droga ku zbawieniu.

Imie iego w Oyczyznie jest wiecznie związanem
Z Adamem Mickiewiczem i Tomaszem Zanem
Kto wiez czem oni byli – schyl ckroń przed tym głazem
Pomyśl, westchy(?), a modl się za wszystkich trzech razem.

Прынёс я туды кветкі.

І пасадзіў кветкі таксама. Паліў. А тут ідуць дажджы, то можа прыжывуцца і без маёй рукі.




*На заходняй:*
*Umarl 1846 roku*
*Sierpnia 11 dnia*
*А на паўночнай вершы. Не памятаю, ці памылкі каменярэз зрабіў, ці я, робячы копію:*

*Mlodość poświęcił pracy dla nauk i cnoty,*
*Wiek męzki przetrwał mężnie w probach i cierpieniu,*
*Miłość Boga i bliżnich — treść jego istoty,*
*Cały ciąg życia jego — droga ku zbawieniu.*
*Imie jego w Oyczyznie jest wiecznie związanem,*
*Z Adamem Mickiewichem i Tomaszem Zanem.*
*Kto wiez czem oni byli — schyl skroń przed tym głazem,*
*Pomyśl, westchy (?), a modl sie*
*za wszystkich trzech razem*[6].

*Прынёс я туды кветкі.*

*І пасадзіў кветкі таксама. Паліў. А тут ідуць дажджы, то, можа, прыжывуцца і без маёй рукі.*

*Вось табе і справаздача. А мерку, якую зняў, недзе згубіў. А фота зрабіў, будзе ў Мінску.*

---

Эпітафія Антона Эдварда Адынца даецца ў перакладзе Кастуся Цвіркі:

Сваю маладосць ён аддаў для навукі і Цноты
За век свой ён зведаў і холад, і змрок сутарэння.
Спагада да бліжніх —
вось існасць ягонай істоты,
Цяжкое жыццё яго ўсё — гэта шлях да збавення.
Імя яго будзе ў краіне навекі звязана
З Адамам Міцкевічам, з іменем Томаша Зана.
Хто ведаў яго — перад каменем гэтым схіліся,
Пастой, памаўчы і за ўсіх за траіх памаліся.



***Падрыхтоўка да друку і публікацыя Алены СІНЬКЕВІЧ***

ГАЛІНА СТРАЛЬЦОВА

# А РАНЕЙ БЫЎ БЫ ДВУБОЙ

У той час мы былі суседзямі. Саюз пісьменнікаў вылучыў сваім маладым членам, у тым ліку і майму мужу Міхасю Стральцову, кватэры ў непрэзентабельным доме № 7 па вуліцы Чарнышэўскага. Так мы апынуліся ў адным пад'ездзе з Чэсем Адамчыкам і Валодзем Караткевічам.

У нас з Адамчыкам былі аднолькавыя двухпакаёвыя кватэры, а ў Караткевіча — аднапакаёўка.

Кватэры былі невялікія, з маленечкімі кухнямі, куды выходзілі дзверы з лазенкі, але ў той жа час з паркетам, на нашае здзіўленне і радасць. Тады нам гэта здавалася вялікім шчасцем.

Мець асобную кватэру, сысці з вялікай сям'і, выбавіцца з-пад пастаяннай і дакучлівай бацькоўскай апекі… Гэта шмат чаго было варта.

Мы былі маладыя, самаўпэўненыя, безразважныя.

Мы будавалі сваё жыццё. І радаваліся. Радаваліся працы, дзецям, поспехам, свайму маладому шчасцю.

Шчасце — гэта не вонкавыя атрыбуты. Шчасце — гэта стан душы.

Гэта былі лепшыя часы ў нашым жыцці. Праўда, тады мы думалі па-іншаму, чакалі ад жыцця новых, нейкіх надзвычайных выгод, якія пазней прыйшлі да нас, але шчасця не дадалі.

Але тады мы гэтага не разумелі.

І ніхто не разумеў.

Усе мы пастаянна бачыліся, збіраліся то ў адной, то ў другой кватэры.

Часцей за ўсё размовы ішлі на літаратурныя тэмы. У кожнага было сваё меркаванне, і кожны цвёрда стаяў на сваім. Часам спрэчкі дасягалі такой напругі, што толькі ўдзел жанчын і чарговая філіжанка кавы, якую выдатна гатавала Ніна Адамчык, маглі крыху суцішыць жарсці.

Здаралася, пасля шумных дэбатаў мы ўсе разам выпраўляліся на шпацыр, часцей за ўсё глыбокай ноччу.

Улюбёным маршрутам нашых прагулак былі парк Чалюскінцаў і Батанічны сад.

А раніцай жа ўсім трэба было ісці на працу!

Але больш за ўсё мы любілі слухаць Валодзю Караткевіча. Ён быў найвыдатнейшы апавядальнік. Нарадзіўшыся ў краіне замкаў, ён увабраў у сябе ўсю рамантыку мінуўшчыны. Ён пераносіў нас у свет дзіўных вобразаў: дэспатычныя князі і прыўкрасныя князёўны, таямніцы замкавых вежаў і сутарэнняў авалодвалі нашым уяўленнем. Шмат што з таго, апавяданага, адлюстравалася потым у ягонай творчасці.

Валодзя не заўсёды прымаў удзел у нашых фокусах. Часам ён замыкаўся ў сваёй кватэры і нікому не адчыняў. Усе ведалі, што ў гэты час ён працуе і не варта яго непакоіць.

З ім разам тады жыла ягоная мама.

Адным такім вечарам, калі мужчыны ў чарговы раз абмяркоўвалі літаратурныя праблемы, мы з Нінай селі ў спачывальні, маленькім пакойчыку, дзе змясціліся толькі тахта, двухстворкавая шафа і мініяцюрны сакрэтэр, які служыў адначасова камодам, пісьмовым і прыбіральным сталом. Адзіны стул-банкетка стаяў ледзь не ў цэнтры пакойчыка.

У нас была важная справа. Мне трэба было намераць свежанабыты пеньюар, прывезены з Германіі жонкай афіцэра, маёй добрай знаёмай.

Цяпер нават цяжка і расказаць, што азначаў для нас, дзяцей вайны і пасляваеннага жорсткага дэфіцыту, падобны набытак.

Мы прагна ўбіралі рамантыку даваенных і пасляваенных амерыканскіх кінастужак,

**Часам спрэчкі дасягалі такой напругі, што толькі ўдзел жанчын і чарговая філіжанка кавы, якую выдатна гатавала Ніна Адамчык, маглі крыху суцішыць жарсці**

чароўных фільмаў-казак, дзе ў фінале прыгожая гераіня зазвычай з'яўлялася ў казачна шыкоўным строі. Для нас гэта было адначасова эталонам, школай прыгажосці і недасягальнай марай.

Убачыла гэтую бірузовую нейлонавую пену ў карунках і валанах, і ў мяне адняло мову. Толькі і змагла выдыхнуць: «Ах! Колькі?» Сапраўды, унутры кожнай жанчыны жыве Элачка-Людаедка!

Мой адбітак у люстэрку сказаў, што гэтую новую фею павінны ўбачыць усе. Дадала ў валасы бліскучую, з чэшскімі стразамі шпільку — для пэўнасці.

Рэакцыя мужчын была адназначная: хтосьці абарваў фразу на паўслове, хтосьці замёр з філіжанкай кавы ў руцэ.

Нядаўнія вясковыя хлопцы не прывыклі да такіх карцін.

Мяне больш за ўсё цікавіла рэакцыя Міхася. Пачатковае захапленне ў ягоных вачах паступова змянілася на незадаволенасць: ён не любіў, калі чужыя мужчыны, хай нават сябры, разглядалі ягоную жонку.

Няёмкасць развеяў Чэсь: «А давайце разыграем Івана (Чыгрынава. — **А. С.**). У яго сёння жонка з'ехала ў адпачынак. Ён цяпер адзін».

Прапанова была прынята аднагалосна. Праўда, Міхась успрыняў яе без энтузіязму.

Іван Чыгрынаў і ягоная Люда былі нашымі сябрамі. Іван таксама атрымаў кватэру ад Саюза пісьменнікаў, але крыху пазней за нас. Таму ягонае жыллё было на парадак вышэйшае за нашае. Ён жыў на тагачаснай Паркавай магістралі, у элітным доме, у трохпакаёвай кватэры. Адзін хол чаго быў варты: з вокнаў адкрываўся від на Траецкае прадмесце, Свіслач і сабор.

А ў Івана быў яшчэ і кабінет — мара кожнага маладога пісьменніка. Нашы «бескабінетнікі» нават зайздросцілі яму.

Гаспадары імкнуліся адпавядаць сваёй кватэры. Іван з гонарам дэманстраваў спіс нарыхтовак на зіму, прыклеены да ўнутранага боку дзверкі кухоннай шафы.

Дарога не падалася нам доўгай. Начны горад жыў сваім жыццём. Дзённая гарачыня змянілася на прахалоду. Пахла ліпавай квеценню. Ад нагрэтых за дзень асфальту і дамоў павявала цяплом. Вуліцу перабегла чорная котка, і мы палічылі гэта добрым знакам.

Прыдумалі план дзеянняў. Я павінна была з'явіцца перад Іванам як ахвяра мужа-тырана. Пеньюар меў не апошняе значэнне. Пакуль што наверх быў накінуты цёмны плашч. Па дарозе здарылася і непрыемнасць: парваўся раменьчык у басаножцы.

Вось і мэта: стаю перад дзвярыма ў кватэру, усе астатнія схаваліся пад лесвіцай. Націскаю на званок, потым яшчэ і яшчэ. Нарэшце за дзвярыма чуецца незадаволены голас: «Каго гэта яшчэ прынесла ў такі час?!»

Іван у шоку адступае на крок. Босая, трымаючы басаножкі ў руках, з растрапанымі валасамі, у шыкоўным пеньюары, я і сапраўды магла паходзіць на ахвяру сямейных разборак.

Іван не ведаў, як мяне суцешыць. Ён выставіў на стол усё, што засталося ад развітальнага абеду з жонкай: распачатую бутэльку балгарскага віна «Гамза», аплеценую івай; каўбасу і сыр на талерцы, халадзец у місе. Падумаўшы, дадаў спадачак з карамелькамі.

Я адмовілася ад пачастунку, папрасіўшы толькі вады. І яшчэ я сказала, што вельмі стамілася і хачу спаць.

**Рэакцыя мужчын была адназначная: хтосьці абарваў фразу на паўслове, хтосьці замёр з філіжанкай кавы ў руцэ. Нядаўнія вясковыя хлопцы не прывыклі да такіх карцін**

«Кладзіся ў спачывальні, а я ў кабінеце лягу», — сказаў ён. Убачыўшы шчырую Іванаву спагаду, я нават адчула згрызоты сумлення.

І тут у дзверы пазванілі. Іван скалануўся і спалохана паглядзеў на мяне. Званок паўтарыўся і прагучаў яшчэ больш настойліва.

— Хто там? — збянтэжаным голасам прыхрыпеў Іван і паспрабаваў прыбраць са стала ежу і асабліва бутэльку.

«Ваня, гэта я, Люда, забылася пашпарт і ключы. Адчыняй!»

Гэта, пераймаючы голас чыгрынаўскай жонкі, гаварыла Ніна. Іван не заўважыў ад хвалявання сваёй памылкі, бо знаходзіўся далекавата ад дзвярэй, хаваючы рэчавыя доказы.

«Чакай, Люда, я толькі апранушя», — Іван слаба разумеў, што ён гаворыць.

Але ў гэты час пачаўся страшэнны грукат. У дзверы ўжо не званілі, а калацілі рукамі. «Я зараз вынесу гэтыя дзверы. Адчыняй! Я ведаю, што ты хаваеш маю жонку!» Праз дзверы пачуліся дзіўныя гукі, ці то плач, ці то прыдушаны смех.

Іван забегаў па пакоі, не ведаючы, куды мяне падзець. Я ў гэты час удавала, што губляю прытомнасць, закрылася рукамі, каб ён не бачыў майго твару, і скрозь пальцы назірала за ім.

Зразумеўшы ўсю безнадзейнасць свайго становішча, Іван махнуў рукой і пайшоў адчыняць.

Першай ягонай рэакцыяй на задаволеныя вясёлыя твары было кінуцца на іх і спусціць з лесвіцы. Але ўся кампанія са смехам разбеглася.

Іван выскачыў на вуліцу. Паступова гнеў змяніўся пачуццём радасці: як добра, што ўсё на гэтым скончылася. Іван ведаў цану гумару і дараваў сябрам розыгрыш.

Неўзабаве ён з’явіўся з кветкамі ў руках, нарваў іх у суседнім скверы. Падзяліўшы кветкі напалам, адну палову ўручыў мне, а другую Ніне: за добрае акцёрскае майстэрства.

На знак прымірэння дапілі віно, добра, што Іван не забыў, куды ён схаваў бутэльку.

Ліпеньская ноч кароткая. Ужо віднела. Начаваць засталіся ў Івана. Мы з Нінай улегліся ў спачывальні, а астатнія — хто дзе змог. Мы былі маладыя і не надта патрабавальныя.

**Дзённая гарачыня змянілася на прахалоду. Пахла ліпавай квеценню. Ад нагрэтых за дзень асфальту і дамоў павявала цяплом. Вуліцу перабегла чорная котка, і мы палічылі гэта добрым знакам**

На гэтым можна было б паставіць кропку, але думаю, што невялікі працяг дадасць пару штрыхоў да партрэтаў маіх дарагіх сяброў, бо хто яшчэ можа вярнуць з нябыту той час і іх саміх, такіх бесклапотных.

Позна ўстаўшы, мы пайшлі на возера. Я пераапранулася ў сукенку Люды. Паелі ў кавярні ля возера, потым узялі лодку і паплылі на выспу, дзе гнездавалі качкі. Увесну тут заўсёды пяюць салаўі.

Мы былі поўныя ўражанняў мінулай ночы: зноў і зноў прыгадвалі некаторыя эпізоды і паказвалі іх у асобах. Імкнучыся перайграць адно аднаго, былі адначасова аўтарамі, рэжысёрамі і выканаўцамі.

Вось Міша, страшна выкаціўшы вочы і цягнучыся скурчанымі пальцамі да майго горла, гукае: «Поела ли ты на ночь, Ездемона?» «О, не души, я лучше утоплюсь», — і кідаюся ў ваду. Вось Ніна ў ролі пакрыўджанай жонкі ўздымае рукі да неба: «Где справедливость, где? Еще постель тепла, а на пороге уж другая появилась!»

Але найбольш смеху было ад сцэнкі, дзе Іван бегае па пакоі то хапаючыся за галаву, то за сэрца, спрабуючы схаваць то мяне, то бутэльку. «Зачем, зачем меня ты не спасла, я от тебя навеки отрекаюсь», — і закідвае бутэльку ў кустоўе.

Імправізуючы такім чынам, мы рагаталі так, што праз нейкі час зняможана зваліліся на траву і не маглі вымавіць ані слова.

Калі верыць, што смех падаўжае жыццё, то той дзень дадаў нам колькі часу, а каму колькі — невядома.

*Падрыхтоўка да друку і публікацыя*
*Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА*

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ І ЛІДА

***(вельмі скарочана, але інфармацыйна; лаканічна, але досыць яскрава)***

***Перад Першай сусветная вайной у Лідзе жыло 16 000 чалавек. Горад меў два бровары — Папірмайстра і Пупко, спіртзавод Стругача, тартак Палячака, ліцейны завод братоў Шапіраў, тытунёвую фабрыку Віленчыка, фабрыку па вырабе мыла Кіveловіча, фабрыку разліву манапольнага алкаголю, шмат крам і аптовых складаў. З фінансавых устаноў у горадзе меліся: Таварыства ўзаемнага крэдыту, Яўрэйскі супольны банк, Банкаўская кантора Янушкевіча...***

### Войскі

Асабісты склад 172-га пяхотнага Лідскага палка часткова кватараваў у прыватных наёмных дамах, часткова размяшчаўся ў маёнтку Несікаўшчына пад Лідай, у мястэчку Беліца і нават у Алькеніках. Кожны год 28 мая полк выязджаў у летні лагер пад Араны, адкуль вяртаўся звычайна 28 верасня.

У 1908—1912 гадах на землях, падораных горадам, ваенная будаўнічая камісія на чале з генерал-маёрам Каннабіхам пабудавала для лідскага палка прасторныя і на той час добра абсталяваныя казармы. На будаўніцтве выкарыстоўвалі цэглу з закрытага царскімі ўладамі шматпакутнага кляштара кармелітаў, разбураны будынак якога знаходзіўся насупраць Фарнага касцёла. У 1912 годзе полк перасяліўся ў новыя казармы[1].

Цікава, што ў 1915 годзе менавіта ў 172-м палку шарагоўцам пачынаў службу будучы сталінскі кат Мікалай Яжоў[2].

Паходная палкавая царква Святой Тройцы заснавана ў 1892 годзе. Пасля пераходу палка з прыватных наёмных казармаў у новыя казармы за горадам, палкавая царква ўладкоўвалася ў сталовай батальёна. Па штаце пры царкве быў адзін святар.

У 1906 годзе з Далёкага Усходу ў Ліду была пераведзена 9-я паветраплавальная рота, якая першапачаткова дыслацыравалася ў прыватных хатах па вуліцы Віленскай, каля праваслаўных могілак. У Лідзе размяшчаліся 2 аэрастаты, 2 газгольдары, лябёдка і 3 павозкі з прыстасаваннем для пад'ёму. У 1910 годзе вайсковая будаўнічая камісія на выкупленых скарбам у Яна і Міхаіла Садоўскіх у маёнтку Перапечыца землях пад кіраўніцтвам генерал-маёра Каннабіха пабудавала казармы і іншыя пабудовы, у тым ліку вялізны элінг для дырыжабляў — драўляны на металічным каркасе[3].

Пасля пабудовы аэрадрома, тут размясцілася 3-я Паветраплавальная рота, на ўзбраенні якой стаялі 4 дырыжаблі мяккага тыпу: «Альбатрос», «Астра», «Голуб» і «Грыф».

У красавіку 1911 года каталіцкая газета «Беларус» паведаміла пра падзеі на лідскай авіябазе: «*Ліда. Па прыгавору Віленскага Ваеннага Суду — у Лідзе расстралялі салдата Формана затое, што ён забіў афіцэра Пахойкіна, каторы адмовіў просьбе салдата пайсці ў горад»*[4]. Другая беларуская газета *«Наша Ніва»* трошкі падрабязней расказала пра гэта экстраардынарнае здарэнне: *«Віленскі ваенны суд разглядзеў пры зачыненых дзвярах справу салдата лятучага атраду ў Лідзе, Формана, абвінавачанага ў тым, што ён забіў афіцэра Похойкіна. Прычынай забойства было тое, што Пахойкін не дазволіў Форману пайсці на шпацыр у горад.*

---

[1] Szymielewicz Michał. Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. s. 7—12.

[2] http://forum.vgd.ru/174/39428/

[3] Савук Антось. Лідскі вайсковы аэрадром (1907—1915) //Лідскі Летапісец № 16.

[4] Biełarus № 13, 11 красавіка 1913.




*Вуліца Віленская, за спінай — перакрыжаванне Віленскай і Каменскай (сучасныя Савецкая і Ленінская), наперадзе — злева Рыначная плошча (цяпер — Леніна), справа ў канцы перспектывы — Свята-Міхайлаўская царква.*

*Ваенны суд прысудзіў Формана на кару смерці. Камандуючы віленскай ваеннай акругай зацвердзіў пастанаўленне суда і Формана перавёзшы ў Ліду — перад усім гарнізонам расстралялі»*[1].

У 1912 годзе пачалося і ў асноўным было скончана будаўніцтва ваеннага аэрадрома, складоў авіяцыйнай маёмасці, казармаў. У тым жа годзе Генеральны штаб Расіі складае меркаванні аб усталяванні авіяцыйных цэнтраў у акругах. Адзін з такіх для Віленскай акругі плануецца ўсталяваць у Лідзе на будаваным аэрадроме. І ў Лідзе з'яўляюцца баявыя самалёты[2].

27 жніўня 1913 года віленская газета «Вячэрні веснік» пісала: *«Адносна прыбыўшага ўчора ў Вільню ваеннага дырыжабля высвятляецца, што ён прыляцеў з Ліды з мэтай зрабіць выпрабаванні, ці можна з вышыні 900—1000 метраў праводзіць тапаграфічныя здымкі. Задача гэтая была ўскладзена на штабс-капітана Шапілёва, які пераканаўся, што з прымяненнем адпаведных інструментаў здымкі цалкам магчымыя. Пералёт з Ліды ў Вільню быў здзейснены на працягу трох гадзін з хуткасцю 40 вёрст у гадзіну. Дырыжабль змагаўся ў хуткасці з пасажырскім цягнікам, які ішоў ў Вільню. Апошні быў пераможаны».*

У красавіку 1914-га над Лідай адбылася авіяцыйная катастрофа: *«Ліда. 16-га красавіка над Лідай лёталі тры аэрапланы. На адным з іх загарэўся бензін, аэраплан упаў і загінулі афіцэр і жаўнер»*[3]. Газета пісала пра падпаручніка Ветчынкіна Я. П. і механіка Кавальчука, якія загінулі ў Лідзе пры палёце на самалёце «Ньюпар». Пры планіраванні з вышыні 200—300 метраў самалёт «Ньюпар-IV» раптоўна пайшоў уніз, Кавальчук выпаў з самалёта, схапіўся за верхні трос і, правісеўшы ў такім жахлівым стане 2-3 секунды, зваліўся на зямлю і разбіўся на смерць. Самалёт з пілотам урэзаўся ў дом і загарэўся.

[1] «Наша Ніва» № 14, 5 красавіка 1913.

[2] Савук Антось. Лідскі вайсковы аэрадром (1907—1915) //Лідскі Летапісец № 16.

[3] Biełarus № 16, 17 красавіка 1914.



*Аэраплан «Фарман» на Лідскім аэрадроме. Можа, менавіта ён кружыў над горадам у дзень пачатку мабілізацыі.*

Самалёт разбіўся з-за недахопаў яго канструкцыі. «Ньюпар» быў пабудаваны па французскай ліцэнзіі на заводзе Шчацініна ў Расіі. Якасць яго вытворчасці была вельмі нізкай[1]. Аднак гэта не спыніла палёты. Вось што распавядала аб адным з палётаў газета «Віленскі веснік» ад 18 красавіка 1914-га: *«Трэцяга дня каля 8 гадзін вечара ў раён размяшчэння 169 пяхотнага Нова-Траецкага палка апусціўся, прыляцеўшы з Ліды, аэраплан з ваенным лётчыкам паручнікам Альбрэхтам і механікам унтэр-афіцэрам Белагубенка. У прызначаны час прыбыў камандзір яго авіяцыйнай роты ў Лідзе капітан Рэшчыкаў. Паручнік Альбрэхт быў сустрэты камандзірам 169 пяхотнага Нова-Траецкага палка палкоўнікам Якімоўскім на чале афіцэраў палка, якія запрасілі афіцэраў паветраплавальнікаў у афіцэрскі сход падзяліць хлеб-соль ...Пачынаючы з наступнага дня, у Вільні з Ліды будуць лётаць аэрапланы, здзяйсняючы практычныя палёты».*

Перад пачаткам вайны павятовым вайсковым начальнікам, адказным за рэзервістаў і адначасова камендантам горада Ліда, быў падпалкоўнік Кароўнікаў[2].

Усе Лідскія вайсковыя часткі ўваходзілі ў акругу, штаб якой знаходзіўся ў Вільні. З 20 студзеня 1913-га па 19 ліпеня 1914-га Віленскай вайсковай акругай камандаваў генерал ад кавалерыі Павел Карлавіч фон Рэненкампф.

**Вайна**

Сведка падзей і слынны лідскі краязнавец Міхал Шымялевіч пісаў, што лета 1914-га выдалася на рэдкасць гарачым і сухім. Тэмпература паветра ў чэрвені і ліпені дасягала 40 градусаў у цені, а на працягу некалькіх тыдняў не выпала ні кроплі дажджу. Вада ў рэках, азёрах і ставах спала. На Нёмане ад Морына да Орлі не маглі прайсці платы і сплаў дрэва спыніўся. Паветра напоўнілася дымам: гарэлі тарфянікі. На поўдні, каля Нёмана, удзень уздымаліся аблокі дыму, а ўначы было бачна зарыва пажараў — гарэў лес. Звычайна цяжкапраходныя Дакудаўскія і Дзітвянскія балоты высахлі і па іх ездзілі, як па полі. Каб пайшоў дождж, у вясковых цэрквах і касцёлах служыліся набажэнствы, палі абыходзілі працэсіі з харугвамі і пабожнымі спевамі.

Аднак ураджай сена і канюшыны ў тым годзе быў добры. Таксама быў добры ўраджай жыта і яравых, добра ўрадзіла бульба. Грыбоў і ягад у лясах не было. Садавіна не ўрадзіла, але было шмат мёду. Калі пачалася ўборка ўраджаю — не хапала рук, бо мужчыны былі мабілізаваны на вайну. Таму наёмным працаўнікам плацілі ўдвая — 1 рубель за дзень працы касцам, 60 капеек жнеям.

Ліда як заўжды ўлетку вылюднела: інтэлігенцыя выехала на лецішчы ці нават у Друскенікі на сонца і воды, школьная моладзь раз’ехалася па вёсках — да бацькоў ці сяброў. Вучні, чорныя як індзейцы, сядзелі ў цені дрэў з вудамі каля вады[3].

Летам 1914 года атрымалася так, што галоўная асоба павета — маршалак шляхты граф Людвік Грабоўскі (прамы нашчадак апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага ад марганатычнага шлюбу з Эльжбетай Грабоўскай), які павінен

[1] Савук Антось. Лідскі вайсковы аэрадром (1907—1915) // Лідскі Летапісец № 16.

[2] Szymielewicz Michał. Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. s. 7—12.

[3] Szymielewicz Michał. Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. s. 7—12.

быў узначаліць мабілізацыю ў павеце, ад вясны лячыўся ў Пецярбурзе — ён меў камяні ў жоўцевым пухіры і ў нырках. Яго абавязкі выконваў земскі начальнік 1-га ўчастка Міхаіл Трафімаў. Павятовы спраўнік фон Гротэ дэ Буко яшчэ да пачатку вайны падаў у адстаўку па ўзросце, чакаў загад аб выхадзе на пенсію і таму знаходзіўся ў адпачынку. У сувязі з набліжэннем вайны віленскі губернатар Вяроўкін перапыніў яго адпачынак і загадаў выконваць свае абавязкі. Асноўны цяжар арганізацыі мабілізацыі на Лідчыне лёг на спраўніка Гротэ дэ Буко і Міхаіла Трафімава.

25 ліпеня на лідскай чыгуначнай станцыі была вывешана аб'ява пра тое, што дарога здымае з сябе ўсялякую адказнасць за тэрміны перавозу грузаў. Гэта быў першы знак будучай вайны.

У той жа дзень на палігоне пад Аранамі, калі артылерыя лідскага палка рыхтавалася да вучэбных стрэльбаў, раптам была прынята тэлеграма з загадам спыніць вучэнні і выступіць да месца пастаяннай дыслакацыі — у Ліду. Адначасова юнкерам Віленскай вайсковай вучэльні, якія знаходзіліся ў тым жа лагеры пад Аранамі, начальнік вучылішча генерал-маёр Адамовіч зачытаў загад аб прысваенні вайсковых званняў 170 юнкерам выпускнога курса. Такія імпрэзы, як правіла, праводзіліся ў дзень Праабражэння Гасподняга, 19 жніўня. Маладым афіцэрам уручылі толькі афіцэрскія шаблі, бо абмундзіраванне яшчэ не было гатова.

Праз некалькі гадзін лагер ліквідавалі, лідскі полк пачаў грузіцца ў вагоны. Сярод афіцэрскіх жонак пачаўся перапалох, кінуўшы ўсё, яны з лецішчаў накіраваліся ў Ліду і таму ў нядзелю, 26 ліпеня, калі па жалезнай дарозе з Аран пачалі прыбываць аддзелы палка, у горадзе ўжо ведалі — пачынаецца вайна. Першыя прыбыўшыя аддзелы Лідскага палка ўзялі пад ахову ўсе чыгуначныя аб'екты: масты, водаправоды і іншыя тэхнічныя сродкі абслугоўвання, а таксама сувязь. Усюды стаялі ўзброеныя салдаты, забараняўся нават выхад на перон вакзала.



*Лідскае казначэйства і скарбовая каса перад 1914-м.*

Тым не менш у касцёлах і цэрквах, як і заўжды, браліся шлюбы, людзі з музыкай і танцамі святкавалі вяселлі і хрэсьбіны[1].

Вось як апісвае адзін з апошніх мірных дзён, 30 ліпеня 1914 года, Міхал Шымялевіч: *«На вуліцы Віленскай* (цяпер Савецкая. — **Л. Л.**) *горада сабраліся групкамі гараджане, яны чыталі толькі што атрыманыя з цягніка газеты, і кожны на свой капыл каментавалі бягучаю сітуацыю ў свеце. Мабілізацыя яшчэ не пачалася, і агульным перакананнем было тое, што Расія толькі робіць дэманстрацыю сваёй магутнасці, а насамрэч вайны не будзе, бо ніхто яе не хоча. ...Над Лідай, выконваючы вучэбны палёт, нізка кружыў аэраплан "Фарман". Ён зрабіў круг над рынкам* (сучасная плошча Леніна. — **Л. Л.**) *і паляцеў на ўсход. Раптам аэраплан пачаў хутка зніжацца і падаць. Натоўп зявак думаючы, што аэраплан упадзе каля рэчкі Лідзейкі, кінуўся ў бліжэйшыя завулкі — Шкляны, Камерцыйны, Паліцэйскі* (яны вялі ў бок рэчкі. — **Л. Л.**). *Але пілот выраўняў машыну, і яна зноў узвілася пад аблокі. Зявакі пачалі вяртацца да цэнтру, і як раз у гэты час па Віленскай вуліцы на дрожках да паліцэйскай управы імчаўся, трымаючы ў руцэ дэпешу, павятовы паліцэйскі спраўнік Гротэ дэ Буко. Адразу ўсе зразумелі: мабілізацыя! У імгненне вока вуліца апусцела. Да позняй ночы горад не спаў. Кожны зразумеў, што вайна непазбежная, і нікога яна не абміне»*[2].

З 31 ліпеня былі адменены ўсе пасажырскія цягнікі, і чыгунка пачала ліхаманкава перавозіць адмабілізаваныя войскі.

[1] Szymielewicz Michał. Lida w latach wielkiej wojny. // Ziemia Lidzka. 1999. № 37. s. 7—12.

[2] Там жа.



*Лідскі Мікалаеўскі вакзал перад 1914-м.*

З іншых чыгунак у Ліду былі перагнаны дадатковыя лакаматывы, прыбылі новыя лакаматыўныя брыгады і іншыя спецыялісты-чыгуначнікі.

31 ліпеня ў павеце пачалася мабілізацыя. У горадзе вісеў вялікі плакат з тэкстам за подпісам Рэненкампфа аб супольнай адказнасці жыхароў горада і вёсак за пашкоджанне чыгуначных шляхоў, тэлеграфа, іншых сродкаў сувязі і камунікацыі. У кавярні Маліноўскага афіцэры лідскага гарнізона пілі каву і вялі размову на тэму, што «Германцаў трэба пабіць!». Як і належыць, гараджане кінуліся да акенцаў ашчадных кас, у банкі і банкаўскія канторы, каб забраць свае ўклады. У Лідзе каля Скарбовай касы пры казначэйстве стаяла чарга даўжынёй у паўкіламетра, якая некалькі разоў абвівала касу. Каб вярнуць свае грошы, у чарзе стаяла каля паўтары тысячы чалавек. У Вільні з вуснаў у вусны перадаваліся весткі пра тое, што запасы золата з Віленскіх банкаў ужо вывезены ў Ніжні Ноўгарад і таму ў Віленскім Дзяржаўным Банку быў такі вялікі натоўп адборнай публікі, што шыкоўна прыбраныя пані парвалі свае багатыя строі, страцілі брыльянты і капелюшы, падрапалі твары і пашкодзілі рукі і ногі. Але банкаўскія чыноўнікі ў Лідзе і Вільні спраўна выдалі людзям іх грошы.

1 жніўня ў 17.00 Германія абвясціла вайну Расіі. Гэта была субота. Зранку з самых дальніх кутоў Лідскага павета ўсімі дарогамі, на вазах і пешшу, у горад збіраліся ваеннаабавязаныя мужчыны, зганялі мабілізаваных коней. Не абышлося без эксцэсаў: натоўп мабілізаваных мужчын, якія ішлі ў Ліду па Гродзенскім тракце, атакавалі гарэлачную краму ў Арлянцы (каля ракі Дзітва), разграбілі і спалілі яе. Разам з манаполькай згарэла вялікая старажытная карчма, якая стала на другім баку тракту, насупраць гарэлачнай крамы. Карчма ў Арлянцы, згодна з «Вопісам парафій Лідскага дэканату 1784 г.», пры канцы XVIII стагоддзя ўжо існавала тут, а ў 1914 годзе належала ўладальніку Тарнова, графу Маўрасу. Праз некалькі дзён газеты надрукавалі загад генерала Рэненкампфа, згодна з якім былі павешаны чатыры чалавекі, вінаватыя ў пагроме гэтай манапolькі. Загад быў надрукаваны як улётка і развешаны па горадзе і вёсках.

На гарадскі магістрат лёг абавязак размяшчаць войскі і мабілізаваных. Бургамістр Ліды Вісмант праводзіў свой адпачынак на Чорным моры і таму быў вызваны адтуль тэлеграмай. Нават маючы дазвол для праезду, ён моцна спазніўся на працу. Пакуль не было бургамістра, яго абавязкі выконваў намеснік Гейштафт, а размяшчаў мабілізаваных пашпартыст Іосіф Якубоўскі. Без адпачынку лётаў ён па горадзе, вызначаў жытло, арганізоўваў кухні, месцы для мабілізаваных коней, знаходзіў харчы і фураж. Для жаўнераў былі рэквізаваны будынкі мужчынскай гімназіі па вуліцы Камерцыйнай, жаночай гімназіі Навіцкіх па вуліцы Каменскай, пачатковая школа каля замка, абедзве парафіяльныя школы, іешыва, клуб таварыства дабрачыннай пажарнай аховы, піў-

ныя і іншыя будынкі. У горадзе сабралася каля 5 000 мабілізаваных людзей і 2 000 коней. Рэгістрацыя і агледзіны мабілізаваных жаўнераў адбывалася ў гарадскім парку па вуліцы Каменскай (прыкладна тут цяпер стаіць кінатэатр «Юбілейны»), дзе раслі стагадовыя вольхі. Тут, у парку, быў летні тэатр — зробленая з дошак пабудова з лаўкамі без даху. Менавіта тут размясцілася вайсковая камісія. У летнім тэатры лекары аглядалі мабілізаваных, пісары вялі рэгістрацыю. А з парку даносіліся енкі жанчын і дзіцячы плач — сем'і развітваліся са сваімі «кармільцамі». Людзі памяталі, што ад прызыву ў войска на Руска-японскую вайну ў 1904 годзе вызваляліся тыя, хто меў чацвёра і больш малых дзяцей, таму некаторыя на вазах везлі з сабой усю сям'ю.

Пасля рэгістрацыі мабілізаваных мужчын пераводзілі ў замак, дзе іх прымалі ўнтэр-афіцэры, адтуль адных адпраўлялі ў казармы лідскага палка, а другіх вялі на чыгунку і размяшчалі па вагонах для перавозкі ў іншыя палкі.

Афіцэры запасу самі прыходзілі да павятовага вайсковага начальніка.

Адначасна на гарадскім выгане па вуліцы Віленскай каля праваслаўных могілак ішоў адбор коней. Большасць людзей спакойна прадавала сваіх коней, бо кошты дзяржаўнага закупу былі добрыя. Аднак былі і тыя, хто, прадаючы, плакалі па сваіх конях.

З раніцы 6 жніўня, у чацвер, на пляцы каля казармаў пашыхтаваўся 172-і лідскі полк з поўным паходным рыштункам. Палкавы святар адслужыў малебен, а камандзір палка Раманаў вітаў асабісты склад, пажадаў хуткай перамогі і вяртання з фронту да родных агменяў. На цырымоніі граў палкавы аркестр, прысутнічалі тысячы гараджан: дзеці, жонкі, сваякі і знаёмыя тых, хто ішоў на вайну. Пры развітанні былі чутны крыкі і плач. Полк з музыкай і сцягамі пайшоў на станцыю для пагрузкі.

7 жніўня англа-французскія і нямецкія войскі сутыкнуліся — на заходнім фронце пачалася Пагранічная бітва. Пасля крывапралітных баёў 16 жніўня пала бельгійская крэпасць Льеж. На Усходнім фронце вайна пачалася з Усходне-Прускай аперацыі — 17 жніўня руская армія перайшла мяжу, пачаўшы наступ на Усходнюю Прусію.

**25 ліпеня на лідскай чыгуначнай станцыі была вывешана аб'ява пра тое, што дарога здымае з сябе ўсялякую адказнасць за тэрміны перавозу грузаў. Гэта быў першы знак будучай вайны**

**Горад**

Адметнай з'явай той вайны быў «сухі закон». У 1914 годзе, да пачатку Першай сусветнай, быў выдадзены царскі ўказ аб забароне вытворчасці і продажу ўсіх відаў алкагольнай прадукцыі на ўсёй тэрыторыі Расіі. Гандаль алкагольнымі вырабамі быў спынены 1 жніўня (19 ліпеня па старым стылі) — на час мабілізацыі, а ў канцы жніўня — на ўвесь час вайны. Моцныя алкагольныя напоі прадавалі толькі ў рэстаранах. У адказ на гэты ўказ з'явіліся шматлікія спробы абыходу, але сярэдняе спажыванне алкаголю на чалавека знізілася больш чым у дзесяць разоў і, дарэчы, толькі ў 1960-х гадах спажыванне алкаголю на чалавека дасягнула ўзроўню 1913 года.

У нашым рэгіёне камандуючы 1-й арміяй генерал Рэненкампф *«ад 1 жніўня забараніў ва ўсёй Віленскай губерні тайны і яўны продаж гарэлкі, віна, піва і др. ...хто парушыць, той, акрамя штрафу да 3 000 рублёў або адсідкі у турме ці крэпасці на тры месяцы, будзе выселены з Віленскай губерні, а шынкі, каторыя парушылі ...будуць закрывацца»*[1].

Разам са станоўчымі вынікамі сухога закона, адразу з'явіліся і адмоўныя: таемнае самагонаварэнне, спажыванне сурагатаў і атручванне імі, парушэнне закона і тайны продаж алкаголю. 10 верасня газета «Беларус» паведаміла: *«Ліда. Камандуючы арміяй аштрафаваў на 1 000 рублёў тутэйшага жыдка Нохіма Левінзона за продаж алкагольных напояў салдатам»*[2]. Праз тыдзень затрыма-

[1] «Наша Ніва» № 29, 25 ліпеня 1914.

[2] Biełarus № 35, 28 жніўня 1914.



*Гарадскі парк. Тут адбываліся рэгістрацыя і агледзіны мабілізаваных жаўнераў у жніўні 1914-га.*

лі яшчэ аднаго гандляра моцнымі напоямі: *«У Лідзе губернатар аштрафаваў гаспадара піўной П. Дварэцкага на 1 000 руб., або 3 месяцы арышту, а піўную закрыў»*[1].

У канцы лістапада прэса паведаміла пра забарону *«продажу піва да канца вайны ў губернях дзе аб'яўлена ваеннае становішча. Уладары піўных падаюць прашэнні адчыніць чайныя або сталовыя»*[2].

10 і 13 верасня нямецкі дырыжабль Z-12 скінуў на чыгуначныя станцыі Ліда і суседнюю Вілейку 4 000 кг бомбаў.

Першы пажар ваеннага часу ў горадзе адбыўся ў кастрычніку: *«Ліда. Тут нядаўна быў пажар, у якім згарэлі два дамы Тубелевіча і адзін Г. Брэма, шкода на 20 000 рублёў»*[3]. А на пачатку красавіка 1915 года газета «Беларус» паведаміла, што *«апошнімі днямі з невядомай прычына зрабіўся пажар, які цалкам знішчыў драўляны дом Захара Пупко»*[4].

Нягледзячы на вайну, жыццё працягвалася. Увосень 1914 года *«пры тутэйшай гімназіі для хлопцаў з дазволу міністэрства асветы адкрыты падрыхтоўчы клас. За навуку ў гэтым класе трэба плаціць 50 р. Прымаюцца хлопцы ад 8-мі да 10-ці гадоў»*[5]. А ўвесну 1915-га Лідская *«мясцовая ўправа ўстанавіла 4 стыпендыі для бедных вучняў родам з Ліды без розніцы веры»*[6].

Падчас вайны заўжды ўзрастае злачыннасць. У снежні 1914 года *«абакралі ... краму купца Кагана, з якой выцягнулі розных мануфактурных тавараў (бархаты, паркалі і інш.) на тысячы рублёў. Злодзеяў не злавілі»*[7]. А на пачатку 1915 года газеты паведамілі: *«Ліда. Адсюль уцёк банкір Янушкевіч, зрабіўшы на мільён рублёў даўгі. Пра гэта піша «Утро России»*[8]. Праз месяц арыштавалі начальніка лідскай турмы: *«Ліда. Начальнік лідскай турмы С. Пяткевіч абвінавачаны за прысваенне сабе 824 рублёў 96 капеек, з якіх частка праднaзначана была на прыбаўку жалавання надзірацелям, частка належала арыштантам, а частка з прададзенай мукі, якая павінна была ісці арыштантам. Справу будзе разбіраць віленская судовая палата, а тым часам начальніка турмы пасадзілі ў турму»*[9].

Увесну 1915 года газеты паведамляюць пра захворванне плямістым тыфам: *«Як паведамляе "Віленскі веснік", ...у лідскім павеце пачаў шырыцца плямісты тыф, каторы хоць і не мае эпідэмічнага характару, але усё ж такі лічба захварэўшых на тыф ... ад 30 да 50 душ»*[10]. Для барацьбы з тыфам, на дапамогу лідскім лекарам *«з Вільні ... накіравана два ўрача з ліку сувальскіх на змаганне з хваробай»*[11].

Улетку 1915 года Ліда стала прыфрантавым горадам.



[1] «Наша Ніва» № 35, 4 верасня 1914.

[2] Biełarus № 46, 13 лістапада 1914.

[3] Biełarus № 39, 24 верасня 1914.

[4] Biełarus № 11—12, 19 сакавіка 1915.

[5] Biełarus № 44—45, 30 кастрычніка 1914.

[6] Biełarus № 13, 2 красавіка 1915.

[7] Biełarus № 50, 11 снежня 1914.

[8] Biełarus № 3, 21 студзеня 1915.

[9] Biełarus № 7, 19 лютага 1915.

[10] «Наша Ніва» № 10, 14 сакавіка 1915.

[11] Biełarus № 11—12, 19 сакавіка 1915.

# ЯКІЯ БЫВАЮЦЬ НОТЫ

***— Я не ведаў, што наогул магу займацца музыкай, што ў мяне ёсць музычны слых. Планаваў стаць слесарам-радыётэхнікам, паступаць у МРТІ і займацца радыёапаратурай. У нас быў у класе дужа хуліганісты хлопец, ён захапляўся рокам, насіў доўгія валасы, напульснікі шыпаваныя. І неяк ён мяне на ўроку пытае (а я ў той час пачаў слухаць Rammstein, «Кароль і Шут» і г. д.): «Саша, а чаму ты ні на чым не граеш?». Я яму кажу: «У мяне няма слыху!». Я не ведаў, што ў мяне слых ёсць. А ён усміхнуўся і гаворыць: «Слых не істотны. Пачуццё рытму!».***

Мы сядзім у маленькім пакойчыку на першым паверсе, дзе жыве Аляксандр Багадайка — адзін з самых тэхнічных маладых гітарыстаў Беларусі. Апроч гітары яму давялося вывучыць тэорыю музыкі, сальфеджыа, гармонію, авалодаць мноствам музычных праграм — адны патрэбны для таго, каб запісваць і зводзіць кампазіцыі, другія выконваюць функцыю сінтэзатараў. Усё гэта вымагае працы.

— Раней я займаўся на гітары амаль увесь свой вольны час, але ж гэта адбівалася на руках — яны вельмі моцна балелі. Цяпер — да пяці гадзін. Цярпення ў музыцы вельмі часта нестае — як у занятках, так і ў напісанні.

Такая напружаная праца хутка прывяла да таго, што Аляксандр ледзь не застаўся без сярэдняй адукацыі, а не толькі без вышэйшай.

— У мяне нават была неатэстацыя па ўсіх прадметах за цэлую чвэрць — у слупок ішлі неатэстацыі. Напрыканцы года я ўсё ж парупіўся, і балы на выпуск у мяне былі ўжо значна лепшыя. Школу я адсунуў на задні план.



*«Так усё пачыналася...»*

Вось музычная адукацыя — справа надзвычай карысная: і самаадукацыя, і тая адукацыя, якую табе даюць выкладчыкі. Ты пачынаеш вельмі хутка ва ўсім гэтым рубіць, вельмі хутка цяміш, адразу бачыш, што і як табе рабіць, бачыш магчымыя варыянты напісання чагосьці, аранжыроўкі, запісу, звядзення і гэтак далей. Я памятаю першы падручнік, які купляў. Ён называўся «Рок-гітара для тынэйджараў». Спачатку мне там усё падавалася дзіка складаным. Самае першае, з чаго пачыналі там, — з расповеду пра тое, якія бываюць ноты, як яны пішуцца, як сядзець і як трымаць медыятар, як ставіць рукі, бо гэта самы пачатак: пакуль не навучышся сядзець і трымаць рукі, лепей ні да чаго большага не прыступаць.



*«...а так выглядае цяпер».*

Што датычыць беларускай музычнай адукацыі, тут адназначнага меркавання няма, паколькі я вельмі мала бачу ў нас выпускнікоў музычных ВНУ, якія сапраўды прабіліся на вялікі Алімп.

Да беларускіх калег Аляксандр Багадайка ставіцца даволі скептычна.

— Я не магу назваць нікога з беларускіх гітарыстаў сваім улюбёным — хіба што Віцю Смольскага, і то калі буду напэўна ведаць, што ўсю музыку да Rage пісаў ён. Але ў мяне нядаўна быў выпадак: я ішоў у падземным пераходзе станцыі метро «Плошча Перамогі», а там нейкі хлопец стаяў з комбікам і электрагітарай — і ад

**Чытачам «Маладосці» я параю імкнуцца да таго, што яны хочуць ад жыцця, і не парыцца на тэму «залежыць гэта ад вышэйшай адукацыі ці не»**

**Нейкі хлопец стаяў з комбікам і электрагітарай — і ад яго літаральна нёсся такі прыгожы блюз! Гэта было нешта з нечым, я стаяў і слухаў!**

яго літаральна нёсся такі прыгожы блюз! Гэта было нешта з нечым, я стаяў і слухаў! Скажам так, наш гітарызм яшчэ толькі падымаецца. Ён намагаецца дацягнуцца да сусветнага і ў плане музыкі, і ў плане кампазіцыі, і ў плане інструментаў, і нават у плане продажу апаратуры для гітарыстаў. У нас усё гэта толькі пачынае развівацца.

— Дарэчы, а як выбраць першую гітару, першы комбік?

— Складанасць нават не ў тым, каб гітару выбраць, а ў тым, каб пасля набыцця яе наладзіць. Яшчэ ў краме правяраецца як гітара гучыць, ляжыць у руках. Калі яна нязручная — вядома ж, няварта яе браць. Звычайна маладыя гітарысты-пачаткоўцы адразу хочуць сабе нешта такое незвычайнае і брутальнага выгляду, а пасля высвятляецца, што гітара нязручная, што з ёю зацякае спіна, баляць рукі, урэшце яна цяжкая, яе нязручна трымаць і гэтак далей...

Напрыканцы гутаркі я задаю традыцыйнае пытанне:

— Што ты параіш чытачам «Маладосці»?

— Ох... А які ў іх узрост прыкладна?

— Ад сямнаццаці да сямідзесяці.

— Чытачам «Маладосці» я параю не спыняцца на дасягнутым, імкнуцца да таго, што яны хочуць ад жыцця, і не парыцца на тэму «залежыць гэта ад вышэйшай адукацыі ці не залежыць»: гэта нікольki ад яе не залежыць. Перадусім павінна быць жаданне — вышэйшая адукацыя, школа, універсітэт — у гэтым яму толькі дапамогуць. Музыкантам я зычу болей цярпення і лёгкасці ў выкананні, у ігры, у стварэнні, ва ўсім. Што лягчэй, тое лепей, бо гэта — праца цяжкая.

Інтэрв'ю запісана. Аляксандр бярэ гітару і пачынае граць. Я пераконваюся, што ні ягонае жаданне, ні ягоная праца не прайшлі дарэмна. Усе складаныя партыі граюцца з амаль недасяжнай лёгкасцю.

«От бы і мне так навучыцца!» — думаю я.

***Запісаў Віктар ЛУПАСІН***

*Рубрыка кафедры*
*літаратурна-мастацкай крытыкі*
*Інстытута журналістыкі БДУ*

# ІНТРЫГА АДНОЙ ВЫСТАВЫ

***Маладзёжная мастацкая выстава, што экспанавалася ў Палацы мастацтва, дала нам унікальную магчымасць адкрыць шмат новых імёнаў і безліч вострых, інтрыгуючых вобразаў. Мы нават вырашылі правесці невялікі эксперымент. Прапанавалі студэнтам Інстытута журналістыкі БДУ, аднагодкам маладых мастакоў, выбраць па адным творы і адшукаць для вобразаў візуальных вобразы слоўныя. І вось маем магчымасць убачыць мінулае, сучаснасць і будучыню вачыма тых, хто толькі адкрывае для сябе свет творчасці. Яны не знаёмыя асабіста. Але як жа шчыра яны перамаўляюцца вобразамі...***

*Ганна ДУСЬ, 3 курс*

**Іван АРЦІМОВІЧ. «Сансара» (дыптых)**

Праз кола сансары ў вырай.
Шчыра
Прысягаю трымаць запаветы —
Вер мне.
Сёння над Менскам сонца.
Бясконца
Трапяткі ўзлёт да Бога.
Нічога,
Не плач, брат мой, птах
Не змарнуем,
Заўтра ў неба ізноў паспрабуем.

Там на вышынях
Нябудзе палёгкі
Бывай, далёкі.

**Ірына ЛІПІНСКАЯ. «Медытацыя»**

Спяваць «саі рам» няісным багам,
Адчуваць, як з кожным гукам Ом
Твае ногі адрываюцца ад зямлі.
Дзесьці там за вяршынямі Анд,
За вытокамі будысцкіх мантр
Сядзіць святы Іакаў і смяецца,
Калі чуе знаёмыя гукі нябеснае маны.

*Кацярына ЗАХАРЭВІЧ, 3 курс*

**Іван АРЦІМОВІЧ. «Зімовае святло»**

Перапляценне рук, абдымкі, нахіленыя галовы… Колькі мілага, роднага, шчырага ў гэтай скульптуры… Тут можна ўбачыць і шчырую радасць сустрэчы на зімовай вуліцы, і пяшчотную горыч расстання на заснежаным пероне ля цягніка, які вось-вось кранецца. І абдымкі двух закаханых, якія шчаслівыя тым, што яны ёсць адно ў аднаго. Яны не заўважаюць, што іх засыпае снег. Іх робіць неўмiручымі, скоўвае мароз, але ўсярэдзіне ў іх адно на дваіх цяпло. Яны застылыя, каменныя, але не ведаюць пра тое. Яны саграюць адно аднаго, яны — адзінае цэлае, яны жывая, шчырая істота. Яны жывейшыя за многіх з тых, хто створаны з плоці і крыві, але адзінокія, сцюдзёныя ўсярэдзіне. Гэтыя двое цяплейшыя і жывейшыя за людзей, яны створаны дзеля таго, каб іх ажыўляць. Яны абуджаюць даўно забытыя, прысыпаныя снегам, змерзлыя пачуцці і адчуванні. Думкі, што ты не адзін. Што ёсць хтосьці, каму жыццёва неабходна менавіта тваё цяпло. Хтосьці, хто хоча падзяліцца сваім жыццём толькі з табою.

*Наталля ЛУБНЕЎСКАЯ, 4 курс*

**Ульяна ОНДРА-АРЦІМОВІЧ. «Абжорства»**
**Аляксандр Сакалоў. «Сэрца»**

Не ведаю, ці настрой так супаў, ці сапраўды людзі блізкія па ўзросце лепш разумеюць адно аднаго. Ідэі аўтараў, чые творы

былі прадстаўлены на моладзёвай выставе, супалі з маімі думкамі. Магчыма, нам пакуль цяжка разважаць у сусветным і гістарычным, агульначалавечым маштабе, але мы востра адчуваем, што адбываецца сёння і чаму так павінна (або не павінна) быць. Нават звяртаючыся да вечных тэм, сучасныя творцы выбіраюць мастацкія вобразы, якія найбольш адпавядаюць нашаму часу і светаўспрыманню.

Калі ўпершыню чуеш пра грамадства спажывання, не разумееш, дзе падман. У людзей ёсць грошы, на якія можна набыць што заўгодна, і гэтае «што заўгодна» робіць наша жыццё камфортным: вось яно, Шчасце. Гэта ў тэорыі. А калі намаляваць спажыўца, убачыць тую канкрэтную форму, што хаваецца пад абстрактнымі словамі? У рабоце Ульяны Ондра-Арцімовіч «Абжорства» мы бачым прадстаўніка таго самага тэарэтычна шчаслівага грамадства. Ён заглынае ежу, тэхніку, мэблю, шматпавярхоўкі. Але не адчувае сябе камфортна. Чалавеку, цела якога шчыльна заштрыхавана, цяжка дыхаць, рухацца. Здаецца, яшчэ адна лыжка «спажывецкага шчасця», якая ўжо не прыносіць асалоды (паглядзіце на прымружаныя вочы!), — і ён лопне. Абжора не можа спыніцца і пасля рэчаў выкарыстоўвае людзей. Захлынаючыся слінаю, чалавек пачынае спажываць самога сябе, траціць сваё аблічча. Брыдка выглядае тэарэтычна шчаслівы грамадзянін. Ці ёсць выйсце? Ёсць. Але спажывец яго не бачыць: у творы, апроч чалавека, нічога няма, пустэча.



*Аляксандр Сакалоў. «Сэрца».*

Зусім іншыя думкі і пачуцці выклікае «Сэрца» Аляксандра Сакалова. Гэта праца ўразіла мяне больш за ўсё. Не з-за памеру, хаця ён і ўзмацняе пачуцці. Скульптура нагадвае мне творы Генры Мура. Гнуткія лініі, плаўныя абрысы, ніводнай лішняй дэталі. Абдымаюцца два чалавекі, але мы не ўспрымаем іх паасобку. Гэта адзінае цэлае, адно вялікае сэрца. Чулае, пяшчотнае. Шчырыя пачуцці і духоўная еднасць — самае каштоўнае ў свеце. «Сэрца» Аляксандра Сакалова — вось што патрэбна спажыўцу. Каб стаць чалавекам. На мой погляд, вышэйшы ўзровень мастацтва — калі твор не адлюстроўвае жыццё, а становіцца яго гарманічнай часткай. Нібыта сама прырода прапанавала гэты вобраз і майстар па-майстэрску яго замацаваў.

***Кацярына АСМЫКОВІЧ, 4 курс***

**Ульяна ОНДРА-АРЦІМОВІЧ.**
**«Абжорства»**

Есці можна гародніну, мяса, торт, рыбу або людзей…

Паядаць свайго суразмоўцу можна вачыма або вострымі словамі. Але гэта ўсё не так небяспечна: нельга падабацца ўсім. Заўсёды знойдуцца тыя, каму будуць не па душы ваш стыль адзення, тэмбр голасу, няшчырасць усмешкі і іншыя дробязі, за якія людзі прызвычаіліся чапляцца. Страшна іншае: калі вы пачынаеце паядаць саміх сябе… Прычым рабіць гэта з такім зверскім апетытам, што за два-тры падыходы ад вас ужо нічога не застанецца.

Падобнае абжорства з’яўляецца, калі людзі стамляюцца шукаць сапраўдную прычыну праблемы. Ім прасцей зваліць усё на сваё няўклюдства, няўдачлівасць, нікчэмнасць і яшчэ шмат што з прыстаўкай «не». Праз нейкі час, калі ўжо ўсё з’едзена ўсярэдзіне, людзі пераходзяць на рукі, ногі… Добра, што галаву есці нязручна, а то з гэткімі самакатаваннямі пазбавіліся б самай галоўнай часткі цела ўжо даўно.

Ульяна Ондра-Арцімовіч у сваім творы «Абжорства» адкрыла для мяне менавіта такога чалавека, што сам у сабе заблытаўся. Чалавека, які пакутуе ад абжорства не смачнымі катлетамі, макаронамі, а самім сабою. Страшна, калі занадта шмат ад сябе патрабуеш, страшна, калі гэтага не ўсведамляеш…

Страшна, калі побач з ім няма таго, хто прыбраў бы гэтую абгрызеную нагу ад рота, і, пры неабходнасці, падставіў бы сваю, каб той, хто заблытаўся, паглядзеў на праблему чужымі вачыма, а ў нас больш дарэчна было б чужымі нагамі. Бо як жа важна, каб у тую самую хвіліну адчаю і, здавалася б, безвыходнасці, вы маглі б з кімсьці параіцца!

Самакорпанне, самаедства, адчай, безвыходнасць — усё гэта сцяжынкі, што вядуць да «Абжорства». Вы пачынаеце есці сябе з сярэдзіны, а заканчваецца ўсё паяданнем сваёй справы. Ды каб толькі сваёй! У парыве злосці і агрэсіі людзі «кідаюцца» і на іншых. Таму аб’ядайцеся лепш у рэстаранах і кафэ кулінарнымі шэдэўрамі, чым сваімі негатыўнымі думкамі і самаедствам!

***Паліна ПІТКЕВІЧ, 3 курс***

**Аляксандр САКАЛОЎ. «Сэрца»**

Сэрца не абавязкова мяккае, цёплае, пульсуючае. Гэтае, напрыклад, цвёрдае, халоднае. Не абавязкова чырвонае, поўнае крыві і жыцця. Гэтае — чорнае, але хто сказаў, што яно нежывое, што яно не жадае, што яно не пакутуе? Можна падумаць, што гэта сэрца — злога. Непаўнавартаснае, таму што няцэласнае. У цэнтры яго скруцілася калачыкам пустэча: сэрца разнасцежана. Але не прабіта, проста не завершана. Нельга лічыць дзіры, асабліва сардэчныя, выпадковымі. Не, у кожнай дзірцы ёсць сэнс, пазначаны краямі: бо не ўсё што заўгодна можа запоўніць



*Ульяна Ондра-Арцімовіч. «Абжорства».*

(пустэчу), толькі тое, што з ёю супадае. І ўсе дзіры з’яўляюцца, каб быць запоўненымі.

Я ўглядаюся ў сэрца і яно прымае абрысы мужчынскіх плячэй і шыі, а насупраць, праз пустэчу ад іх, — угадваецца шыя жанчыны, выгін яе спіны. Жаночае гатовае прарасці ў мужчынскае, цягнецца да скразной пустэчы ў ягоных грудзях.

Усе дзіры з’яўляюцца, каб быць запоўненымі. Калі будуць гатовыя.

***Віялета РЫЧАГА, 4 курс***

**Алеся СКАРАБАГАТАЯ. «Дзень»**

Саткана з цемры,
Сплецена з поўні,
Цені вейкамі ночы крэсляць магутную
магію дня
З дзіцячых рук халоднага срэбра
Цягнецца нітка верацяном і стогне:
— Раніца будзе пасля.

***Ірына ЯЛІНСКАЯ, 3 курс***

**Алеся СКАРАБАГАТАЯ. «Ранішняя кава»**

Больш за ўсё з выставы мяне захапіла карціна Алесі Скарабагатай «Ранішняя кава». Ёсць у ёй нейкая хатняя ўтульнасць, у якую сапраўды верыш. Гэткая звычайная сітуацыя. Якую нават можна прачытаць: «Мог бы ты мне перадаць цукар?», «Канешне, трымай». Пасля гэтай работы, я ўпэўнена, кожны сам стаў прыгадваць сваю раніцу, што еў, гаварыў.



*Алеся Скарабагатая. «Ранішняя кава».*

Сярод іншых гэтая карціна вылучаецца яшчэ таму, што напісана вельмі рэалістычна. Няма ніякага псіхадэлу, яркіх колераў ці незразумелых рэчаў. У карціне перададзена атмасфера раніцы, дзе ўсё спакойна, няма месца для рэзкасці і марнасці.

А як хараша ўвасоблена ежа! Мёд нібы сапраўдны, хочацца пакаштаваць. Відаць кожны блік на лыжачцы. І булачкі ў кошыку. Такія свежыя. Здаецца, чуеш іх водар.

Прайшла ўсю выставу і, прызнаюся, зноў вярнулася да гэтай карціны.

***Вольга РОПАТ, 3 курс***

**Алеся СКАРАБАГАТАЯ. «Ранішняя кава»**

Светлая, сметанкова-кававая каляровая гама плаўна пераходзіць у далікатны белы. Здаецца, быццам да жывапіснага палатна Алесі Скарабагатай дакранулася ласкавае крыло анёла.

Работа вытрыманая, спакойная, гарманічная. З майстэрствам прапісаны дэталі: салодкія мучныя вырабы, на якіх паблісквае празрысты цукар. Жоўта-аранжавы мёд у маленькай бутэлечцы, след ад вуснаў на белым парцалянавым кубку…

Стыль Алесі Скарабагатай можна параўноўваць з мелодыяй дажджу: мы прывыклі да высокай вадзяной сцяны, але калі прыслухацца да кожнай кропелькі, то можна пачуць незвычайныя ноты прыроды. Яны розныя. А калі іх з'яднаць, то атрымаецца аркестр дажджу — выразны і эмацыянальны.

Галоўныя персанажы ў жывапісным палатне не рукі, а маленькая лыжачка. Раніца — гэта пачатак новага, невядомага лёсу.

***Вікторыя АСКЕРА, 4 курс***

**Алесь БАГДАНАЎ. «Дыялог»**

Чамусьці адразу згадала верш Роберта Раждзественскага «Чалавеку мала трэба». Адзінота чалавека і жывёлы… Карціна вельмі супакойвае і настройвае на думкі пра сябе, пра душэўны спакой. Вельмі важна зразумець, што месяц — звязуючы пачатак для ўсіх зямных істот. Гэта карціна пра роўнасць, гармонію і разуменнне, у якім люструецца ўся сутнасць быцця. Чалавек і малпа ў роўных умовах, яны абсалютна спакойныя, і, як мне здаецца, разумеюць адно аднаго ў гэты момант зусім без гукаў, без эмоцый, без рухаў. Яны знайшлі сябе ў адзінай прасторы і яна для іх самая важная.

***Таццяна ЧАРНУХА, 4 курс***

**Алесь БАГДАНАЎ. «Зубр»**

Гэты велізарны зубр з'явіўся ў начным небе і апусціўся на беларускую вёсачку. Для чаго, спытаецеся вы? Для таго, каб яе ахоў-

ваць. У цёмна-сіняй прасторы, быццам месяц, свецяцца рогі, святло выпраменьваюць і вокны хатак. Значыць, людзі яшчэ не спяць. Але зубр ужо на стражы. Цяжка ўбачыць нешта падобнае ў горадзе, там нават зорак не відаць. Едзьце на вёску. Чыстая прастора неба дасць волю вашай фантазіі. Цікава, што ўбачыце вы?

***Вераніка БОГДАН, 3 курс***

**Алесь БАГДАНАЎ. «Зубр»**

У гэтай жывёлы ёсць нешта містычнае. Золатам свецяцца рогі, вочы гараць, здаецца, што гэта не фарба, а месячнае святло.

***Кацярына СТАСЁНАК, 3 курс***

**Алесь БАГДАНАЎ. «Зубр»**

У некалькіх месцах гэтую безжыццёвую гару пранізвае святло. А ўнізе, у правым куце — чырвоная плямка. Не ведаю чаму, але я вызначыла для сябе, што гэта сэрца гары. Ад яго веяла цяплом. Падышла бліжэй і ўбачыла, што гэта не гара, а неверагодных памераў зубр. Ён з вышыні пазіраў на наведвальнікаў і нешта ахоўваў.

***Аляксандра ГРЭЧКА, 4 курс***

**Алена ЛІПІНСКАЯ. «Маска»**

У куце, дзе пахне ранішняй кавай, дзе пяшчотныя рукі вядуць самы патрэбны ў жыцці дыялог, дзе ў ласкавым маўчанні сядзяць бронзавыя сяброўкі, — замерла яшчэ адна скульптура. Яна стаіць у сваёй уласнай, асабістай цішыні, глядзіць спагадліва на колеры і формы, на спробы, на жыццё, на маладосць! Глядзіць ласкава і па-мацярынску клапатліва, як тая, што ведае нейкі сакрэт; і сярод гэтай прасторы руху і смеласці такі сакрэт вабіць мацней за астатнія.

Спачатку я ўбачыла пальцы — трапяткія і простыя. Наіўныя, ласкавыя, маміны. Бывае, сустракаеш новага чалавека — і з першай размовы здаецца, што вы знаёмыя ўсё жыццё. Вось і мне падалося, што я ведала гэтыя пальцы заўжды. Не падалося, бо памятаю, як у гадоў 16, снежным сакавіком заблукала ў дворык Акадэміі мастацтваў. А там на ўслончыку сядзела дзяўчына. Таксама паклала рукі на каленкі. Маўчыць, уздыхае, а побач — палова яблыка. Тады я ўпершыню паверыла, што камень — жывы.

І раптам у мой дваццаты травень — зноў тыя ж рукі, каленкі, цішыня і мармур. Дарэчы, вачэй у яе няма (але позірк адчуваеш нават спінай). І маскі ў яе няма. І так хочацца дакрануцца! Як у момант самага вострага болю больш за ўсіх хочацца абняць маму — не паслухаць, не пагаварыць — проста патрымаць за нагу і пасядзець моўчкі побач.

Мне здаецца, што не маска гэта, а аклад, Першабытны абраз. Маці Божая, якая Адзіная ўмее так спагадліва глядзець, так мужна ўбіраць боль, так прыціскаць да Сябе.

Суму ў гэтых *вачах, якіх няма*, таксама хапае.

Але гэта іншы сум. Той, які спазнаеш у момант, калі камень апынаецца жывым, калі сыходзіць самы востры боль.



*Алена Ліпінская. «Маска».*

*Рагнеда ЮРГЕЛЬ, 3 курс*

**Вольга МЕЛЬНІК-МАЛАХАВА. «Матылёк»**

Сярод сумясі стыляў і тэхнік, сярод жалеза, бронзы і каменю маё вока адразу чамусьці выхапіла менавіта гэтую працу. Потым я зразумела, што зрок падвяла расплывістасць фарбаў. Мне падалося, што гэта пейзаж. Цёмнасіняя вада, над ёй — бела-блакітны, прывідны туман, што падымаецца ўгору і паступова цяплее. Халодная, містычная раніца. Падышоўшы бліжэй, зразумела памылку — трыпціх Вольгі Мельнік-Малахавай хутчэй партрэтны, чым пейзажны. «Матылёк» (тэмпера, ляўкас) 2014 — так падказала шыльдачка побач. Але знайсці самога матылька не так проста. Ён змешчаны ў верхняй частцы трыпціха. Маленькі водсвет белага сярод блакітных стужак на цёмна-сінім пагрозлівым фоне. Асноўная ж частка выпускае з гэткай самай непрыветна-сіняй цемры абрысы дзяўчыны. Яна стаіць да гледача спінаю, падабраўшы русыя валасы, апранутая ў сінеблакітную сукенку са шнуроўкай цераз усю спіну. Гэтая шнуроўка заканчваецца невялікім сінім бантам — антаганістам матылька. На работу прыемна глядзець і думаць. Кампазіцыя выцягнута па вертыкалі, вока не «драпаюць» рэзкія кантрасты колераў, скажоныя прапорцыі. Увесь твор выкананы ў адзінай сіне-блакітнай гаме. Спыніцеся, зазірніце ў глыбіню сіняга колеру — і карціна пачне набываць новыя сэнсы, тлумачэнні прыхаваных сімвалаў, быццам зацягваючы гледача ў глыбіню халоднай вады.

Матылёк. Ён атаясамліваецца з лёгкасцю. Гэта светлая, вясёлая істота-аднадзёнка. Яна не заўважае блакітных стужак-павуцінак вакол сябе, бесклапотна пралятае скрозь цемру. Магчыма, гэта дзяўчына, што даверліва павярнулася да незнаёмых людзей спінаю, як той матылёк, не адчувае небяспекі? Але гэтая шнуроўка на яе блакітнай сукенцы… Яна вылучана больш цёмным колерам і чымсьці нагадвае шнар, што рассякае карціну напалам. Ці можа так здарыцца, што на месцы гэтай шнуроўкі калі-небудзь вырастуць радасныя матыльковыя крылы, што падымуць чалавека ў паветра, вынесуць з тумановай раніцы на цёплае сонейка? Ці наадварот, тут ужо былі крылы, а цяпер толькі шнар-шнуроўка?

Ныраю яшчэ глыбей і заблытваюся ў адзіноце. Пуста. Дзяўчына абдымае сябе за плечы. Каб сагрэцца, матылёк уверсе трапеча сярод чужых блакітных стужак, нагадвае халодную зорку.

Матылёк. Ён сумяшчае ў сабе бездапаможнасць і надзею, радасць і сум. Карціна дыхае холадам сіняй фарбы. Даваць нырца ў яе вобразы небяспечна і захапляльна — нібы ў халодную таемную ваду.

*Маргарыта ДЗЯГЦЯР, 3 курс*

**Міхаіл ФІНСКІ. «Шэпт»**

Мы шэпчам, калі хтосьці блізка-блізка, калі не хочам расказваць усім тое, што хочам расказаць камусьці аднаму. Шэпт — гэта нешта чароўнае. Часам можна пачуць зусім не тое, што шапочуць, а тое, што мы хочам. Па-французску шэпт — гэта murmur, і так прыгожа гэта гучыць, так лёгка і мякка, так пяшчотна, што адразу ўяўляецца тое самае, што ўбачыў скульптар. Маленькі хлопчык сядзіць ці то на стужцы, ці то на марской хвалі, ці то на бязважкім кавалку паперы, і паўсюль раскідана лісце. Бярозавае лісце. Можа, яно і не бярозавае, але хацелася б, каб было менавіта так. Быццам сплеценае з карункаў лісце на амаль празрыстым аркушы чагосьці незразумелага. І на ім, на гэтым незразумелым, неакрэсленым сядзіць чалавек. І ён сам, гэты хлопчык, падаецца такім лёгкім і далікатным, што не зразумела: шэпча ён ці шапоча лісце… Ён так далёка ад Сусвету, але так блізка да прыроды. Ён заплюшчыў вочы і так проста ўявіць сябе на ягоным месцы: ён сам павярнуўся тварам да ветру. Ён чакае, калі подых ветру абрынецца на яго. Ён лагодны, слухае шэпт, можа зразумець яго і шаптаць сам. Так бывае не заўсёды. На гэта патрэбны адмысловыя ўмовы — можа, мора, а можа, пясок, а можа, пшанічнае поле. Каб нішто не адрывала ад шэпту, каб ніхто не перашкаджаў, каб лягчэй было дыхаць і адчуваць.

Шэпт — гэта нешта чароўнае. Каб пачуць яго, трэба імкнуцца. Трэба намагацца яшчэ і для таго, каб шаптаць. Здаецца, усё так проста. А вы паглядзіце на хлопчыка, які чуе шэпт. Паглядзіце на яго заплюшчаныя вочы, на яго разняволенасць, нават млявасць. Ён гатовы пачуць. А той, хто гатовы, — пачуе.

*Падрыхтавала Галіна БАГДАНАВА*



# МЕЛОДЫІ ЛЁСУ МАЭСТРА СОЛАПАВА

***Ва ўрачыстых трансляцыях са сталічнай плошчы Перамогі, якія адбываюцца ў святочныя і векапомныя дні нашай гісторыі, ёсць асабліва кранальны момант, калі камера тэлеаператара няспешна ўглядаецца ў пажылыя, але нібы памаладзелыя твары. На некалькі секунд у кадры з'яўляецца высакароднае аблічча надзвычай адметнага сівабародага чалавека са спакойным і мудрым позіркам. На парадным пінжаку — баявыя і працоўныя ордэны, дзясяткі медалёў, ганаровых знакаў. Легендарны маэстра Солапаў!***

Сёлета зноў глядзела рэпартаж са свята, парадавалася, убачыўшы на экране Міхася Рыгоравіча. У думках пажадала яму здароўя, аптымізму, даўгалецця. А неўзабаве паўтарыла свае зычэнні, сустрэўшыся з прафесарам у Беларускім саюзе музычных дзеячаў. Нядаўна сярод яго шматлікіх узнагарод заззяў юбілейны медаль у гонар 70-годдзя Вызвалення Беларусі ад гітлераўскай навалы. Міхась Рыгоравіч з усмешкай уздыхае: маўляў, і не спадзяваўся прычакаць такі юбілей, дык цяпер ледзь знайшоў для новай узнагароды месца на пінжаку...

## АД ГАЛАСОЎ З НЕБА ДА ДЗЕДАВАЙ «ЧАРАПАШКІ»

**Чалавек уразлівы і па-мастакоўску назіральны, ён трымае ў сваёй унікальнай памяці падрабязныя хронікі былога. Можа гадзінамі распавядаць пра вясковае дзяцінства; наноў перажываць эпізоды франтавой службы, згадваючы дзясяткі прозвішчаў, лічбаў, дат; у дэталях узнаўляць багатыя на падзеі старонкі ўласнай біяграфіі, звязаныя ўжо з пасляваеннай Беларуссю. Жыццё Міхася Солапава нагадвае вялікі эпічны раман, дзе ўсё, вядома ж, высноўваецца з маленства героя.**



«У сям'і я ад самага нараджэння быў атулены музыкай. Маці, якая мела дзівосны голас і спявала ў царкоўным хоры, брала мяне, зусім яшчэ маленькага, на перадвелікодныя спеўкі, дзе я пад гучанне ўзнёслых маліто́ўных распеваў нярэдка і засынаў. З трохгадовага ўзросту пачаў асвойваць пяціклапанавы гармонік-“чарапашку”, які змайстраваў для мяне дзед. Ён быў сапраўдны майстр-самародак: гадзіншчык, цесля, слесар, пячнік, шкляр, каваль. І музыкант. Рамантаваў гармонікі ўсіх відаў, што прыносілі аднавяскоўцы, дый граў на ўсіх. І мяне прыахвоціў. Гадоў шэсць мне было, калі я ўжо граў нароўні з дарослымі, падбіраючы па слыху папулярныя ў народзе песні, танцавальныя мелодыі. Нават музіцыравалі хатнім квартэтам: дзядуля, бацька, мама ды я. Матуля вельмі добра грала — душэўна, кранальна да слёз. Але пра гэты яе талент ведалі толькі самыя блізкія. Калі



яна брала інструмент у рукі, дык ад староннік вачэй замыкалася ў каморы, бо ў тагачаснай вёсцы жанчыну з баянам успрымалі неадэкватна і маглі проста зняславіць. А вось тое, што маці працавала грузчыцай на элеватары і цягала на сабе шасціпудовыя мяхі, лічылася нармальным. Бабуля, самы ўплывовы і мудры чалавек у сямейным выхаванні, скіроўвала мяне на духоўна-маральныя каштоўнасці хрысціянства і меркавала, што я магу стаць святаром. Любіла паслухаць, як я граю: “Мішулёк, а давай нашу «Барыню»!” Аднак падчас посту граць забараняла, і гэта я перажываў як страшнае катаванне. Абмяжоўваць сябе на сем тыдняў у ежы было лягчэй».

### КІНО, «МУРКА» І КІНУТЫЯ ТАЛЕРКІ

**Працоўны стаж — 80 гадоў? Неверагодна! Але гэта факт біяграфіі маэстра Солапава.**

«Дзесяцігадовым хлапчуком пачалі запрашаць мяне ў якасці музыканта на розныя мясцовыя падзеі. Граў на танцах, на вяселлях. Суправаджаў у якасці тапёра сеансы нямога кіно. Такім чынам падчас летніх школьных вакацый я ўжо сур’ёзна падпрацоўваў. Людзі карысталіся тым, што я мог проста “з голасу” імгненна падхапіць і сыграць незнаёмую для сябе мелодыю, і актыўна пашыралі мой рэпертуар. А потым замаўлялі ўсё, што хацелі пачуць, пад што наважыліся паскакаць, выкрыквалі: “Міша! Давай «Мурку»!” ці прасілі сыграць нешта падобнае. Я са сваім выхаваннем не чуў тады саміх песень, не ведаў, якую непатрэбшчыну нясуць іх тэксты, — я толькі ўзнаўляў мелодыю. А ў “Мурцы”, варта прызнаць, яна даволі выразная.

Пры нагодзе я адкрываў для сябе новыя інструменты. Саматугам асвойваў мандаліну, баян, балалайку, фартэпіяна, пaглядаў на духавыя і скрыпку... Уступіў у камсамол. Бабуля была супраць. Але ж казалі, што пасля школы для не камсамольцаў закрыта дарога да навучання, а я вельмі хацеў вучыцца. Паспяхова прайшоўшы ўступныя іспыты ў Варонежскае музычнае вучылішча, мусіў забраць дакументы: рэкамендавалі паступаць у аналагічную ўстанову “сваёй” вобласці — Курскай. І хаця час прыёмных экзаменаў мінуў, мяне выслухалі, залічылі на 1-ы курс. Кур’ёз, праўда, здарыўся: я граў на баяне, збіраўся вучыцца на домры, а экзаменатары раптам папрасілі што-небудзь праспяваць. Збянтэжыўся і выдаў... “Інтэрнацыянал”! Камуністычны гімн літаральна сядзеў у маёй памяці, бо падчас летняй працы на танцпляцоўцы і кінасеансах даводзілася начаваць на вольным паветры і прачынацца з першымі гукамі вулічнага радыёрэпрадуктара — менавіта пад “Інтэрнацыянал”.

У Курскім вучылішчы, апроч усяго, наведваў чатыры аркестры: баянны, струнна-смыкавы, народных інструментаў. І сімфанічны, кіраўнік якога, убачыўшы маю вялікую цікавасць, запрасіў у калектыў, хаця я нічога не ўмеў. Даручыў іграць на ўдарных. Ва ўрачыстым канцэрце сама дырэктар вучылішча выконвала арыю Лізы з “Пікавай дамы”. Я павінен быў прабіць 12 разоў у талеркі, імітуючы бой курантаў апоўначы. Дамовіліся, што дырыжор пакажа мне жэстам, калі трэба ўступаць. Але я настолькі перахваляваўся, што калі ўбачыў узмах рукі, скіраваны да трамбонаў, прыняў яго за сігнал для сябе, узняў талеркі і пачаў адбіваць “удары гадзінніка”. Паспеў ударыць двойчы, бо адчуў удар у бок, зразумеў сваю памылку, выпусціў талеркі з рук, яны звонка грымнуліся аб сцэнічную падлогу, а я са слязьмі выскачыў на вуліцу і пабег да рэчкі. Там скінуў з сябе вопратку, памыў яе і сушыў да позняга вечара, прыгнечаны чорнымі думкамі: выганяць са скандалам! Але ніхто нават не ўшчуваў мяне, дырэктарка нават паспачувала і супакоіла: маўляў, у музыкантаў і не такое здараецца».

## ПРАЗ ВАЙНУ

**Маўклівыя і красамоўныя сведкі франтавога подзвігу Міхася Солапава — тры ордэны Айчыннай вайны, медалі «За Победу над Германией 1941—1945 гг.», «За освобождение Варшавы», «За взятие Берлина». Але якая пакручастая была яго дарога на фронт!**

«У чэрвені 41-га мы здавалі экзамены за 1-ы курс вучылішча. І раптам гэта страшнае слова, у праўдзівасць якога не верылася: вайна. Жах ахапіў толькі тады, калі, працуючы на саўгасным полі, мы пачулі вестку, што Курск бамбілі. З цяжкасцямі — давялося нават скакаць з цягніка — дабраўся да роднага сяла. А неўзабаве фронт апынуўся ў 30 км ад нас. Бацьку мабілізавалі ў войска. Я памкнуўся добраахвотнікам на фронт, але ў ваенкамаце прымалі юнакоў 1922 года нараджэння, я ж на два гады маладзейшы. Напярэдадні зімы здарылася яшчэ адна страшная навала: уся сям'я захварэла на сыпны тыф. Асабліва цяжкі стан быў у мяне: суцэльная высыпка, страта прытомнасці... Родныя падрыхтавалі ўсё належнае да майго пахавання. Насуперак усяму я ачуняў. Але зусім нечаканай ахвярай хваробы аказалася любая мая матуля. Яна памерла, не дажыўшы да 39-і гадоў... Выклікалі бацьку з войска. Уладзіўшы сямейныя справы, ён дапамог мне ўладкавацца ў суседняе з ім падраздзяленне: музыканты былі патрэбныя і на вайне. Я мог займацца музыкай ды і няблага харчавацца, атрымліваць хлеб, які ў той час бачыў усё радзей.

На перадавую мяне чамусьці не спяшаліся выпраўляць. Вайна працягвалася, разам з ёю ляцеў час. Вось ужо і маіх аднагодкаў прызвалі на фронт, і ад гэтага няпэўнасць майго лёсу рабілася невыноснай. Праўда, я паспеў з адзнакай скончыць эвакуіраванае ў Курганскую вобласць Тамбоўскае Чырванасцяжнае кавалерыйскае вучылішча імя Першай Коннай Арміі. А паколькі да вайны папрацаваў на трактары, змог прайсці курсы танкістаў. Але замест дзеючай арміі — Алма-Ата, куды мяне накіравалі рыхтаваць кавалерыйскія кадры для фронту. Думаў, у мяне знайшлі нейкую небяспечную хваробу, з-за якой без аніякіх тлумачэнняў трымаюць у тыле. Аказалася ўсё прасцей. Пры росце 175 сантыметраў я важыў 44-45 кілаграмаў. Прычынай маёй затрымкі ў тыле была дыстрафія. Але свет не без добрых людзей. Яны бачылі мае мітрэнгі, імкненне на фронт і распарадзіліся, каб мяне перавялі на санаторны рэжым з узмоцненым харчаваннем. І неўзабаве я ўжо быў гатовы да адпраўкі на перадавую.

Амаль месяц ехаў з Алма-Аты ў Маскву, адтуль трапіў на 1-ы Украінскі фронт, затым на 1-ы Беларускі. Пачалася асобная старонка жыцця. Служба ў танкавай разведцы. Асваенне нязвыклых, адрозных ад савецкіх Т-34, амерыканскіх машын, празваных дасціпнымі байцамі "брацкімі магіламі": выраблены з выдатнай трывалай сталі, высокія, разлічаныя на экіпаж не з трох, як было ў нас, а з пяці чалавек. Успамінаючы тыя гарачыя дні, вызначыў 13 сітуацый, у якіх мусіў загінуць, але выжыў. У тым ліку і ўскладнёнае інфекцыяй раненне, што здарылася, можна сказаць, на парозе пераможнага мая. Потым было адказнае заданне па ахове ўдзельнікаў Патсдамскай канферэнцыі. І доўгая дарога дадому.

Наш цягнік пераехаў дзяржаўную мяжу і на савецкай тэрыторыі раптам спыніўся. Пачуўшы: "Разведка, хадзі глянь, што там!", я выйшаў з вагона і ўбачыў неверагодную карціну. Байцы высыпалі з вагонаў. Многія ляжалі на зямлі, цалавалі яе, цалавалі траву; многія, укленчыўшы, паўтаралі, як замову: "Госпадзі, я жывы! Я выжыў! Я вярнуўся! Госпадзі! Я буду жыць!" Многія падбягалі да дрэваў, краталі ствалы, а ўбачыўшы бярозкі, абдымалі іх, як нявест. Прыкладна праз гадзіну мы змаглі ехаць далей».

## МАЙСТАР-НАСТАЎНІК

**Асіповічы, Лапічы, Барысаў, Печы, Мінск, Брэст. Пасля дэмабілізацыі менавіта Брэст стаў для яго новым домам. Тут Міхась Солапаў, чалавек малады і ўжо сямейны, скончыў музычнае вучылішча, сумяшчаючы ўласную адукацыю з выкладчыцкай працай, і працягнуў далейшае навучанне на завочным аддзяленні**



**славутай маскоўскай «гнесінкі». Вышэйшую адукацыю атрымаў па дзвюх спецыяльнасцях: баян і харавое дырыжыраванне. У Брэсце актыўна працаваў як дырыжор з харавымі калектывамі, у тым ліку дзіцячымі, з аркестрамі. У славутым калгасе на Камянеччыне, дзе старшыняваў Герой Сацыялістычнай працы Уладзімір Бядуля, стварыў узорную музычную школу, тры гады быў яе дырэктарам. Арганізаваў і асветніцкі ўніверсітэт культуры, які сам жа вёў. Пры канцы 1960-х маэстра (дакладны пераклад слова** maestro **з італьянскай, нагадаю, — настаўнік, майстар) атрымаў прапанову працаваць у Мінску, дзе знайшоў новыя магчымасці для сумяшчэння самых розных праяў музычнай дзейнасці. А таксама — спажыву для разваг.**

«Вучуся ўсё жыццё, штодня. Стараюся не прамінаць нічога з таго, што дыктуе сучаснасць. І працаваць люблю. Але ніколі не любіў займацца адміністрацыйнай працай, стараўся яе пазбягаць. Калі ўжо даручалі такую справу, дык ставіўся да абавязкаў кіраўніка неабыякава, з адказнасцю ўзважваючы кожнае рашэнне. Што б ні рабіў, страўся свае ўчынкі сувымяраць з тымі маральнымі асновамі, якія закладзены ўва мне праз бабуліна выхаванне, праз магутны дух яе веры. Я часта чуў: “Госпад Ісус Хрыстос нічога не патрабаваў, ён шчыраваў для людзей”. З маленства я прызвычаіўся прачынацца і засынаць з малітвай. Разумеў сэнс вялікага посту. І ўсё гэта ні ў экстрэмальных варунках вайны, ні ў гады савецкай атэістычнай рэальнасці не знікла, толькі было схавана ў патаемных кутках душы. Праўда, людзі не маглі не заўважыць мае “дзівацтвы”. Я ніколі не курыў, не ўжываў брыдкія словы і не піў, нават свае “франтавыя сто грамаў” аддаваў таварышам. Пры выключнай нагодзе, за вялікім бяседным сталом, мог сабе дазволіць кілішак алкаголю — і ўсё. Калі захмялелая кампанія правакавала мяне на п’янства ці лаянку і нічога з гэтага не атрымлівалася, пачыналіся намёкі на тое, што не п’юць і не кураць людзі падазроныя, нядобрыя, такіх асцерагацца трэба. Ды я трываў і не крыўдзіўся.

Прызнаюся, калі я цягам сямі гадоў загадваў у нашай акадэміі кафедрай баяна-акардэона, гэта быў не лепшы для мяне, пакутлівы час. Я ніколі не мог размаўляць з чалавекам жорстка, ставіцца да калег як да падначаленых, пагардліва крытыкаваць іх працу, прыніжаць самага адсталага ці занадта ганарыстага студэнта. Перш чым зрабіць нейкі крок, задумваўся пра наступствы: нашы дзеянні павінны скіроўвацца на дабро. І, здаецца, нікому ніколі дарогу не перайшоў. За доўгае настаўніцкае жыццё ў мяне каля 200 вучняў, сярод іх ёсць музыканты з ганаровымі званнямі, лаўрэаты самых розных конкурсаў. Аднак для мяне самае важнае — праца, а не ўлік сваіх заслуг (хаця апошнім часам педагогі пачалі “мерацца спісамі” падрыхтаваных лаўрэатаў). Калі да нас паступалі новыя студэнты (7—8 чалавек), не імкнуўся ўзяць у свой клас найбольш перспектыўных, чакаў, пакуль іншыя педагогі кафедры “разбяруць” першакурснікаў, вызначацца з нагрузкай, а да мяне трапляў толькі адзін вучань з чарговага набору. І, здаралася, не самы лепшы. Але я кіраваўся народнай мудрасцю: “У добрай маці нямоглае дзіця бліжэй да сэрца”.

Ужо даказана, што кожны нармальны дзіцёнак нараджаецца ў той ці іншай ступені здатным да заняткаў музыкай. (Дзіця можа быць няздарай з-за прыроджанай паталогіі, але ж тады праблема — не

педагагічная, а медыцынская). Чалавек ад прыроды здольны. А "дубам" яго робяць іншыя людзі: неспрыяльнае асяроддзе, няўмелае выхаванне, заняткі пад прымусам. Ніхто, апроч Бога, не змог бы ператварыць чалавека са здольнасцямі сярэдняга ўзроўню ў высокаадоранага музыканта. Аднак майстар-настаўнік можа і павінен навучыць кожнага, хто ўжо звязаў сябе з музыкай, — навучыць упэўненаму існаванню ў прафесіі, заахвоціць да творчасці. З гэтак званымі слабейшымі я проста больш працую, чым з асабліва адоранымі. Вынік, як правіла, заўважны. Калі ж гора-вучань дэманструе абыякавае стаўленне да заняткаў і не хоча ўдасканальвацца сам, я папярэджваю, што мушу ад яго адмовіцца. Гэта дзейнічае, студэнт імкнецца развіваць свае навыкі. А з яркімі талентамі працаваць больш складана. Яны, бывае, сваволяць, педагогу наперакор прапануюць уласную трактоўку музыкі, часам паспешлівыя і катэгарычныя ў высновах. Я іх выслухоўваю і... хвалю! На збянтэжанае пытанне: "За што ж вы мяне хваліце, калі я вас прынцыпова не слухаю, раблю па-свойму, спрачаюся?" — адказваю: "Хвалю за тое, што ў вас выяўляецца індывідуальнасць, у вашых поглядах ёсць асабістае, сваё, і вы гэта абараняеце. А час мінае, людзі творчыя няспынна вучацца, паглыбляюць досвед, пераадольваюць нейкія амбіцыі. І хто ведае, магчыма, калісьці вы пагодзіцеся з той трактоўкай, пра якую распавядаў вам я, або знойдзеце зусім іншы варыянт"».

## ДЫХАЙЦЕ З МУЗЫКАЙ!

**Маэстра перакананы: выхоўваць — не значыць камандаваць. Гэта значыць ствараць умовы для рознабаковага развіцця асобы. І трэба не прымушаць моладзь да творчасці, а заахвочваць! Як? Магчыма, праз харавое мастацтва. Калі гэта сапраўды варта рабіць, дык чаму? Пра харавыя спевы, любоў да якіх перадалася Міхасю Солапаву ад незабыўнай матулі, ён гатовы гаварыць і гаварыць.**

«Чалавецтва яшчэ не вынайшла самы дасканалы музычны інструмент, які сваімі вартасцямі быў бы вышэй за голас. А спеўнае мастацтва для мяне — найвышэйшы эталон, які я часта рэкамендаваў, і небеспаспяхова, сваім студэнтам. Калі ў маладога музыканта падчас ігры нешта не атрымлівалася з фразіроўкай твора, я раіў: "Пазначце ўсе праблемныя для вас фрагменты і паспрабуйце праспяваць". Гэта дапамагала. Бо ўсе ў сферы музычнага гуку ідуць ад вакалу, ад звязанага з ім дыхання. Які б інструмент ні выбралі, вы дыхаеце, калі граеце на ім. Дыхайце абсалютна вольна, і калі ваша нязмушаная фразіроўка будзе супадаць з музыкай, усё атрымаецца! І гэта толькі адзін практычны штрых.

Духоўны і творчы патэнцыял мастацтва спеваў, найперш харавых, калектыўных, — бязмежны, і наша грамадства яго проста недаацэньвае. Я вельмі цяжка перажыў сітуацыю, калі ў агульнаадукацыйных школах ліквідавалі тыя каліўцы абавязковай музычнай адукацыі, што яшчэ заставаліся ў навучальных праграмах. Я ўспрымаю гэта як шкодніцтва. Так глыбока, як выхоўвае чалавека музыка, ніштo іншае не здатна ўздзейнічаць на яго эмацыянальна, душэўна, духоўна і нават інтэлектуальна. Час, кажуць, такі — стагоддзе новае, іншае. Не трэба звальваць усё на час! На многія стагоддзі ў чалавека закладзены два светы: эмацыянальны ды інтэлектуальны. Адпаведна працуюць і дадзеныя нам ад прыроды два паўшар'і мозга. Калі ёсць і развіваецца толькі нешта адно, — такі чалавек непаўнавартасны. Музыка, і, падкрэслю, калектыўныя спевы стымулююць развіццё асобы, гарманізуючы ў нас повязі абодвух светаў, дзвюх асноў чалавека: эмацыянальнай ды інтэлектуальнай. Такім чынам і адбываецца працэс выхавання. Я перакананы: музыкай, харавымі спевамі можна захапіць кожнае дзіця, зацікавіць моладзь. Галоўнае, каб музычным выхаваннем займаўся майстар, здольны правільна вызначыць момант для навучання і патлумачыць, што спевы — гэта своеасаблівая мова, спосаб жывых і дзівосных чалавечых стасункаў. Адчуўшы неабыякавасць майстра, многія таксама палюбяць хор. Бо і святая любоў да музыкі невытлумачальным чынам перадаецца ад чалавека да чалавека».

*ДАВЕДКА «М»*

*Міхась Солапаў — заслужаны дзеяч мастацтваў і заслужаны дзеяч культуры Беларусі, differentiated рознабаковы музыкант-педагог і асветнік, аўтар больш як двухсот рэцэнзій, аналітычных артыкулаў і творчых партрэтаў, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Родам з расійскага сяла Пакроўскае, што ў Цэнтральным чарназем'і. Восенню яму споўніцца 90. Сёння Міхась Рыгоравіч — адзіны ветэран Вялікай Айчыннай вайны ў калектыве акадэміі і ў саюзе музычных дзеячаў.*



**САЮЗ ВІНШУЕ...**

Знаныя творчыя людзі спраўляюць свае юбілеі ў ліпені. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» балетмайстар Ніна Залеўская — сярод заснавальнікаў харэаграфічнага аддзялення Гродзенскага каледжа мастацтваў; яе імя неад'емнае ад поспехаў заслужанага аматарскага калектыву народнага ансамбля танца "Гарадзенскія карункі". Адметнай лічбай «60» пазначаны жыццёвы шлях дырыжора Пятра Вандзілоўскага: у маэстра багаты досвед працы з рознымі аркестрамі, ён вядзе плённую педагагічную дзейнасць у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, узначальвае студэнцкі камерны калектыў Gradus ad Parnassum («Прыступка да Парнаса»). Яго аднагодак — Васіль Браім, уладальнік моцнага пранікнёнага голасу, славуты саліст Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Цітовіча. Тонкаму музыканту, піяністу-педагогу Барысу Спектару споўнілася 65.

**ТЫМ, ХТО АДНОЙЧЫ ПАСТАЛЕЕ**

«Усе дарослыя некалі былі дзецьмі, усе дзеці аднойчы стануць дарослымі», — разважае Дзмітрый Ермаловіч-Дашчынскі і марыць пра тое, каб яго першы аўтарскі альбом спадабаўся слухачам усіх пакаленняў. Дзмітрый — паэт, які прыняты ў БСМД і актыўна супрацоўнічае з прафесійнымі кампазітарамі, маладымі музыкантамі і выканаўцамі. На дыску «Маленькая балерына. Песні для дзяцей, якія стануць дарослымі» прадстаўлены творы самага папулярнага жанру, напісаныя і адмыслова для эстрады, і для дзіцячых тэатральных спектакляў. Вершаваныя радкі Ермаловіча-Дашчынскага на музыку паклалі Ганна Казлова, Алена Храброва, Дзмітрый Фрыга, Сяргей Талкуноў. Сярод выканаўцаў — наша зорка Іскуі Абалян, Узорны хор «Аніма» філіяла ДМШМ № 19 Мінска для дзяцей з парушэннямі зроку, юныя салісты сталічных эстрадных студый, тэатральныя артысты. Аматараў паспяваць парадуе крэатыўны бонус: фанаграмы «мінус 1» песень «Маленькая балерына» і «Крылы дзяцінства».




***Святлана БЕРАСЦЕНЬ***

*Дар'я ПАЛЫНСКАЯ*

*Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны*

# ДЗЁННІК ЭТНАГРАФІЧНАЙ ПРАКТЫКІ, 2013 ГОД

***Дар'я Пальнская (папросту Дарка) — 19-гадовая студэнтка 2 курса гістфака Полацкага дзяржуніверсітэта. У выключна беларускамоўнай атмасферы вырошчвае дома мужа — журналіста і рок-музыку, котку (аўтаспыншчыцу), пацучыху і... кактус. Часам сама пераўтвараецца ў журналіста і асвятляе культурныя падзеі ў газеце «Полацкі веснік». Захапляецца этнаграфіяй.***



**БАЧЭЙКАВА І ВАКОЛІЦЫ**

**01.06.2013.**

Першы дзень заўсёды самы цяжкі, хвалюючы і сумбурны. Падыходзячы раніцай да ўніверсітэта, ледзь валакла сумку, з сумам спрабавала знайсці знаёмыя твары сярод натоўпу завочнікаў. Шчыра парадавалася, калі прыехаў аднагрупнік.

З нашай групы дзённага аддзялення гістфака Полацкага дзяржуніверсітэта ў 14 чалавек ехаць на этнаграфічную практыку рашыліся толькі мы з аднагрупнікам Уладзем. Пазней пазнаёміліся з другакурснікам Дзянісам, дамовіліся трымацца разам, пакуль не пазнаёмімся з усімі.

А дзясятай прыехаў і забраў нас аўтобус. Было сумна і трошку страшна з'язджаць. Цэлых два тыдні з незнаёмымі людзьмі. Што там будзе? Інтрыга. Ехалі доўга, па дарозе лічылі азёры. Вёска з прыгожай назвай Бачэйкава, месца нашай добраахвотнай высылкі, сустрэла сучаснымі аградомікамі, новай царквой і рэчкай.

Месцам для лагера выбралі прыгожы, круглай формы луг каля ракі Улы, парослы травой і быльнягом амаль у мой рост. Хлопцы з выкладчыкамі заняліся ўладкаваннем намётаў, дзяўчаты — прытоптваннем травы. Усталяваўшыся і расклаўшыся, мелі перакус у выглядзе шведскага стала. Ежай (нарэзкай, выкладкай) цалкам заняліся дзяўчаты-завочніцы.

Наступныя два тыдні мне выпадала правесці ў адным намёце з завочніцай Настай з Наваполацка. Цяжка адразу вызначыць свае думкі. Аб'ектыўна, сёння тут цяжка. Нервы напружаныя, сумую па пакінутых сябрах і родных. Складана раззнаёміцца, адаптавацца, бо завочнікі старэйшыя за нас. Самай вялікай праблемай для мяне стала мая беларуская мова. Відаць, з такой з'явай завочнікі сустракаліся нячаста, бо усе дзіўна глядзяць, перапытваюцца, і задаюць гэтае абавязковае пытанне «чаму?».

19.15. Палявая кухня, асабліва ў першы дзень, — штосьці звышшыкоўнае, нават калі гэта звычайная грэцкая каша з тушонкай.

Вечар праходзіць спакойна. Дасведчаныя людзі адразу пасля вячэры дасталі мячык, разгарэлася гульня ў валейбол. Здзівіла надвор'е: днём стаяла спёка, а пасля раптам




моцна пахаладала. Але тут неверагодна прыгожа! Жывучы ў гарадской кватэры, адвыкаеш ад такога цудоўнага навакольнага хараства.

**Такім чынам.** Дзень атрымаўся насычаны, хоць і крыху панічны. Практыка сутыкнула мяне з уласнай неарганізаванасцю: калі вечарам нечакана пахаладала, я пашкадавала аб многіх няўзятых рэчах. Але першы крок зроблены, першы дзень прайшоў. Вельмі цікава назіраць за ўсталяваннем лагера, парадку ў ім, фарміраваннем сяброўскіх адносін між людзьмі. Пакуль што адчуваецца напружанасць, але, мяркую, хутка ўсё знікне.

**06:23 Другі дзень экспедыцыі**

Начныя размовы за сценкай намёта не сціхалі доўга, але сну на прыродзе гэта абсалютна не замінае — адключаешся імгненна. Прачнулася ў 4 раніцы ад таго, што было халаднавата ды нязвыкла гучна спявалі птушкі. Ад першай праведзенай ночы ў намёце на зямлі баліць шыя.

Надвор’е не перастае здзіўляць. Сонца, якое нечакана паднялося з боку бальніцы, хвіліны тры толькі свяціла, затым у ім уключыўся, мабыць, абагравальнік, і — стала цёпла, нават спякотна! Дзіва ды толькі.

Мелі сняданак, на які выкарысталі 1,5 пакета макарон і 2 банкі тушонкі, рыхтуемся выйсці на маршрут. Сёння арыентуемся на вёску Бачэйкава, будзем размаўляць з мясцовымі старажыламі. Лагер асвойваецца, гудзіць нецярплівым вірлівым жыццём.

14:30. Вярнуліся з маршруту. Я, Уладзя і Дзяніс былі накіраваны да мясцовага краязнаўцы, які нас ужо чакаў. З размовы засталіся трохгадзінны запіс і прыемнае ўражанне ад цікавага суразмоўцы. Раглядалі фотаздымкі, хадзілі па мясцовасці пад расповеды пра тутэйшую даўніну і паноў. Было цікава, асабліва калі прабіраліся праз лес з быльнягу, травы, кустоў і смецця… Трэба прызнаць, тэрыторыя былога панскага маёнтка вельмі занядбаная і недагледжаная, што сумна.

Па вяртанні было знойдзена рашэнне як змагацца са спёкай: рэчка Ула, ці, як называюць яе мясцовыя, Ульянка — гэта штосьці! Вада вельмі прыемная і прахалодная, ды і не глыбока. Праўда, пакуль рызыкую толькі троху таптацца ля берага. Плаваць не ўмею.

Пасля абеду знайшла ідэальнае месца — цянёчак пад намётам. Не так дакучае спёка, можна думаць і чытаць. У лагеры вельмі ўтульна і спакойна, стракочуць конікі, няспынна спяваюць птушкі. На лузе гудуць пчолы. З аднаго боку — пагрозліва і сур’ёзна, а з другога — манатонна і руцінна. Увогуле, тут неверагодна прыгожа. А яшчэ здаецца, што вельмі блізка да неба.

Сёння другі дзень нашай практыкі. Пакрысе ўсе адаптуюцца, прывыкаюць. Праўда, беларуская мова дагэтуль выклікае ў многіх пытанні, асабліва ў завочнікаў-вайскоўцаў з чацвёртага курса. Сёння ў нас акрэсліліся рысы кухні — да вогнішча далучыліся прывезеныя аднекуль драўляныя сталы і лаўкі.

Жыццё ў лагеры мае свой распарадак, у тым ліку — абавязак несці нарад па кухні. Дамовіліся з дзяўчынай Інай дзяжурыць у пятніцу.

**Такім чынам**. Дзень падаецца нашмат лепшым, чым учарашні. Сёння больш вольна адчувалася ў нашым асяродку, мне ўжо прасцей размаўляць. Знамянальнай з'явай застаецца наш першы палявы запіс, размова з краязнаўцам. Гэта вельмі цікава і не так складана, як я думала.

**Серада.**
**03/07/2013 7:26**

Сёння прачынацца было складаней, мабыць таму, што ўчора палову дня і так праспала. За два дні, праведзеныя тут, скура паспела наталіцца сонцам і пачынае рабіцца больш смуглай. Гэта, безумоўна, радуе, але калі так пойдзе і далей, то я вярнуся дамоў неграм.

Ужо ў 8 раніцы спякотна. Сёння ўпершыню аддала свой тэлефон, каб паставілі на зарадку. Справа ў тым, што зарадзіць яго можна толькі ў шпіталі ці ў краме, трэба дамаўляцца. Але, напрыклад, Дзяніс уключае тэлефон толькі ў пэўныя перыяды, вечарам з 20 да 22 гадзін. Зручна, мабыць.

14:35. Сённяшні маршрут пралягаў у вёску Клешчыно. Ісці недалёка, хвілін 15, адзінае, што па пяску амаль ўвесь час. Вёска падалася закінутай з першага позірку — ніводнага чалавека на вуліцы. Да першых падыходзячых нам па ўзросце рэспандэнтаў былі адпраўлены хлопцы, астатнія пайшлі далей.

У канцы вёскі мы сустрэлі дзеда Шуру і бабу Машу. Яны такія вясёлыя! Сядзелі вакол іх, распытвалі. Вельмі бадзёрыя суразмоўцы, паўтары гадзіны праляцелі імгненна. Камічна было, калі бабка напрыканцы размовы раптам узгадала пра бульбу, што ў яе варылася. Адправіла па яе дзеда, але праз паўгадзіны і сама пайшла. Вельмі харызматычныя, распавялі шмат анекдотаў, нават праспявалі пару частушак.

Пайшлі далей. Вёска складаецца з дзвюх доўгіх вуліц, аддаленых адна ад адной. Частка групы пайшла размаўляць яшчэ ў адзін дом, а мяне з Уладзем і Дзянісам адправілі на пошукі патэнцыйных носьбітаў цікавай нам інфармацыі далей. Нічога не знайшоўшы, рушылі ў лагер.

Быў момант, калі спыніліся ля нейкага дома, каб набраць вады ў бутэльку, і тут пад'ехалі на машыне гаспадары. На маё пытанне, ці можна ўзяць вады яны пачалі распытваць пра мову… Такое адчуванне, што яны ўбачылі штосьці абсалютна незвычайнае. Жанчына адзначыла: «Так необычно слышать в Беларуси белорусский язык»...

Рэчка працягвае ратаваць ад спёкі. Хачу навучыцца плаваць. Як кажуць выкладчыкі, кожны этнограф мусіць умець плаваць.

Пасля абеду зноў пайшлі на маршрут. Сёння раніцай мясцовыя жыхары параілі знайсці адну жанчыну, якая вельмі добра спявае. Пасля доўгіх пошукаў і абыходжання амаль усёй вёскі — знайшлі! Здзівіліся — яна выглядала гадоў на 60, апынулася, што ёй ажно 80. Вельмі цікавая жанчына з шыкоўным голасам, праспявала нам колькі песень з Магілёўшчыны.

**Такім чынам.** Трэці дзень практыкі прамільгнуў і схаваўся разам з сонцам за лесам. Было цікава, і ўжо абсалютна проста. Радуюся, бо ведаю як завуць па імёнах большую частку лагера. Сёння было два цікавых інтэрв'ю, атрымана шмат новых звестак па традыцыйнай культуры.



**04 ліпеня 2013**

Прачнулася толькі па будзільніку, амаль прызвычаілася да ўсіх узгорачкаў зямлі пад спальнікам. Сёння маршрут у вёску Жарнасекава.

13:31. Вярнуліся. Атрымаўся самы смачны маршрут, падмацаваны мёдам і чаем. А яшчэ акрэслілася наша група са студэнтаў-дзённікаў (мяне, Уладзі, Дзяніса), і нават атрымала назву — Група Ў нескладовае.

У пачатку вёскі сустрэлі бабулю гадоў 80, паразмаўлялі з ёй. Хвілін 20 распытвалі дзеда на дарозе, але не вельмі ўдала. Затым абсалютна выпадкова згледзелі дзеда-пчаляра, які з радасцю пачаў з намі гутарыць. Цікава, што знайшлі мы яго ў садзе сярод вулляў. Ён пасадзіў нас на самаробны тапчан, а сам застаўся стаяць — не так даўно меў праблемы са спінай. Артыстычны і вясёлы дзед распавёў шмат цікавостак. А пасля запрасіў на гарбату і мёд. Хіба ад такога можна адмовіцца? :) Дарэчы, пчолы ў яго добрыя. Ніводная нас нават не напужала, падляцеўшы блізка, а мы ж каля самых вулляў сядзелі.

Яшчэ з паўгадзіны пасядзелі ў доме, пілі чай, размаўлялі, дзед спяваў песні. А развітваючыся, дазналіся, што ў яго дзень нараджэння 2 снежня — як і ў мяне.

20:36. Першыя сумныя позіркі на неба ўсе пачалі кідаць яшчэ за паўгадзіны да дажджу. Тады неба толькі пачало зацягвацца хмаркамі. А пасля яны зманліва рушылі на захад і пачаўся дождж. Дробны і сарамлівы грыбны дождж ык разгарнуўся да моцнага ліўня. Не пашчасціла кухарам, якія ў гэты час меліся ставіць вячэру. Лагер пахаваўся ў намёты, а некалькі чалавек, у тым ліку і я, у дажджавіках вярнуліся на кухню. Каша зварылася хутка.

Надвор’е цалкам стабілізавалася. Не абышлося без здарэнняў. Нехта развярнуў банку тушонкі ў харчовым намёце, пачулася: «Утык бы гэтым кухарам даць!..» Любая разнамасная суполка, аб’ядная прымусова, не можа быць спакойнай. Вось і тут пачалося: лагер умоўна падзяліўся на 4 суполачкі, якія пачалі трымацца адасоблена і ў сваіх колах абмяркоўваць іншых. Мяне абурыла, што найбольш пачалі выступаць людзі, абсалютна не датычныя да пытання з харчовым намётам і кухняй.

**Такім чынам.** Чацвёрты дзень таксама закончыўся. Усё ж час ляціць імгненна! Быў цікавы маршрут, новыя людзі. Упершыню ў лагеры ішоў дождж і выбухнула сварка.



**05.07.2013**

Сёння дзяжуру па кухні. Шчыра, нават пісаць нічога не хочацца, роспач і безвыходнасць. Гэта нелагічна, тут шмат людзей, якія не хочуць ісці ні на маршрут, ні на раскопкі, чаму б ім не гатаваць? Сумна. У дадатак, з раніцы мяне пакусалі камары, моцна баліць рука і троху заплыло вока. Не мой дзень.

21:05. На сняданак прыгатавалі макароны, памылі посуд. Доўга мучыліся з вогнішчам, вада закіпела толькі праз паўтары гадзіны. На абед — суп харчо з пакецікаў і грэцкая каша з тушонкай. Пачулі розныя водгукі пра нашы кулінарныя здольнасці, як станоўчыя, так і не вельмі. Па абедзе пайшоў дождж, закончыўся толькі перад вячэрай. Вячэралі, дарэчы, рысам з тушонкай. Не знайшла сёння салідарнасці і падтрымкі, бо калі

ты за нешта адказваеш, усе стараюцца цябе тролiць i падсцёбваць, а вось дапамагчы не прапанаваў нiхто. Больш дзяжурыць не буду.

**06.07.2013.**

16:04. Сёння пятнiца, многiя паехалi дадому на выхадныя. Мая суседка па намёце Наста, якая за апошнiя днi зусiм расхварэлася, з'ехала ўвогуле. Практыку яна дабудзе ў Полацку, на археалагiчных раскопках у Запалоцці, разам з астатнiмi маiмi аднагрупнiкамi. Самотна.

Сённяшнi маршрут быў у вёску Далосцы, далекавата адсюль. Ужо на пачатку вёскi сустрэлi сталую пару, наша група Ў засталася з ёй. Распавядалi абсалютна пра ўсё, i мяне шчыра здзiвiла iх актыўнасць, весялосць. Яны з такiм iмпэтам i запалам паказвалi нам, як раней гулялi ў гарадкi! А яшчэ яны падарылi нам форму для хлеба. Запiсалi паўтары гадзiны i пайшлi далей.

Iншымi цiкавымi людзьмi Далосцы нас не парадавалi. Хвiлiн дзесяць усяго размаўлялi з бабкай, якая 50 год назад прыехала сюды з Татарстана. Дайшлi да канца вёскi, але там таксама нiкога не сустрэлi. Дарэчы, вёска ў адну вулiцу працягласцю каля кiламетра. Але шмат закiнутых будынкаў i лецiшчаў. Праз паўгадзiны блуканняў пайшлi дадому.

Сёння я вучылася плаваць, у прынцыпе, гэта даволi не складана, у мяне нават пачало атрымлiвацца. Радасць!



**Такiм чынам**. Атрымаўся даволi цiкавы дзень, хоць i з далёкiм ранiшнiм маршрутам. Я навучылася плаваць, а ў лагеры патроху пачынаюць размаўляць па-беларуску. Людзi спрабуюць ужываць беларускiя словы, ды i выкладчыкi часам пачынаюць размаўляць на мове.

**7 дзень. Нядзеля**

Нядзеля — выхадны. Учора дзяжурныя хадзiлi па вёсцы, прасiлi ў мясцовых гароднiны якой. Нейкi добры чалавек нагрузiў iм пакет гуркоў — цяпер ядзiм салаты.

Частка лагера адпрасiлася i паехала дадому, некалькi чалавек пайшлi на маршрут, астатнiя млеюць пад сонцам i эксплуатуюць рэчку.

Хачу напiсаць пра ўклад i распарадак лагера. Безумоўна, дысцыплiна, аб якой няспынна паўтараюць выкладчыкi, тут трымаецца. Не iдэальная, але ёсць. Дзяжурныя па кухнi прачынаюцца а шостай, пачынаюць гатаваць сняданак. Гадзiн у сем усё гатова, i кухары б'юць лыжкай у талерку цi накрыўку, каб усе прачыналiся. Пасля любога прыёму ежы дзяжурныя мыюць увесь посуд, прыносяць ваду i дровы на вогнiшча. Маршрут — а дзявятай гадзiне, як i археалагiчныя раскопкi. У 14:30—15.00 — абед. Звычайна гэта суп i каша з тушонкай, таксама ёсць смачняшкi — печыва, цукеркi. Да наступнай ранiцы — абсалютна вольны час. Можна спаць, купацца, загараць цi сядзець размаўляць на кухнi. Вячэра ў 18, 19 цi 20 гадзiн, калi як.

Сёння быў прышпiл. Калi сядзелi ўсе разам за агульным сталом, прыйшоў мясцовы жыхар, як ён сам прадставiўся — Простой Андрей, белорусский. Пачаў распытвацца, хто мы, адкуль. Распавёў, што, святкуючы Купалле, згубiў у рэчцы човен. Быў гэты спадар на добрым падпiтку, сур'ёзна да яго не паставiлiся. Але ён праз нейкi час вярнуўся i прынёс нам мех бульбы! Дзякуй :)

Вельмі не хапае музыкі. Але разумею, што калі б увесь лагер пачаў слухаць сваю музыку, то было б яшчэ горш, чым без яе. Трымаюся, пракручваючы ў галаве любімыя мелодыі. Песні мужа, Арбенінай, Сурганавай, гурта «Мельница»...

**Такім чынам.** Асэнсоўваю, што ўжо ажно сёмы дзень практыкі. Час ляціць імгненна! Дзень атрымаўся лянотны, спакойны і сонны.

**08 ліпеня 2013**

13:52. Вярнуліся з маршруту. Сёння было цяжкавата — Бачэйкава-Жарнасекава-Далосцы-Чурылава — шлях няблізкі. Яшчэ і выкладчык, што пайшоў сёння з намі, вельмі хутка ходзіць. Але ж паспяваем за ім!

Група Ў, як заўсёды, засталася на самым пачатку вёскі, дзе ля дома сядзелі дзве бабулі. Сядзелі мы з імі з паўгадзіны. Па наводцы ад іх пайшлі шукаць старасту вёскі. Дарэчы, паселішча прыгожае, заўважна абнаўленне вёскі.

Стараста і яго жонка аказаліся цікавымі людзьмі. Дзед — камуніст, але яго бабуля была знахаркай. Паразмаўлялі крыху з імі і пайшлі шукаць далей. Вёска амалоджаная прыезджымі, старых амаль не засталося.

Ад хуткай хады, спёкі, гарачага асфальту пад нагамі ўсё змазваецца, блытаецца… Жыхары Жарнасекава, якія сядзелі пад агароджай на лавачцы, спыталі: «Чаго тудысюды бегаеце?»

…Крута, калі на кухні знаходзяцца таленавітыя людзі. Сёння завочнік Паша прыгатаваў суп накшталт расольніка, запечаную ў гаршчку кашу, грэнкі і кісель. Во як! Усё неверагодна смачна.

…Палявы дзённік практыкі вядзём пабеларуску. Напэўна, кожны другі з двух дзясяткаў удзельнікаў экспедыцыі асабіста спытаў у мяне, чаму я размаўляю на мове, дзе навучылася. Аднойчы сядзелі пасля абеду і ўстроілі курс мовы. Словы накшталт імбрыка, лядоўні, алею, вантробаў. Колькі было радасці!

**Такім чынам,** дзень атрымаўся нядрэнны. Цікавы, хоць і адносна марна праведзены маршрут усё ж адкрыў перад намі новых людзей і новыя мясціны. Выдатны абед! І ў абмежаваных умовах можна выдатна гатаваць. Галоўнае — умець і хацець.

> Калі ты за нешта адказваеш,
> усе стараюцца цябе троліць
> і падсцёбваць,
> а вось дапамагчы
> не прапанаваў ніхто.
> Больш дзяжурыць не буду

> Усе кажуць, што на лузе
> шмат вужоў.
> Я дагэтуль не бачыла ніводнага.
> Цікава было б убачыць
> жывую змяюку зблізку,
> а з іншага боку —
> я ж буду баяцца

**9 дзень**

13:37. Сёння на маршрут выйшлі на паўгадзіны раней, у плане — вёскі Драздова і Забеліна, пара кіламетраў. Група Ў, з намі — Карына, рушылі туды. На перакрыжаванні з трасай на патрэбнай нам дарозе згледзелі купку людзей. Калі перайшлі дарогу і параўняліся з імі, пазнаёміліся. Аказалася, што мужчына, Віктар, з вёскі Забеліна. Павёў нас у вёску, па дарозе распытваўся, хто мы, адкуль і навошта. Вельмі сумнае відовішча — яму і жанчыне гадоў 40, але вопратка брудная і парваная, твары чырвоныя і апухлыя. Алкаголь… Сама вёска, хоць і мае прыгожую назву, выглядае шчэ горш за жыхароў. Каля 15 дамоў, большая частка якіх, падаецца, прыдатная толькі для зносу.

Віктар завёў нас да васьмідзесяцітрохгадовай бабулі Лены. Але яна не стала з намі размаўляць. Па дарозе назад сустрэлі маці нашага праваднікa. Яна таксама адмовілася штосьці распавядаць. Спяваць буду ў пятніцу, калі атрымаю пенсію…

Пайшлі ў Драздова. І тут нагледзеліся дзівоцтваў: падышлі да дома, каля якога завіхаўся мужчына. Павіталіся, а ён раптам імкліва пабег да дзвярэй і схапіўся за іх, каб закрыць. Я ўжо думала, што ён збегчы ад нас хоча, аказалася, проста злы сабака ў доме — ратвейлер. Дзядзька паклікаў цешчу, паненку ва ўзросце, але яна не захацела з намі размаўляць, бо была занятая нейкімі хатнімі справамі.

Пайшлі да іх суседзяў. Цікавая бабуля, вельмі дасведчаная ў розных пытаннях, якія мы задавалі. Адзінае, што яна вельмі часта збівалася, але гэта заўважна ў размове з усімі, каго апытвалі. Шмат людзей проста самотныя, і нават купка недасведчаных падлеткаў-этнографаў уяўляецца добрым суразмоўцам. Дарэчы, таксама заўважыла: каб адчапіцца ад нас, часта ўжываюць фармуліроўку: «Ай, усё забылися».

У лагеры ўсё як звычайна. Частка людзей тусуецца на кухні, хутка будзе гульня ў мафію. Сёння хлопцы гралі на гітары — гэта так класна!..

Усе кажуць, што на лузе шмат вужоў. Я дагэтуль не бачыла ніводнага. Цікава было б убачыць жывую змяюку зблізку, а з іншага боку — я ж буду баяцца =)

**Такім чынам**. Дзень прайшоў добра. Чакалі прыезду ўніверсітэцкага выкладчыка, дасведчанага навукоўца і заўзятага рыбака Уладзіміра Лобача, але ён так і не прыехаў.

**10 ліпеня 2013**

15.34 Як вярнуліся з даволі далёкага маршруту, вырашыла паспаць. Вось толькі што прачнулася.

Надвор'е стаяла някепскае, не так няшчадна паліла сонца, быў невялікі вецер. Хадзілі ў вёску Двор Нізгалава. Шмат топаць. Але прыйшлі. Сёння нас на маршруце было шасцёра. Падняліся на горку, там — былы панскі маёнтак. У адной з пабудоў цяпер бібліятэка, у другой нічога няма, яна з чырвонай цэглы і добра складзена, а вокны забітыя дошкамі. Ля гэтага маёнтка сустрэлі дзеда, распытвалі хвілін дваццаць. Затым запыталіся ў мясцовай краме пра старажылаў. Параілі схадзіць да Яніны.

Прайшлі патрэбны мост. Бабулька, што ішла насустрач, стала нашым правадніком далей. Сама ж і дамовілася са спадарыняй Янінай. Я задала пару пытанняў, затым з ёй гутарыў выкладчык. Бабульцы 84 гады, яна даволі жвавая і рухавая жанчына.

Вярнуліся. Сабраліся на кухні — я, Наста, Юля, Ігар. Размаўлялі пра ўсё на свеце, закранулі і мову. Гэты Ігар, хоць і з Мінска, але неяк звязаны з наваполацкім Княжычам.

23:36. Выдатна пасядзелі ля вогнішча. Буду спаць.

Калі сядзелі ўсе разам за агульным сталом, прыйшоў мясцовы жыхар, як ён сам прадставіўся — Простой Андрей, белорусский

**ПЕРАДАПОШНІ ДЗЕНЬ!**

**11.07.2013**

6:38. Добрай раніцы!

Ну вось чаму яны не прыехалі раней? Я адчула сябе амаль як дома, калі ўбачыла Аліну і Наташу, дзяўчат з гурта «Варган», ля вогнішча. Я дзе стаяла, там і села =) Паразмаўлялі пра ўнівер, агульных знаёмых… Гэта так шыкоўна — быць побач з людзьмі, якіх пэўную частку жыцця ты перад сабой бачыў.

Сёння ў нас плануецца ўрачыстая вячэра з прысвячэннем у этнографы і археолагі. Мабыць, будзе крута. На маршрут паедзем у вёску Свяча на аўтобусе.

15:29. Маршрут прайшоў добра.

Паелі вось. Гарохавы суп плюс бульба і кефір. Гы. Зноўку праспала з 16 да 18! :D

**12 ліпеня 2013**

6:33. Апошняя раніца ў лагеры.

Учора на святочную вячэру зрабілі тушаную бульбу, а таксама бутэрброды, цукеркі, печыва і арбуз. Ага, і салат.

Лагер пакрысе прачынаецца. Трэба збіраць сумку, рэчы… Нязвыкла ўсміхаюся сабе і радуюся, што ўжо хутка буду дома.

8:30. Склалі спальнікі, намёты. Складваюцца рэчы і мітусяцца людзі. Разабралі кухню. Дзяўчаты фарбуюць пазногці.

Учарашні маршрут прайшоў удала. Напаткалі цікавую бабулю. Размаўлялі б ды размаўлялі, але ўжо праз гадзіну прыйшоў яе дзед, запатрабаваў ежы. Бабуля распавяла, што ўжо 56 гадоў жывуць разам. Пайшлі да Фені Галубок. Бабуля-рыбак! А яе дзед з іншага боку вуліцы касіў. Бабуля пасадзіла нас на лаўку на падворку, праспявала колькі песень, у тым ліку валачобныя, шмат распавяла пра нялёгкае жыццё, стасункі са свякроўкай… Сядзела і радавалася, што мая свякроўка — найцудоўнейшая жанчына…

11:25. Загрузіліся ў аўтобус. Да дома, да мужа — усяго паўтары гадзіны. Нават не верыцца, што прайшло амаль 2 тыдні!

Рубрыка гістфакаў краіны

Эдвард Тамаш МАСАЛЬСКІ

# З УСПАМІНАЎ (1799—1824)*

Аднак і ў нашым асяродку паволі выяўляліся сумненні; даходзілі чуткі з Польшчы, што там нацыянальны дух спаралізаваны двухсэнсоўным адказам Напалеона ў Вільні польскім дэпутатам; старэйшыя пачалі задумвацца над бязладдзем у французскім войску, і яўрэі пад сакрэтам засцерагалі тых, каму спрыялі, каб не спяшаліся ахвяраваць сябе айчыне, бо з таго нічога не будзе. Разам з іншымі дзядзька наш, пан Юры, ужо падрыхтаваўся да ўступлення ў войска, дзе яму абяцалі капітанскі чын, але адзін яўрэй, здавён прыхільны да яго за нейкае дзядзькава дабрадзейства, настойліва адгаворваў, каб ён устрымаўся хоць пару месяцаў, бо ў яўрэяў ёсць пэўныя звесткі, што Напалеон блага скончыць кампанію, і Расія да нас вернецца. Параіўшыся тады, пан Юры з сябрамі вырашыў пачакаць трохі, і добра з таго атрымалася. Бацькоўскі запал таксама астыў, асабліва пасля размоў з некалькімі старэйшымі польскімі афіцэрамі, якія вярталіся параненыя з-пад Смаленска і пэўны час адпачывалі ў нас. Спрыялі гэтаму расчараванню нашых старэйшых і заўсёдныя сутычкі з марадзёрамі розных нацыянальнасцей, якія належалі да французскага войска, што прывольна гаспадарылі па ўсім нашым краі, памнажаючы вялікія злоўжыванні, гвалт і разбой. Белічаны таксама спазналі ад іх шмат ліха; але бацька заўжды меў напагатове некалькі дзясяткаў добра ўзброеных людзей, таму марадзёрам у нас не ўдалося разжыцца, з падобных прыгод мы заўсёды выходзілі пераможцамі.

Памятаю некалькі сутычак з імі, бо і я з пісталетамі заўжды пільнаваў бацьку з намерам бараніць яго, калі б хто яму пагражаў; але страляць мне не давялося, бо тыя марадзёры, звычайныя тхары, як толькі па сігнале майго бацькі з'яўляліся ўзброеныя людзі, яны адразу ж уцякалі; або паддаваліся пасля непрацяглага націску. Некаторым жа нашым суседзям, якія не ўмелі бараніцца, альбо не мелі сіл, тыя марадзёры акрутна даліся ў знакі. На Вінцэнта Машынскага ў Логах аднойчы напала два дзясяткі коннікаў, звязалі паноў і слуг, трымалі іх пад сваёй уладай амаль цэлыя суткі, абчысцілі двор дарэшты, забралі коней са стайні і фальварка, запрэглі іх у вазы ды экіпажы, спакавалі на іх каштоўнасці, адзенне, запас палотнаў, віно і ўсё, што толькі ўлезла, а потым рушылі да нас. Аднак у Белічаны не трапілі, бо калі спыталіся дарогу ў нашых сялян з Дубаўручча, тыя з зычлівасці да нас паказалі ім замест Белічан дарогу да Раваніч Слатвінскага, дзе ў той час распараджаўся камісар Ярмалкевіч. Там яны, натрапіўшы спачатку па дарозе на адчынены касцёл і тамтэйшага ксяндза, які адпраўляў святую імшу, уварваліся ў касцёл, схапілі ксяндза ля алтара, калі той стаяў з узнятымі да гары рукамі, завязаўшы яму рукі над галавой, з кішэнь выграблі грошы, забралі касцёльнае начынне, выліўшы на зямлю Хрыстову Кроў, абадралі алтар і рызніцу, а потым рушылі ў панскі двор. Там, звязаўшы чэлядзь, пачалі катаваць Ярмалкевіча, каб дазнацца, дзе схаваны грошы: заганялі яму ў пальцы нейкі дрот пад скуру і пхалі аж да плячэй. Гэтыя катаванні змусілі няшчаснага прызнацца, што пад адной кафляй у печы ўмураваны тры тысячы дукатаў. Дасталі іх і акрамя таго знайшлі таксама закапаную ў садзе скрыню са сталовым срэбрам Слатвінскага. Абчысціўшы двор гэтак як і ў Логах, паімчалі кудысь далей.

Паміж марадзёраў сустракаліся і палякі. Аднойчы да нас нібы з маршу завітаў атрад з васямнаццаці ўзброеных шарагоўцаў-пехацінцаў пад кіраўніцтвам унтэр-афіцэра, ней-

* Працяг. Пачатак у № 6, 2014 г.

кага пана Ягелы, маладога хлопца, які паходзіў, па яго словах, з Львова. Апавядаў, што камандзіраваны ў Менск з-пад Бабруйска з дывізіі Дамброўскага, які ў той час там кружляў; яны крыху збочылі ў дарозе, падманутыя недзе ілжывай парадай. Прыстойна трымаючыся, яны не абудзілі спачатку ў майго бацькі ніводнага падазрэння. Пасля, гасцінна прынятыя, пачаставаныя, пераначавалі спакойна ў нас і зранку рушылі ў паказаным ім кірунку да Менска. Але пасля абеду прыбеглі да нас людзі з Дубаўручча са скаргай, што палякі, якія ў нас начавалі, рэжуць у іх курэй і авечак, п'юць і забіраюць у іх боты, хусткі, палатно і гэтак далей. Бацька не даў веры ў рабунак, мяркуючы, што яны маглі ўзяць нешта толькі для падсілкавання. Паслаў аднак афіцыяліста[1] для ўдакладнення і папярэджання пана Ягелы, каб той сваім падначаленым не дазваляў сваволіць. Але пасыльны не заспеў яго ў Дубаўруччы, прывёз толькі навіну, што гэта, мусіць, марадзёры, бо пасля Дубаўручча яны напалі на Гайдукову Слабаду, шляхецкую ваколіцу, і натуральным чынам цяпер рабуюць там. Зранку назаўтра прыбеглі сяляне з Баровіны, другой нашай вёскі, якая ляжала ў супрацьлеглым баку ад Белічан, просячы абараніць іх ад тых палякаў пад ачолай Ягелы, які ноччу, абмінуўшы Белічаны дарогай, што ішла па-за дваром, з Гайдуковай Слабады прыйшоў да іх і прыняўся за розны гвалт. Пакуль бацька апранаўся, я сядзеў на ганку, чытаў кніжку; таму ўбачыў, як тыя самыя бандыты сунуцца да нас з Баровіны той жа дарогай, якой пазаўчора прыйшлі, і ўжо паспелі дайсці да брамы. Я пабег да бацькі, каб папярэдзіць. Выскачыў бацька і адразу сутыкнуўся з самім панам Ягелай, які заходзіў на ганак. Бацька вылаяўся і моцна выцяў яго па лычы, крыкнуўшы мне: «Забірай у іх стрэльбы!». Жаўнеры без супраціву пачалі перадаваць мне зброю, а я насіў яе на ганак. Далучыўся бацька, пазабіраў у іх астатняе, і цэлая банда ў імгненне была намі разброена: такі іх сполах апанаваў. Па праўдзе кажучы, на лузе перад дваром сабралася ўжо колькі дзясяткаў сялян з косамі і стрэльбамі, а пазней падцягнулася і наша дворская шляхта. Бацька загадаў ім звязаць усіх палякаў, пачынаючы з пана Ягелы, і запрагаць коней, каб везці іх з эскортам у Менск. Пачуўшы, што яны будуць дастаўлены ў Менск, палякі пападалі на калені, просячы аб міласэрнасці, бо ведалі, што генерал Бранікоўскі[2], менскі губернатар, без прамаруджвання карае смерцю ўсіх марадзёраў. Так, на працягу некалькіх тыдняў ён загадаў расстраляць больш двух тысяч бандытаў, схопленых мясцовым грамадствам. На плач Ягелы і жаўнераў, якія прысягалі, што гэтае свавольства з імі здарылася ўпершыню, яны хочуць выправіцца і вярнуцца ў войска, бацька палагаднеў. Выявілася, яны зманілі пра камандзіроўку і дывізію Дамброўскага, насамрэч належалі яны да нейкага корпуса Панятоўскага, ад якога адсталі ля Нясвіжа і мусілі цяпер ісці праз Барысаў да Смаленска, дзе той корпус злучыўся ўжо з асноўнай арміяй. Пасля таго плачу, прызнанняў і прысягаў рушыць наўпрост да свайго палка, калі будуць прабачаны, бацька паўшчуваў іх і загадаў на прыгатаваных ужо вазах везці звязаных жаўнераў не ў Менск, а ў кірунку смаленскай дарогі да Барысава і там выпусціць іх у горад, аддаўшы стрэльбы. Рухомасць, нахапаную ў сялян і шляхты, яны вярнулі. Тым часам, калі мы, не звяртаючы ўвагі ні на марадзёраў, ні на благія чуткі пра тую вайну, цешыліся вызваленню айчыны, слепа верылі навінам аб перамогах Напалеона і трыумфавалі пасля ўзяцця Масквы, раптоўна адусюль вакол нас пачалі памнажацца прыкметы заняпаду нашай справы. Спачатку прыйшлі звесткі, што корпус Чычагава[3] адкінуў Шварцэнберга[4] ад Луцка і пагнаў аж

[1] Афіцыяліст — слуга шляхецкага паходжання, які за плату выконваў на панскім двары пэўныя абавязкі.

[2] Опельн-Бранікоўскі Мікалай (1767—1817) — польскі і французскі генерал, другі французскі губернатар Мінска.

[3] Чычагаў Павел Васільевіч (1767—1849) — галоўнакамандуючы Дунайскай арміі, Чарнаморскага флоту і генерал-губернатар Малдавіі і Валахіі. У 1812 г. яму было даручана праследаваць войскі Напалеона.

[4] Шварцэнберг Карл Філіп цу (1771—1820) — аўстрыйскі фельдмаршал і генералісімус. Падчас кампаніі 1812 г. камандаваў аўстрыйскім дапаможным корпусам, быў адкінуты Чычагавым у верасні 1812 г. за межы Расійскай імперыі.

да Варшавы; потым, што Рэйнье[1] разбіты пад Кобрынам[2] і адкінуты да Менска. З другога боку, што генерал Эртэль[3] адагнаў Дамброўскага[4] ад Бабруйска і вешае там паноў, якія былі прыхільны да нацыянальнай справы.

Неўзабаве з'явіліся ў нас некалькі дзясяткаў недабіткаў з аддзела Касецкага, які быў разгвазданы пад Койданавым Ламбертам[5], што належаў да авангарду корпуса Чычагава. Толькі адзінкі з іх мелі стрэльбы, астатнія абыходзіліся цесакамі або шаблямі, і ўсе былі без ботаў. Падсілкаваўшыся ў нас, яны пасунулі да Барысава, дзе спадзяваліся спаткацца з Дамброўскім. Але праз пару дзён сам Дамброўскі прайшоў са сваёй дывізіяй з Ігумена праз мястэчка Беразіно і Ушу, далей праз нашу Крушыну да Барысава. За ім у ар'ергардзе сунуўся генерал Пакош[6], і тут яму напярэймы заскочыў ад Іваноўска праз Логі і вёску Белічаны палкоўнік Лукаўкін[7] з шасцю тысячамі расійскага войска. Апошнія ўзброеныя палякі, якіх мы бачылі, былі з дазора пакошаўскіх уланаў, што біліся з казакамі пад Іваноўскам і пасля прывалу ў нас, паспяшаліся да Ушы. Назаўтра на світанку абудзіў мяне тупат коней перад домам. Не патраплю апісаць смутак, які я адчуў, угледзеўшы ў змроку казакоў, што кружлялі каля нашых будынкаў і нешта выглядалі. Нам яны нічога не зрабілі і хутка паімчалі далей, імкнучы па дарозе на Ушу. Адтуль неўзабаве загрымелі гарматы. Жуда сярод нас была вялікая; усе прыгнечаныя, мы прыслухоўваліся да тых грымот, чакаючы навін ад дасланых бацькам на выведку людзей. Недзе каля поўдня яны прыбеглі ўжо не па дарозе, а праз лес з навіной, што на ўшанскім полі бой і што палякі, прабіўшыся праз расіян, адступаюць да Крушыны (дарогай на Барысаў). Хутка гарматныя выбухі сцішыліся, і пад вечар мы даведаліся, што ў вёску Белічаны прывезлі нейкага забітага казацкага палкоўніка і там на могілках пахавалі; а да ўніяцкага папа Папейкі быў прывезены нейкі расійскі маёр, жахліва скалечаны, і дочкі святара зашывалі яму рану.

Даведаліся мы потым, што Пакош, маючы толькі тысячу людзей, адбіўся ад шасці тысяч расіян і страціў толькі свой абоз; эскадрон жа ўланаў, адцяты ад яго двума казацкімі палкамі на ўшанскім полі, адступіў да Муравы і там, трапіўшы на пачынаючую ў той час замярзаць Бярэзіну, смела рушыў на танюткі лёд і шчасліва перайшоў на другі бок, адкуль без перашкод лучыў да Барысава; а казакі, гонячыся за імі, пад'ехаўшы да ракі, не адважыліся па тым лёдзе яе пераходзіць. Потым на другі дзень пры моцным марозе і ветры апоўначы пачулі мы выбухі гармат з боку Барысава, хоць тое месца ляжала за міль восем ад Белічан, калі ехаць дарогай, але наўпрост значна бліжэй. Тую кананаду слухалі мы амаль увесь дзень і ўжо не памятаю як доўга яна працягвалася, бо пасля малых перапынкаў паўтаралася штодня, асабліва калі мацнеў вецер. А вецер увесь час быў паўночны і мароз

---

[1] Рэйнье Жан Луі (1771—1814) — французскі генерал, узначальваў Сёмы (саксонскі) корпус арміі Напалеона.

[2] Бой под Кобрынам — разгром 15 (27) ліпеня 1812 г. рускімі войскамі саксонскай брыгады ў Кобрыне на пачатковым этапе вайны. Лічыцца першай буйной перамогай рускіх войск у вайне 1812 г.

[3] Эртэль Фёдар Фёдаравіч (1767—1825) — рускі генерал. Узначальваў Другі рэзервовы корпус, які дыслацыраваўся на пачатку вайны 1812 г. у раёне Мазыра.

[4] Дамброўскі Ян Генрык (1755—1818) — польскі і французскі генерал, у вайне 1812 г. узначальваў 17-ю пяхотную дывізію Пятага армейскага корпуса Вялікай арміі.

[5] Ламберт Карл Восіпавіч (1773—1843) — расійскі генерал, з пачатку вайны 1812 г. узначальваў 5-ю і 8-ю кавалерыйскія дывізіі 3-й рэзервовай абсервацыйнай арміі.

[6] Пакош Караль Чэслаў (1776—1812) — польскі і французскі генерал, узначальваў 2-ю брыгаду Пятага армейскага корпуса Вялікай Арміі.

[7] Лукаўкін Гаўрыіл Амвросіевіч (1772—1849) — рускі генерал-маёр Войска Данскога, удзельнік вайны 1812 года. Лукаўкін прымусіў адступіць ад Ігумена да Магілёва дывізію Дамброўскага, праследаваў яе (у той час ужо разбітую Ламбертам), заспеў ар'ергард і пры вёсцы Уша вымусіў яго здацца.

увесь час мацнеў. Калі ж змяншаўся, пачыналася снежная завіруха, горшая за мароз.

У нас увесь час з'яўляліся штораз новыя аддзелы расійскіх войск, але невялікія і найчасцей казацкія, або параненыя з-пад Барысава. А тым часам і палякі, адцятыя ад сваіх пад Ушай і Барысавам, пачалі заходзіць да нас крадком, начамі і ляснымі сцежкамі. Некаторыя з іх былі параненыя, і паміж імі быў нейкі Чарнецкі, малады хлопец, унтэр-афіцэр, якому куля праз шыю ззаду праляцела па языку, разарваўшы яго, выбіўшы колькі зубоў і зрабіўшы дзірку ў твары. Усіх бацька прымаў і адразу, пераапрануўшы ў шэрыя капоты, выпраўляў у Вядрэцк, называючы іх сваімі афіцыялістамі, калі хто з расіян пытаўся, хто гэтыя людзі. Назбіралася іх два дзясяткі з лішкам, і бацька цешыўся, што захаваў іх для вяртання Напалеона; былі ўпэўненымі, што ўвесну ён вернецца з новым войскам і пераможа Расію. У суседзяў нашых таксама было іх шмат, і нават сяляне перахоўвалі палякаў з той жа надзеяй на вяртанне Напалеона і Польшчы. Параненых, якія былі паміж імі, лячыла мая маці. Пад маім даглядам быў Чарнецкі, рана ў якога загаілася за некалькі тыдняў, але потым, калі аднойчы здарылася ў яго нястраўнасць, відаць ад збытку нейкай ежы, рана адкрылася, пачалася гангрэна і небарака памёр. У той час нейкі расійскі афіцэр, прывезены да нас з прастрэленымі навылет грудзямі, рупнасцю маёй маці ачуняў.

Журботнымі былі тыя нашы дні, калі мы па чарзе даведаліся спачатку пра разгром Дамброўскага, а потым — Вялікай арміі Напалеона; але яшчэ стала горш, калі пасля супакаення гарматнай кананады пад Барысавам падышла да нас галоўная расійская армія пад кіраўніцтвам Кутузава, што малымі дарогамі прасоўваўся ад Оршы за французамі. Пры навіне аб набліжэнні гэтай арміі ўсе нашы суседзі, гэтаксама як напачатку перад уварваннем французаў, зноў завезлі, што толькі мелі каштоўнага, да нашага Вядрэцка. Самі аднак там не засталіся, бо невялікае памяшканне ў халодную пару не магло іх змясціць, і тым больш з натоўпам стральцоў. Што было б і бессэнсоўна, бо змерзлыя балоты палегчылі доступ да фальварка, да таго ж на гэты раз выпадала бараніцца не ад нейкай сотні казакоў, але ад цэлай арміі. Аддаўшыся на волю Бога, схавалі там толькі сваю маёмасць, як у найбольш глухім месцы. Але і гэта было дарэмным, бо хутка столькі прыйшло расійскага войска, што былі апанаваны ўсе навакольныя вёскі ды фальваркі, а нейкі атрад асталяваўся і ў Вядрэцку і абрабаваў яго.

У вёсках нашых было выразана ўсё быдла да апошняга, усе авечкі, свінні, птаства, пазабіралі ўсіх коней і збожжа, змалочанае і ў снапах; варварскія жаўнеры вывелі па вёсках і ў лясах пчол, якіх да таго часу тамтэйшае сялянства трымала ў вялікай колькасці; забралі лепшае сталовае і кухоннае начынне, акрамя срэбра, якое было закапана; у сялян — вопратку, палатно, кажухі; папалілі гаспадарскія збудаванні, гумны, аборы, пілуючы іх на дровы, хоць вакол быў лес. Словам, праз некалькі дзён гасцявання ў нашай ваколіцы вялікай расійскай арміі мы цалкам згалелі. Пашэнціла, што захавалася жытло ў дварах і сялянскія хаты, бо ў іх кватаравалі афіцэры; і што паводле тамтэйшага звычаю сяляне мелі нейкую колькасць збожжа, захаванага ў ямах, дзякуючы чаму дачакаліся новага ўраджаю, і ў лясах было дастаткова жыўнасці. Стрэльбаў, пораху і куль хапала; і нашы стральцы, і ваколічная шляхта, і прыгонныя назбіралі таго багата, перахоўваючы ў лясах. І даліся ў знакі расіянам, забіваючы іх без шкадавання, калі каго сустракалі паасобку або малымі партыямі на лясных сцяжынах, або пры крадзяжы мёду. Тыя рэквізіцыі збожжа, коней і быдла некаторыя камандзіры суправаджалі выдачай квітанцый, але большая частка быдла забіралася без папер. Бацька меркаваў пра іх нагадаць, хадзіў пешшу, бо ездзіць ужо не было на чым, да Кутузава, які стаяў у Дубаўруччы, і да князя Канстанціна, які стаяў у Раванічах, і прасіў, каб выпісалі афіцыйна афармлены дакумент на ўсе рэквізіцыі па дварах і ў сялян; але і першы, і другі адказвалі яму: «Кто вам всем квитанций надаётся». Аднак і з тых адзінкавых квітанцый, якія атрымліваў часам ад афіцэраў, сабралася сума на 27 тысяч рублёў. Тыя квіты потым былі перададзены ў Ліквідацыйную Камісію, утвораную для ўсяго краю, што ў годзе васямнаццатым былі амаль цалкам прызнаныя неафіцыйнымі; і за ўсе крыўды бацьку прызначылі

толькі дзвесце рублёў, якія таксама не атрымаў, бо, пераходзячы па руках чыноўнікаў, яны недзе згубіліся, як тое звычайна ў нас здараецца з выплатамі ад урада.

У белічанскім двары стаяла артылерыя царскай гвардыі. Афіцэры і паміж імі нейкі князь Трубяцкі[1], Дзямідаў[2] і іншыя, якія палюбілі мяне, бо я шчабятаў па-французску і спрытна ім адказваў, яны прапаноўвалі бацьку, каб ён аддаў мяне ў іх артылерыю, абяцаючы сваю падтрымку і праз год афіцэрскі чын. Як цяпер разумею, някепская гэта была кар'ера; бо з наступнай кампаніяй мог атрымаць вялікія чыны і, служачы ў гвардыі, у маладым веку дайсці да генерала. Але і сам таго не хацеў на той час і цяпер не шкадую, і бацька быў далёкі ад прыняцця такой прапановы, бо спадзяваўся на вяртанне Напалеона і ўваскрашэнне Польшчы.

Пасля зыходу галоўнай арміі праходзілі потым той жа дарогай праз Белічаны меншыя вайсковыя часткі, абыходзячы разбіты паштовы тракт з Оршы на Вільню. Сярод тых прыбышоў былі і французы, якія разбегліся з-пад Барысава ў лясы і хаваліся па засценкам і ў лясных наглядчыкаў; выходзілі са сваіх сховішчаў у поўнай убогасці, перамёрзлыя і згаладалыя, такія слабыя, што гінулі ад найменшай прычыны. Памятаю, як адзін такі ў кагось з нашых суседзяў, калі ўваходзіў у дзверы, сутыкнуўся з казакам і зваліўся мёртвы. Другі такі прыцёгся ўжо да нас, калі два браты Нарышкіны, гвардзейскія афіцэры, заехаўшы да нас, снедалі. Угледзелі яны таго бедняка і вырашылі пажартаваць з маёй маці і панны Анэлі. Зрабілі выгляд, што хочуць яго зарубіць, а на плач і просьбы маёй маці абяцалі пакінуць яму жыццё, калі мая маці і панна Анэля іх пацалуе. Мусілі гаротніцы на тое пайсці, і цешыліся, што захавалі жыццё француза, узялі яго пад апеку; але, наколькі памятаю, здаецца, той бядак у той жа дзень ці назаўтра памёр.

Такія жудасныя сцэны паўтараліся часта, і тыя французскія недабіткі разыходзіліся па вёсках і дварах, і, паміраючы, разносілі заразу, якая была ў паветры ад мноства мерцвякоў пад Барысавам і на галоўным тракце, і распаўсюдзілася асабліва ад спусташэння і беднасці, якія расійская армія пасля сябе пакінула. У нашых вёсках хутка з'явілася жахлівая ліхаманка, якая скасіла палову насельніцтва; у нашым двары таксама некалькі памерла; мая маці, ратуючы хворых у вёсках, сама заразілася, але хоць і была моцна хворай, хутка паправілася; але бацька вельмі доўга і цяжка хварэў. Не было ўжо надзеі на выздараўленне, але нейкі рускі палкавы лекар, праязджаючы выпадкова, выратаваў яго. Урэшце ўвесну бацька, прыдбаўшы сіл, пачаў завіхацца над выпраўленнем гаспадарчых спраў у двары і ў сялян. Займеў троху клопату і праз сваіх палякаў, якіх перахоўваў да вясны; бо земская паліцыя, якая на той час фарміравалася выключна з рускіх, глядзела на тое перахоўванне скрозь пальцы на працягу цэлай зімы можа для таго, каб не карміць палонных за кошт урада, а ўвесну пачала пільна іх усіх расшукваць, і прыцягваць землеўладальнікаў без увагі на амністыю да адказнасці за перахоўванне палонных. Памятаю, як бацька ўлагодзіў спраўніка, аддаўшы яму коней з экіпажа, якіх толькі прыдбаў быў для сябе за дзвесце рублёў. Не ведаю, ці заплаціў ён яшчэ што за тых палонных, але мусілі ўсё ж з імі развітацца. Забралі іх у нас і ў суседзяў і адправілі ў Менск. Развіталіся яны з намі са слязамі ўдзячнасці, пакінуўшы нам сваю зброю на памяць. Гэта быў ужо поўны канец французскай драмы і нашых агульных спадзяванняў на вяртанне Польшчы.

Вярнуліся таксама з войска і некаторыя нашы суседзі, Феліцыян Машынскі і Роберт Рагоўскі, якія з-пад Барысава кіраваліся ў Маладзечна; і там пасля поўнай дэзарганізацыі французскай арміі схаваліся ў нейкіх знаёмых і дачакаліся амністыі. Вярнуўся таксама і наш былы гувернёр Антоні Масальскі, але ўражаны нешчаслівай выправай і зняверaны ў будучыні, хутка з'ехаў у Менск і паступіў у епархіяльную семінарыю.

[1] Трубяцкі Пётр Пятровіч (1793—1840) — удзельнік вайны 1812 г., прапаршчык Лейб-Гвардыі 1-й Артылерыйскай брыгады, масон.

[2] Дзямідаў Мікалай Пятровіч (?—?) — удзельнік вайны 1812 г., штабс-капітан Лейб-Гвардыі 1-й Артылерыйскай брыгады, палітэканом.

### III

Вясной 1813 года бацька зноў адвёз нас вучыцца ў Прыборкі. Пан Юры без увагі на ўрадавыя загады ў спадзяванні на свае знаёмствы з чыноўнікамі, пакінуў у сябе гувернёрам для пляменнікаў аднаго з французаў, некага Мецэнаўра (пісаў сябе як Metznauer), які быў афіцэрам у вертэнбургскай[1] коннай артылерыі і апавядаў, што з'яўляецца сынам вертэнбургскага міністра. Ці быў ім насамрэч, таго не ведаю, але па ім было відаць, што належаў ён да цывілізаванага класа, ведаў некалькі моў, як афіцэр артылерыі мусіў ведаць і адпаведныя навукі, і добра маляваў. Але з адукацыі той карысці не было. Мецэнаўр не вучыўся ніколі на педагога і быў не здатны вучыць; даваў нам праўда для вывучэння на памяць французскія і нямецкія гутаркі, часам спрабаваў вучыць нас малюнку і арыфметыцы, але ўсё гэта было фрагментарна, перарывалася паляваннем, рыбарствам, коннай яздой і іншымі забавамі так, што для навукі заставалася мала часу.

Бацька, убачыўшы, што з Мецэнаўрам мы не вучымся, забраў нас дахаты і наважыўся аддаць у Магілёў у езуіцкую школу. Прывёў з мястэчка краўцоў і загадаў ім пашыць нам з ліўрэйнага шарачковага сукна новыя сурдуты і плашчы, а са старых сваіх мундзіраў — фракі, і выправіў нас у Магілёў пад наглядам свайго сябра, паручніка Нядзвецкага, які часта ў нас гасцяваў, пазычаў бацьку грошы. Апранаўся ён папольску, ва ўрачыстыя дні быў у пунсовай феразі[2] з выдатнага сукна, аблямаванай собалямі. У ёй і прадстаўляў нас у Магілёве ксяндзу Корсаку, рэктару езуіцкага калегіума[3]. Прынялі нас у канвікт[4] пад нагляд ксяндза Рэўта. Мы ведалі пачаткі лаціны, таму ўзялі нас адразу ў другі клас — у так званую «граматыку», а на Новы год мы з братам былі пераведзены ў «сінтаксіс» — трэці клас. Першы клас называўся «інфіма», чацвёрты — «паэтыка», пяты — «рыторыка», а шосты — «філасофія». Навукі ў езуітаў вывучаліся наступныя: у падставе ўсяго навучання ляжала лаціна; разам з ёй у трох першых класах выкладалі пачаткі арыфметыкі, геаграфіі, нешта з біблейскай і старажытнай гісторыі; у трох старэйшых класах вывучалі паэтыку, рыторыку, філасофію, логіку, іншымі словамі, старасвецкую метафізіку, працягвалася старажытная і сусветная гісторыя, выкладаліся пачаткі алгебры да ўраўненняў другой ступені і нешта з геаметрыі, прыстасаванай да землямернай практыкі. Французская і нямецкая мовы вывучаліся ва ўсіх класах, а ў канвікце вучні мелі да таго яшчэ асобныя гадзіны дома на вывучэнне моў і практыку са сваімі выхавацелямі французам і немцам. Гісторыя выкладалася на ўзроўні анекдотаў, паэтыка і рыторыка паводле старасвецкіх метадаў, на прыкладах з лацінскіх класікаў і часам з пісьменнікаў нашага залатога веку: Каханоўскага[5], Скаргі[6], Гарніцкага[7]; філасофія паводле Анджыёліні[8], Шторха[9] і падобных ім сучаснікаў-схаластаў. Наогул, усе навукі вывучаліся паводле аўтараў і метадык асвечаных стагоддзямі.

---

[1] Вертэнбург — зямля на паўднёвым захадзе Германіі.

[2] Феразь — верхняя мужчынская вопратка ўсходняга паходжання, была распаўсюджана ў Расіі сярод баярства, на беларускіх землях ужывалася шляхтай.

[3] Езуіцкі калегіум у Магілёве — дзейнічаў у 1779—1820 гадах.

[4] Канвікт — інтэрнат, закрытая навучальная ўстанова пры каталіцкіх калегіумах і акадэміях.

[5] Каханоўскі Ян (1530—1584) — польскі паэт, пісаў на лацінскай і польскай мовах.

[6] Скарга (Павенскі) Пётр (1536—1612) — царкоўны і палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, езуіт, адзін з лідараў Контрэфармацыі, у 1582—1586 гг. рэктар Полацкага езуіцкага калегіума.

[7] Гарніцкі Лукаш (1527—1603) — польскі асветнік, літаратар.

[8] Анджыёліні Юзаф (італ. — Angiolini) (1747—1814) — езуіт, прапаведнік. У Расійскай імперыі з 1782 г. Выкладаў у Полацкім езуіцкім калегіуме філасофію, матэматыку, фізіку, з 1798 г. — тэалогію і кананічнае права. У 1806—1809 гг. рэктар езуіцкага калегіума ў Санкт-Пецярбургу, пасля вяртаецца на кафедру тэалогіі ў Полацк. У дзень адкрыцця Полацкай акадэміі, 10 чэрвеня 1812 г., атрымаў ступень доктара тэалогіі і кананічнага права і зрабіўся прафесарам Полацкай акадэміі, потым прарэктарам і канцлерам.

[9] Магчыма, маецца на ўвазе Андрэй Карлавіч Шторх (Heinrich Storch, 1766—1835), палітэканом, віцэ-прэзідэнт Санкт-Пецярбургскай акадэміі навук, аўтар працы «Cours d'economie politique ou exposition des principes qui determinent la prosperite des nations» (1815).

Пра новых няпэўных аўтараў езуіты і чуць не хацелі, лічылі іх атручанымі філасофскім духам XVIII стагоддзя, і таму небяспечнымі для веры. Мэтай іх выхавання было не столькі разумовае развіццё моладзі, колькі маральнае, хрысціянскае. І сапраўды, калі на здаровы сэнс задумацца па-хрысціянску аб мэце стварэння чалавека на свеце: Бог стварыў нас не толькі для зямнога, але галоўнае для таго, каб мы заслужылі сабе шчаслівую «вечнасць», і варта прызнаць рацыю езуітаў з іх клопатам пра маральнае і рэлігійнае выхаванне. Аднак і тое мушу прызнаць, што грунтоўнае вывучэнне навук нічым не пашкодзіла б галоўнай мэце, наадварот, была б, напэўна, для яе карыснай. І яшчэ, з рэлігійнага пункта гледжання, езуіты занадта далікатна да нас ставіліся, прывучалі пераважна да рэлігійнай практыкі, і не ўзброілі нас ані ў школах, ані нават у сталым узросце ў Акадэміі, супраць абвінавачанняў, маны і амаральнасці, з якімі мусілі мы сутыкнуцца на свеце, што схіляла нас да вар'яцтваў і адрачэння нават ад асноў рэлігіі, каля мы пасля выхаду з іх школ траплялі ў атмасферу паняверкі, што панавала ў той час у нашым краі.

Што б там ні было, акрамя няслушнага падыходу да навуковай адукацыі і недастатковасці рэлігійнага выхавання, школы іх як правіла былі лепшымі за тагачасныя свецкія школы, у якіх на рэлігію і паводзіны моладзі ніякай увагі не звярталі. У нас панавала святасць нораваў і прыстойнасць у адносінах, ніякай сапсаванасці не было і ў гэтым самі езуіты з'яўляліся найлепшым прыкладам. Упікаюць іх паўсюдна за касмапалітызм, выхаванне рабскай пакоры і талерантнасці да дэспатызму і за іншыя правіннасці супраць грамадскіх правоў, але маю смела, з уласнага досведу засведчыць, што гэта ёсць чысты паклёп, прынамсі адносна тых езуітаў, якія былі ў нашым краі. Ад іх займелі мы яснае ўяўленне аб правах і абавязках чалавека, грамадзяніна і сына бацькаўшчыны. Апынуўшыся потым у Віленскім універсітэце нічога новага ў тых прадметах для сябе мы не пачулі. Трапілі мы да езуітаў у дзіцячым узросце, аднак уплыў свежых палітычных уражанняў, іх залішні запал, справакаваў нас на шалёную авантуру.

Пасля бітвы Даву з Баграціёнам пад Магілёвам[1] французы пакінулі ў езуіцкім калегіуме вялікую колькасць рознай зброі, прададзенай імі або згубленай на поле бою. Склад той знаходзіўся ў вялікай аўдыторыі побач з брамкай. Мы ўгледзелі тую зброю і адразу склалі праект скарыстаць яе для дапамогі бацькаўшчыне, іншымі словамі, абвешацца стрэльбамі, пісталетамі, палашамі і разам рушыць у Польшчу, каб злучыцца з войскам Напалеона. Такім чынам, усе старэйшыя хлопцы, якія былі ў канвікце, далі слова гонару як найхутчэй выканаць той намер. Сярод іх былі не толькі дзеці польскіх патрыётаў, але і тыя, у сем'ях якіх панавалі супрацьлеглыя настроі, загарэліся паміж нас гэтым запалам. Сярод іх — Снітковы, сыны рускага чыноўніка, каталікі па маці, Антон і Аляксандр Любамірскія, дзеці князя Ксаверыя і расіянкі Нарышкінай, і нават чысты русак Халадкоўскі, сын магілёўскага пракурора; мы пераконвалі яго, што ён носіць польскае прозвішча і мусіць таму паходзіць з польскага роду, і калі ён таму даў веры, нехта з нашых адкрыў яму таямніцу. Ён захапіўся з запалам, мусілі такім чынам узяць і яго да кампаніі. Падрыхтоўка да выправы пайшла жвава; зброю, якая нам спадабалася, выцягнулі з таго склада, падабраўшы ключ. Аднак на падарожжа патрабаваліся грошы, таму вырашылі злажыць тое, што кожны з нас меў ад бацькоў на дробныя выдаткі; але таго было вельмі мала, тады мы вырашылі прадаць вопратку і бялізну, якую не маглі забраць з сабой. Лёкай Платон, што служыў у нашых калегаў Сенажэцкіх, вызваўся тое прадаць; ён забраў нашы рэчы і даў нам колькі палічыў патрэбным. А Халадкоўскі скраў у свайго бацькі пяцьсот рублёў і прынёс іх да агульнай касы. Аднак гэта павялічыла наш недавер да яго і не хацелі ўжо браць з сабой, але ён ведаў наш сакрэт, таму мусілі. Не памятаю ўжо добра, якая ў тым пункце была паміж намі ўмова, але, здаецца, што вырашылі ў выпадку хоць нейкага падазрэння ў здрадзе стрэліць яму ў лоб.

План далейшага падарожжа палягаў на тым, што ў поле мы напэўна натрапім на сялянскіх коней, ускочым на іх і будзем ехаць, пакуль не сустрэнем іншых. Памяняем

[1] Бой пад Салтанаўкай — бой корпуса Раеўскага і 2-й арміі Баграціёна з французамі 23(11) ліпеня пад Магілёвам на пачатковым этапе вайны 1812 года.

коней і далей, і так аж да Польшчы. Такая пошта здавалася нам цалкам магчымай і справядлівай; бо сяляне маглі знайсці сваіх коней на месцы іх перамены. За некалькі дзён падрыхтоўка была скончана, ужо ноччу мы збіраліся збегчы, сакрэт так пільна намі ахоўваўся, што езуіты пра яго нічога не ведалі. Як раптам вечарам прыходзіць губернатар да рэктара і абвяшчае яму пра наш намер. Адбываецца рэвізія: знаходзяць схаваную ў нашых ложках зброю і запасы хлеба на дарогу, што былі набыты праз таго Платона, які скарыстаўся з продажу нашай маёмасці, а потым данёс губернатару. Езуіты былі ў вялікіх турботах. Калі б тое здарылася пазней, пад канец панавання Аляксандра або Мікалая, пайшлі б мы, пэўна, у жаўнеры, гэтак як тыя, што потым з іншых школ і за меншую правіну ў тое няшчасце траплялі. Але на той час гэтак тыранічна пакуль не здзекаваліся з моладзі. Да таго ж губернатар Талстой[1] быў чалавекам памяркоўным, ён палічыў гэта дзіцячым свавольніцтвам, супакоіў езуітаў, загадаў паціху замяць справу, зброю ў нас забралі і вывезлі склад. Усё скончылася для нас ушчуваннямі і стратай праз Платона маёмасці; адзін толькі Халадкоўскі адпакутаваў за ўсіх, бо дастаў бізуноў ад свайго бацькі.

Ваяўнічы дух паміж намі аднак не згасаў, улюбёнай забавай у нас была вайна, у якой заўжды прысутнічалі два бакі, польскі і маскоўскі. Ніхто не хацеў спачатку далучацца да маскоўскага боку, таму мы пастанавілі дзяліцца на дзве роўныя партыі і праводзіць першы бой, хто прайграе, той мусіць належыць да маскоўскай партыі пакуль у іншай баталіі не пераможа. Баталіі нашы звычайна адбываліся на высокіх і стромкіх валах, якія абыходзілі Верхні горад. Адна партыя бараніла валы, другая іх адбівала; каго ўдавалася спіхнуць, той прайграваў. Таму склад партый увесь час змяняўся; адну партыю ўтваралі пераможцы, а другую — пераможаныя. За горадам, куды мы выходзілі па аўторках і чацвяргах на рэкрэацыю пад наглядам езуітаў, гулялі ў палянт[2]; але і там змагаліся дзве партыі, і той бок, які другую каманду надалей адганяў, выйграваў і браў назоў польскага, а прайграўшыя — маскоўскага.

Што да навук, я быў ва ўсіх класах увесь час першым. Першынства набывалася на падставе колькасці рысак, якія называліся «лаўдэсамі» і даваліся за добрае веданне лекцый, а найбольш за вывучаныя на памяць лацінскія вершы альбо за пераклады класікаў. Дзеля гэтай тлумнай драбязы я займаўся грунтоўнымі студыямі ўсіх дысцыплін, вучыў вершы нават у прыбіральні, трымаючы кніжку на каленях; на працягу трох гадоў, за якія пабываў у «сінтаксісе», «паэтыцы» і «рыторыцы», вывучыў як малітву большую частку «Энеіды», многа з Гарацыя і пераклаў багата прамоў Цыцэрона, каментары Цэзара, вялікую частку з Лівія і гэтак далей.

У 1815-м, з другога на трэці школьны год, нашы вакацыі працягваліся да позняй восені, пасля чаго нас адвезлі ў пятую класу. У 1816 годзе скончылі мы ў магілёўскай школе пятую класу, і бацька адвёз нас у Полацкую езуіцкую акадэмію[3]. Знайшоў для мяне кватэру і стол у горадзе ў нейкай пані Машынскай, італьянкі, удавы кандытара. Прадставіў нас ксяндзу Ландэза, правінцыялу і рэктару Акадэміі ксяндзу Бжазоўскаму[4]; і запісалі нас у лік вучняў факультэта свабодных навук, у аддзеле філасофіі. Факультэтаў было ў Акадэміі тры, а менавіта: філалагічны, свабодных навук і тэалогіі. Факультэт свабодных навук падзяляўся на тры аддзелы: 1. уласна «свабодных навук», у якім выкладалі: мастацтва рыфмавання, красамоўства, усеагульную гісторыю, гісторыю старажытнасці разам з малюнкам, музыкай і іншым; 2. на філасофскім выкладалі логіку, метафізіку, дыялектыку, этыку; тэалогію натуральную разам з матэматыкай, чыстай і практычнай, фізікай, хіміяй і натуральнай гісторыяй; 3. у юрыдычным было натуральнае права, кананічнае права,

---

[1] Талстой Дзмітрый Аляксандравіч — губернатар Магілёва ў 1812—1820 гады.

[2] Палянт — гульня з мячыкам і драўлянымі кіямі.

[3] Полацкая езуіцкая акадэмія (1812—1820) — адзіная вышэйшая навучальная ўстанова на сучаснай тэрыторыі Беларусі ў першай чвэрці XIX стагоддзя.

[4] Бжазоўскі Раймунд (1763—1842/48) — літаратар, багаслоў, выкладчык полацкага езуіцкага калегіума, рэктар Полацкай езуіцкай акадэміі (1817—1820).

рымскае, краёвае цывільнае і крымінальнае разам з судовым працэсам. У першых двух аддзелах гэтага факультэта ўсе навукі былі на лацінскай мове, спавітыя ў сілагізмы, усё выкладалася ў адпаведнасці са старасвецкімі аўтарамі.

Юрыдычны аддзел, хоць і вальнейшы ад сілагізмаў, меў частку дысцыплін, якія выкладаліся па-польску, напрыклад, «літоўскі статут» і «судовы працэс», быў слабейшым, выкладчыкі часта грунтавалі свае лекцыі на чытанні кодэксаў амаль зусім без тлумачэння і каментарыяў.

З гэтага гледзішча найлепшым быў тэалагічны факультэт, бо тут і выкладчыкі выглядалі кампетэнтнымі і часам выкарыстоўвалі найноўшую літаратуру, не атручаную філасафізмам. Таму пэўныя нашы калегі, якія пачыналі на філасофскім ці юрыдычным аддзеле, пераходзілі потым на тэалагічны факультэт: адны з намерам перайсці ў духоўны стан, як паміж іншымі Фіялкоўскі[1], пазней камянецкі біскуп, і Ліпскі[2], суфраган[3] саратаўскай цяпер дыецэзіі[4]; іншыя — для атрымання ступені доктара, якая давала тады права на чын восьмага класа[5].

Такім чынам выкладанне ў Полацкай акадэміі збольшага заставалася на пасрэдным узроўні акрамя тэалагічнага факультэта, але мы не ведалі лепшага і лічылі ўсё, што тут выкладалі квінтэсенцыяй чалавечай мудрасці. Частка нашых выкладчыкаў падзялялі гэтае перакананне, другія, пераважна моладзь, бачылі патрэбу рэформы, але, як пазней выявілася, яны ўмелі падпарадкоўвацца правілам і волі свайго кіраўніцтва. Акрамя фанатычнай адданасці старасвецкім аўтарам, яшчэ адной заганай тут з'яўляўся брак адмыслоўцаў у пэўных навуковых галінах, асабліва ў ніжэйшых езуіцкіх школах.

Пасля прыняцця нас у Акадэмію пачалі мы наведваць лекцыі. Больш жвавы за мяне Юзаф, кемлівы і здатны да паэзіі, чым да рэфлектыўных навук, засумаваў на філалагічным аддзеле і перайшоў на літаратурны, то бок уласна аддзел свабодных навук. І так у яго ўсё лёгка атрымлівалася, што не патрабавала хатняй працы, лекцыі ён запамінаў адразу, таму пачаў больш часу прысвячаць пісанню вершаў, камунікаванню з калегамі. Сярод апошніх было шмат працавітых і таленавітых, як, напрыклад, на юрыдычным факультэце Данат Жаброўскі, Канстанцін Сербіновіч[6], Пётр Ельяшэвіч[7]; на літаратурным — Шапялевіч[8] і Баршчэўскі[9]. Абодва мелі вялікую паэтычную прагу, і, калі б

[1] Фіялкоўскі Антоні (1797—1883) — доктар багаслоўя і кананічнага права, прафесар і рэктар (1838—1842) Віленскай духоўнай акадэміі. Ад 23 сакавіка 1860 камянецкі біскуп, ад 23 лютага 1872 магілёўскі арцыбіскуп. Заснаваў у Санкт-Пецярбургу мітрапаліцкі касцёл і дыецэзіяльную семінарыю. Рабіў захады па дэпаланізацыі касцёла. Вучыўся ў Полацкай езуіцкай акадэміі і галоўнай духоўнай семінарыі пры Віленскім універсітэце.

[2] Ліпскі Вікенці (1795—1875) — прафесар Віленскай (з 1842 г. — Санкт-Пецярбургскай) духоўнай акадэміі, рэктар Санкт-Пецярбургскай каталіцкай духоўнай акадэміі (1855—1857), суфраган Ціраспальскі (Саратаўскі) (з 1857), біскуп Іанапалітанскі, доктар багаслоўя, заснаваў у Саратаве пачатковую духоўную семінарыю.

[3] Суфраган — вікарны біскуп, памочнік галоўнага біскупа.

[4] Дыецэзія — царкоўна-адміністрацыйная тэрытарыяльная адзінка ў Рыма-каталіцкай і Англіканскай цэрквах, на чале якой стаіць біскуп або архібіскуп. Саратаўская дыецэзія належала да Херсонскай (Ціраспальскай) Рыма-каталіцкай епархіі. З 1855 г. Саратаў зрабіўся цэнтрам Херсонскай (Ціраспальскай) Рыма-каталіцкай епархіі.

[5] Калежскі асэсар (ад лац.: assessor — засядацель) — грамадзянскі чын VIII класа ў Табелі аб рангах. Да 1845 года даваў спадчыннае дваранства, потым — толькі асабістае. Быў ніжэй за надворнага саветніка і вышэй за тытулярнага саветніка, тытулаваўся «ваша высокаблагароддзе», адпавядаў чыну маёра або капітана ў войску. Даваў права на пасады рэгістратара, сакратара або саветніка.

[6] Сербіновіч Канстанцін Сцяпанавіч (1796/97—1874) — літаратар, мемуарыст, цэнзар, супрацоўнік М. Карамзіна, рэдактар «Журнала Министерства Народного Просвещения» (1833—1856), да 1859 г. дырэктар канцылярыі обер-пракурора Свяцейшага Сінода. Скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію.

[7] Магчыма Пётр Фёдаравіч (Тэадоравіч) Эльяшэвіч (1795—1879), сенатар.

[8] Шапялевіч Радзіслаў (Гаўдэнцый) Іасафатавіч (1800—1846) — беларускі польска- і рускамоўны паэт.

[9] Баршчэўскі Ян (1794?—1851) — беларускі польскамоўны пісьменнікі, выдавец.

патрапіў ім лепшы настаўнік, пакінулі б пасля сябе больш значныя творы, чым тыя, што выдалі. Але шмат было сярод сяброў брата і панкоў, якія мала вучыліся, трацячы больш часу на забавы, дазвалялі сабе нават карты і розныя выбрыкі, нягледзячы на ўсю суровасць езуіцкага нагляду. Сярод тых гулякаў былі з намі ў блізкіх стасунках Камароўскія, Жаброўскія, браты Даната, Петрыкоўскія, сваяк іх Юрэвіч, Беніслаўскія — усе беларусы, добрыя і пачцівыя мальцы, але ў Акадэмію яны хадзілі толькі для формы, шукаючы больш забавы.

Прыемна аднак успамінаць часы навучання ў Полацку, там я перажыў самыя шчаслівыя хвіліны майго жыцця, і тамтэйшыя калегі, з якімі зблізіўся, засталіся сябрамі назаўжды, а хтосьці нават, як Ельяшэвіч і Юрэвіч[1], вельмі ўплывалі потым на мой лёс. Юзаф, хоць і не надта стараўся, здаў аднак іспыт (у 1817 годзе) як найлепш і атрымаў ступень студэнта свабодных навук, а я атрымаў ступень студэнта філасофіі.

Праз колькі тыдняў пасля вяртання на вакацыі ў Белічаны бацька адвёз нас у Менск на шляхецкія выбары. У гэтым была выгада нашага дзядзькі Юрыя, які, каб адпомсціць за тое, што яго запісалі ў 1812 годзе простым жандарам з-за Ашторпа[2], вырашыў зваліць яго з пасады ігуменскага маршалка і не дапусціць да балаціравання ў губернскія маршалкі, да чаго той імкнуўся. Збіраў таму пан Юры партыю прыхільных выбаршчыкаў і ў гэтых мэтах прывёз сваіх пляменнікаў Акулічаў, упрасіў суседа Снітко, каб той таксама прывёў сыноў, намовіў бацьку наконт нас і запрасіў стрыечных братоў Мельхіёра Ваньковіча і Клачкоўскага з сынамі. Многія з нас не мелі яшчэ ўзросту, патрэбнага па законе для выбаршчыкаў, гэта значыць поўных васямнаццаці год, напрыклад, мой брат Юзаф, якому толькі споўнілася шаснаццаць з паловай; аднак пан Юры здолеў усё так зрабіць, што мы ўсе былі дапушчаны як паўналетнія. Акрамя нашай фалангі меў ён яшчэ і шмат іншых не зусім слушных выбаршчыкаў. Закон у той час дапускаў да выбараў усіх, хто сам валодаў зямлёй, або ў каго бацькі мелі паводле спадчыннага права ці на падставе арэнды маёнтак з наяўнасцю не меней дваццаці пяці мужчынскіх душ прыгонных. Таму пан Юры, каб павялічыць уласную партыю, для сваіх прыхільнікаў, якія не адпавядалі гэтым крытэрыям, дамогся ад іншых землеўладальнікаў і сам аформіў на асобныя часткі сваіх Прыборак кандыктавыя дамовы арэнды, то бок фіктыўныя, часовыя. У павеце таксама мелася ў яго шмат прыхільнікаў, якія абяцалі ва ўсім дапамагаць супраць Ашторпа, і на ігуменскае маршалкоўства выбраць Завішу, уладальніка Кухцічаў, а пана Юрыя — на падкаморства, што было на той час першай пасадай пасля маршалка ў павеце.

Наша кватэра падчас выбараў была падобная да даўнейшых сеймікаў, калі паны зганялі натоўп шляхты. Жытло і стол мы мелі на агульны кошт у адным вялікім доме. Да нас далучыліся Рагоўскія, Машынскія, Есьманоўскія і шмат іншых, якіх ужо не памятаю, недзе каля трыццаці выбаршчыкаў, што былі ва ўсім згодныя з панам Юрыем. Такая аднамысная грамада мела і ў губерні вагу. Таму з усіх паветаў верхаводы і маршалкі намагаліся займець нашу прыязнь; наведваліся да нас, дагаджалі нашым правадырам, а нас, смаркачоў, фамільярна абсыпалі цукеркамі і сапяжанкамі[3], замаўляючы нашы галасы. Ашторп таксама да нас заходзіў, і хоць прадчуваў, што гэтая фаланга супраць яго, аднак не выдаў свайго прадчування і ветліва намагаўся нас задобрыць; аднак пан Юры адкрыта выказваў яму непрыхільнасць, але іншыя палітыканствавалі.

Выбарчая сесія сумяшчала павятовыя і губернскія выбары. На павятовых сесіях, на якіх кожны павет з прычыны вялікай колькасці выбаршчыкаў месціўся ў асобных памяшканнях, абіраліся маршалкі, падкаморы, харунжы, дэпутаты на губернскі шляхецкі з'езд; прэзідэнты, падсудкі і пісары ў павятовы суд, спраўнікі і асэсары ў земскі

[1] Юрэвіч (Юрьевіч) Станіслаў Восіпавіч (1800—?) — маршалак шляхты Віцебскай губерні (1853—1862), скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію ў 1820 г., гусарскі штаб-ротмістр (1829), узнагароджваўся за турэцкую кампанію 1828 г. і падаўленне польскага шляхецкага паўстання 1830—1831 гг.

[2] Ашторп Леў (Леон) Францавіч (1786—1851) — мінскі губернскі маршалак (1823—1847).

[3] Сапяжанка — мясцовы сорт груш.

суд; павятовыя касіры; адначасова кандыдаты на розныя губернскія пасады, акрамя маршалка, бо на гэтую пасаду кандыдатам быў выключна новаабраны ў кожным павеце павятовы маршалак.

Памяшканне для нашага ігуменскага павета было на ўсіх выбарах у бернардынскай трапезнай. Губернскія сесіі адбываліся ў дамініканскім касцёле. Там паветы мелі асобныя месцы на лавах за сталом у нефе і па баках касцёла; а ў прэсвітэрыі — грамада маршалкаў на чале з губернскім верхаводам шляхты; на іх стол зносілі з павятовых сталоў урны з галасамі пасля выбараў па кожным кандыдаце, там іх ссыпалі ў губернскую скрыню і падлічвалі. На тых сесіях з кандыдатаў, вылучаных ад паветаў, выбіралі губернскага маршалка, прэзідэнта і асэсараў у першы дэпартамент Галоўных судоў, які пазней называўся Крымінальнай ізбой; прэзідэнта і асэсараў у другі дэпартамент, які пазней называўся Цывільнай ізбой; папячыцеля губернскіх школ, сакратара і камісара шляхецкай губернскай зборні. Калі пачалося галасаванне за павятовых чыноўнікаў, а кандыдатамі на ігуменскае маршалкоўства вылучылі Завішу і Ашторпа, бацька, адвёўшы мяне і Юзафа ўбок, сказаў: «Не варта за некага помсціцца». Таму я прагаласаваў за Ашторпа. Пан Юры, які быў у шэрагах цэнзараў, што назіралі за парадкам, пільна сачыў і па руху маёй рукі зразумеў на чый бок я даслаў шар. Зіркнуў на мяне сурова, але тады нічога не сказаў, бо і без мяне Ашторп прайграў з розніцай у два галасы, але з таго часу пан Юры ставіўся да мяне з прахаладай і ніколі ўжо не згадваў пра тое, што запіша на мяне свае Прыборкі, пра што раней казаў мне пры кожным спатканні некалькі гадоў запар, абяцаючы абраць мяне сваім спадкаемцам. Потым ён адпісаў маёнтак свайму паралізаванаму брату Францішку, па якому тыя землі адышлі іх пляменнікам, Акулічам. Ігуменскім маршалкам тады абралі Завішу, а падкаморым — пана Юрыя.

Пасля сканчэння выбараў мы адразу вярнуліся ў Белічаны і адтуль у хуткім часе бацька выправіў нас у Полацк. Забралі мы з сабой малодшага нашага брата Караля з намерам запісаць яго ў школу. Час мы бавілі так: колькі гадзін штодня былі ў Акадэміі, а рэшту дня прысвячалі забавам з калегамі, якія ў той час па збегу акалічнасцей пераважна бавіліся менавіта ў нашай кватэры. Тая кватэра месцілася на першым паверсе вялікага дома і складалася з трох пакояў і вітальні; а рэшта таго паверха была незанятай, гаспадар наш ветліва дазволіў нам карыстацца прылеглай да нашых пакояў вялікай залай для навучання танцам. Для камплекту навучэнцаў далучыліся нашы калегі, недзе дваццаць чалавек, якія збіраліся ў нас не столькі для навукі, колькі для забаў. Танцавальныя студыі хутка выявілі тое, што яны кепска ідуць без паненак. Таму мы запланавалі праект правядзення балікаў. Акурат узнікла такая магчымасць, бо ў Полацку наглядчыкам водных камунікацый на Дзвіне быў Хведар Масальскі, расіянін родам са смаленскай губерні, але ён даводзіў, што яго продкі з Літвы. Ён быў жанаты і мы падтрымлівалі знаёмства з яго сям'ёй; таму ўпрасілі яго жонку зрабіцца гаспадыняй тых балікаў. І яна ўжо ад свайго імя запрасіла жонак чыноўнікаў з дочкамі, колькі немак з купецкага і абывацельскага стану, якія жылі ў горадзе дзеля адукацыі сваіх дзяцей. І мелі мы такую абачлівасць, што, каб засцерагчыся ад езуітаў на выпадак, калі яны даведаюцца аб тых вячорках і палічаць іх за грэх, запрасілі сярод іншых і сясцёр нашага прэфекта ксяндза Снарскага. Балікі тыя былі сціплыя ды прыстойныя; танцавалі мы пад фартэпіяна, і ўвесь пачастунак складаўся з гарбаты, здобы і мізэрнай колькасці віна, усё тое было на агульныя складкі. Аднак для навукі гэта было вялікай перашкодай. Апроч гэтай хутка з'явілася і другая.

Прыехаў у Полацк хтосьці Маркс, малады і прыстойны чалавек, які называў сябе настаўнікам англійскай і яўрэйскай моў, а як потым выявілася, англійскі яўрэй, хрысціянін, агент Біблейскага Таварыства[1]

[1] Расійскае Біблейскае таварыства (пачало працу ў 1812 г.) — філіял British and Foreign Bible Society (пачало працу ў 1804 г.). У склад Рады таварыства ўваходзіў арцыбіскуп Магілёўскі і мітрапаліт рыма-каталіцкіх цэркваў Расіі С. Богуш-Сестранцэвіч. Арганізацыя ставіла мэтай распаўсюджванне Бібліі сярод іншаземцаў і іншаверцаў. У 1816 г. было вырашана выдаваць і рускамоўную Біблію. Дзейнасць таварыства выклікала негатыўную рэакцыю сярод кансерватыўнай часткі як каталіцкага, так і праваслаўнага грамадства.

і падобна авантурнік. Прадставіўся езуітам, прапануючы свае паслугі ў выкладанні моў у Акадэміі. Езуіты мелі ўласных настаўнікаў, і былі асцярожныя. Аднак Маркс паводзіў сябе прыстойна, таму яны не забаранялі яму даваць прыватна ўрокі шкалярам для тых, хто гэтага захоча. Я меў вялікую прагу да ўсходніх моў; прапанаваў таму Марксу жыць у нас і даваць тут урокі. Маркс ахвотна згадзіўся; ён добра размаўляў па-французску і ўмеў забаўляць слухачоў сваімі байкамі, таму нашы калегі пачалі збірацца на яго гавенды, і тымі пасяджэннямі натуральна памнажалі нам клопаты. Падчас посту нашы вячоркі мусілі спыніцца, пан Маркс закахаўся ў адну з немак, якая ў нас бывала, заручыўся з ёй і выехаў у Пецярбург для ўступлення, як апавядаў, у нейкую пасаду перад жаніцьбай. На тое падарожжа выпрасіў у мяне ўсе зберажэнні, якія мы мелі на ўтрыманне да вакацый, абяцаючы праз два тыдні вярнуцца і ўсё аддаць. На забеспячэнне той пазыкі пакінуў мне пакункі яўрэйскіх Біблій. Аднак толькі яго і бачылі. Немка, не дачакаўшыся яго, пабралася з полацкім купцом, а мае грошы прапалі; за тыя Бібліі ніхто мне ані талера не даў, урэшце езуіты, даведаўшыся пра кнігі, забралі іх у мяне для знішчэння як ерэтычныя.

У канцы года, атрымаўшы з Юзафам патэнты на ступень кандыдатаў, вярнуліся ў Белічаны. Бацька нібыта хацеў нас разарваць, вазіў на шляхецкія зборні, на імяніны і іншыя ўрачыстасці, якія несупынна адбываліся ў той час у павеце. Але з'езды, танцы, вясёлыя паляванні і іншыя забавы, хоць і рабілі прыемным наш побыт у бацькі, не задавальнялі нашых жаданняў. Мы ўжо адчувалі патрэбу заняцца нечым больш паважным, што спрыяла б нашай кар'еры. Юзаф меркаваў пайсці ў войска, я быў больш схільны да навук, марыў працягваць адукацыю. Хацеў вучыцца ў Віленскім універсітэце, меў жаданне туды трапіць, але, з іншага боку, асабістая прывязанасць да некалькіх полацкіх выкладчыкаў, з якімі пазнаёміўся, павага да атмасферы маральнасці, пануючай у іх коле, сяброўства з полацкімі калегамі — пераважылі шалі маіх памкненняў на бок Полацка.

Абяцаў таксама сабе, што з дапамогай самастойнага чытання дапоўню тое, што ў прафесарскім выкладзе было недакладным або занадта сціслым. Таму ў Полацку чытаў шмат, маючы прывілеяваны доступ да езуіцкай бібліятэкі, і дома таксама, дзе ў бацькі быў немалы збор кніжак. Але чытанне тое было фрагментарным, без кіраўніцтва, без плана, чытаў, што трапляла ў рукі або да чаго абуджалася цікавасць, хоць гэта і пашырала ўяўленне пра многія прадметы, аднак несла і шкоду, бо без сапраўднага фундаменту ў якой-небудзь навуцы, адсутнасць навуковай спецыялізацыі — расцярушвала розум, дакладней, засмечвала яго бессістэмнымі звесткамі, якія не былі знітаваныя нейкай мэтай, а таму з'яўляліся марнымі і бескарыснымі. Як пазней аказалася, з усяго тагачаснага перыяду майго самаўдасканальвання, з усіх навуковых заняткаў і гарбення над кнігамі анічога не прынесла вялікага плёну.

Пасля прыбыцця ў Полацк заспеў у новым годзе сваіх сваякоў з Наваградскага павета: Дамініка Корбута і Слізняў, Рафала[1] і Атона. Сустрэў таксама ў канвікце суседзяў сваіх з Калюжыц Валянціна і Караля Ваньковічаў, з якімі ўжо два гады калегавалі ў Акадэміі. Навука давалася мне лёгка, выкладанне курсаў у сціплых памерах дазваляла мне наведваць розныя лекцыі. Слухаў тады курсы двух аддзелаў: матэматычнага і юрыдычнага, меў досыць часу на грэчаскую і яўрэйскую мовы, якія ў тым годзе мы вывучалі. Апроч таго, мы вырашылі з калегамі выдаваць штотыдзень перыядычны часопіс з нашымі літаратурнымі працамі. Да яго належалі: Генрык Віткоўскі, Юзаф Сурын, двое Шадурскіх, Багамолец, Аркадзь Рашкоўскі, Юзаф Касакоўскі з-пад Коўна, Раман Лахніцкі з-пад Гародні, Караль Ванькович і я. Часопіс той быў не друкаваны, а рукапісны, налічваў некалькі дзясяткаў асобнікаў; падпісваліся на яго нашы выкладчыкі і нехта з тых памешчыкаў, хто жыў у горадзе дзеля адукацыі сваіх дзяцей.

Напрыканцы таго школьнага года я здаў іспыт на ступень магістра філасофіі і кандыдата абодвух праў. Але тая ступень страціла ўжо сваё значэнне, бо цар Аляксандр, маючы

[1] Слізень Рафал (Рафаіл) (1804—1881) — архітэктар, скульптар.

ўжо нейкую незадаволенасць езуітамі, скасаваў у тым годзе прывілей, якім пры адкрыцці Акадэміі зраўняў яе навуковыя ступені са ступенямі, якія надаваліся ў рускіх універсітэтах. Сэнс таго загаду быў у наступным: як езуіцкая Акадэмія ўтрымліваецца не царскім коштам, а ўласным, то і навуковыя ступені, якія яна надае, не павінны прыраўноўвацца да навуковых у царскіх установах, а як замежныя; таму і адпаведны чын пры ўступленні на службу за полацкую ступень даваць не варта. Загад той не агалошваўся публічна; і, як шмат іншых, што былі перасланы выканаўчым уладам, ён заставаўся невядомым пэўным чыноўнікам. Таму некаторыя з полацкіх студэнтаў, менавіта Сербіновіч, Дукшынскі[1], Дружына, Ельясевіч і іншыя, хутка потым заступілі на службу ў Пецярбургу і адразу атрымалі за сваю ступень такі ж чын, які належаў за ступень, атрыманую ва ўніверсітэце. Нам той загад паведамілі, каб адстрашыць ад Акадэміі; аднак тое выклікала толькі абурэнне і некаторых яшчэ больш прывязала да езуітаў. Гэты крок урада разглядаўся як пераслед, шмат тады нашых калег далучыліся да ордэна; я таксама, адчуваючы ўдзячнасць за ўвагу, якую езуіты да мяне выяўлялі, і ўсё больш упэўніваючыся ў іх высакароднасці і цноце, загарэўся спачатку шчырым жаданнем стаць езуітам. Паведаміў пра тое бацьку і прасіў дазволу. Але бацька забараніў мне думаць пра тое, ды і самі езуіты мяне адгаварылі, параіўшы, каб я лепш сябе выпрабаваў, і калі буду адчуваць сапраўднае жаданне, то яшчэ досыць будзе часу падумаць аб сваім прызначэнні.

У першых тыднях 1820 года калегі выбралі мяне на пасаду прэфекта садалісаў. Быў гэта ў нас немалы гонар; першым прэфектам садалісаў у Полацку лічыўся кароль Баторы, які заснаваў полацкі калегіум, пасля яго тую пасаду займалі звычайна высокія краёвыя саноўнікі; па рашэнні Калегіі выбіраліся найлепшыя і найбольш старанныя вучні. Маё самалюбства было гэтым выбарам надта пацешана. Цырымонія тых выбараў і садалісаўскіх урачыстасцей была дужа пышная. У касцёле на троне сядзеў прэфект; перад ім на зэдліках сядзелі па абодва бакі віцэпрэфекты і асістэнты, а выбраны з садалісаў вучань прамаўляў прэфекту арацыю. Прэфект падпісваў і раздаваў патэнты новым садалісам і кантраляваў іх паводзіны. Ён таксама мусіў падаваць езуіцкім начальнікам спісы вучняў, выбраных стыпендыятамі садалісаўскай касы. Тая каса збіралася ад продажу грамнічных свечак падчас урачыстасці Ачышчэння Маці Божай. Было заведзена, каб нас той урачыстасці і на працягу васьмі дзён прэфект садалісаў са сваімі асістэнтамі развозіў грамнічныя свечкі па дамах у горадзе і па навакольных дварах за горадам, і такім спосабам сабраная сума ішла ў касу садалісаў і выкарыстоўвалася на стыпендыі для бедных вучняў.

Недзе напрыканцы зімы ў Полацку памёр генерал Ордэна езуітаў ксёндз Бжазоўскі[2], які каля года, высланы па загадзе цара з Пецярбурга, жыў тут. Перад смерцю ён распісаў свой асабісты капітал на ўсіх сяброў ордэна; ужо ў той час езуіты прадбачылі, што іх чакае нейкая катастрофа. Пасля атрымання ў Пецярбургу паведамлення аб смерці генерала езуітам, здаецца, загадалі падначаліцца ўладзе мітрапаліта ксяндза Сестранцэвіча[3], хоць паводле свайго прывілея яны падпарадкоўваліся выключна свайму генералу. Дакладна не ведаю, якім быў іх адказ, але, відавочна, адмоўны, бо ўрад у загадзе аб высылцы езуітаў з краю гэтае непадпарадкаванне мітрапаліту ўказваў за галоўную прычыну таго. Усё адбылося так раптоўна, што ніхто падобных падзей не чакаў.

Колькі дзён пасля пахавання генерала, на Вялікім тыдні, калі вучні, скончыўшы

[1] Магчыма, гэта Дукшта-Дукшынскі Гаўрыіл Рафаілавіч — сапраўдны стацкі саветнік, малодшы цэнзар Камітэта цэнзуры замежнай, начальнік Аддзела па справах Варшаўскай вучэбнай акругі пры Дэпартаменце народнай асветы Міністэрства народнай асветы імперыі, а ў 1850—1870 — старшы цэнзар Камітэта цэнзуры замежнай, спецыялізаваўся на польскай літаратуры, нейкі час выконваў абавязкі старшыні дадзенай арганізацыі.

[2] Бжазоўскі Тадэвуш (1749—1820) — генерал ордэна езуітаў (1805—1820). З 1782 г. выкладаў у Полацку, займаўся перакладамі, вызначыўся як прапаведнік. Дамогся ўтварэння Полацкай езуіцкай акадэміі.

[3] Богуш-Сестранцэвіч Станіслаў (1731—1826) — каталіцкі епіскап, першы архіепіскап Беларускай каталіцкай епархіі з цэнтрам у Магілёве (1773—1826).

гавенне, збіраліся раз'язджацца на свята Вялікадня па дамах, у адну ноч падняўся ў горадзе гоман і мы даведаліся, што рота жандараў атачыла езуіцкі калегіум, і ля ўсіх уваходаў пастаўлена варта, каб нікога не прапусціць. Загад той паступіў ад губернскіх чыноўнікаў, якія ў тую ноч прыехалі з Віцебска з царскім дакументам. Як пачаўся дзень, яны ўзяліся апячатваць усе езуіцкія ўстановы: бібліятэку, фізічны кабінет, музей, друкарню, багатую рызніцу, фабрыку, якая вырабляла сукно для ўсіх езуітаў і чэлядзі, розныя склады, склепы са старымі вінамі, мёдам, кладоўкі, вялізныя свірны, бо ў калегіуме ўтрымлівалася каля 800 чалавек і для ўсіх былі зроблены шчодрыя запасы. Езуітам загадалі, каб яны збіраліся ў дарогу, бо існуе загад тэрмінова выслаць іх усіх за мяжу, выключаючы тых, хто хацеў бы выйсці з ордэна. Аднак на гэта ніхто не згадзіўся; усе вырашылі пакінуць край. Нам тыя чыноўнікі паведамілі, што Акадэмія і ўсе езуіцкія школы ў краі скасоўваюцца і што мы мусім раз'ехацца па дамах.

У той жа дзень адбылося рабаванне калегіума. Мы бачылі як гэтыя чыноўнікі, нагнаўшы падводы з навакольных вёсак, вывезлі ўсё, што патрапілі сабраць: віна, сукно і іншыя каштоўныя запасы; трэба аддаць ім належнае, навуковае начынне, кніжкі, абразы, рыштунак фізічнага кабінета не спакусілі іх хцівасці. Апошняе было загадана тэрмінова перадаць ксяндзам дамініканцам, ім таксама адыходзіў калегіум з касцёлам. За тыя навуковыя багацці чыноўнікі здолелі ўзнагародзіць сябе звонкай манетай. Цар на замену за аграмадныя езуіцкія валоданні, якія забіраліся ў дзяржаўную маёмасць, прызначыў, каб на дарогу кожнаму святару выдалі па трыццаць дукатаў, а клірыкам і паслушнікам — па дваццаць. Чыноўнікі, прыступіўшы да выканання той царскай ласкі, выклікалі кожнага езуіта асобна і пыталіся ў яго, ці мае ён грошы. Кожны меў найменей сто рублёў, бо менавіта такую суму за некалькі дзён да гэтага ксёндз Бжазоўскі, брат генерала, выконваючы яго волю, выплаціў кожнаму гатоўкай. Езуітаў у Полацку было каля ста з лішкам асоб і ў іншых беларускіх калегіумах столькі ж. Чыноўнікі ў кожнага з іх забіралі столькі, колькі перавышала суму, што вызначыў цар, і кожнаму святару загадалі падпісаць распіску ў атрыманні грошай у памеры трыццаць дукатаў на дарогу, а клірыкам і паслушнікам, што маюць па дваццаць. Такім чынам, грошы, што выдаў цар, яны забралі сабе. На шчасце для езуітаў і памешчыкаў, якія мелі перад імі запазычанасць, архіў касы не трапіў у рукі тых чыноўнікаў. Езуіты, хоць і былі заспеты знянацку, патрапілі яго схаваць і маглі забраць з сабой банкаўскія вэксалі і білеты; памешчыцкія распіскі былі дараваны і вернуты езуітамі. Я чуў у той час ад вядомых памешчыкаў, якім такім спосабам былі дараваны вялізныя сумы, што такіх распісак езуіты вярнулі на некалькі мільёнаў.

Акрамя вэксаляў і банкаўскіх білетаў езуіты захавалі з езуіцкай уласнасці кабінет старажытнасцей і польскамоўную бібліятэку, пра якія ўрад не ведаў, і якія езуіты, паміж сабой разабраўшы, цалкам вывезлі. Асабліва багаты кабінет быў на шматлікія памяткі пра розных манархаў і знакамітых людзей: скіпетры, булавы, аздобленыя каштоўнымі камянямі, пярсцёнкі, каштоўныя гадзіннікі, табакеркі і іншае. Польскамоўная бібліятэка налічвала дванаццаць тысяч тамоў, якімі езуіты набудавалі свае куфры, гэта вынікае з таго, што іншай рухомай маёмасці яны мелі мала, аднак пры ад'ездзе кожны ўзяў з сабой цяжка наладаваны куфар і куль.

Перад выездам яшчэ і нам, вучням Акадэміі, езуіты зрабілі ласку, дарэмную, праўда, і выдалі ўрадавыя пасведчанні, залічыўшы няскончаны вучэбны год і прызначыўшы нам навуковыя ступені нібыта пасля экзамена. Мне такім спосабам надалі ступень магістра права і выдалі пасведчанне разам на ўсе атрыманыя мной папярэдне ступені. Акрамя таго, за тое, што я дапамагаў здаваць дамініканцам вялікую бібліятэку, якая налічвала каля 60000 кніжак, атрымаў у падарунак партрэт Стэфана Баторыя ва ўвесь рост. Гэтая карціна, хоць і належала пэндзлю нейкага майстра, не была змешчана ў партрэтнай галерэі, а знаходзілася ў трапезнай. Акрамя таго, некаторыя выкладчыкі Акадэміі, езуіты, падарылі мне на памяць мноства кніжак з уласных бібліятэк, бо не маглі ўсё з сабой узяць; яны зрабіліся фундаментам майго кнігазбору, які я пазней мэтанакіравана памнажаў. Атрымаў ад іх кніжкі не толькі ў падарунак, але і сам набыў значную калекцыю ў ксяндза Вільёма, а менавіта літаратуру па ўсходніх мовах, да якіх быў

вялікім аматарам. Прадаў ён паміж іншым Антверпенскую шматмоўную Біблію[1] ў васьмі аграмадных тамах, надзвычай рэдкую і каштоўную, ён папрасіў за яе, а разам і за некалькі дзясяткаў іншых сірыйскіх, арабскіх, персідскіх слоўнікаў, граматык і разнастайных даследаванняў толькі тысячу рублёў асігнацыямі. Гэта, напэўна, палова ад сапраўднай цаны; спяшаючыся заплаціць ксяндзу Вільёму за тыя кніжкі, я тэрмінова напісаў ліст бацьку з просьбай даслаць коней, каб адвесці мой скарб дамоў.

Тым часам езуіты адразу пасля велікодных урачыстасцей пачалі выязджаць на перакладных, якіх даў урад, партыямі па дваццаць чалавек, па двое на адной брычцы, наладаванай куфрамі і валізамі. Кожным разам на развітанне высыпаў увесь горад; плач і лямант гараджан усялякага стану і веравызнання суправаджалі кожны ад'езд. Нават яўрэі хваталі гразь з-пад колаў іх брычак на памяць. Езуіты ж са слязамі нас ксцілі і бласлаўлялі. Памятаю, як адзін, стоячы ўжо ў брычцы, прамовіў да гараджан і вучняў, якія натоўпам іх атачылі. Сэнс той прамовы: каб мы трымаліся каталіцкай веры, якая, маўляў, толькі адна можа дапамагчы Польшчы.

На Зялёныя Святкі, калі ўжо ўсе езуіты выехалі, да мяне прыехаў Юзаф з асобнай падводай для кніг. Развітаўшыся тады з Полацкам і забраўшы пакункі з кніжкамі і партрэт Баторыя, выняты з асады і скручаны ў сувой, выехалі мы з таго горада, у якім пражылі некалькі шчаслівых, спакойных і пабожных гадоў. Хутка пасля вяртання ў Мазалёва бацька даў мне коней у Рудаўку, каб пабачыцца з маці, якая ў той час перабывала ў Корбутаў пры Саламеі, што там вучылася. Пасля двух дзён майго гасцявання ў Рудаўцы вярнуўся з падарожжа дзядзька Корбут і прапанаваў мне, каб пасля выбараў, якія мусілі пачацца напрыканцы таго месяца ў Менску, я прыехаў да яго і адтуль ужо разам з Дамінікам і са Слізьнямі мы выехалі ў Віленскі ўніверсітэт, і каб я, як старэйшы, над імі апекаваўся. Я прыняў тую прапанову і паспяшаўся да бацькі, які таксама збіраўся на выбары.

Сабраліся мы ў Менск, гэтаксама як тры гады таму, грамадой пад ачолай дзядзькі Юрыя, які меў намер не дапусціць Ашторпа да губернскага маршалкоўства. Калі Ашторп зразумеў, што зноў будзе мець ад нас адпор, дык не вылучыўся нават на кандыдата, а як Завіша не хацеў быць далей маршалкам, пан Юры намовіў Янішэўскага, каб той прыняў гэтую пасаду, і ён быў абраны аднагалосна. На тых выбарах у нас было шмат банкетаў і пачастункаў, то для куража, то нібыта дзеля падзякі за атрыманыя пасады; моладзь бавілася больш жартамі і свавольствам, чым выконвала нейкія адказныя функцыі дзеля каторых мы тут былі сабраны.

[1] Антверпенская Біблія (Biblia Poliglota) — шматмоўнае выданне Бібліі ў 8 тамах (на лацінскай, грэчаскай, яўрэйскай, сірыйскай і халдзейскай мовах), выдадзенае пад патранажам іспанскага караля Філіпа II (1569—1572).

***Працяг будзе.***



# Бяроза

№ 7/2014(1034)









**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





# Вось яна якая — наша Радзіма!

## Рамонкі

*(Трыялет)*

На лузе рамонкі цвітуць,
Смяюцца, пакуль не сарвуць.
Пакуль не паставяць у вазу,
На лузе рамонкі цвітуць.

Не стаўце рамоначкі ў вазу —
Завянуць, панікнуць адразу.
На лузе рамонкі цвітуць,
Смяюцца, пакуль не сарвуць.

***Дар'я САЛАНІНКА,***
***9 клас, Ждановіцкая СШ, Мінскі раён***



## Васількі

У жыце блакітныя вочкі?
Ды гэта ж мае васілёчкі!
Штогод яны тут расцвітаюць,
Мяне ясным ранкам вітаюць.
Іх дожджыкам тут палівае,
Калоссе ад ветру хавае.
Іх вочкі блакітныя ў жыце...
Не рвіце вы іх, беражыце!

***Руслан МАЛЧАНКОЎ,***
***11 клас, Вялічкавіцкая СШ,***
***Салігорскі раён***







## Лета

Лета з сунічнай палянай,
З небам блакітным, з вясёлкай,
З кветкай у лузе духмянай,
З песняй малінаўкі звонкай...

Хутка ты, лета, мінаеш,
Восені шлях саступаеш,
Каб нас паклікаў на ўрок
Звонкі вясёлы званок.

*Кацярына МЯЗЬКО,*
*8 клас, Вялічкавіцкая СШ,*
*Салігорскі раён*

## У лесе

Я вельмі люблю лес. Там шмат дрэў, хмызнякоў і розных раслін. А яшчэ мне вельмі падабаецца духмянае лясное паветра.

У лесе шмат дрэў. Ледзь хістаючыся, рыпяць высокія сосны. Ціха шапацяць лістотай бярозы. Елачкі заўсёды прыбраныя ў свае зялёныя сукенкі.

А вось і прыгажун дуб! Ствол у яго таўшчэзны, у тры абхваты. Сам — высокі. Лісты — нібыта выразаны кімсьці. А вось і дзеткі дуба — жалуды на галінках. А пад дубам, відаць, дзік пабываў, бо мох разрыты. Любяць дзікі жалудамі паласавацца.

А ягады ў лесе такія духмяныя! Як прыемна збіраць іх у рот! А якое задавальненне шукаць грыбы. Яны быццам гуляюць са мной у хованкі: то ў мох, то пад лісце, то пад елачку схаваюцца. Птушкі спяваюць на розныя галасы. Дзенідзе стукае дзяцел.

Побач з хмызняком штосьці заварушылася. Вожык!

Пачуўшы мае крокі, калючы камячок стаіўся, а я адышоў убок і пачаў ціха назіраць за ім. Хутка вожык супакоіўся і няспешна пабег па сваіх справах.



*Платон САЕВІЧ,*
*3 клас,*
*гімназія № 29, Мінск*

## Гэта мая Радзіма, мой непаўторны край

Аднойчы летнім ранкам мы з татам адправіліся ў лес па ягады. Спачатку ішлі праз луг, потым уздоўж рэчкі. Ранішняе сонца ярка асвятляла ўсё наваколле. Я нават прыпынілася: якая прыгажосць! Зялёны лужок, блакітная стужка ракі нясе павольна свае хвалі. Па берагах, як вартаўнікі спакою і парадку, выстраіліся вербы. Час ад часу блісне срэбрам рыбка і зноў схаваецца ў глыбіні ракі.

Лес сустрэў нас веліччу дубоў, беластволымі прыгажунямі-бярозкамі, а на прыгорку раскінула голле дзікая яблынька. Перад уваходам у лес прырода гасцінна раскінула перад намі травяністы дыван, упрыгожаны рознакаляровымі кветкамі: рамонкамі, званочкамі, канюшынай, люцікамі.

Калі ласка, заходзьце!

Вось яна якая — наша Радзіма!

*Паліна ЮРЧАНКА,*
*5 клас, СШ № 10, Барысаў*



● **Пагляд**

***Аб сапраўдных скарбах***

# Новыя магчымасці і новыя абавязкі чалавека



Гісторыя чалавецтва не стаіць на месцы. І вось на двары ўжо XXI стагоддзе.

XXI стагоддзе — гэта прагрэсіўны час развіцця інфармацыйнага грамадства. Навука і тэхналогіі развіваюцца: з'яўляюцца больш мадэрнізаваныя камп'ютары, тэлефоны і іншыя сучасныя гаджэты, больш актыўна развіваецца стварэнне рабатызаваных сістэм, таксама ствараюць і саміх робатаў, якія неўзабаве змогуць размаўляць, а ў будучым, магчыма, і думаць, як людзі. Прагрэсіўнае чалавецтва асвойвае новыя сферы дзейнасці, але гэта значыць, што ў чалавека з'яўляюцца новыя абавязкі і праблемы.

З імклівым развіццём розных тэхналогій узнікаюць наступныя праблемы: забруджванне навакольнага асяроддзя, перанасяленне гарадоў. Таксама чалавеку патрэбны новыя пасяўныя плошчы, а каб іх атрымаць з'яўляецца неабходнасць высечкі лясоў, а гэта значыць, што адбываецца знішчэнне асяроддзя пражывання шматлікіх жывёл. Гэтыя праблемы катастрафічна ўплываюць на жыццё сучаснага чалавека. Узнікаюць новыя абавязкі і задачы, напрыклад: захаванне відаў жывёл, якія стаяць на мяжы вымірання або катастрафічнага скарачэння колькасці; паменшыць забруджванне навакольнага асяроддзя; знайсці замену вычарпальным рэсурсам, колькасць якіх таксама памяншаецца.

Перад сучасным чалавекам стаіць шмат праблем, але ёсць мноства магчымасцей іх вырашэння. Якімі могуць быць гэтыя рашэнні? Як хутка яны з'явяцца? У многіх краінах пераходзяць на біяпаліва, якое забруджвае навакольнае асяроддзе значна менш, чым звычайнае, рэдкіх альбо знікаючых жывёл вырошчваюць у запаведніках, а затым выпускаюць у дзікую прыроду, такім чынам падвышаючы колькасць іх асобін.

Адна з праблем — гэта ядзерная зброя. Дамову аб невыкарыстанні ядзернай зброі падпісалі больш як 170 краін. Але ёсць краіны, якія адмовіліся падпісаць

гэтую дамову або падпісалі, а затым выйшлі, — Іран, КНДР, Ізраіль, Індыя, Пакістан, ПАР. Чалавек — істота непрадказальная, а значыць, ад кожнага з нас можна чакаць чаго заўгодна. Атрымліваецца, што перад сучасным чалавек стаіць яшчэ адна праблема, якую можна вырашыць толькі адным спосабам — згода паміж усімі краінамі. Аднак няма гарантыі, што з часам якая-небудзь з краін таксама не адзаве свой подпіс.

З развіццём хімічнай прамысловасці распрацоўваюць новыя лекавыя прэпараты, але разам з тым з’яўляюцца і больш небяспечныя, наркатычныя рэчывы. Я лічу, што адзін з абавязкаў чалавека — абараняць самога сябе ад гэтага «невядомага звера». Якім чынам? Адмовіцца ад ужывання наркотыкаў, весці барацьбу супраць іх. Толькі аб’яднаўшыся людзі змогуць «забіць гэтага звера ў зародку».

На працягу ўсяго існавання чалавецтва не раз задумвалася: карысны прагрэс, ці, наадварот, толькі шкодзіць?

Вядома ж, навука павінна быць выкарыстана на карысць усяму чалавецтву. Але ці можна выкарыстоўваць навуку толькі на карысць, калі людзі так часта робяць памылкі, але не заўсёды вучацца на гэтых памылках. Магчыма, калі-небудзь памылкі сучаснасці будуць выпраўлены і ўжо ніколі не паўторацца зноў.

Я думаю, што не раз яшчэ чалавецтва будзе ўдзячна навуцы.

*Вераніка ГАМЗЮКОВА,*
*11 клас, СШ № 34, Гомель*

# Каб не забывацца...

Калісьці жыў на зямлі адзін вельмі магутны народ, які не раз бараніў радзіму ад ворага і крывёю напісаў сваю гісторыю ў кнізе часу. За стагоддзі існавання гэтыя людзі пабудавалі прыгожыя гарады, склалі безліч цудоўных вершаў і песень, нарадзілі шмат сапраўдных геніяў.

Але з цягам часу народ гэты паспакайнеў, пацішэў. Шэры пыл забыцця непрыкметна лёг на плечы кожнага чалавека. «Планета Зямля — наш агульны дом!» — сказаў нехта, і людзі перасталі ганарыцца сваёй вялікай спадчынай. Яны змянілі яе на новыя дасягненні, імкненні і мары. Вялікі народ забыўся пра свае карані.

У той час адзін юнак вырашыў пабудаваць сабе новую хату. Але ў яго не было грошай. У задуменні пайшоў ён па ваколіцах. Наблізіўшыся да старажытнай крэпасці, якая без нагляду ўжо амаль ператварылася ў груду камянёў, ён усклікнуў: «Вось дзе можна ўзяць матэрыял для будоўлі! Усё роўна гэтыя руіны нікому не патрэбныя!»

«Нікому не патрэбныя, не патрэбныя, не патрэбныя...» — вецер разнёс яго словы над старажытнымі сценамі. «Нікому не патрэбныя!» — адазвалася сотня галасоў. Юнак скамянеў ад страху. Тым часам вакол яго пачалі прачынацца цені мінулага. Адважныя ваяры, працавітыя хлебаробы, умелыя рамеснікі

 



запоўнілі старое замчышча. Іх постаці, нібы сатканыя з туману, прасвечваліся ў промнях вечаровага сонца.

Нячутна, быццам плывучы ў паветры, падышоў да хлопца стары гусляр. Валасы яго былі зусім белыя, а па твары раскінулася густая сетка маршчын. «Мы — тваё мінулае! — прамовіў ён, заглядаючы ў вочы юнака. — Паглядзі навокал — няўжо гэты славуты народ можна выкрэсліць з памяці чалавецтва? З тваёй уласнай памяці? Не для таго мы змагаліся за сваю будучыню, каб аднойчы нашчадак зруйнаваў сцены замка, у падмурку якога — пот і кроў людзей тутэйшых! Не для таго мы паміралі ад рук ворага, каб наша любая Радзіма засталася без сваёй славутай гісторыі! Мы — твой пачатак. Як рака без крыніцы не можа несці свае моцныя воды наперад, так і чалавек не пабудуе новае жыццё, забыўшыся пра сваіх продкаў!»

Гусляр гаварыў гучна, словы яго луналі ў паветры, запаўняючы цішыню вечара. Нібы вострае лязо, кожнае слова адзывалася ў сэрцы юнака, пакідаючы на ім след. «Гэта — мой боль, гэта мой скарб! — зразумеў хлопец. — Нельга яго згубіць яшчэ раз!»

Цені мінулага павольна знікалі ў прыцемках. Хутка юнак застаўся адзін паміж старажытных сцен. Ён стаяў пад зорным небам і адчуваў у сабе моц былых пакаленняў, якія заўсёды з намі на нашай роднай зямлі. У тую ноч на руінах мінулага ў душы юнака прачнуўся новы музыка. Ён зайграў на гуслях песню свайго краю. Зайграў голасна, з гонарам, захапленнем. І панёс яе свайму народу, каб ніколі больш не забывацца пра яе.

*Анастасія ХУРСЕВІЧ,*
*студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ*



● **Конкурс**

# Казкі школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з пазнакай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***



## Незвычайныя прыгоды Ганначкі

Ганначка сядзела за сталом і рабіла ўрокі. Вы спытаецеся, хто такая Ганначка? Гэта добрая, чулая дзяўчынка прыкладных паводзін, якая заўсёды слухаецца маму і ніколі нікога не крыўдзіць. Яна марыць аб прынцы на серабрыстым аднарогу, верыць ва ўсялякіх незвычайных істот: Бабайку, Бабу-Ягу, Фею...

Дзяўчынка адклала ўбок ручку, сшытак, падручнік і задумалася: «А ці існуюць сапраўды незвычайныя істоты? Так хочацца кагосьці з іх убачыць, дакрануцца...»

І тут за спінай Ганначкі пачуўся ціхі, але выразны кашаль. Яна павярнулася і ўбачыла незнаёмца. Гэта быў чалавечак маленькага росту з тварыкам, густа абсыпаным вяснушкамі. На галаве ў яго мелася рознакаляровая панамка, з-пад якой выбіваліся ярка-чырвоныя валасы. Апрануты чалавечак быў даволі незвычайна: жоўты гольфік, зялёны камбінезончык, зашпілены вялізнымі гузікамі, а на нагах — блакітныя тапачкі-мішкі. Усё гэта выглядала так камічна, што Ганначка міжволі засмяялася.

— Нядобра смяяцца з Дамавіка, — прабурчаў незнаёмы.

— Дык вы — Дамавік?! — заміргала дзяўчынка. — Сапраўдны?

Яна моцна заплюшчыла вочы, пакруціла галавой і нават ушчыкнула сябе тры разы.

— Што ты так здзіўляешся? — цяпер ужо засмяяўся Дамавік. — Жыву я тут, у вас за печкай, таму сябры так і клічуць мяне — Запечнік.

— З-з-запечнік? Вельмі прыемна. А я — Ганначка. Жыву тут ужо дзесяць гадоў і ніколі пра вас не чула, — прызналася дзяўчынка.

— Вядома ж, не чула! — цяпер ужо рассмяяўся Запечнік. — Але бачыла вынік маёй працы! Гэта я дапамагаю вам знаходзіць згубленыя прадметы. Гэта я паддаю гарачыні печцы, калі вы награваеце хату ці сушыце яблыкі. Гэта я сачу, каб у доме ўсё было ў парадку, калі нікога няма. А цяпер я прыйшоў, бо ты мяне паклікала.

— Я? — вельмі здзівілася Ганначка. — Калі?

— Толькі што! Ты хацела ўбачыць незвычайную істоту, а я і ёсць незвычайная істота! Што ты хочаш? Усё выканаю!

Ганначка паглядзела ў акно і адказала:

— Мілы Запечнік, адвядзі мяне, калі ласка, у такі лес, у якім шмат суніц. Хачу маму парадаваць.

— Гэта мы лёгка, — паабяцаў Дамавік. — Толькі вядро вялікае захапі!

— Можа, вядзерца? — засумнявалася Ганначка.

— Лепш вядро! Толькі я з табой не пайду, мне ў лес нельга...

І не паспела Ганначка вокам міргнуць, як апынуліся ў лясным гушчары, і ў руцэ ў яе было вялізнае вядро, не менш як на дзесяць літраў.

А суніц вакол было столькі, што ў Ганначкі ад захаплення дух заняло!

Яна ўзялася за працу і даволі хутка вядро было напоўнена да краёў. І што дзіўна, суніц вакол менш не стала, але Ганначцы было ўжо не да ягад. Яна азірнулася вакол і зразумела, што самой ёй адсюль не выбрацца. Ганначка нават не ведала ў які бок ісці, каб патрапіць дамоў...

— Запечнік, Запечнік, — спуджана паклікала дзяўчынка і нават заплакала, — Дамавічок, забяры мяне адсюль!

— Хто тут так крычыць?! Хто мне спаць перашкаджае?! — прагучаў раптам чыйсьці раззлаваны голас, і вялізны цень закрыў Ганначку і ўсё наваколле ад сонечнага святла.

Дзяўчынка так спужалася, што ў яе нават слёзкі адразу ж высахлі...

— Я — Лесавік, адзіны тут гаспадар! — зноўку пачуўся над Ганначкай голас. — А вось цябе завяду ў самую гушчыню лесу і аддам ваўкам на з'ядзенне за тое, што крычыш, што ягады мае без дазволу збіраеш! Хто табе гэтае чароўнае месца паказаў?!

— За-за-запечнік! — дрыжачым голасам прагаварыла Ганначка.

— Дык ты сябруеш з Запечнікам? — адразу ж палагоднеў Лесавік. — Сябры Запечніка — мае сябры. Вось табе шышачка!

— Што ж мне з ёю рабіць? — здзівілася дзяўчынка.

— Кідай на зямлю! Яна пакоціцца і цябе з лесу выведзе!

Ганначка так і зрабіла. А потым пайшла ўслед за шышачкай, і тая давяла яе да вёскі.

І вельмі здзівілася маці, калі Ганначка паказала ёй вядро суніц. Але пра тое, хто дапамог ёй набраць столькі ягад, Ганначка маці не стала расказваць. Усё роўна не паверыць...

*Юлія АДАМОВІЧ,*
*10 клас, гімназія № 1, Чэрвень*

## Як алоўкі з гумкамі памірыліся

На адной казачнай планеце была краіна «Алоўкаў» і краіна «Гумак». Алоўкі і гумкі ўвесь час сапернічалі і варагавалі, бо алоўкі жадалі ўсё наўкол размаляваць, а гумкі, наадварот, сцерці ўсё тое, што малявалі алоўкі...

Алоўкі стараліся, як маглі, і размалёўвалі ўсё, што толькі магчыма: на паперы, на плоце, на сценах будынкаў, нават на асфальце. Але атрымлівалася суцэльная блытаніна, бо кожны аловак маляваў сваё, незважаючы на астатніх. Галоўнае — размаляваць, як мага больш, а тое, што на іх малюнках нічога нельга было зразумець — справа дзясятая...

Але гумкі не жадалі саступаць і выціралі ўсё, што малявалі алоўкі. І чым больш шчыравалі алоўкі, тым больш працы было ў гумак.

І алоўкі, і гумкі стаміліся ад гэтай бесперапыннай вайны, але не ведалі, як яе спыніць.

Аднойчы здарылася так, што адзін аловак і адна гумка трапілі да Хлопчыка, які вельмі любіў маляваць. І заўсёды ён маляваў прыгожыя і добрыя малюнкі, якія ўсім вельмі падабаліся. Гэтым Хлопчык прымірыў дзве варожыя краіны. І алоўкі зразумелі, што галоўнае ў малюнках не іх колькасць, а якасць. А яшчэ тое, што гумкі ім не саперніцы, а наадварот, могуць дапамагчы, каб малюнак атрымаўся прыгожым і добрым. Гумкі таксама зразумелі, што не трэба сціраць ўсё без разбору, бо так можна сцерці і вельмі добрыя малюнкі. Сціраць трэба толькі лішняе...

Пасля гэтага алоўкі вельмі моцна пасябравалі з гумкамі і заўсёды стараліся працаваць з імі разам. А ўсё дзякуючы Хлопчыку, які вельмі любіў маляваць.

*Вера ГУТАР,*
*11 клас, ліцэй, Івацэвічы*

## Як Міколка перавыхаваўся

Жыў быў хлопчык. Звалі яго Міколка. Хлопчык як хлопчык, але была ў яго адна не вельмі добрая звычка...

Збярэцца, бывала, Міколка з сябрамі ў лес па грыбы. Ходзіць, баравікі ды падасінавікі ў кошык кладзе, а мухаморы і іншыя неядомыя грыбы нагамі падфутбольвае. І спрытна так гэта робіць, ні ў чым Раналду не саступае. А бывае, адпачываюць дзеці на лузе, дык Міколка пабяжыць, нарве кветак столькі, што і носу з-за іх не відаць, а потым, пакуль дадому дойдзе, усе павыкідвае.

І так заўсёды: то галінку зламае, то ножыкам кару з дрэва здзярэ. І ведае, што нельга так рабіць, але ўсё роўна робіць…

Але здарылася з ім аднойчы дзіўная гісторыя...

Пайшлі дзеці неяк летам усім класам у паход. Дзень выдаўся цёплым, сонечным. Набегаліся, нагуляліся, у абед падсілкаваліся і вырашылі крыху адпачыць. Прылёг і Міколка... але не ляжыцца яму! Убачыў на палянцы непадалёк мухаморы і вырашыў імі ў футбол пагуляць.

Але не паспеў да палянкі дабегчы, як сам ператварыўся ў мухамор!

Стаіць Міколка-мухамор сярод паляны, такі прыгожы, высокі… здалёк яго відаць! І тут на палянцы з'явіўся ягоны сябар Андрэйка, з якім Міколка часта любіў мухаморамі ў футбол гуляць. Убачыў Андрэйка мухамор, узрадаваўся і занёс нагу для ўдару.

— Не трэба, я ж хоць і не прыдатны для ежы, але ж для лясных звяроў карысны! — хацеў крыкнуць Міколка-мухамор.

Ды забыўся, што не Міколка ён, паспеў толькі капялюшык свой плямісты на самыя вочкі нацягнуць і падрыхтавацца да ўдару.

Але нічога не адбылося. Вызірнуў Міколка з-пад капялюшыка, а ён ужо не грыб, а рамонак на полі. Прыгожы такі, сярод іншых кветак расце, сонцу радуецца і сам падобны да маленькага сонейка.

І тут, адкуль не вазьміся, зноў Андрэйка. Ідзе па полі, цэлае бярэмя кветак у руках, а яму ўсё мала. Убачыў Міколку-рамонка, пацягнуўся, каб і яго сарваць.

— Навошта? У цябе і так вялікі букет, — хацеў крыкнуць Міколка, але ў яго зноўку нічога не атрымалася. Толькі паспеў заплюшчыць свае пялёсткі-вочкі ад жаху і прачнуўся.

З таго часу Міколка ніякіх свавольстваў ні сабе, ні сябру свайму Андрэйку не дазваляе. Бо зразумеў, што нездарма кажуць: прырода — наш агульны дом, які трэба берагчы!

*Андрэй ШЧАРБІЦКІ,*
*8 клас, Слабацкая БШ, Міёрскі раён*

## Піяніна і скрыпка



Жылі-былі ў адной музычнай краме Піяніна і Скрыпка. І так здарылася, што купілі іх разам... і патрапілі яны ў дом да хлопчыка Дзям'янкі.

Піяніна, бліскучае ды ганарлівае, раптам убачыла побач з сабой Скрыпку, якая кожную раніцу рабіла зарадку: то падцягне струны, то адпусціць, то смычком паспрабуе — як гучыць. Надакучыла ўсё гэта слухаць і Піяніна пачало смяяцца са Скрыпкі:

— Паслухай, Скрыпка. У мяне ад твайго скрыпу клавішы асядаюць, ноты губляюцца. Ды і не ўмееш ты як след спяваць!

Пакрыўдзілася Скрыпка, заплакала горка і схавалася ў свой камбінезон-футляр. Сумна ёй стала і вельмі крыўдна, што Піяніна не хоча сябраваць, а толькі ганарліва стаіць і глядзіць на ўсё вакол. Некалькі разоў спрабавала Скрыпачка завесці размову з ім, але без усялякага выніку...

Аднойчы прыйшоў Дзям'янка са школы са сваім сябрам Міронам і пачалі яны гутарыць, што хутка свята і ім патрэбна выступіць разам на канцэрце. Узяў Дзям'янка ў рукі Скрыпачку, але яна не заспявала, як раней, а заплакала. Здзівіўся хлопчык. Павёў смычком другі раз, мелодыя стала трохі весялейшай, але ўсё роўна атрымлівалася не так, як ён спадзяваўся. Сеў за Піяніна Мірон, але і тут зусім не разабраць, што атрымліваецца. Фанабэрыцца Піяніна, не хоча іграць па нотах, не хоча прыгожа гучаць. Паглядзелі хлопчыкі на музычныя інструменты і сказалі:

— Як вам не сорамна паводзіць сябе так! Ці ж вы не сябры? Давайце добра сыграем на канцэрце і парадуем прысутных!

Пераглянуліся Скрыпка і Піяніна ды загучалі так, як трэба. А назаўтра быў канцэрт. І тут адбыўся цуд: музыка гучала так прыгожа, як журчыць ручаёк. Воплескі не сціхалі з паўгадзіны.

Скрыпка і Піяніна зразумелі, што разам можна і горы перавярнуць. З таго часу яны сталі лепшымі сябрамі, а іх музыка радавала слухачоў.

*Алёна БУРАЯ,*
*4 клас, СШ № 109, Мінск*



## Дзіма і геаграфія

Жыў-быў хлопчык Дзіма. Быў ён разумным, але геаграфія яму чамусьці не падабалася. Таму ён яе не вучыў, за што атрымліваў шмат дрэнных адзнак. Надакучыла гэта падручніку па геаграфіі і вырашыў ён адправіць Дзіму ў падарожжа па ўсім свеце.

Спачатку Дзіма патрапіў у Кітай, дзе сустрэў сапраўдную панду. Дзіма быў здзіўлены чорна-белым мядзведзем, а той расказаў хлопчыку, што Кітай — самая старажытная цывілізацыя свету. Пражываюць у Кітаі людзі 56 нацыянальнасцей. Галоўная славутасць краіны — Вялікая кітайская сцяна — найбуйнейшае абарончае збудаванне ў свеце. А яшчэ Дзіма даведаўся, што менавіта з Кітая да нас прыйшлі папера, шоўк, фарфор, гарбата, порах і многае іншае…

Потым ён перанёсся ў Японію, на свяшчэнную гару Фудзіяма. Малпачкі, што жылі непадалёк ад гэтай гары, паведамілі, што Японія — астраўная дзяржава, яна займае чатыры вялікія астравы (Хакайда, Хансю, Кюсю і Сікоку) і каля 900 больш дробных. Пра старажытную гісторыю Японіі сведчаць маляўнічыя замкі эпохі сёгунаў. Адным з самых прыгожых лічыцца замак у горадзе Акаяма.

У многіх замежных краінах пабываў Дзіма, але самай прыгожай была і засталася для яго родная краіна — Беларусь. Тут ён сустрэў бусла, які пасадзіў яго сабе на спіну і з радасцю паказаў краіну з вышыні птушынага палёту. І Дзіма зразумеў, што Беларусь славіцца багаццем лясоў, крышталем чыстых рэк і азёр, сонечнымі, напоўненымі свежым водарам палямі і лугамі. Азёры і забалочаныя раёны з'яўляюцца месцам пражывання многіх відаў птушак. Бусел расказаў хлопчыку пра хараство беларускай прыроды, гонар і годнасць беларускага народа.

І зразумеў Дзіма, што геаграфія — вельмі цікавая і патрэбная навука, і яе трэба любіць. З гэтага часу ён заўсёды старанна рыхтаваўся да кожнага ўрока геаграфіі, і ніколі ўжо не было ў яго па гэтым прадмеце дрэнных адзнак.

***Кірыл САВІК,***
***10 клас, ліцэй, Івацэвічы***

## Лепшыя сябры

Жыў у горадзе адзін здаровы і працавіты, а таму шчаслівы Чалавек. Але аднойчы Чалавек захварэў, і лекары сказалі яму, што, толькі пасяліўшыся ў лесе, ён зможа паправіцца.

Хворы згадзіўся і паехаў далёка ў лес. Жыў ён у лесе адзін і сам сабе гатаваў ежу. Хадзіў на паляванне, збіраў грыбы, ягады і арэхі. Сталага жытла ў



лесе Чалавек не меў, спаў пад дрэвамі. Са скур зрабіў сабе клунак і насіў яго, перакінуўшы цераз плячо.

Да Чалавека зноў вярнуўся здаровы колер твару, добры апетыт, і ў хуткім часе ён канчаткова паправіўся.

І вось аднаго разу, калі Чалавек ужо два дні не мог нічога ўпаляваць, ён убачыў у паляўнічай яме параненага Аленя. Узрадаваўшыся, Чалавек хацеў забіць яго, але раптам яму стала шкада Аленя. Чалавек доўга мучыўся, але змог выцягнуць жывёлу з пасткі. Хутка ён залячыў Аленю раны.

Алень вельмі прывязаўся да Чалавека, і Чалавек таксама палюбіў Аленя. З таго часу яны заўсёды былі разам. Але абодва ведалі, што хутка яны павінны развітацца, бо Чалавек планаваў зноў вярнуцца ў горад.

І вось аднойчы Чалавек і Алень разам ішлі па лесе. Алень скубаў траву, а Чалавек тым часам збіраў ягады і грыбы. Раптам з-за кустоў выбег вялізны і злосны воўк. Ён скокнуў да Чалавека і хацеў разарваць яго, але Алень смела кінуўся на драпежніка і сваімі вялікімі рагамі адкінуў яго ўбок. А пакуль воўк падрыхтаваўся да новага нападу, Чалавек паспеў зняць з пляча стрэльбу і забіць яго.

Так Чалавек і Алень дапамаглі адно аднаму і сталі лепшымі сябрамі. Чалавек, падумаўшы, назаўсёды застаўся жыць у лесе, бо яму там болей падабалася, чым у горадзе. Да таго ж ён не хацеў пакідаць у адзіноце свайго вернага сябра.

*Вольга ЯСЬКОВА,*
*11 клас, ліцэй, Івацэвічы*

# Як Гарэза ў «Зубронку» была

## Гісторыя праўдзівая

Пачатак верасня 2002 года, Гарэза прыехала дадому на ровары, бо там, дзе яна жыла, зручней было ўсюды не хадзіць, а ездзіць. У школу — на ровары, да бабулі — толькі на ровары, у краму — на ровары, у бібліятэку, касцёл, а ён быў у бліжэйшай вёсцы за 3 км, — таксама на ровары, да лепшай сяброўкі і з лепшай сяброўкай амаль усюды на ровары.

Дык вось у той восеньскі, але яшчэ па-летняму цёплы вечар яна вярнулася з касцёла дадому ў добрым настроі, хіба што па дарозе быў прыгожы заход сонца. Гарэза нават не здагадвалася, што маці вярнулася з працы з навіной канкрэтна для яе. Якой?

— Праз колькі дзён ты паедзеш у дзіцячы лагер «Зубронак». Ты хочаш паехаць? «Зубронак» — гэта лепшы лагер у Беларусі. Што ты думаеш?

Гарэза задумалася, а потым спытала:

— А на колькі дзён?

Гэта ж быў ужо верасень і была школа. І там трэба было вучыцца. Гарэза хоць і была гарэзай, але да вучобы ставілася сур'ёзна.

Амаль 30 дзён! 28 атрымлівалася. З 10 верасня па 8 кастрычніка. «Залатая восень пачнецца, не буду ў грыбы хадзіць, баб'е лета якраз, ехаць ці не? Верасень жа адзін з улюбёных і самых каляровых месяцаў і гэта вялікая ахвяра праводзіць яго ў хваёвым лесе, які заўсёды аднолькавага колеру, няхай і на беразе самага вялікага возера Нарач, толькі які сэнс з возера ўвосень?

Гарэза задумалася, але прага новага перамагла, і яна адказала маці, што згодная.

Вельмі хутка сабраліся дакументы і медыцынская праўка, а таксама рэчы ў сумку. Вельмі хутка захварэлася на ангіну ў апошнія дні перад ад'ездам, што без інгаліпту ўжо не абыходзілася. Гарэза хвалявалася, таму і захварэла. Гэта з той пары Гарэзу пачала суправаджаць любімая цётка Ангіна, калі толькі Гарэза была няўпэўнена ў тым, што робіць.

У дажджлівы вераснёўскі дзень за Гарэзаю прыехала машына, гэта быў тата хлопчыка, які таксама ехаў з ёю ў лагер і ахвяраваў сваім вераснем. Гарэза ў суправаджэнні сваёй мамы паехалі разам з імі ў славуты «Зубронак».

Дождж, ангіна і хваляванні дапоўнілі тыя рэчы, якія везла Гарэза з сабою. Яшчэ тады Гарэза зразумела, што ў такія паездкі і прыгоды яна не любіць браць шмат рэчаў, асабліва адзення, толькі самае неабходнае. Каб не пера-

каджала лавіць уражанні. Чаму Гарэзе так здавалася, што лішнія рэчы перашкаджаюць збіраць уражанні, яна не магла тады сказаць, але яна мела рацыю, пра што паказаў ёй у будучыні вопыт чарговых падарожжаў і прыгод, якія яна назбірае пазней і запіша ў свой нататнік. Нататнік. Святая справа! У «Зубронак» яна прыхапіла з сабою гэтую рэч, у якую магла нешта запісваць. Раней такой звычкі не было.




Менавіта з «Зубронка» ў яе з'явілася такая звычка заводзіць нататнікі ў паездкі і падарожжы. Сапраўды, першапачаткі належаць «Зубронку», за што можна і падзякаваць Дзядзьку-Лагеру, бо пасля яго ў Гарэзы столькі нататнікаў напладзілася! З думка-словамі ды з замалёўкамі!..

Вось так выглядала першая старонка нататніка: ⤴

Дарагі чытач, можа, ты не паверыш, але Гарэза згадзілася адсканаваць гэтыя старонкі і паказаць табе. Думаю, канешне, ты здзівішся, але на першай было вось што:

Калі ты ўважліва прыгледзеўся, то ўбачыў, што гэта тыя 28 дзён старанна закрэсленыя спачатку алоўкам, а потым яшчэ і ручкаю. Што за сістэма? Чаму гэтыя дні перакрэсленыя?...

Пра гэта ты даведаешся ў адным з наступных нумароў «Бярозкі». Жадаю дачакацца!

*Аксана* ***ЮЧКАВІЧ***

● **Літаратурныя старонкі**

*Кацярына ШЧАСНАЯ*

# Кароль і туз



Соня глядзела на двор праз кавалачак зялёнага шкельца. Бачыла зялёнае неба, зялёны плот і без таго зялёны калодзеж, зеленаватых куранят і цёмна-зялёную курыцу, ярка-зялёнага Бельчыка на даху зялёнай будкі, зялёны агарод і зялёныя памідоры. Гэтай нечаканай знаходцы на дарозе каля дома яна вельмі ўзрадавалася. Гэта ж можна загадаць жаданне і зрабіць сакрэцік! Дзяўчынка выкапала ямку каля вялізнай ліпы і паклала туды запіску з жаданнем, фанцік ад любімай цукеркі і прыціснула гэта шкельцам. З вялікай надзеяй, што сакрэцік хутка пачне дзейнічаць, агледзела месца і пабегла да сваіх лялек, што чакалі, калі іх будуць мыць у нагрэтай на сонцы вадзе. Жаданне Соні было наступнае: «Каб бацькі ніколі не сварыліся». Вось і сёння раніца пачалася з высвятлення адносін, хаця, здавалася, прычын не было. Асабліва складана стала цяпер, улетку, калі ў абодвух былі адпачынкі, і, адпаведна, шмат вольнага часу, які разам не надта і хацелі праводзіць. Соня ад гэтага толькі пакутавала. Ёй хацелася пайсці з маці ў краму ці папрасіць бацьку прыклеіць ляльцы руку, але кожны з іх мог пакрыўдзіцца, бо яна нібыта «падтрымлівае» адзін з «бакоў».

Яна б, пэўна, сумавала і сёння, але суседскія дзяўчаты паклікалі да сябе.

«Глядзіце, што ў мяне ёсць!» — Светка паказала калоду карт з прыгожымі

казачнымі малюнкамі. На дзявятцы чырваў сабака лавіў вавёрку, на бубновым тузе плыў кудысьці прыгожы карабель. Прыгожыя вусатыя хлопцы-«вальты», фігурныя дзяўчаты-дамы. Каралі былі сапраўднымі каралямі — у каронах, са скіпетрамі, у шыкоўных шубах.

— Я буду вам варажыць, раскажу ўсю праўду, — Света напусціла на сябе таямнічы выгляд.

— Мне паваражы! — запішчала Соня.

— Добра, — Света пачала тасаваць калоду. Аліна і Паліна сталі на лаўку, каб лепш бачыць, як ідзе гэты магічны працэс.

— От удумалі вы тут гэтай малой варажыць! Света, ты ж дарослая дзеўка! — абурылася яе маці, якая выйшла на падворак.

— Мама, мы трошкі! — Света далей тасавала калоду.

Сапраўды, у Соні з дзяўчатамі была вялікая розніца, ёй толькі сем, Свеце споўнілася 11, а Аліне і Паліне — па дзесяць гадоў. Сяброўкі былі вышэйшымі за Соню на цэлую галаву. Але дзяцей, хто пастаянна жыў у гэтай вёсцы, было няшмат, і таму яны трымаліся разам.

Першай картай выйшла 10 «трэф».

— О, цудоўна! У цябе будзе нейкі падарунак.

«Хм, — падумала Соня, — можа, мама з татам возьмуць мяне ў горад і купяць лялька з доўгімі валасамі, у якой ёсць расчоска, пшыкалка і маленькі сабачка?»

Наступнай картай выйшаў кароль чырваў.

— О-о-о! — зарагаталі дзяўчаты. — У цябе ўлюбіцца нейкі пацан!

Соня пачырванела. Ёй стала вельмі непрыемна і сорамна, хаця было цікава, каб у яе хто-небудзь закахаўся.

Наступнай картай быў перавернуты туз пік.

— Ого, у цябе нейкая бяда здарыцца. Можа, ты нават захварэеш.

— Вы дурныя! Не жадаю больш з вамі гуляць, — загаласіла Соня немым голасам і скінула карты з лаўкі.

— Соня, Соня, не плач! Гэта ўсё няпраўда! — абняла яе Паліна.

Соня адпіхнула сяброўку і ўжо хацела бегчы да сябе, але ўвагу дзяўчат прыцягнулі людзі, што ішлі па вуліцы, відаць, з аўтобуснага прыпынку. Гэта была сям'я: маладыя жанчына і мужчына, хлопчык гадоў дзесяці з вялікім дарожным кошыкам і яшчэ адно дзіця, якое знаходзілася ў калясцы. Бацька каціў каляску, другой рукой трымаў жонку за руку, а за другую руку жанчыны трымаўся хлопчык. Яны былі падобныя да ідэальнай сям'і, якую часта малююць на вокладках кніжак.

Калі сям'я праходзіла міма, дзяўчаты гучна сказалі «здрасце» і пачулі «здрасце» ў адказ.

З'яўленне «новенькіх» дапамагло забыцца на канфлікт. Сяброўкі хутка павыносілі лялек і ўжо прыбіралі іх «на дыскатэку». І тут убачылі, што да іх вяртаецца той самы хлопчык, з «прыезджых». Ён штурхаў летнюю каляску, у якой сядзеў яго маленькі брацік.

— Кароль, кароль ідзе, — цішком засмяяліся дзяўчаты.

— Адкуль вы ведаеце маё прозвішча? — здзівіўся госць. — Я Вова Кароль. Палова вёскі майго бацькі — Каралі. Сюды мы прыехалі да мамінай бабулі. А гэта мой брат Стасік, ён яшчэ не гаворыць, але гуляцца любіць.

Малы, пачуўшы сваё імя, заўсміхаўся шчарбатым ротам.

— А ў што гэта вы гуляецеся?

— У дыскатэку, — Аліна з Палінай ледзь на плот не лезлі, выстаўляючы свае доўгія ногі.

Вова з хлапечай ганарлівасцю агледзеў дзяўчат, потым распранутых лялек, і, заўважыўшы раскіданыя пад лаўкай карты, абрадаваўся:

— Вось гульня дык гульня будзе! Давайце гуляць у «фанты». Па чарзе будзем цягнуць карты, каму выпадзе, напрыклад, туз пік, той абязаны выканаць заданне. А Стасік будзе сачыць за справядлівасцю.

Кампанія паглядзела на гэтага «арбітра» з рэдкім чубчыкам і гучна зарагатала.

Света зноў пачала тасаваць карты. Соні выпала 10 трэф, Вове — кароль чырваў, а Паліне — злашчасны туз.

— Усё, усё, папалася. Так, тваё заданне будзе... — Вова агледзеў тэрыторыю. — Дабегчы да таго вунь дуба, — паказаў ён на скрыжаванне, — і зазірнуць у яго дупло.

— Нееее! — заверашчала Паліна.

— Ты што, дурань, не ведаеш? Гэта Чортаў дуб! — закрычала Света. — Усе ведаюць, нам мамы расказвалі, што тут па начах збіраюцца чэрці і ладзяць свае ігрышчы.

— Паглядзі, які ён страшны... — залапатала Соня.

А дуб і сапраўды падаваўся страшным. Калі вакол усё зелянела, ён стаяў ужо колькі гадоў чорны-чорны, быццам апалены, без адзінага лісціка. Камель яго быў даволі моцны, уверх тырчалі тоўстыя вострыя галіны. Дуб быў падобны да рагатага чорта, які стаіць і пільнуе гэтае скрыжаванне, а вялізнае дупло нагадвала ненажэрную пашчу.

— Ого! — Вову гэта захапіла. — Дык пойдзем хутчэй паглядзім на чорта!

Ён падхапіў на рукі Паліну з лаўкі. Тая проста растаяла і была ўжо гатовая ісці хоць у балота. Астатнія дзяўчаты таксама сабраліся.

— А як жа Стасік? — закрычала ўслед Соня.

— За ім застаецца функцыя назіральніка! — аджартаваўся Вова.

Соня таксама пабегла за гэтай небяспечнай кампаніяй, бо заставацца з малым адной было яшчэ больш страшна.

Калі да скрыжавання засталося некалькі крокаў, дзеці сцішылі бег і, не згаворваючыся, пайшлі павольна, нібы крадучыся. Кожны ўсведамляў, што хутка адбудзецца сустрэча з невядомым і страшным. Калі яны перайшлі дарогу, Соня адчула, як моцна б'ецца яе сэрца, і ўзяла за руку Аліну.

І вось да дуба засталося ўсяго некалькі крокаў. Вова ішоў наперадзе, а дзяўчынкі з жахам чакалі, калі ж ён зазірне ў дупло.

Раптам хлопец адхіснуўся і закрычаў: «Чорт, Чорт!»

Дзяўчынкі з дзікім віскам стралой паляцелі назад, нават не памятаючы, ці глянуў смяльчак у тое дупло, ці яму ўсё падалося. Секунда — зашыпелі на дварозе шыны, акутваючы ўсё ў густы пясчаны дым. Пыл пачаў асядаць, пачулася абураная лаянка: «Каб на вас халера, дурні малалетнія, які чорт вас сюды пагнаў!» і Свецін плач. Яна ляжала недалёка ад машыны. Не, яе не збілі, яна проста ўпала перад самай машынай, а малады дзядзька, што быў за рулём, паспеў затармазіць. Сяброўкі пачалі яе супакойваць, падбег і Вова, які збіраўся дапамагчы Свеце падняцца.

— Пайшоў вон, псіх! — гыркнулі на яго Аліна і Паліна.

Крычаў і дзядзька-кіроўца. Яго крыкі хваляй паляцелі па вуліцы, і вось па чарзе з двароў выбеглі Свеціна мама, мама Паліны і Аліны, мама Соні. Мама Вовы супакойвала Стасіка, які вылез з каляскі і з плачам поўз па траве, імкнучыся ў бок дарогі. На выратаванне бег Вовін тата. І вельмі своечасова: мамы сварыліся з кіроўцам і адначасова спрабавалі адлупцаваць Вову, які ад страху наразаў кругі каля машыны.

— Адкуль такі шум? — з раз'юшанага Кароль-старэйшы ператварыўся ў лісліўца.

— Якога чорта яны кідаюцца пад колы! — дзядзька пырскаў слінай.

— А якога чорта вы не выконваеце правілы дарожнага руху і не прапускаеце пешаходаў у абазначаным месцы? — Вовін тата пальцам паказаў на знак «пешаходны пераход», усталяваны побач з аўтобусным прыпынкам. Затым ён дастаў са сваёй клятчатай кашулі пасведчанне. — Я думаю, вам лепш папрасіць прабачэння ў гэтых дзяўчат і ехаць на чатыры бакі, а не плаціць некалькі базавых велічынь.

— Прабачце! — дзядзька пачырванеў, потым пабялеў. Затым дастаў з багажніка нейкі пакунак і ўручыў Вовінаму тату. — Цукеркі.

Прабубнеўшы: «праклятае месца», ён націснуў на газ і з'ехаў.

— Прашу, — перадаў Кароль-старэйшы цукеркі Свецінай маме. — Каб хутчэй зажыло. І не крыўдуйце на малога, я прымяню да яго строгія адміністрацыйныя ўзысканні.

Жанчыны весела зарагаталі. Ім спадабаўся гэты чарнявы прыгажун. Зразумела было, у каго ўдаўся і Вова.

Па хатах малыя ішлі пад строгім бацькоўскім канвоем. Да вечара «ўзысканні» былі прыменены да ўсіх. Дзеці ірвалі кроп, збіралі агуркі і маліну і не думалі пра небяспечныя забавы.

Але хутка небяспечная сітуацыя нагадала пра сябе. Калі на наступны дзень раніцай маці Соні выйшла на ганак, яна вельмі спужалася і заверашчала. На парозе дома сядзела чорная котка, якая, на дзіва, была абсалютна безэмацыйнай. Бацька, які прыбег на крык, хацеў адкінуць котку нагой, але яна злаўчылася і шуснула праз ногі ў хату. Усе дзверы былі адчынены і яна забегла ў залу ды схавалася пад канапу. «Кооооцік» — палезла яе даставаць Соня. Але котка злосна зашыпела і пачала адбівацца лапай.

— Божа ж мой! Што гэта за навала, — заплакала Соніна маці. — Учора гэта аварыя, а ўночы мне прыснілася, што наш дом абваліўся. А тут яшчэ гэтае чарноцце...

— Зноў твае забабоны! — бацька ўскінуў рукі. — Котка, псік на вуліцу!

Нечакана котка спакойна вылезла з-пад канапы і патрусіла на двор, а дарослыя супакоіліся і заняліся сваімі справамі.

А Соню чакаў яшчэ адзін непрыемны сюрпрыз: яе «сакрэцік» пад дрэвам быў чамусьці разварушаны. Магчыма, гэта куры разгрэблі, а можа, і таямнічая котка. Соня заплакала ад расчаравання: ёй так хацелася, каб жаданне збылося, і пачала нанава рабіць хованку.

У гэты час у двор нечакана завітаў Вова.

— Гэй, малая, у мяне амністыя да вечара. Пайшлі нашу жылплошчу пакажу.

Увогуле «малой» не было дазволена выходзіць і яна прамаўчала.

— Гэта блізка, ты хутка вернешся, — супакоіў яе няпрошаны госць.

Соня азірнулася на бацькоў, якія шчыравалі на агародзе, і пайшла за Вовам. Дом яго бабулі быў праз адзін двор.

А каля дома Соня раптам убачыла тую самую котку, якая пяшчотна грэлася на сонцы, а ў яе пад бачком круцілася маленькае шэранькае кацяня. Стасік ў замызганых шортах спрабаваў схапіць яго.

— Гэта наша, яе завуць Соня. Жыла з намі ў горадзе, у кватэры, а тут ў яе з'явілася кацяня. І мама з татам вырашылі адвезці іх у вёску, каб ім было вальней, — расказаў Вова. — Хочаш, мы са Стасікам падорым табе коціка?

— Канешне ж!

Соня проста падскоквала, ідучы пасля вясёлых гульняў дадому, і натуральна, зусім забылася, што прайшло цэлых дзве гадзіны.

Мама сустракала яе каля дома. У слязах. І з мокрым рушніком у руках.

— Дзе ты лазіла?

— Мама, я знайшла Чарноцце! Яна пяшчотная і яе завуць Соня, як і мяне! І мне падораць коціка!

— Ніякіх катоў! Гэты чорт Вова цябе са свету зжыве! — зараўла маці.

— Хай ужо будзе той кот, наш жа прапаў даўно, — уступіўся бацька.

— Каб ты правалілася, — раззлавана ляснула маці ў паветры рушніком і рушыла ў бок прыбудовак.

У гэты момант пачуўся незразумелы грукат. Зямля і неба на хвіліну для Соні сапраўды пачарнелі.

Да яе зноў бегла маці.

Аказваецца, гэта нечакана адламаўся і з'ехаў кавалак сцёкавай трубы, які па невядомай траекторыі зваліўся Соні пад ногі. Бацька моўчкі прыбраў гэты кавалак.

Увечары да іх прыйшлі родзічы. Размаўлялі больш пра злашчасную трубу, а яшчэ ўспомнілі і «аварыю», і пра тое, што ў мінулым годзе Соня ледзь не ўтапілася і ў яе згубіўся крыжык. Цётка Воля прапаноўвала схадзіць да шаптухі за дзесяць кіламетраў. Але дзяўчынка закрычала, што да бабак-ёжак не пойдзе, і сям'я вырашыла проста купіць крыжык і свяціць яго. Яны ўтрох з'ездзілі ў горад, набылі крыжык. Сапраўды, пасля гэтага выпадку ў доме пацішэла, і гэта было так цудоўна!

Такі жаданы падарунак для Соні!

Дзяўчаты з вуліцы зноў сустракаліся за ранейшымі забавамі. Завітвалі да іх і браты Каралі. І хоць Вова, памятаючы сваю абмылку, не «правакаваў» больш на дзіўныя прыгоды, мамы дзяўчынак усё ж з насцярогай ставіліся да гэтага гарадскога сябрука.

Бліжэй пад верасень сям'я Каралёў з'ехала, забраўшы з сабой у горад сваю бабулю. Пад вечар, пасля іх ад'езду, у Сонiным двары з'явілася Чарноцце са сваім шэранькім сыночкам. Гучна мяўкнуўшы, яны папрасіліся пажыць у новых гаспадароў.

**Візітоўка аўтара**

***Кацярына Шчасная нарадзілася ў 1984 годзе ў Баранавічах. Прафесійна займаецца філалогіяй у Акадэміі навук. Часам піша журналісцкія артыкулы. Вершы і проза — занятак для душы. Тым не менш, публікацыі ў «Бярозцы», «Маладосці», «Тэкстах» ёсць. Імкнецца да дасканаласці ва ўсім. Любіць рух наперад і палёт фантазіі.***

 

● **Практыкум**

# Тры прыёмы празаіка

***Дружа!***

***Я пішу раман у стылі фэнтэзі. Там будуць эльфы, хобіты, нуменорцы, а таксама некаторыя беларускія істоты (чуў пра бурсонікаў? Хутка пачуеш).***

***Распавесці трохі, як я пішу прозу?***

***Глядзі.***

1. У маім рамане злодзеі «грымнуліся з коней, паклалі мяшок на зямлю, хлабыснулі рому» (у мяшку, дарэчы, галоўная гераіня). Можна было б напісаць проста — «саскочылі з коней» і «выпілі рому». Было б амаль тое самае па сэнсе, але дзеясловы «грымнуцца» і «хлабыснуць» перадаюць, апроч асноўнага сэнсу, як гэта было зроблена: энергічна, гучна і неахайна.

***Мараль: падбірай найбольш выразныя сінонімы.***

2. Крыху раней я апісваю тых самых злодзеяў. Спачатку яны ў мяне з’яўляюцца пад покрывам цемры. І я іх тады дакладна не апісваю, бо іх у цемры не відаць! Затое даю шмат дыялогаў, якія акрэсліваюць характары. Апісваю іх ужо потым, калі свеціць сонца і відаць, як яны выглядаюць.

***Мараль: апісанні павінны быць дарэчнымі.***

3. У іншым месцы ў мяне адзін герой другому кажа: «У вас крыху тырчыць правы вус». З ягонай фразы можна зразумець, што другі герой вусаты, а першы — уважлівы да знешняга выгляду, таму нават калі я не напішу гэтага адкрытым тэкстам, вобразы ўсё адно намалююцца.

***Мараль: часам можна апісаць і без апісання.***

Яшчэ трэба распрацаваць сюжэт, прыдумаць свет, у якім дзейнічаюць героі, і трымаць інтрыгу, каб цікава чыталася. Але гэта ў мяне яшчэ пакуль не заўсёды атрымліваецца.

***Калі нешта атрымаецца — пакажу табе.***

***Хатняе заданне:***

*Напішы маленькі твор і выкарыстай у ім гэтыя тры прыёмчыкі.*

***Віктар ЛУПАСІН***

● **Люстэрка**

# Аўтатрэнінг для падлеткаў

***Дружа!***

***Я хацеў напісаць артыкул, як зарабляць грошы, але нешта заленаваўся, задэпрэсаваў і не напісаў. Прабач мяне, калі ласка!***

***Не крыўдуеш?***

***Ці ўсё ж-такі крыху ёсць?***

***Калі крыўдуеш, трымай артыкул Ганны Шыбут. Ён дапаможа нам з табой кіраваць сваімі эмоцыямі: мне не дэпрэсаваць, а табе — не крыўдаваць.***

***Дарэчы, у зарабліванні грошай гэта таксама дапаможа!***

***Віктар ЛУПАСІН***

Як цяжка быць падлеткам! Часам здаецца, што ўвесь свет настроены супраць цябе. Ты сварышся з сябрамі, не знаходзіш паразумення з бацькамі, а ў школе трэба вучыць складаныя правілы і формулы, якія аніяк не хочуць заставацца ў тваёй галаве. Хочацца паказаць усім, што ты ўжо дастаткова разумны і самастойны чалавек, але дарослыя ўспрымаюць цябе як малое дзіця. Частыя канфліктныя сітуацыі і няўдачы выклікаюць стрэс. І як тут не быць пахмурым, напружаным і раздражнёным?

Хтосьці пачынае курыць, ужываць спіртныя напоі і наркатычныя рэчывы, сцвярджаючы, што толькі так можна расслабіцца. Але гэта яшчэ горш уплывае на малады арганізм. Таму, мой дружа, пазнаёмся з такім метадам рэлаксацыі, як аўтатрэнінг. Ён дапаможа зняць стомленасць, прагнаць гнеў і злобу, паверыць у свае сілы.

Аўтатрэнінг — гэта комплекс розных практыкаванняў, заснаваны на рэлаксацыі, самаўнушэнні і самавыхаванні. Практыкаванняў існуе вельмі шмат, але я раскажу пра самыя асноўныя для індывідуальных заняткаў.

## Дзве хвіліны адпачынку

Мэта: магчымасць хутка адпачыць ад псіхалагічнай нагрузкі.

Зручна сядзь, пакладзі рукі на калені, прыхіліся да спінкі крэсла. Заплюшчы вочы. У думках адпраўляйся туды, дзе табе будзе добра. Магчыма, гэта звычнае для цябе месца, дзе ты любіш бываць і адпачываць. Можа, гэта месца тваёй мары. Пабудзь там. Уяўляй, што ты робіш нешта цікавае. Або нічога не рабі. Пабудзь у гэтым цудоўным месцы некаторы час. Наладзься на пазітыў. Крыху адпачыў? Цяпер з добрым настроем працягвай свой занятак.

## Расслабленне

Мэта: магчымасць расслабіцца і адпачыць. Практыкаванне можа доўжыцца 15—30 хвілін.

Зручна ляг на ложак або канапу. Рукі пакладзі ўздоўж цела, ногі — прама. Заплюшчы вочы, расслаб усе мышцы, старайся ні пра што не думаць. Затым

паступова скіроўвай увагу на розныя ўчасткі цела (левая кісць рукі, правая ступня, сярэдняя частка спіны, левае калена і г. д.) і старайся яшчэ больш расслабляць іх. Калі ўсё цела будзе цалкам расслаблена, падумай пра тое, што ты моцны духам, смелы, разумны, прыгожы, здольны чалавек. Працягвай спіс кампліментаў сабе. Потым павольна паварушы кісцямі рук, ступнямі, марудна пацягніся і расплюшчы вочы. Скажы сабе, што ты бадзёры і гатовы да новых дзеянняў.

### Дыханне

Мэта: паменшыць трывожнасць, выйсці са стрэсавай сітуацыі.

Сядзь, заплюшчы вочы і расслабся. Скіруй увагу на сваё дыханне. Удыхвыдах, удых-выдах. Не спрабуй змяніць яго натуральны ход, проста старайся не выходзіць з расслаблення. Запомні, як ты дыхаеш у стане спакою, зафіксуй малюнак свайго дыхання. Вельмі важна запомніць рытм дыхання, каб пасля ў любой сітуацыі можна было супакоіцца пры яго дапамозе.

### Крык

Мэта: разрадка пачуццяў гневу, злобы, крыўды і г. д.

Гэтае практыкаванне лепш выконваць на прыродзе ці ў памяшканi без людзей. Набяры ў грудзі паветра і закрычы ва ўсю моц. Толькі загаддзя ўпэўніся, што цябе ніхто не чуе. Калі такой магчымасці няма, то можна крычаць прыкрыўшы твар падушкай. Паўтараць гэты працэс трэба некалькі разоў, пакуль не ўзнікне адчуванне спусташэння.

Недахоп гэтага практыкавання ў тым, што ў працэсе яго выканання можна ахрыпнуць, празмерна напружваючы галасавыя звязкі. Таму неабходна навучыцца крычаць не павярхнева, а з глыбіні лёгкіх.

### Істэрыка

Мэта: зняць эмацыйнае напружанне.

Трэба легчы на ложак, канапу ці на любую іншую мяккую паверхню, на цвёрдай гэта выконваць не варта. Сэнс практыкавання ў тым, што трэба ўявіць сябе дзіцём, якое б'ецца ў істэрыцы. Можна калаціць рукамі і нагамі аб ложак, адначасова пры гэтым крычаць. Рабіць гэта трэба столькі часу, колькі хочацца. Потым варта некалькі хвілін ціха паляжаць і адпачыць. Гэтае практыкаванне дае вялізнае палягчэнне. Толькі яго трэба выконваць у адзіноце, каб не пужаць людзей.

### Да пабачэння, страх!

Мэта: пазбавіцца ад сваіх страхаў.

Вазьмі белы аркуш і аловак. Затым уяві тое, чаго ты баішся. Намалюй гэта. Пасля зрабі малюнак пацешным і пасмейся з яго. Выкажы яму ўсё, што пра яго думаеш. А пасля разарві і выкінь у сметніцу. Або другі варыянт. Напішы ў адну калонку ўсе свае страхі, а ў калонку насупраць — словы, якія знішчаюць гэтыя жахі. Напрыклад, цемра — святло, няўдача — поспех, павукі — матылькі і г. д. Тут ужо як твая фантазія спрацуе. І пасля, калі табе раптам стане страшна, узгадвай словы, якія запісаў у другую калонку, уяўляй іх, табе стане лягчэй.

Цяпер ты ведаеш, як можна расслабіцца ці выйсці са стрэсавай сітуацыі. І запомні, што дапамагаць сабе, у першую чаргу, трэба самому.

***Ганна ШЫБУТ***

**Бел. літ.**

# Пра шыпшыну і Чарнобыль




Добрых твораў у паэта Уладзіміра Дубоўкі шмат. Але своеасаблівай візітоўкай стаў верш «О Беларусь, мая шыпшына…». Чаму менавіта ён? Напэўна таму, што астатнія альбо маюць больш асабісты, «камерны» характар, альбо разлічаны на больш падрыхтаванага чытача. Многія з іх напоўнены ўскладненымі метафарамі, тонкімі алегорыямі, іранічнымі іншасказаннямі (так званай эзопавай мовай), часам — нязвыклай для сучаснага чытача лексікай. «…У душы паэта чорт зламае карак», — прызнаваўся ў адным з вершаў Уладзімір Дубоўка. А «…Мая шыпшына…» гучыць вельмі ўзнёсла і ўрачыста, амаль як патрыятычны гімн.

Сёння гэты верш успрымаюць як прароцкі. Нехта бачыць у ім прадказанне Чарнобыльскай катастрофы, нехта — крыніцу для абгрунтавання дзяржаўнай сімволікі. Але паэт, здаецца, нічога прарочыць не збіраўся. Шыпшына ў яго — адзін з улюбёных вобразаў. Паглядзім жа іншыя вершы Дубоўкі. «А ты, мая шыпшына, дзюбіш дзіды, — ці шыгаллём аздобіцьме трапы? / Шалёны подых — / вобмацкам ідзі ты… / Сумысля далані свае прабіў» («Пакуль», 1924). Альбо: «Жыццё маё — ці васілёк, ці ружа: / вялізманая кветка дыядэмай. / Твае пялёсткі лёс у свет цярушыць: / адзін… другі… І так — як след за следам» («Трыпціх», 1926). Ці: «Раскалыхайся, шыпшына, голлейкам, / не развітайся, шыпшына, з сонейкам. / Расцерушы пялёсткі навокала. / Шчасце? — / Бывае і сінявокае» («Наля», 1925). А яшчэ: «На дзікім каменні, на дзікім і жорсткім, / шыпшына не звяла, пасцеле цвяцістасць. / І з гэнай цвяцістасці, з гэных пялёсткаў / паўстане спрадвечная існасць», «Пазлятаюць пялёсткі з шыпшыны — / ў дзіды ўпартасць кладзе яна. / Ах вы, сцежкі роднай краіны, / пасля восені — будзе вясна! » («Плач навальніцы», 1926).

А вось і вобраз чарнобыля-палыну: «Помста йдзе. / Галасіла поле. / Галасілі стрэхі. / Галасіў чарнобыль на памежку» («Плач навальніцы»), «А вецер разносіць і смутак, і дым, / і зерне віюх палыновых» («Наля»). Часам, як і ў вядомым праграмным вершы, вобразы шыпшыны і чарнобыля сутыкаюцца разам: «Часіна ды з сокам рабіны, / качаеш мяне ў чорнабыллі. / На дзіды, на вострыя шыпшыннік / ці сэрца, ці дух мой узбілі» («Часіна ды з сокам рабіны», 1925), «А ў каліне, ў шыпшынніку дзікім / начавалі і сонца і росы. / А ў пялёстках — без меры, без ліку — / з сокам шчасце суздром разлілося/…/Палыны пасівелі на ўзгорку, / а ў далінах — пялёсткі ад кветак./ Мо затым і прыемна і горка, / калі скрозь распрыгоршчаць іх ветры?» («Палыны пасівелі на ўзгорку», 1925). Нават у высылцы Дубоўка хацеў напісаць

паэму «Над хвалямі шыпшынавых пялёстак». Не напісаў. Няволя не спрыяе творчай працы. Выбачайце за вялікую колькасць цытат, хацелася паказаць, наколькі часты і арганічны вобраз шыпшыны ў паэзіі Дубоўкі. Што ж ён сімвалізуе? Відавочна, актыўны жыццёвы пачатак, самыя пазітыўныя спадзяванні, у нейкім сэнсе адлюстраванне лірычнага «я» паэта, якое ў вершы «О Беларусь, мая шыпшына...» зліваецца з вобразам роднай краіны ў адно цэлае («Пялёсткамі тваімі стану...»). І хоць шыпшына, як і ўсе іншыя кветкі, мае ўласцівасць адцвітаць, сузіранне яе абляцелых пялёсткаў можа прынесці прыемныя імгненні. Чарнобыль жа (горкі палын) — увасабленне жыццёвай горычы і смутку, усяго, што прыгнятае неўтаймаваную душу паэта.

У Дубоўкі шмат раслінных вобразаў (ды нават само яго прозвішча гучыць «па-расліннаму»!) — усе ў невялічкім артыкуле і не пералічыш. Напрыклад, назву «Пялёсткі» ў яго маюць і адзін з раздзелаў кнігі «Наля» (1927), і верш (1958), і кніга апавяданняў-успамінаў (1973)! Прароцтва ж атрымалася выпадкова — так, як гэта часта бывае ў паэзіі.

А цяпер пару слоў пра іншы вобраз. Спачатку «Камуны Свету» ў вершы не было, а было «Імкнешся праз імкненне свету». У тым, як Дубоўка перарабіў радок, некаторыя бачаць рэверанс у адрас камуністычнай партыі. Але гэта не зусім так. Камуна Свету — хутчэй утапічны ідэал Дубоўкі, які меў мала агульнага з тым, што рабілі бальшавікі. Калі ж паэт усвядоміў згубнасць іх палітыкі, ён ужо ў наступным годзе напісаў іншы верш — «На ўшанаванне новага падзелу беларускай зямлі» («За ўсе краі, за ўсе народы свету...»), у якім выказаў усё, што думае пра акупанцкую палітыку бальшавікоў. І атрымаў за гэта турму і высылку, якая зацягнулася на 27 гадоў.

Пасля гэтых доўгіх і суровых выпрабаванняў паэт вырашыў болей не рызыкаваць і нават некаторыя старыя вершы істотна перарабіў. Вось як загучаў знаёмы ўсім верш у 1958 годзе: «О Беларусь, лясная ружа, / зялёны ліст, чырвоны цвет! / Да камунізма крокам мужным / ты пракладаеш вечны след» і г. д. Проста горка і сумна чытаць: арганічныя і непасрэдныя вобразы ператварыліся ў гучныя штампы. Даследчык жыцця і творчасці паэта Зміцер Давідоўскі піша, што пад націскам некаторых пільных крытыкаў Дубоўка напісаў і яшчэ адзін верш, у якім слова «шыпшына» было заменена на «айчына», і вось пад гэты вобраз аўтару давялося падагнаць і ўвесь астатні змест. Увогуле, было б варта сабраць і параўнаць усе магчымыя варыянты верша, думаю, нас чакае шмат цікавых назіранняў!

Урэшце, ёсць у верша яшчэ адна загадка. Загадка... аўтарства. У аўтабіяграфіі пісьменніка Міколы Целеша чытаем: «Вершы я пісаў ад пятнаццаці год, але нікому іх не паказваў, нават тым дзяўчатам, якім былі прысвечаны. Толькі адзін верш “О, Беларусь, мая шыпшына” адважыўся аднесці ў рэд[акцыю] “Звязды”, але не будучы пэўным, што ён дастаткова ўдалы, папрасіў рэдакцыю аддаць яго на кансультацыю Ул. Дубоўку, вершы якога я любіў, і калі ён нойдзе што-небудзь у ім паправіць, хай надрукуе яго пад сваім імем. Так і было зроблена — верш з’явіўся ў святочным нумары 1-га мая за подпісам Дубоўкі». Вось такое сенсацыйнае прызнанне! Але нашыя даследчыкі хутка раскусілі Целеша. Па-першае, надрукаваны ён быў не ў «Звяздзе», а ў часопісе «Маладыя араты». Па-другое, напісаны быў 3 мая 1925 года, значыць, у першамайскі нумар ніяк не патрапіў бы. Па-трэцяе, Уладзімір Дубоўка жыў у Маскве, толькі часам наведваючы Беларусь, і аддаваць яму верш «на кансультацыю» было б справай не зусім зручнай: электроннай пошты ж тады не было! Па-чацвёртае, неяк не зусім праўдападобна выглядае: ужо даволі вядомы паэт, аўтар некалькіх кніг, запазычвае — хай нават па ўзаемнай згодзе — верш пачаткоўца і друкуе пад сваім прозвішчам. Ва Уладзіміра Дубоўкі нават ёсць артыкул пад назвай «Пра з’яўленне аднаго верша», які развейвае ўсе сумневы: ды ён, ён напісаў! Уладзімір Дубоўка!

***Віктар ЖЫБУЛЬ***



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 56 200 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 22 900 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 71 200 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 16 200 руб.***


Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19.
Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.07.2014. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,34. Тыраж 2077 экз. Заказ 1926. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.




**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**